**Гадоў таму:**

495 — 12.10.1492 г. Х. Калумб адкрыў Амерыку.
205 — 27.10.1782 г. нар. італьянскі скрыпач і кампазітар Нікало Паганіні (пам. 27.5.1840 г.), аўтар шэрагу твораў, у тым 24 капрысаў для скрыпкі, 2 канцэрты для скрыпкі з аркестрам, санаты і інш.
105 — 6.10.1882 г. нар. польскі кампазітар і піяніст Караль Шыманоўскі (пам. 29.3.1937 г.), найбольш вядомыя творы: балет „Харнасі“ (1931), араторыя „Стабат Матэр“ (1926), сімфоніі, канцэрты, інструментальныя творы.
100 — 22.10.1887 г. нар. амерыканскі пісьменнік і рэвалюцыйны дзеяч Джон Рыд (пам. 17.10.1920 г.), аўтар славутай кнігі „Дзесяць дзён, якія скаланулі свет“.
95 — 10.10.1892 г. нар. сербскі пісьменнік Іва Андрыч (пам. у 1978 г.), аўтар такіх папулярных твораў як: „Траўніцкая хроніка“ (1945), „Мост на Дрыне“ (1945), „Зека“ (1950) і інш. Нобелеўская прэмія за 1961 г.
90 — 3.10.1897 г. нар. французскі пісьменнік і грамадскі дзеяч Луі Арагон, найбольш вядомыя творы: раманы „Базельскія званы“ (1934), „Багатыя кварталы“ (1936), „Камуністы“ (1968), перакладчык беларускіх паэтаў.
80 — 15.10.1907 г. нар. беларускі пісьменнік Раман Сабаленка (пам. 13.5. 1975 г.), друкавацца пачаў у 1928 г., першы зборнік вершаў „З родных крыніц“ (1950), найбольш вядомыя аповесці: „Юнацтва ў дарозе“ (1960), „Каралінцы“ (1959), „Былое астаецца ў сэрцы“ (1963) і інш.
75 — 20.10.1912 г. нар. беларуская мастачка-жывапісец Ніна Паслаўская, працы: „У лесе“ (1952), „Рабіна“ (1953), ілюстрацыі да кніг.
65 — 10.10.1922 г. нар. беларускі скульптар Уладзімір Слічанка, працы: „Партрэт настаўніка“ (1963), „Партызаны“ (1968) і інш.
— 28.10.1922 г. нар. беларускі пісьменнік Міхась Даніленка, першыя творы апублікаваў у 1940 г., першы зборнік апавяданняў „Мая вясна“ (1952), піша таксама для дзяцей.
55 — 3.10.1932 г. нар. беларускі жывапісец Васіль Сабалеўскі, найбольш вядомыя працы: „Першая баразна“ (1954), „Апошнія лісты“ (1968) і інш.
— 7.10.1932 г. нар. беларускі пісьменнік Іван Пташнікаў, друкуецца з 1957 г., першая кніга „Зерне падае не на камень“ (1959), найбольш вядомыя творы: аповесці „Лонва“ (1965), „Тартак“ (1968), раман „Мсціжы“ (1970), аповесць „Найдорф“ (1976) і інш.
50 — 31.10.1937 г. нар. беларускі мастак-графік Яўген Кулік, першая праца „1920-ы“, знаўца беларускіх старажытнасцей (ілюстрацыі да паэмы М. Гусоўскага „Песня пра зубра“, кнігі „Беларускія замкі“ і інш.).
30 — 4.10.1957 г. запуск першага штучнага спадарожніка Зямлі (СССР).

**1.10.1949 абвяшчэнне Кітайскай Народнай Рэспублікі ● 7.10.1765 нар. кампазітар М. К. Агінскі ● 7.10.1949 абвяшчэнне Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ● 10.10.1813 нар. кампазітар Д. Вердзі ● 12.10.1943 бітва пад Леніна ● 14.10.1773 утварэнне Камісіі нацыянальнай адукацыі ● 14.10.1864 нар. С. Жаромскі ● 15.10.1814 нар. М. Лермантаў ● 22.10.1811 нар. кампазітар Ф. Ліст ● 25.10.1881 нар. мастак П. Пікасо ● 29.10.1451 нар. Х. Калумб.**










| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | | Сонца усход — — захад |
|---|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя | |
| 1 | 18 | Ч | Дануты, Рэмігіуша | Зоф'і, Ірыны | |
| 2 | 19 | П | Дзіяніза, Тэафіля | Федара, Канстанціна | |
| 3 | 20 | С | Герарда, Тэрэсы | Алега, Яўстафія | 5.36 — |
| **4** | **21** | **Н** | **Францішка, Разаліі** | **Мялеція, Інація** | — 17.08 |
| 5 | 22 | П | Апалінара, Плацыда | Іоны, Фокі | |
| 6 | 23 | А | Артура, Брунона | Андрэя, Іраіды | |
| 7 | 24 | С | Марыі, Марка | Фёклы, Уладзіслава | |
| 8 | 25 | Ч | Брыгіды, Пелагіі | Сяргея, Еўфрасінні | |
| 9 | 26 | П | Людвіка, Дзіяніза | Іана, Калістрата | |
| 10 | 27 | С | Францішка, Паўліны | Марка, Ігнація | 5.45 — |
| **11** | **28** | **Н** | **Альдоны, Эмілія** | **Вячаслава, Харытона** | — 16.52 |
| 12 | 29 | П | *Дзень Войска Польск.* | *Дзень Войска Польск* | |
| 13 | 30 | А | Тэафіля, Эдуарда | Грыгорыя, Міхаіла | |
| 14 | 1 | С | Дзень настаўніка | *Пакроў Пр. Баг.* | |
| 15 | 2 | Ч | Ядвігі, Тэрэсы | Андрэя, Анны | |
| 16 | 3 | П | Фларэнціны, Гаўла | Дзяніса, Іана | |
| 17 | 4 | С | Віктара, Малгажаты | Веранікі, Ерафея | 5.55 — |
| **18** | **5** | **Н** | **Юльяна, Лукаша** | **Пятра, Аляксея** | — 16.36 |
| 19 | 6 | П | Пятра, Земавіта | Фамы, Макара | |
| 20 | 7 | А | Яна, Ірэны | Сяргея, Пелагеі | |
| 21 | 8 | С | Уршулі, Гілярa | Таісіі, Трыфана | |
| 22 | 9 | Ч | Філіпа, Марка | Якава, Андроніка | |
| 23 | 10 | П | Севярына, Марлены | Яўлампія, Васіяна | |
| 24 | 11 | С | Марціна, Рафала | Зінаіды, Філіпа | 6.08 — |
| **25** | **12** | **Н** | **Дар'і, Крыспіна** | **Кузьмы, Марціна** | — 16.22 |
| 26 | 13 | П | Люцыяна, Эверыста | Карпа, Веніяміна | |
| 27 | 14 | А | Пятра, Земавіта | Фамы, Макара | |
| 28 | 15 | С | Шымана, Тадэуша | Яўфімія, Лук'яна | |
| 29 | 16 | Ч | Нарцыза, Яцка | Лонгіна | |
| 30 | 17 | П | Эдмунда, Пшэмыслава | Андрэя, Васіі | 6.20 — |
| 31 | 18 | С | Урбана, Сатурніна | Лукі, Марына | — 16.09 |

**Гадоў таму:**

120 — 7.11.1867 г. нар. польская вучоная фізік і хімік Марыя Складоўская-Кюры (пам. 4.7.1937 г.), разам з мужам Пятром Кюры атрымалі палоній і радый. Нобелеўскія прэміі за 1903 і 1911 г.г.

105 — 3.11.1882 г. нар. класік беларускай літаратуры Якуб Колас (сапраўднае прозвішча Канстанцін Міцкевіч, пам. 13.8.1956 г.). Першы верш апублікаваў у 1906 г. у газеце „Наша доля“, першы зборнік паэзіі „Песні-жальбы“ (1910). Найбольш вядомыя творы: паэмы: „Новая зямля“ (1911-23) і „Сымон-музыка“ (1911-25), трылогія „На ростанях“ (1923-55), аповесці „Дрыгва“ (1934), „На прасторах жыцця“ (1926), навела „Нёманаў дар“ (1913), апавяданні са зборніка „Казкі жыцця“ (1921), вершы і інш.

100 — 4.11.1887 г. нар. беларускі пісьменнік і дзяржаўны дзеяч Цішка Гартны (сапраўднае прозвішча Дзмітры Жылуновіч, пам. 11.4.1937 г ), першы старшыня Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі. Друкавацца пачаў у 1909 г. у газеце „Наша ніва“, першы зборнік вершаў „Песні“ (1913), найбольш вядомыя творы: аповесці „На новым месцы“ (1930), „Зялёны шум“ (1931), раман „Сокі цаліны“ (1930), апавяданні, вершы, драмы.

— 10.11.1887 г. нар. нямецкі пісьменнік Арнольд Цвэйг (пам. 26.11. 1968 г.), найбольш вядомыя творы: раманы цыкла „Вялікая вайна белых людзей“ („Спрэчка пра унтэра Грышу“, 1927; „Выхаванне пад Вердэнам“, 1935; „Зацішша“, 1954 і інш.), навелы. Ленінская прэмія за ўмацаванне міру за 1958 г.

85 — 9.11.1902 г. нар. беларускі кампазітар Несцер Сакалоўскі (пам. 13.11. 1950 г.), аўтар гімна БССР „Мы — беларусы“, многіх песень, камерных інструментальных твораў на беларускія тэмы і інш.

— 11.11.1902 нар. дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі Мікалай Арэхва, кіруючы працаўнік ЦК КПЗБ, служыў у Людовым Войску Польскім.

— 18.11.1902 г. нар. беларускі пісьменнік Міхась Машара (пам. 7.6. 1976 г.), друкавацца пачаў у 1927 г., першы зборнік вершаў „Малюнкі“ (Вільня, 1927), дзейнічаў і пісаў у Заходняй Беларусі. Найбольш вядомыя творы: паэмы „Вяселле“ (1933), „Смерць Кастуся Каліноўскага“ (1934), раманы „Крэсы змагаюцца“ (1966), „Сонца за кратамі“ (1968), „Лукішкі“ (1970).

70 — 7.11.1917 г. пачатак Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

65 — 22.11.1922 г. нар. беларускі жывапісец Міхась Міхайлаў, працы: „Сажалка ў парку“ (1960), „Вясна 1945 г.“ і інш.

55 — 15.11.1932 г. адкрыццё Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, якая адыгрывае вядучую ролю ў выхаванні музычных талентаў рэспублікі.

**7.11.1896 нар. беларускі паэт М. Чарот • 10.11.1759 нар. нямецкі пісьменнік Ф. Шылер • 10.11.1906 пачала выходзіць „Наша ніва“ • 11.11.1821 нар. рускі пісьменнік Ф. Дастаеўскі • 12.11.1840 нар. французскі скульптар А. Радэн • 18.11.1860 нар. польскі піяніст і дзяржаўны дзеяч І. Падарэўскі • 19.11.1711 нар. рускі вучоны М. Ламаносаў • 21.11.1694 нар. французскі філосаф Вальтэр • 28.11.1881 нар. аўстрыйскі пісьменнік С. Цвэйг • 29.11.1944 вызваленне Албаніі • 30.11.1899 нар. беларускі пісьменнік М. Лынькоў.**










| Стыль | | Дзень | Святы, імяніны | | Сонца ўсход — — захад |
|---|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя | |
| **1** | **19** | **Н** | **Дзень Памёршых** | **Іана, Клеапатры** | |
| 2 | 20 | П | Багдана, Бажыдара | Арцёма, Герасіма | |
| 3 | 21 | А | Сільвіі, Губерта | Іларыёна, Філафея | |
| 4 | 22 | С | Караля, Альгерда | *Казанскай іконы Б.М.* | |
| 5 | 23 | Ч | Эльжбеты, Славаміра | Якава, Ігнація | |
| 6 | 24 | П | Фелікса, Леанарда | Афанасія, Арсеня | |
| 7 | 25 | С | *Вял. Кастрычніцкая* | *сацыялістычная рэв.* | 6.34 — |
| **8** | **26** | **Н** | **Севярына.** | **Дзімітрыя, Феафіла** | — 15.54 |
| 9 | 27 | П | Урсына, Тодара | Нестара, Капіталіны | |
| 10 | 28 | А | Андрэя, Любаміра | Неанілы, Сцяпана | |
| 11 | 29 | С | Марціна, Бартламея | Анастасіі, Анны | |
| 12 | 30 | Ч | Рэнаты, Віктара | Зіновія, Маркіяна | |
| 13 | 31 | П | Мікалая, Станіслава | Спірыдона, Нікадзіма | |
| 14 | 1 | С | Эміля, Ваўжынца | *Кузьмы, Дзямяна* | 6.46 — |
| **15** | **2** | **Н** | **Альберта, Леапольда** | **Афонія, Маркіяна** | — 15.44 |
| 16 | 3 | П | Эдмунда, Малгажаты | Іосіфа, Георгія | |
| 17 | 4 | А | Саламеі, Рыгора | Нікандры, Сымона | |
| 18 | 5 | С | Анелі, Рамана | Галакціёна, Рыгора | |
| 19 | 6 | Ч | Эльжбеты, Севярына | Клаўдзіі, Аляксандры | |
| 20 | 7 | П | Фелікса, Анатоля | Фядота, Кірылы | |
| 21 | 8 | С | Януша, Конрада | *Міхаіла Архангела* | 6.59 — |
| **22** | **9** | **Н** | **Цэцыліі, Марка** | **Анісіфара** | — 15.35 |
| 23 | 10 | П | Феліцыты, Клеменса | Радзівона, Алімпа | |
| 24 | 11 | А | Яна, Флоры | Віктара, Сцепаніды | |
| 25 | 12 | С | Эразма, Кацярыны | Іана, Ніла | |
| 26 | 13 | Ч | Леана, Сільвестра | *Іана Залатавуснага* | |
| 27 | 14 | П | Валерыяна | Філіпа, Рыгора | |
| 28 | 15 | С | Рыгора, Здзіслава | Гурыя, Дзімітрыя | 7.11 — |
| **29** | **16** | **Н** | **Блажэя, Сатурніна** | **Матвея, Сяргея** | — 15.29 |
| 30 | 17 | П | Андрэя, Юсціны | Рыгора, Нікана | |

Гадоў таму:

345 — 25.2.1642 г. нар. англійскі вучоны Ісак Ньютан (пам. 20.3.1727 г.), адкрывальнік шэрагу законаў прыроды і творца фізічных і матэматычных тэарэм.

190 — 13.12.1797 г. нар. нямецкі паэт і публіцыст Генрых Гейнэ (пам. 17.2.1856 г.), найболей вядомая яго лірыка, паэмы: „Ата Троль“ (1843), „Германія. Зімовая казка“ (1844); проза — Дарожныя малюнкі“ (1831).

165 — 27.12.1822 г. нар. французскі біёлаг і хімік Луі Пастэр (пам. 28.9. 1895 г.), заснавальнік мікрабіялогіі.

80 — 15.12.1907 г. нар. беларускі матэматык Уладзімір Крылоў.

— 11.12.1907 г. нар. беларускі жывапісец Анатоль Шыбнеў, працы: „Палонных вядуць“ (1947), „Партрэт рыбака“, „Ветраны дзень“ і інш.

— 15.12.1907 г. нар. беларускі драматург і акцёр Уладзімір Стэльмах, першая п'еса „Шляхі“ (1930), напісаў „Канец маскарада“ (1938) і інш.

— 25.12.1907 г. нар. адзін з кіраўнікоў партызанскага руху на Беласточчыне ў гадах 1943-44, генерал маёр Піліп Капуста.

75 — 4.12.1912 г. нар. беларускі пісьменнік Аляксей Русецкі, друкуецца з 1935 г., першы зборнік „У заўтрашні дзень“ (1951), зборнікі паэзіі „Святло акон тваіх“ (1959), „Служба святла“ (1967) і інш.

— 31.12.1912 г. нар. беларускі графік Мікола Гуцiеў, ілюстратар многіх кніг беларускіх пісьменнікаў.

70 — 9.12.1917 г. нар. беларускі паэт Уладзімір Рагуцкі (загінуў на фронце ў 1941 г.), падрыхтаваны да выдання зборнік вершаў загінуў надчас вайны.

— 26.12.1917 г. нар. беларускі пісьменнік Яўген Васілёнак, друкуецца з 1935 г., першы зборнік апавяданняў „Зялёныя агні“ (1954), кніга прозы „Вячэрняя размова“ (1968) і інш.

65 — 22.12.1922 г. нар. беларуская пісьменніца Алена Васілевіч, першая аповесць „У прасторы жыцця“ (1947), цыкл аповесцей „Расці, Ганька“ (1966), „Доля цябе знойдзе“, „Новы свет“ (1968) і інш.

— 27.12.1922 г. нар. беларускі пісьменнік Іван Сіўцоў (пам. 9.11.1959 г.), першая аповесць для дзяцей „Самыя юныя“ (1949), раман „Нягоды і радасці“ (1960).

— 30.12.1922 г. Савецкія рэспублікі Расійская СФСР, Украінская ССР, Беларуская ССР і Закаўказская СФСР дабравольна ўтварылі Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

45 — 12.12.1942 г. група савецкіх партызанаў падарвала каля станцыі Валілы нямецкі ваенны эшалон з палівам, згарэла 15 цыстэрнаў, загінула каля 20 фашыстаў.

30 — 5.12.1957 г. рушыў у свой першы рэйс першы на свеце атамаходледакол „Ленін“ (СССР).

**1.12.1896 нар. савецкі маршал Г. Жукаў ● 9.12.1891 нар. беларускі паэт М. Багдановіч ● 10.12.1821 нар. рускі паэт М. Някрасаў ● 12.12.1821 нар. французскі пісьменнік Г. Флабер ● 14.12.1825 выбух паўстання дзекабрыстаў у Пецярбурзе ● 15.12. 1948 заснаванне ПАРП ● 21.12.1896 нар. савецкі і польскі маршал К. Ракасоўскі ● 24.12.1798 нар. А. Міцкевіч.**










| Стыль | | Дзень | Святы, іменіны | | Сонца ўсход — — захад |
|---|---|---|---|---|---|
| новы | стары | | каталіцкія | праваслаўныя | |
| 1 | 18 | А | Наталіі, Элігіуша | Платона, Рамана | |
| 2 | 19 | С | Бальбіны, Паўліны | Аўдзея, Варлаама | |
| 3 | 20 | Ч | Францішка, Ксавера | Рыгора, Анатолія | |
| 4 | 21 | П | *Барбары* | *Увядз. у хр. ПДМ* | |
| 5 | 22 | С | Сабы, Крысціна | Валяр'яна, Архіпа | 7.22 — — 15.26 |
| **6** | **23** | **Н** | **Мікалая, Эмільяна** | **Аляксандра Неўск.** | |
| 7 | 24 | П | Амбражэя, Марціна | *Кацярыны,* Аўгусты | |
| 8 | 25 | А | Лаўрэнціі, Марыі | Клімента, Пятра | |
| 9 | 26 | С | Веслава, Леакадзіі | Якава, Інакенція | |
| 10 | 27 | Ч | Юліі, Данеля | Паладзія, Рамана | |
| 11 | 28 | П | Дамаза, Вальдэмара | Сцяпана, Васілія | |
| 12 | 29 | С | Адэляйды, | Нектарыя, Парамона | 7.30 — — 15.24 |
| **13** | **30** | **Н** | **Луцыі, Атыліі** | **Андрэя Першазван.** | |
| 14 | 1 | П | Альфрэда, Ізідара | Філарэта, Навума | |
| 15 | 2 | А | Цэліны, Валяр'яна | Авакума, Андрэя | |
| 16 | 3 | С | Альбіны, Аліцыі | Сафоніі, Іана | |
| 17 | 4 | Ч | Лазара, Алімпіі | *Варвары,* Юльяніі | |
| 18 | 5 | П | Грацыяна, Багуслава | Саввы, Захарыя | |
| 19 | 6 | С | Дарыуша, Урбана | *Мікалая* | 7.37 — — 15.24 |
| **20** | **7** | **Н** | **Тэафіля, Дамініка** | **Антонія, Паўла** | |
| 21 | 8 | П | Яна, Тамаша | Патапа, Кесара | |
| 22 | 9 | А | Зенона, Ганараты | Анны, Сцяпана | |
| 23 | 10 | С | Віктара, Славаміра | Міны, Ангеліны | |
| 24 | 11 | Ч | *Адама, Евы* | Данілы, Нікана | |
| **25** | **12** | **Н** | **Раджджаство Гасп.** | **Спірыдона, Ал-дра** | 7.42 — — 15.28 |
| **26** | **13** | **С** | **Шчэпана, Дзіянія** | **Яўгена, Аўксенція** | |
| **27** | **14** | **Н** | **Яна, Максіма** | **Калініка, Апалона** | |
| 28 | 15 | П | Тэафіліі, Цэзара | Паўла, Сцяпана | |
| 29 | 16 | А | Дамінікі, Тамаша | Марына, Феафаніі | |
| 30 | 17 | С | Яўгена, Севера | Данілы, Антонія | 7.45 — — 15.32 |
| 31 | 18 | Ч | *Сільвестра, Меланіі* | Севасціяна, Зоі | |

**Гадоў таму:**

1125 — Першыя летапісныя звесткі пра Полацк (862).
1080 — У паходзе князя кіеўскага на Канстанцінопаль (907) удзельнічаюць воі ад крывічоў і радзімічаў — беларускіх плямёнаў.
885 — Заснаванне горада Барысава (1102).
750 — Бітва пад Дарагічынам на рацэ Бузе (1237), у выніку якой князь Даніла Раманавіч вызваліў ад крыжакаў-тэмплярыяў Дарагічын.
725 — Заключэнне дагавору паміж князем наваградскім Міндоўгам і князем уладзімірскім Аляксандрам Неўскім пра сумесную барацьбу супраць Лівонскага ордэна (1262).
720 — Першыя летапісныя звесткі пра Магілёў (1267).
610 — Пачатак княжання Ягайлы ў Вялікім княстве Літоўскім (1377).
470 — Пачатак выдавецкай дзейнасці беларускага першадрукара Францішка Скарыны (1517).
415 — Памёр (1572) вялікі князь літоўскі і кароль польскі Зыгмунт Аўгуст (панаваў з 1548 г.), на ім закончылася дынастыя Ягелонаў на вялікім княжанні ў Вільні і каралеўскім троне ў Кракаве.
— Нарадзіўся (1572) Мялецій Смятрыцкі — беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, педагог, аўтар „Грамматики слевенския правильная синтагма" (1618), якая была асноўным падручнікам па мове ў XVII-XVIII ст. ст. ва Усходняй Славяншчыне.
225 — Заснаванне ў Гродне (1762) балетнай школы (існавала да 1785 г.).
220 — Пачалася пабудова (1767) Агінскага канала, які злучыў рэкі Нёман і Днепр (закончана ў 1783 г.).
190 — Пачалася пабудова (1797) Бярэзінскага канала, які злучыў Дзвіну і Днепр (закончана ў 1805 г.).
180 — Нарадзіўся беларускі пісьменнік і заснавальнік беларускага тэатра Вінцук Дунін-Марцінкевіч (нар. у 1807 г. — пам. 17.12.1884 г.).
125 — Выйшаў першы нумар „Мужыцкай праўды" (чэрвень, 1862 г. — першай нелегальнай беларускай газеты-адозвы, якую рэдагаваў і выдаваў Кастусь Каліноўскі на Беласточчыне (апошні нумар выйшаў у ліпені 1863 г.).
85 — Паўстала Беларуская сацыялістычная грамада (1902) — палітычная партыя, якая, між іншым, патрабавала аўтаноміі для Беларусі.
80 — Паўстаў Першы беларускі тэатральны калектыў Ігната Буйніцкага (1907).



## КРОКІ Ў БУДУЧЫНЮ

**(З плана развіцця Беласточчыны ў 1986-90 гадах)**

„Кожнаму патрыёту, кожнаму грамадзяніну ёсць месца сярод будаўнічых найноўшай сучаснай Польшчы. Таму трэба зрабіць усё неабходнае, каб гэтак было", — сцвердзіў I сакратар Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі Уладзімір Каладзеюк у справаздачы Ваяводскага камітэта XX ваяводскай справаздачна-выбарчай канферэнцыі ў Беластоку, якая праходзіла 5 кастрычніка 1986 г. І гэтыя словы вельмі трапна акрэсліваюць кірункі развіцця нашай краіны, а ў тым і Беласточчыны, вызначаныя X з'ездам ПАРП.

З многіх разнастайных заданняў, на выкананні якіх цяпер засяроджваюцца намаганні грамадскасці Беласточчыны, XX ваяводская канферэнцыя ПАРП да найважнейшых залічыла:

— павелічэнне колькасці сельскагаспадарчай прадукцыі і харчавання;
— развіццё жыллёвага будаўніцтва і тэхнічнага аснашчэння нашага ваяводства;
— паляпшэнне матэрыяльных варункаў працы асветы і аховы здароўя.

### I

За мінулыя тры гады на Беласточчыне выдатна павялічылася колькасць сельскагаспадарчай прадукцыі — прыбыло яе аж на 12 працэнтаў, у тым на 19 прац. таварнай прадукцыі, гэта значыць такой, якую сяляне прадалі дзяржаве. Гэта наступіла перш за ўсё дзякуючы ахвярнасці працаўнікоў сельскай гаспадаркі — індывідуальных гаспадароў, работнікаў ПГРаў і каапératыўных гаспадарак, механізатараў, сельскагаспадарчай службы, вучоных. Зрабілі мы вялікі крок наперад у справе самазабеспячэння харчамі краіны і павелічэння вывазу сельскагаспадарчай прадукцыі на экспарт. Аднак запатрабаванне на гэтую прадукцыю ўвесь час расце — проста ў краіне нас становіцца ўсё болей. Таму ў гадах 1986-90 неабходна павялічыць яе на 3,9 прац., у тым у раслінаводстве на 4,3 прац., а ў жывёлагадоўлі на 3,5 прац. Неабходна таксама, каб таварная прадукцыя ўзрасла на 6,8 прац.

Гэтыя немалыя ўсё ж заданні (пры цяперашнім сярэднім ўмалоце на Беласточчыне 20-25 цэнтнераў з гектара, тыя ж 4,3 прац. абазначаюць павелічэнне ўмалоту збожжа на сама меней 1 цэнтнер з гектара, а кожнаму селяніну добра вядома, што гэта справа не такая лёгкая) неабходна выконваць за кошт выраўнання ўзроўню гаспадарання — слабейшыя павінны падцягвацца ды раўняцца з лепшымі. А розніца ва ўмалотах з гектара ў нас аграмадная. У той час, калі большасць сялян з Гарадоцкай ці Мельніцкай гмінаў намалочваюць па 12-15 цэнтнераў з гектара, то іхні сусед, селянін Станіслаў Нядбала з Драгічынскай гміны намалаціў у мінулым 1986 г. у сярэднім аж па 71 цэнтнеру збожжа з гектара, тэта значыць у 4-5 разоў болей за іншых нашых сялян. Нават улічваючы вялікую розніцу па ўраджайнасці зямлі, напрыклад, III і VI класаў такое адрозненне ва ўмалоце яскрава сведчыць пра благое гаспадаранне значнай колькасці беластоцкіх сялян. Таму неабходна кожнаму, хто працуе на зямлі, клапаціцца пра належны яе догляд і выкарыстанне для сельскагаспадарчай прадукцыі кожнага, нават самага запушчанага ці маленькага кавалачка зямлі.

У гэтым кірунку будуць працаваць і землямерныя службы, яны больш інтэнсіўна будуць праводзіць камасацыю і абмен зямлі. А такія працы неабходна правесці з сама меней 30 тысячамі гектараў сельскагаспадарчых ужыткаў. Больш грашовых і тэхнічных сродкаў цяпер накіроўваецца на рэкультывацыю (вяртанне да ўжытку) запушчаных або пакінутых зямель. Пры тым больш уважліва будуць праводзіцца агляды і кантроль гаспадарання зямлёй у кожнай гаспадарцы, каб не дапускаць да паўставання аблогаў і няўдобіцаў. Там жа, дзе да зямлі няма ахвочых індывідуальных гаспадароў будуць засноўвацца новыя ПГРы. Хоць кошты сарганізавання новага ПГРу вельмі вялікія, але зямля не можа легчы аблогам, яна мусіць даваць прадукцыю. З яе мы ўсе кормімся.

Вялікае значэнне ў павелічэнні сельскагаспадарчай прадукцыі мае ўвядзенне новых, больш выдайных сартоў збожжа і іншых раслін, адпаведнае ўгнойванне і асабліва мала папулярнае ў нас вапнаванне кіслых глеб. Угнойванне мінеральнымі ўгнаеннямі не можа ў сярэднім быць меншае за 135 кг НПК на адзін гектар.

У жывёлагадоўлі важна не толькі павялічыць колькасць быдла, свіней, авечак на 7 працэнтаў (значыць, да кожнага дзесятка гэтых жывёлін мусіць прыбыць нам яшчэ адна штука), але і паляпшаць іх якасці: малочнасць, убойную вартасць, выдайнасць воўны і г.д. Таму неабходна клапаціцца пра павышэнне пародзістасці жывёлы, набываць усё лепшае і пазбывацца горшага. Увесь час трэба рабіць захады пра павелічэнне колькасці разнастайных кармоў, асабліва зялёнай пашы, квашанкі і г.д. Ветэрынарная служба абавязана больш пільна клапаціцца пра належную апеку над жывёлай, незалежна ад таго чыя яна — індывідуальнага гаспадара, ПГРу ці кааператыва, або жыхара мястэчка, які займаецца гадоўляй.

За бягучыя 5 гадоў плануецца меліяраваць 31 тысячу гектараў ужыткаў, здаць у карыстанне 20 водаправодаў і давесці іх ваду ў больш за 8 тысяч гаспадарак. Адначасова больш хутка і спраўна будзе праводзіцца паўторная электрыфікацыя гаспадаркі. Павялічыцца таксама пастаўка сялянам трактароў і іншых машын. Прыбудзе рознага роду складаў сельскагаспадарчай прадукцыі (на 70 тыс. тон), невялікіх прадпрыемстваў па перапрацоўцы садавіны і гародніны, сушыльняў збожжа (магутнасцю ў 3 тыс. тон у суткі). Як і ў папярэднім пяцігоддзі, аж 40 працэнтаў усіх грашовых сродкаў у вытворчасці будзе накіроўвацца на заспакаенне патрэб сельскай гаспадаркі.

Беспаваротна адыходзяць у мінулае часы, калі лічылася нармальным, што селяніну суджана адно: натужліва працаваць ад світання да змяркання, не бачачы прасветнай хві-



**Грамадскі пачын на Гайнаўшчыне.** **Фота В. Рудчыка.**

ліны. Цяпер усё больш пашыраецца і мацнее ўдзел жыхароў вёскі ў культурна-асветным руху ў краіне. Не толькі тэлевізія, радыё, кніга, газета даступныя селяніну. Ён, асабліва сялянская моладзь, усё больш напорыста прабіваецца ў культурна-асветны рух, навуку, выяўленчае мастацтва, літаратуру. І надалей будуць ствараецца ўсё больш прыхільныя варункі для гэтых імкненняў, будуць разбудоўвацца вясковыя асяродкі культуры і забяспечвацца адпаведнымі працаўнікамі, будуць давацца больш спрыяльныя магчымасці для развіцця аматарскага руху. На гэта разлічвае перш за ўсё Беларускае грамадска-культурнае таварыства, бо як вядома, наша арганізацыя мае ў гэтым найбольшыя дасягненні і адначасова найбольшыя патрэбы.

II

Заспакаенне патрэбаў і сталае паляпшэнне жыллёвых варункаў — гэта адно з важнейшых заданняў нашага часу. Хоць за мінулыя тры гады ў Беластоцкім ваяводстве здадзена ў карыстанне каля 14 тысяч новых кватэраў, то яшчэ на кватэры чакае цяпер каля 50 тысяч чалавек. Таму неабходна будаваць больш, хутчэй і лепш. У бягучай пяцігодцы надалей будзе развівацца шматкватэрнае (блокавае) і аднасямейнае будаўніцтва. Дзеля гэтага перш за ўсё неабходна аснасціць вялікія плошчы ўсімі камунальнымі абсталяваннямі: электрычнасцю, водаправодам, каналізацыяй, цэнтральным абграваннем і г.д. Неабходна таксама такое ж аснашчэнне даць раней пабудаваным жыллёвым шматкватэрным дамам. Разам на камунальныя абсталяванні пойдзе каля 40 працэнтаў усіх дзяржаўных грашовых сродкаў нашага ваяводства. На іх, між іншым, будуць пабудаваны 4 новыя гарадскія цеплацэнтралі і такім чынам палепшыцца абграванне кватэраў і зменшыцца забруджанне паветра і наваколля шматлікімі малымі кацельнямі. Прадбачваецца таксама пабудова 3 ачышчальняў сцёкаў, здачу ў карыстанне 4 вадасховішчаў дзеля лепшага забеспячэння гарадоў і вёсак у ваду, наступіць значнае павелічэнне водаправоднай і каналізацыйнай сеткі. Ужо ствараюцца і будуць расшырацца больш прыхільныя варункі для аднасямейнага будаўніцтва. Дзеля гэтага ўсё больш увагі і сродкаў будзе адводзіцца на выкарыстанне мясцовай сыравіны, асабліва гліны на выраб цэглы, жвіру на бетонныя вырабы, дрэва і г.д. Адначасова з пабудовай новых дамоў трэба з большай дбайнасцю ставіцца да старэйшых будынкаў, у час і ў пору іх рамантаваць, забяспечваць сучасным камунальным абсталяваннем. Гэта выдатна зменшыць запатрабаванне насельніцтва гарадоў і мястэчак на новыя кватэры. Нам трэба будаваць паводле найноўшых дасягненняў будаўнічай тэхнікі, ствараць лепшыя праекты і перш за ўсё — спраўней і без недаборак ды неахайнасці. Не дапускаць да таго, каб адразу вялікім коштам выпраўляць тое, што спартачылі „спецы"-будаўнікі.

На многіх будаўнічых пляцоўках бачым страшэннае марнатраўства розных матэрыялаў і рабочага часу. Гэта адна з галоўных прычын высокіх коштаў будаўніцтва і недахопу кватэраў. Таму неабходна, каб кожны чалавек на будове клапаціўся пра дбайнае выкарыстанне будаўнічых матэрыялаў адпаведна іх прызначэнню. Не меней, як матэрыялаў марнуецца на будовах рабочага часу з-за дрэннай арганізацыі працы: людзі цэлымі днямі сядзяць без работы або валэндаюцца па наваколлю. Кіраўніцтвы будаўнічых прадпрыемстваў, партыйныя і іншыя грамадскія і маладзёжныя арганізацыі павінны весці непрымірымую барацьбу з марнатраўствам матэрыялаў і часу працы. Грамадскія і дзяржаўныя кантрольныя арганізацыі і органы ўжо завастрылі і будуць яшчэ болей узмацняць нагляд і прыцягваць да суровай адказнасці вінаватых у рознага роду марнатраўстве, пакражы, нядбайнасці.

Жыллё — гэта таксама яго акружэнне, бліжэйшае і далейшае асяроддзе, чысціня і эстэтыка яго наваколля. Кожны абавязаны клапаціцца пра



**Новае жыллёвае будаўніцтва ў Беластоку. Раён Беласточак.**
**Фота Я. Целушэцкага.**

парадак, лад, акуратнасць як у сваёй кватэры ці доме, так і на вуліцы, у вёсцы, мястэчку, горадзе. Гэта ж выгляд акружэння, месца, у якім мы жывём, найяскравей сведчыць пра нашу асабістую культуру. Пра гэта трэба памятаць і прывучаць да добрага маладое пакаленне, каб яно расло на культурных людзей і жыло культурна.

III

Вялікія патрэбы ў нас у асвеце і ахове здароўя.

На Беласточчыне ўжо тры гады таму разгарнулася рознабаковая праца па паляпшэнню ўмоваў працы ў школьніцтве, між іншым, было здадзена ў карыстанне больш за 250 новых школьных класаў і гэта выдатна аблегчыла працу ў многіх школах. Аднак таго далёка замала. Да 1990 г. плануецца пабудаваць новыя школы або дабудаваць пры ўжо існуючых — разам не меней 450 класаў у пачатковым школьніцтве, зрабіць значны ўклад у пабудову 3 сярэдніх школ і 2 інтэрнатаў, пабудаваць новыя або разбудаваць існуючыя прадшколлі, каб атрымаць новыя 2 тысячы месц у іх. Адначасова будуць весціся работы па падрыхтоўцы школьнага будаўніцтва і абсталявання школ навейшымі дапаможнікамі ў наступным пяцігоддзі.

Дзяржава разлічвае на значны ўклад усіх грамадзян у фонд Нацыянальнага пачыну дапамогі школе. Справа адукацыі маладога пакалення — гэта адна з найважнейшых спраў.

Беластоцкія вышэйшыя школы маюць значныя дасягненні ў навучанні і навуковых даследаваннях. Далейшае іх развіццё і ўмацаванне будзе і надалей у цэнтры ўвагі партыйных органаў і дзяржаўных установаў нашага ваяводства.

Паляпшэнне стану здароўя жыхароў нашага ваяводства ў значнай ступені залежыць ад пашырэння ўжо існуючай матэрыяльнай базы службы здароўя. Маючы гэта на ўвазе, прадбачваецца ў гадах 1986-90 пабудовай новых аб'ектаў, або рамонтам старых атрымаць месца на дадатковыя 527 бальнічных ложкаў. У гэтым жа часе будуць здадзены ў карыстанне: першая чарга аб'ектаў Інстытута педыятрыі Беластоцкай медыцынскай акадэміі, закончыцца капітальны рамонт інтэрністычнага аддзялення Ваяводскай бальніцы імя Е. Снядэцкага, аднаўленне бальніцы імя М. Складоўскай-Кюры, будзе здадзены ў карыстанне цэнтр дыялізу ў Беластоку. Усё гэта павінна павялічыць лік бальнічных ложкаў з 65 на 10 тысяч насельніцтва, як гэта было на пачатку 1986 г., да больш за 70 ложкаў у 1990 г. Будзе таксама разбудоўвацца падставовая форма лячэбнай апекі — асяродкі здароўя ў гарадах і новых жылых кварталах, у гадах 1986-90 плануецца здаць у карыстанне 9 раённых асяродкаў здароўя. У гэтым жа часе пачнецца пабудова цэнтра лячэння алкаголікаў і наркаманаў у Харошчы, а таксама пабудова новай Ваяводскай станцыі хуткай дапамогі.

У вясковых мясцовасцях будзе праводзіцца аднаўленне вызксплуатаваных аб'ектаў аховы здароўя так, каб лік жыхароў, які прыходзіцца на адзін асяродак здароўя, з 3 тысяч 400 чалавек (у 1985 г.) зменшыўся да 3 тысяч 200 чалавек у 1990 годзе; пры гэтым будуць рабіцца намаганні забяспечыць іх належнай колькасцю лекараў неабходных спецыяльнасцей, у тым і зубных.

Каб палепшыць апеку над старымі людзьмі, прадбачваецца здаць у карыстанне ў гадах 1986-90 дамы грамадскай апекі ў Чарэўках, Белавежы, Бранску, Харошчы і Угове. У гэтым часе лік месцаў у дамах грамадскай апекі павінен павялічыцца на 320 і дасягнуць 1839 месц.

І так, перамагаючы розныя цяжкасці, наша грамадства ставіць усё новыя і больш упэўненыя крокі ў далейшым сваім развіцці, у пабудове і ўмацаванні сацыялістычнага ладу.

(гм)



**Маладая і таленавітая новая змена на сцэне — спяваюць „Дзявочыяноткі" з Бельскага беларускага ліцэя. Фота С. Грынявіцкага.**

# ЛЕТАПІС

## 1985-1986

6.VI.85. У клубе БГКТ у Беластоку адбылася чарговая сустрэча членаў гуртка пенсіянераў. Праходзіла яна ў сімпатычнай атмасферы. Удзельнікі сустрэчы спявалі, танцавалі.

14.VI.85. Адбылося пасяджэнне выдавецкай секцыі БГКТ, на якім была праведзена ацэнка Беларускага календара на 1985 год і прыняты матэрыялы ў Беларускі каляндар на 1986 год.

15.VI.85. У клубе БГКТ у Беластоку адбылася дыскатэка для беларускай моладзі.

15.VI.85. Тэатральная група з Беластока пад мастацкім кіраўніцтвам Янкі Крупы выступіла з п'есамі: „Паўлінка" і „Ажаніся — весяліся" ў вёсках Дубіны і Навасады (гміна Гайнаўка).

22-23.VI.85. У Гайнаўскім беларускім ліцэі праходзіў I з'езд выпускнікоў гэтай школы. Удзельнічала звыш 200 чалавек. На з'ездзе шмат гаварылася аб гісторыі школы і яе дасягненнях. Удзельнікі з'езда ўсклалі кветкі ля магіл сваіх настаўнікаў і савецкіх воінаў, загінуўшых у баях за вызваленне Гайнаўкі. Вечарам, 22 чэрвеня, у Доме культуры „Гурнік" перад выпускнікамі ліцэя выступіў гайнаўскі хор, а таксама цяперашнія ліцэісты — члены эстраднай групы „Гайтон". Канцэрт вельмі спадабаўся.

23.VI.85. У вёсцы Піражкі (гм. Шудзялава) адбыўся народны фэстын БГКТ у гонар 40-й гадавіны Перамогі над фашызмам. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі гмінных партыйных і адміністрацыйных улад. Адкрыў фэстын старшыня Сакольскага аддзела БГКТ Мікалай Байгуз. З дакладам выступіў член Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, журналіст „Нівы" Міхась Хмялеўскі. Затым распачалася мастацкая частка, у якой выступілі школьнікі з мясцовай школы пад кіраўніцтвам настаўніка Янкі Чабана, а таксама харавы калектыў з Гарадка пад мастацкім кіраўніцтвам Сцяпана Копы. Зацікаўленнем карысталася кніжная латарэя з выданнямі БГКТ і спартыўныя гульні ў выкананні вясковых спартсменаў.

26.VI.85. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечанае абмяркоўцы матэрыялаў на чарговы пленум ГП БГКТ. Праект даклада прадставіў сакратар ГП БГКТ Віталі Луба. Намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня пазнаёміў з праектам інфармацыі адносна працы Прэзідыума ад мінулага пленума. Абмеркаваны былі справы, звязаныя з рамонтам памяшкання ГП БГКТ, а таксама справы звязаныя з выбарамі ў Сейм.







29.VI.85. У Дашах (гм. Кляшчэлі) адбылася беларуская вечарына, арганізатарам якой быў жаночы харавы калектыў і настаўнікі мясцовай пачатковай школы: В. Дуда і В. Андросюк. Найперш выступілі школьнікі з багатай і цікавай праграмай. Спявалі песні, дэкламавалі вершы. Затым выступілі: жаночы харавы калектыў з Дашоў і мужчынскі з Рыбалаў, які прыехаў на беларускую вечарыну ў Дашы дзеля знаёмства і дружбы, якая завязалася паміж калектывамі ў час цэнтральнага агляду беларускай песні. Беларуская вечарына карысталася вялікім зацікаўленнем жыхароў вёскі.

6-7.VII.85. Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку і гурток у Рыбалах (гм. Заблудаў) арганізаваў Купальскую ноч на беразе ракі Нарвы, непадалёк шашы з Беластока ў Бельск. Адбылася цікавая і прыемная імпрэза ля вогнішча. Гаварылася пра традыцыі купальскага свята, пра гадавіну з дня нараджэння Янкі Купалы, гучэлі беларускія народныя песні ў выкананні беластоцкіх „Каласкоў" і мужчынскага калектыву з Рыбалаў, дэкламаваліся вечна жывыя вершы Янкі Купалы. Пасля поўначы ўсе ўдзельнікі сабраліся ля ракі і пускалі на ваду вянкі з запаленымі свечкамі. Усё праходзіла ў мілай і вясёлай атмасферы.

16.VII.85. Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ прысвечанае ўдзелу нашай арганізацыі ў



**Спявае А. Маслоўская з Бельскага беларускага ліцэя.**
**Фота С. Грынявіцкага.**



**Валянціна Мароз з Бельска на сцэне.**
**Фота С. Грынявіцкага.**



**Беларускі мужчынскі хор з в. Рыбалы, што ў Заблудаўскай гміне заваяваў сэрцы ўсяе Беласточчыны. Фота С. Грынявіцкага.**

выбарах у Сейм. Абмяркоўваліся таксама справы набору настаўнікаў на месячны курс беларускай мовы і літаратуры ў Мінску, звязаныя з рамонтам будынку ГП і некаторыя арганізацыйныя справы.

20.VII.85. У Беластоцкім амфітэатры адбыўся фэстын, прысвечаны святу Адраджэння Польшчы. Арганізатарамі яго былі гарадскія праўленні Таварыства польска-савецкай дружбы і Беларускага грамадска-культурнага таварыства пры ўдзеле і вылатнай падтрымцы Гарадской рады ПРОНу. З уступным словам выступіў дацэнт Вэнанцыюш Панэк — старшыня Гарадскога камітэта ПРОН і д-р Аляксандр Баршчэўскі — старшыня ГП БГКТ. Затым распачалася мастацкая частка, у якой выступілі: Люба Трахімчук (з былой „Лявоніхі"), Мікалай Мірановіч, Кася Зянько, Галіна Тшэцяк і квартэт „Звон". У далейшым на сцэне з цікавай і багатай праграмай выступілі харавыя калектывы БГКТ з Беластока і Гайнаўкі.

21.VII.85. У вёсцы Гаркавічы, што на Сакольшчыне, адбыўся народны фэстын БГКТ. Прысвечаны ён быў 40-й гадавіне Перамогі над фашызмам, святу Адраджэння Польшчы і 13









**У подыху мора таксама чуваць беларускія мелодыі. Спявае Гданьскі беларускі хор. Фота С. Грынявіцкага.**

гадавіне ўтварэння Пакоя памяці Сяргея Прытыцкага ў мясцовым клубе. На ўрачыстасць прыбыло многа людзей, прыбылі гмінныя ўлады з Шудзялава на чале з І сакратаром камітэта ПАРП Станіславам Кавэйшам, а таксама дзеячы з Сакольскага аддзела БГКТ. З уступным словам выступіў старшыня Сакольскага аддзела Мікалай Байгуз, а з дакладам — член Прэзідыума ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі. У мастацкай частцы выступіў харавы калектыў з Гарадка.

21.VII.85. Напярэдадні свята Адраджэння Народнай Польшчы ў Валілах адбыўся ўрачысты мітынг жыхароў Гарадоцкай гміны. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі прадстаўнікі ваяводскіх партыйных улад, гмінныя ўлады, ГП БГКТ і госці з Бераставіцкага раёна Беларускай ССР. Заслужаным жыхарам Гарадоцкай гміны ўручаны былі дзяржаўныя і іншыя адзначэнні, медалі 40-годдзя ПНР. Затым была мастацкая частка, у якой выступіў харавы калектыў БГКТ з Беластока.

21.VII.85. У Кожыне, на Бельшчыне, з нагоды Дня Адраджэння Народнай Польшчы адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка

савецкім партызанам, якія загінулі ў гэтай вёсцы 20 ліпеня 1944 года. Помнік урачыста адкрыў сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку д-р Мечыслаў Дарошка. Вёска ўзнагароджана Залатым знакам „Заслужаны для Беласточчыны". На мітынг з'ехалася многа народу з навакольных вёсак. Сярод публікі вылучалася група нямецкай моладзі — вучняў і студэнтаў з ГДР, якія падчас канікулаў працавалі ў Бельску.

17-21.VII.85. Праходзіў турыстычны рэйд „Бацькаўшчына", які арганізавалі беларускія студэнты Варшаўскага ўніверсітэта.

28.VII.85. Пад старшынствам Аляксандра Баршчэўскага адбылося пасяджэнне пленума Галоўнага праўлення БГКТ. З дакладам „Задачы аддзелаў па рэалізацыі пастаноў X з'езда БГКТ" выступіў сакратар ГП БГКТ Віталі Луба. Намеснік старшыні ГП Ян Зенюк гаварыў аб удзеле БГКТ у выбарах у Сейм. Аб працы Прэзідыума ГП у перыяд ад папярэдняга пленума паінфармаваў Кастусь Майсеня. У шырокай, ажыўленай дыскусіі закраналіся справы актывізацыі дзейнасці гурткоў і аддзелаў і іншыя істотныя для Таварыства справы. Пасяджэнне пленума закончылася прыняццём прапаноў наконт далейшай дзейнасці нашай арганізацыі.

У ліпені 85 г. (як заўсёды) першы курс беларускай філалогіі праходзіў пад кіраўніцтвам мгр Надзеі Панасюк фальклорную практыку ў вёсцы Катлоўка, што каля Нарвы. Студэнтаў галоўным чынам цікавілі старыя народныя песні, прыказкі, прымаўкі, легенды. Дзякуючы прыхільнасці жыхароў вёскі нашым студэнтам удалося сабраць шмат фальклорнага матэрыялу.

7.VIII.85. У памяшканні аддзела БГКТ у Бельску адбылася сустрэча Прэзідыума ГП БГКТ са старшынёй Краёвай рады ПРОН Янам Дабрачынскім. У сустрэчы прынялі ўдзел: першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку Уладзімір Каладзеюк, старшыня і намеснік ваяводскай рады ПРОН Пётр Борань і Вальдэмар Паўлоўскі, беластоцкі ваявода Казімеж Дунай, кіраўнік Раённага камітэта партыйнай працы ПАРП у Бельску Лявонцій Парафінюк, начальнік горада Бельска Ян Садоўскі і старшыня гарадской рады ПРОН Ян Ваўжыняк. Старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі расказаў аб дасягненнях, праблемах, некаторых цяжкасцях і нявырашаных пытаннях нашай арганізацыі і яе інтэгруючай ролі ў беларускім асяроддзі. Затым выступіў праф. Пётр Борань, які падкрэсліў заангажаваны ўдзел беларусаў у працах ПРОНу і яго органах. Заахвоціў да большага ўздзеяння БГКТ на кірунку культурнай дзейнасці ў ПРОНе, які мае вялікі ўплыў на ўсе дзялянкі жыцця. З увагай праслухалі прысутныя выступленне Яна Дабрачынскага, які падкрэсліў вялікі ўклад беларусаў у польскую культуру. Далей Ян Дабрачынскі праінфармаваў аб будаўніцтве школ і крануў справу пабудовы музеяў. У дыскусіі выступілі Ян Зенюк,







Аляксандр Іванюк, Аляксей Карпюк, Сяргей Лукашук і Уладзімір Юзвюк. Спатканне закончылася падзякай старшыні ГП БГКТ прадстаўнікам улад за зацікаўленне беларускай праблематыкай.

20.VIII.85. Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Былі разгледжаны справы выбараў у Сейм ПНР. Прэзідыум апрацаваў і выслаў ліст І сакратару Цэнтральнага Камітэта ПАРП, тав. В. Ярузельскаму пра розныя аспекты ўдзелу беларускай меншасці і БГКТ у выбарчай кампаніі. У далейшым Прэзідыум прыняў інфармацыю аб курсе для настаўнікаў беларускай мовы, які адбыўся ў ліпені г.г. у Мінску. Разгледзеў таксама прапановы апошняга пленума ГП БГКТ ад 28 ліпеня 1985 г.

20.VIII.85. У залах Акруговага музея ў Беластоку адкрылася цікавая выстаўка ікон, якія з'яўляюцца ўласнасцю гэтага музея. У збор уваходзяць галоўным чынам помнікі XIX стагоддзя, звязаныя з культурай і традыцыямі паўночна-ўсходняга рэгіёна Польшчы. Экспанавалася 130 іконаў.

27.VIII.85.У Гайнаўцы быў створаны аддзел БГКТ. Дэлегаты ад паасобных гурткоў з горада Гайнаўкі пасля дыскусіі выбралі ўлады аддзела. У састаў Прэзідыума праўлення адзела ўвайшло 7 асоб, на чале са старшынёй Янам Якімюком. Была таксама выбрана рэвізійная камісія і члены праўлення аддзела. На сходзе быў прыняты план працы Гайнаўскага аддзела БГКТ.




**Вечна малажавы і бадзёры Гарадоцкі хор.** **Фота С. Грынявіцкага.**



„Тыневічанкі" ў „Адведках" на беластоцкай сцэне. Фота С. Грынявіцкага.

1.IX.85. У Падставовай школе № 3 у Бельску Падляшскім урачыстасць пачатку навучальнага года была спалучана з адкрыццём новага школьнага будынка. На ўрачыстасць прыехалі госці з Беластока, прыбылі прадстаўнікі бельскіх партыйных і адміністрацыйных устаноў і жыхары горада. Свой урачысты дзень школьнікі ўпрыгожылі вялікім канцэртам.

9.IX.85. Адбылося пасяджэнне секцыі культуры ГП БГКТ, прысвечанае культурна-асветнай дзейнасці Таварыства ў новым сезоне. Быў прыняты план мерапрыемстваў на 1986 год, у якім вялікая ўвага адводзілася святкаванням юбілею 30-годдзя БГКТ і „Нівы". Секцыя культуры абмеркавала справу адкрыцця новага культурнага сезона 1985/86, а таксама прыняла план працы на новы культурна-асветны сезон.

16.IX.85. Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Прысвечана яно было ў асноўным навучанню беларускай мовы ў новым навучальным годзе. Прэзідыум адобрыў інфармацыю аб навучанні роднай мовы і вырашыў правесці ў маі 1986 года аналіз стану навучання беларускай мовы. У сувязі з недахопам падручнікаў для III і VI класаў Прэзідыум ГП запрапанаваў, каб у „Зорцы" друкаваць матэрыялы, якія будуць выкарыстоўвацца на ўроках роднай мовы ў гэтых класах. Прэзідыум ГП сфармуляваў у адрас асветных улад прапановы, якія адносяцца да забеспячэння школ у падручнікі і навучальныя дапаможнікі, павышэння кваліфікацый настаўнікаў і паляпшэння матэрыяльнай базы школьніцтва ва ўсходняй частцы Беласточчыны. Была таксама абмеркавана справа арганізавання супольна з Кураторыяй асветы і выхавання сустрэчы з настаўнікамі беларускай мовы.

25.IX.85. У Гайнаўскім клубе БГКТ адбылася сустрэча з лектарам мгр. Васілём Сакоўскім, які ў сваім цікавым дакладзе расказаў аб польска-беларускіх культурных сувязях. Тэма выклікала жывую дыскусію.

27.IX.85. У клубе БГКТ у Бельску Падляшскім адбылося пасяджэнне секцыі асветы ГП БГКТ. Была абмеркавана справа адкрыцця культурна-асветнага сезона, якая запланавана на 26 кастрычніка г.г. у Гайнаўцы, а таксама справы школьных конкурсаў. Секцыя асветы вырашыла арганізаваць у гэтым навучальным годзе 3 віды конкурсаў для школьнікаў: конкурс „Беларуская песня-86", дэкламатарскі конкурс і агляд дзіцячых тэатральных калектываў. Члены секцыі апрацавалі праект правілаў гэтых конкурсаў і тэрміны іх правядзення.

28.IX.85. Пад старшынством Валянціны Ласкевіч і з удзелам сакратара ГП Віталія Лубы адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума аддзела БГКТ у Беластоку. На пасяджэнні былі абмеркаваны прапановы і прыняты план працы аддзела на бягучы



На беларускай імпрэзе як жа ж прыемна паслухаць родную песню. Фота В. Рудчыка.

культурна-асветны 1985/86 год. Асаблівую ўвагу аддзел звярнуў на адпаведную падрыхтоўку беластоцкіх спевакоў да ўдзелу ў конкурсе „Беларуская песня-86" для дарослых і дзяцей.

3.X.85. Гурток пенсіянераў пры аддзеле БГКТ у Беластоку распачаў новы культурна-асветны сезон вельмі ўдалай імпрэзай. У клуб сабралася шмат людзей. Сакратар ГП БГКТ Віталі Луба расказаў аб планах культурна-асветнай працы нашай арганізацыі ў бягучым годзе. Затым драматычны калектыў, які дзейнічае пры гуртку, выступіў са сцэнкай з пастаноўкі „Ажаніся — весяліся". Потым былі песні, танцы.

6.X.85. Адбылося пленарнае пасяджэнне Сакольскага аддзела БГКТ. У ім прыняло ўдзел 30 асоб з усіх 10 гурткоў БГКТ, якія налічваюць звыш 200 членаў. Старшыня аддзела Мікалай Байгуз паінфармаваў прысутных аб дзейнасці БГКТ на Сакольшчыне ў апошнім часе. Затым выступіў сакратар ГП БГКТ Віталі Луба, які расказаў удзельнікам пленума аб планах працы ГП БГКТ у новым культурна-асветным сезоне ў сувязі з юбілеем 30-годдзя нашай арганізацыі і тыднёвіка „Ніва". Шмат увагі прысвяціў ён задачам аддзелаў, патрэбе супрацоўніцтва іх з іншымі мясцовымі арганізацыямі ў развіцці культурнай дзейнасці. У дыскусіі гаварылася аб праблемах, якія хвалююць беларускае асяроддзе на Сакольшчыне.

5-6.X.85. Бельскія „Васілёчкі" прымалі ўдзел у Рэйдзе дружбы на Пазнанскай зямлі. 5.X. хор выступіў з канцэртам у мясцовасці Накла, а 6.X.85 у Тамыслі Новым.

10.X.85. Адбылося пасяджэнне праўлення гуртка пенсіянераў пры БГКТ, на якім быў абмеркаваны план дзейнасці гуртка да канца 1985 года.

10.X.85. „Васілёчкі" выступілі ў Бельску Падляшскім з канцэртам з нагоды адзначэння горада Крыжам Грунвальда.

11.X.85. Адбылася сустрэча членаў дыскусійнага клуба ПРОН пры Гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку. З дакладам на тэму „Умовы фармавання беларускай нацыянальнай свядомасці ў праваслаўным асяроддзі" выступіў мгр Антон Мірановіч.

18-20.X.85. Прайшоў асенні рэйд па Сакольскай зямлі беларускіх студэнтаў Варшаўскага універсітэта.

20.X.85. Адбыўся сход гуртка БГКТ у Паўднёвым Востраве. На сходзе абмеркаваны справы павышэння актыўнасці гуртка.

20.X.85. У Беластоцкім аддзеле БГКТ адбылося ўрачыстае адкрыццё культурна-асветнага сезона 1985/86. Прынялі ў ім удзел актывісты аддзела, старэйшыя і заслужаныя дзеячы нашай арганізацыі, удзельнікі аматарскага руху, моладзь. Галоўнае праўленне ТППР прызнала Залатую Ганаровую адзнаку Анне Амбражэй і накіравала да групы актывістаў аддзела персанальныя лісты з падзякай за ахвярную працу ў ТППР і зычанні поспехаў у далейшай дзейнасці. З дакладам пра дзейнасць аддзела ў мінулым годзе і яго планах на бягучы сезон выступіў намеснік старшыні аддзела Мікалай Гайдук. Пасля даклада і дыскусіі распачалася мастацкая частка, у якой выступіў хор аддзела і мужчынскі калектыў „Звон" — лаўрэат сёлетняга фестывалю савецкай песні ў Зялёнай Гуры.

21.X.85. Адбылося пленарнае пасяджэнне Праўлення аддзела БГКТ у Бельску Падляшскім. Асноўнай тэмай пленума былі заданні аддзела па рэалізацыі пастаноў X з'езда БГКТ. Дыскусія на пленуме сведчыла аб вялікім заангажаванні бельскіх дзеячоў у працы нядаўна створанага аддзела, які складаецца з 30 гурткоў і 850 членаў.

22.X.85. На прадпрыемстве лясной вытворчасці „Лес" у Гайнаўцы паўстаў гурток БГКТ, які складаецца з 22 членаў. Сход выбраў праўленне са старшынёй Галенай Ігнацюк.

23.X.85. Адбылося пленарнае пасяджэнне праўлення Арлянскага аддзела БГКТ. Абмяркоўваліся метады і формы далейшай працы, якія спрыялі б большай актывізацыі гурткоў БГКТ у выкананні пастаноў X з'езда нашага Таварыства.

24.X.85. У Дубічах Царкоўных адбылося пленарнае пасяджэнне праўлення аддзела БГКТ, прысвечанае задачам аддзела па рэалізацыі пастаноў X з'езда. У пасяджэнні ўдзельнічаў намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня.



25.X.85. У клубе БГКТ у Бельску Падляшскім адбылася сустрэча з Зосяй Сачко. Удзельнікі сустрэчы мелі магчымасць бліжэй пазнаёміцца з паэтэсай, якая жыве і працуе ў Бельску і паслухаць яе вершаў. Сустрэча выклікала жаданне далейшага непасрэднага кантакту з беларускімі літаратарамі.

26.X.85. У гайнаўскім Доме культуры „Гурнік“ адбылося адкрыццё чарговага культурна-асветнага сезона ў Беларускім таварыстве. У самым пачатку пасяджэння Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству за культурна-асветную дзейнасць быў уручаны Медаль 40-годдзя вызвалення Беластока. Ва ўрачыстасці адкрыцця ўдзельнічалі прадстаўнікі беластоцкай Кураторыі асветы і выхавання, настаўнікі беларускай мовы, дырэктары школ, у якіх навучаецца гэты прадмет, гмінныя інспектары асветы і выхавання. З дакладам аб стане беларускага школьніцтва на Беласточчыне выступіў старшы візітатар Кураторыі Стэфан Крэнтоўскі. Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Аляксандр Баршчэўскі гаварыў аб добрых баках у навучанні беларускай мовы, але найбольш аб вялікіх недахопах, якія выступаюць у гэтай дзялянцы. Дыскусія ў асноўным датычыла беларускай асветы. Пасля дыскусіі распачалася мастацкая частка ў выкананні харавых калектываў з Беластока, Старога Ляўкова, самадзейнікаў з Гайнаўскага беларускага ліцэя і Юркі Налівайкі з Гарадка. Затым удзельнікі гэтага пасяджэння паехалі ў Старую Белавежу. Там пры кастры доўга працягваліся спевы і танцы пад гармонік Сцяпана Копы і Віталія Макаца.

27.X.85. У Беластоцкай філармоніі прайшоў канцэрт трох беларускіх хораў з Бельска, Беластока і Гайнаўкі. Канцэрт выклікаў вялікае зацікаўленне і быў цёпла ўспрыняты публікай.

28.X.85. Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Асноўнай тэмай пасяджэння было прыняццё праграмы святкавання юбілею 30-годдзя БГКТ і „Нівы“. У другой частцы пасяджэння Прэзідыум ГП прыняў інфармацыю аб выкананні плана даходаў і выдаткаў за тры кварталы 1985 года.

29.X.85. У клубе БГКТ у Беластоку гурток пенсіянераў наладзіў святкаванне Дня сеньёра. З канцэртам для ўдзельнікаў вечарыны выступіў жаночы хор Гарадскога аддзела БГКТ.

2.XI.85. У клубе прэсы і кніжкі ў Семяноўцы (Нараўчанская гміна) адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 68 гадавіне Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. На ўрачыстасць, якую арганізавалі тамашнія гурткі БГКТ і ЗМВ прыбылі прадстаўнікі гмінных улад, жыхары Семяноўкі і навакольных вёсак. З дакладам выступіў І сакратар гміннага камітэта партыі Аляксандр Плева. Затым заслужаным грамадскім дзеячам і актыўным членам ТППР былі ўручаны дзяржаўныя і рэгіянальныя ўзнагароды. У мастацкай частцы выступіў семяноўскі калектыў „Сямяне“.







3.XI.85. Самадзейнікі з гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку выступілі з канцэртам у Вульцы Нурэцкай і Клюковічах.

6.XI.85. Адбылася сустрэча дыскусійнага клуба ПРОН пры гарадскім гуртку БГКТ у Беластоку. Сустрэчу вёў мгр Антон Мірановіч, а з дакладам на тэму „Беларуская драўляная архітэктура“ выступіў мгр Мікола Лобач.

8.XI.85. У Хільмонах, што на Дуброўшчыне, адбыўся сход гуртка БГКТ, на якім прынялі 3 новых членаў. Сход вырашыў арганізаваць летам 1986 года ў Хільмонах народны фэстын з нагоды 30-годдзя БГКТ і „Нівы“.

9.XI.85. Тэатральная група Беластоцкага аддзела БГКТ выступіла ў вёсцы Вярхлессе з пастаноўкай „Ажаніся — весяліся“.

9.XI.85. У варшаўскім клубе „Міні-2“ адбыліся традыцыйныя „атрасіны“ студэнтаў-беларусаў першага курса. Арганізатарам іх было асяроддзе беларускіх студэнтаў у Варшаве. Праграма „атрасін“ была вельмі багатая і ўдалая. Выступіў вакальна-інструментальны калектыў Варшаўскага аддзела БГКТ. Імпрэза прайшла ў вясёлай атмасферы.

9.XI.85. У Дубяжыне (гм. Бельск) адбылася ўрачыстасць адкрыцця новай школы. На ўрачыстасць прыехаў куратар асветы і выхавання Эдвард Крынскі, бельскія кіраўнікі гміны і гмінны інспектар асветы, запрошаныя госці з іншых школ, масава прыйшлі бацькі. З канцэртам у новай школе выступілі калек-




**Чароўныя галасы маладзіц з Гайнаўшчыны заварожвалі слухачоў.**
**Фота С. Грынявіцкага**

тывы з беларускіх школ Бельска „Дзявочыя ноткі“ з Беларускага ліцэя і „Нашы дзеці“ з Беларускай пачатковай школы. Выступілі таксама дзеці з мясцовай школы.

10.XI.85. Адбыўся сход гуртка БГКТ у Аўгустове (Сувальскае ваяводства). Ён у адрас ГП БГКТ накіраваў дзве прапановы: стварыць пры ГП секцыю юрыстаў і арганізаваць летнія лагеры адпачынку для беларускіх дзяцей у БССР. У фонд пабудовы Беларускага музея ўдзельнікі сходу перадалі 1.500 зл.

12.XI.85. У Арэшкаве праводзіўся сход гуртка БГКТ. Удзельнікі сходу вырашылі рэактываваць дзейнасць драмгуртка.

13.XI.85. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума праўлення Арлянскага аддзела БГКТ. На ім быў апрацаваны план дзейнасці на бягучы культурна-асветны сезон. Намечана шырокая праграма адзначэння 30-годдзя БГКТ.

14.XI.85. У Чыжах адбыўся пленум праўлення аддзела БГКТ, на якім абмяркоўвалася праца гурткоў таварыства ў вясковым асяроддзі. У пленуме ўдзельнічалі: Кастусь Майсеня — намеснік старшыні ГП, Аляксандр Іванюк — член Прэзідыума ГП БГКТ.

14.XI.85. Адбыўся пленум праўлення Сямяціцкага аддзела БГКТ. На ім была разгледжана дзейнасць аддзела ў 1985 годзе і прыняты план працы на наступны год. У пленуме прыняў удзел сакратар ГП Віталі Луба.

16.XI.85. Гайнаўскі беларускі хор выступіў з канцэртам у Тыневічах.

16.XI.85. У Кнаразах адбылася ўрачыстасць адкрыцця новай вясковай святліцы. З гэтай нагоды з канцэртам выступіў бельскі хор „Васілёчкі“.

20.XI.85. На 50-м годзе жыцця раптоўна памёр Юрка Геніуш, член літаратурнага аб'яднання „Белавежа“.

21.XI.85. На пленуме праўлення аддзела БГКТ у Нарве было ацэнена выкананне гадавога плана працы. У дыскусіі многа месца адведзена развіццю культурнай дзейнасці ў вясковых клубах, а таксама адзначэнню юбілею 30-годдзя БГКТ і „Нівы“ ў 1986 годзе.

22.XI.85. У вясковай святліцы ў Вульцы Нурэцкай адбылася прыемная ўрачыстасць, якую падрыхтавалі вучні падставовай школы пры дапамозе настаўніцы беларускай мовы Элеаноры Баран. Запрасілі яны да сябе школьнікаў з суседняй вёскі Тымянка. Супольна выступілі яны з вельмі цікавай і багатай праграмай, у якой былі вершы беларускіх аўтараў, членаў літаратурнага аб'яднання „Белавежа“, а таксама праспявалі шмат беларускіх песень. У сустрэчы ўдзельнічала методык беларускай мовы на беластоцкую акругу Тамара Русачык.

23. XI.85. Адбыўся сход гуртка БГКТ у Сынкоўцах (гм. Новы Двор) з удзелам старшыні аддзела БГКТ у Дуброве Беластоцкай Аркадзія Сулімы. Удзельнікі сходу вырашылі стварыць мужчынскі харавы калектыў.

23.XI.85. У вясковым клубе ў Шчытах (гм. Орля) адбыўся сход гуртка БГКТ. З праграмай дзейнасці Арлянскага аддзела БГКТ пазнаёміла прысутных намеснік старшыні Анна Шыманская. Журналіст „Нівы“ Ян Мордань расказаў пра творчасць літаратурнай групы „Белавежа“ і чытаў некаторыя творы. Удзельнікі сходу выказалі жаданне, каб у будучыні было больш сустрэч з беларускімі пісьменнікамі і журналістамі.

24.XI.85. Алесь Барскі і Васіль Петручук сустрэліся з жыхарамі вёскі Міклашы (гм. Орля). Аўтары чыталі свае творы і адказвалі на шматлікія пытанні слухачоў.

24.XI.85. У вёсцы Кашалі адбылася аўтарская сустрэча з Надзеяй Артымовіч і Васілём Петручуком. Мясцовы клуб быў запоўнены моладдзю і дарослымі. В. Петручук займальна гаварыў аб матывах сваёй творчасці і замілаванні да ўсяго, што роднае. Н. Артымовіч прачытала некалькі сваіх вершаў і расказала аб сваім творчым шляху.

27.XI.85. Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, якое абмеркавала матэрыялы на IV пленум ГП. Вырашана, што асноўнай тэмай пленума будзе аналіз дзейнасці таварыства ад X з'езда БГКТ. У далейшым члены Прэзідыума пазнаёміліся з інфармацыяй аб падрыхтоўцы да пабудовы Музея помніка беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы.

29.XI.85. У бельскім клубе БГКТ прайшла сустрэча з Васілём Петручуком. Расказаў ён пра сваё жыццё і творчасць. Удзельнікі сустрэчы падкрэслівалі патрэбу такіх сустрэч, бо можна бліжэй пазнаёміцца з аўтарам і яго творчасцю. Спатканне прайшло ў сардэчнай атмасферы.

30.XI.85. Адбылося пленарнае пасяджэнне аддзела БГКТ у Дуброве Беластоцкай, прысвечанае ацэнцы працы БГКТ у дуброўскім раёне і акрэсленню напрамкаў дзейнасці на 1986 год. У пленуме прынялі ўдзел: старшыня ГП Аляксандр Баршчэўскі і сакратар Віталі Луба.

1.XII.85. Гурток БГКТ у Старым Беразове наладзіў у мясцовай святліцы ўрачысты сход жыхароў вёскі, прысвечаны 60-годдзю Грамады. З дакладам аб Грамадзе выступіў д-р Уладзімір Юзвюк. З ГП БГКТ прыбылі: старшыня д-р Аляксандр Баршчэўскі і намеснік старшыні Кастусь Майсеня. З мастацкай часткай выступіў жаночы хор з Нараўкі, які працуе пад кіраўніцтвам Вольгі Закройшчык.

1.XII.85. Праўленне аддзела БГКТ у Бельску Падляшскім наладзіла нараду са старшынямі гурткоў свайго раёна. Сход вёў старшыня аддзела Васіль Ляшчынскі. Прадстаўлены быў план працы Бельскага аддзела на бягучы культурна-асветны сезон.



**Спяваюць славутыя маці з дачкою — Люба Гаўрылюк і Аля Дубец.**
**Фота С. Грыняўіцкага.**

На сходзе многа ўвагі было прысвечана актывізацыі дзейнасці БГКТ у вясковым асяроддзі.

5.XII.85. Алесь Барскі разам з дырэктарам Гайнаўскага беларускага ліцэя Аляксандрам Іванюком правёў сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі школ у Чаромсе-вёсцы і Чаромсе-пасёлку. Вечарам Алесь Барскі і Аляксандр Іванюк сустрэліся з дарослымі жыхарамі вёскі Чыжы.

5.XII.85. У Варшаўскім клубе БГКТ на Сенаторскай 8 прайшла аўтарская сустрэча з Надзеяй Артымовіч.

6.XII.85. Алесь Барскі разам з гмінным інспектарам асветы ў Нарве Юркам Хмялеўскім наведаў школы ў Барысаўцы і Гарадчыне. Вечарам А. Барскі сустрэўся з жыхарамі вёскі Альхоўка (гм. Нараўка). У часе гэтых сустрэч, якія былі арганізаваны Гайнаўскім аддзелам БГКТ, было прададзена шмат зборнікаў А. Барскага.

6.XII.85. У Бельскім клубе БГКТ адбылася сустрэча з журналістам „Нівы" Віктарам Рудчыкам, які расказаў пра сваю журналісцкую працу, а таксама пра спецыфіку публіцыстычнай працы ў нашым тыднёвіку. У сустрэчы ў асноўным удзельнічалі вучні Бельскага беларускага ліцэя.

7.XII.85. Беларускі пісьменнік Сакрат Яновіч сустрэўся вечарам з жыхарамі вёскі Аўгустова каля Бельска. Аўтар прачытаў некалькі сваіх апавяданняў і расказаў пра літаратурную творчасць, а таксама падзяліўся ўражаннямі аб паездках за мяжу.

10.XII.85. Адбылося пасяджэнне секцыі культуры ГП БГКТ, на якім былі абмеркаваны пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай і правядзеннем конкурсу „Беларуская песня-86" і агляду аматарскіх тэатральных калектываў. У далейшым удзельнікі пасяджэння пазнаёміліся з праектам праграмы святкавання юбілею 30-годдзя БГКТ і „Нівы" і адобрылі праект. Члены секцыі культуры ГП сустрэліся таксама з суарганізатарамі конкурсаў.

13.XII.85. У Ваяводскім камітэце ПАРП у Беластоку адбыўся ўрачысты сход у сувязі з 60-годдзем Беларускай сялянска-рабочай Грамады. Прынялі ў ім удзел былыя члены Грамады, ветэраны рабочага руху, дзеячы палітычных і грамадскіх арганізацый, прадстаўнікі рабочых з Гайнаўкі, Гарадка, Міхалова, сяляне з вёсак, дзе актыўна дзейнічалі гурткі Грамады, навукоўцы, журналісты. Урачыстасць адкрыў сакратар ВК ПАРП д-р Мікалай Казак. З дакладам пра ролю Грамады ў гісторыі рэвалюцыйнага руху выступіў дац. д-р Генрык Цімэк — навуковы працаўнік Акадэміі грамадскіх навук.

13.XII.85. У Музеі рэвалюцыйнага руху на вул. Варшаўскай 37 была адкрыта выстаўка, прысвечаная 60-годдзю БСР Грамады. „Грамадаўскі" дзень у Беластоку адзначылі газеты і радыё.

14.XII.85. У Варшаве адбылося пасяджэнне грамадскай камісіі па ахове помнікаў царкоўнага мастацтва пры Таварыстве аховы помнікаў. Ад імя ГП БГКТ прысутнічаў старшыня гістарычнай секцыі ГП мгр Антон Мірановіч, які ў сваім выступленні гаварыў аб стане помнікаў царкоўнай архітэктуры на Беласточчыне.

16.XII.85.Адбылася сустрэча старшыні ВРН у Беластоку праф. Мар'яна Шаматовіча са старшынёю ГП БГКТ Аляксандрам Баршчэўскім. У час сустрэчы была ўзнята патрэба навелізаваць пастановы Прэзідыума ВРН з 1966 года ў справе напрамкаў дзейнасці зацікаўленых органаў дзяржаўнай адміністрацыі ў галіне дапамогі насельніцтву нацыянальных меншасцей.

17.XII.85. Белавежскі гурток БГКТ наладзіў сустрэчу з Сакратам Яновічам. Сустрэча адбылася ў кавярні „Зуброўка". Аўтар чытаў свае творы і адказваў на пытанні.

21.XII.85. У клубе ў Студзіводах (адзін з раёнаў г. Бельска) адбылася аўтарская сустрэча з Надзеяй Артымовіч. Вядучы сустрэчу Ян Мордань пазнаёміў прысутных з творчасцю „белавежцаў". Паэтэса расказала пра сябе і прадставіла сваю творчасць. Прысутныя з вялікім зацікаўленнем слухалі вершы Н. Артымовіч.

22.XII.85. Адбылося чарговае пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ. З дакладам на тэму: „Аналіз дзейнасці БГКТ у 1984-85 гадах" выступіў сакратар ГП Віталі Луба. У далейшым прадставіў ён праект праграмы святкавання 30-годдзя БГКТ. Дыскусія засяроджвалася на справах найбольш хвалюючых беларускае асяроддзе. Членам пленума была таксама прадстаўлена тэматыка пасяджэнняў Прэзідыума і ГП БГКТ на 1986 год.

23.XII.85. Кіраўніцтва Ваяводскай рады ПРОН у Беластоку разглядала праблематыку дзейнасці БГКТ. Вырашана, што ў 1986 годзе на гэтую тэму адбудзецца супольнае пасяджэнне Прэзідыума Ваяводскай рады ПРОН і Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ.

27.XII.85. Адбылося пасяджэнне пленума Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, прысвечанае ацэнцы працы аддзела за перыяд ад 31 сакавіка да 27 снежня 1985 года. Пленум адобрыў прапановы плана працы на 1986 год.

11.I.86. Жаночы харавы калектыў „Тыневічанкі" выступіў з канцэртам на ўрачыстасці адкрыцця новага клуба ў Гарадзісках.

13-14.I.86. Прайшлі навагодне-карнавальныя балі ў Беластоку, Гайнаўцы і Бельску Падляшскім.

14.I.86. Прэзідыум ВРН у Беластоку на сваім пасяджэнні паклікаў 12-асабовы калектыў, складзены з радных ВРН, якому было даручана заданне прааналізаваць праблемы нацыянальных меншасцей на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства і прадставіць Прэзідыуму ВРН прапановы наконт спосабаў іх вырашэння. Калектыў будзе дзейнічаць у супрацоўніцтве з БГКТ, органамі Ваяводскай управы і іншымі ваяводскімі ўстановамі.

14-20.I.86. У Галерэі Нордэнгаке ў горадзе Мальме (Паўднёвая Швецыя) была наладжана персанальная выстаўка работ вядомага чытачам „Беларускага календара" мастака Лёніка Тарасэвіча родам з Валілаў (гм. Гарадок).

19.I.86. У „Ніве" пачала друкавацца студэнцкая старонка „Прысутнасць", прысвечаная справам студэнтаў беларускай нацыянальнасці.

19.I.86. У вясковым клубе ў Семяноўцы адбыўся супольны канцэрт харавога калектыву „Цаглінкі" са Старога Ляўкова і мясцовага фальклорнага калектыву „Сямяне".

22.I.86. У Гайнаўскім беларускім ліцэі адбылося пасяджэнне Гайнаўскага праўлення аддзела БГКТ. Прынялі ўдзел старшыні гурткоў БГКТ, члены праўлення, таксама намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня і член Прэзідыума ГП Аляксандр Іванюк. На пасяджэнні многа ўвагі было прысвечана святкаванню 30-й гадавіны БГКТ і „Нівы" і конкурсу „Беларуская песня-86". Кастусь Майсеня пазнаёміў прысутных з працай Галоўнага праўлення, а таксама з рашэннямі апошняга пленума ГП.







23.I.86. Адбылося пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, на якім быў разгледжаны праект плана Беларускага календара на 1987 год, які рэдагуе М. Гайдук. Прэзідыум ГП разглядаў таксама пытанні закранутыя ў час дыскусіі на IV пленуме ГП у снежні 1985 года.

25.I.86. Прайшлі навагоднія ёлкі для школьнікаў у Махнатым, Пасынках і іншых школах.

25.I.86. У будынку Падставовай школы ў Гародчыне выступіў з канцэртам калектыў „Тыневічанкі" з Тыневічаў Вялікіх.

25.I.86. Рада культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці арганізавала ў студэнцкім клубе „Акцэнт" баль беларускіх сту-



**Магутны беластоцкі „Звон" на Свяце беларускай культуры ў сваім родным горадзе.** **Фота С. Грынявіцкага.**

дэнтаў. Прысутнічала каля 80 асоб. Да танцаў іграў калектыў „Беларускія гітары“ з Варшаўскага аддзела БГКТ.

26.I.86. У Нарве адбыўся гмінны агляд каляднай песні. У ім прынялі ўдзел каляднікі з Адрынок, Трасцянкі, школьныя калектывы з Тыневіч Вялікіх, Нарвы і калектыў „Тыневічанкі“.

31.I.86. Гайнаўскі аддзел БГКТ арганізаваў кулік па Белавежскай пушчы для членаў гурткоў, што дзейнічаюць у горадзе Гайнаўка.

1.II.86. У Падставовай школе № 3 у Бельску Падляшскім адбыўся раённы агляд дэкламатарскага конкурсу для школьнікаў пад лозунгам „Усё, што сэрцу майму блізка“. У ім прыняло ўдзел 12 вучаніц з трох школ: бельскай „тройкі“, школ у Дубяжыне і ў Райску. Арганізацыяй і правядзеннем агляду займалася Тамара Русачык. Памагала ёй у гэтым Анна Бжазоўская.

5.II.86. Адбыўся агульны сход Рады культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці. Былі выбраны старшыні камісій: навуковай, турыстычнай і выдавецкай і папоўнены склад Прэзідыума рады.

6.II.86. У клубе БГКТ у Варшаве адбылася сустрэча з Васілём Петручуком. Аўтар расказаў прысутным аб сваім жыцці і творчым шляху і прачытаў некалькі сваіх гумарыстычна-сатырычных фельетонаў, якія друкаваліся ў „Ніве“ ў рубрыцы „З маёй званіцы“.

6.II.86. У Доме прэсы ў Беластоку адбыўся штогадовы XI з'езд карэспандэнтаў „Нівы“. З уступным словам выступіла і з'езд вяла рэд. Вера Валкавыцкая, адказная за супрацоўніцтва з карэспандэнтамі. На з'ездзе падкрэслівалася вялікую ролю карэспандэнцкіх матэрыялаў ў рэдагаванні нашага тыднёвіка. Гаварылася аб дагэтуляшніх дасягненнях і недахопах у працы з карэспандэнтамі. У сходзе ўдзельнічалі сакратар рэдакцыі Ада Чэчуга і намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня.

8.II.86. У святліцы Гайнаўскага прадпрыемства лясных машын адбыўся карнавальны баль. Да танцаў іграў музычны калектыў з Дубін. Важнае месца ў гэтай імпрэзе заняла латарэя талонаў на пакупку розных хатніх прадметаў штодзённага ўжытку. Даход з гэтай латарэі ў суме 11.600 зл. арганізатары перадалі ў фонд пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы.

8.II.86. Рэдактар „Зоркі“ Яніна Чэрнякевіч правяла цікавую сустрэчу з шматлікай групай ломжынскіх гарцэраў, якія праводзілі зімовыя канікулы ў Бельску Падляшскім.

9.II.86. У Альхоўцы (гм. Нараўка) выступілі з канцэртам два мастацкія самадзейныя калектывы: „Цаглінкі“ са Старога Ляўкова і „Сямяне“ з Семяноўкі.









Гэтая жменька людзей рэдагуе „Ніву“. Юбілейны здымак, сакавік 1986 г.
Фота Я. Мальца.

16.II.86. У Доме культуры „Захэнта“ ў Беластоку адбыўся раённы агляд „Беларуская песня - 86“. У ім прыняло ўдзел: 7 салістаў, 5 дуэтаў, 1 квартэт і 5 калектываў: з Беластока, Гарадка, Рыбалаў, Агароднічкаў і Паўлаў. Агляд карыстаўся вялікім зацікаўленнем публікі і пакінуў добрыя ўражанні.

16.II.86. У Гайнаўскім доме культуры „Гурнік“ адбыўся раённы агляд „Беларуская песня-86“. Прыехала амаль сто спевакоў з розных мясцовасцей раёна. Агляд быў на высокім мастацкім узроўні, быў добра падрыхтаваны і праведзены.

22.II.86. У маладзёжным доме культуры ў Беластоку адбыўся чарговы дэкламатарскі конкурс для школьнікаў. Сёлета праходзіў ён пад лозунгам „Усё, што сэрцу майму блізкае“ і прысвечаны быў 30-годдзю БГКТ і „Нівы“. У конкурсе ўдзельнічала 26 вучняў з 13 школ Беласточчыны. Дэкламаваліся творы „белавежцаў“ і іншых паэтаў і пісьменнікаў. Тры першыя месцы заваявалі: Юрка Кулік з Пашкоўшчыны, Яся Екатэрынчук і Эля Томчук з Бельскай школы № 3.

23.II.86. Адбыўся цэнтральны агляд школьных тэатральных калектываў у Беластоку. Прыняло ўдзел шэсць калектываў: з Бельска, Дубяжына, Пашкоўшчыны, Райска, Махнатага і Зуброў.

23.II.86. У Бельскім доме культуры прайшоў раённы агляд конкурсу „Беларуская песня — 86“. Выступіла ў ім 60 спевакоў. Агляд быў добра падрыхтаваны і стаў сапраўдным беларускім святам у бельскім асяроддзі.

25.II.86. Прэзідыум ГП БГКТ на сваім пасяджэнні ацаніў вы-

кананне бюджэту за 1985 год, заслухаў інфармацыю аб падрыхтоўцы да фінальнага агляду конкурсу „Беларуская песня — 86", да папулярна-навуковай сесіі і ўрачыстага пленума ГП у гонар 30-годдзя таварыства і „Нівы".

1.III.86. Настаўнікі Падставовай школы ў Барысаўцы супольна з бацькаўскім камітэтам арганізавалі дзецям сваёй школы кулік у Белавежскую пушчу.

1.III.86. У канферэнцыйнай зале Дома прафсаюзаў у Беластоку адбылася ўрачыстая папулярна-навуковая сесія, прысвечаная 30-годдзю БГКТ і „Нівы". З уступным словам выступіў старшыня ГП БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі, вёў сесію намеснік старшыні д-р Ян Зенюк. Выступіла сем дакладчыкаў: Аляксандр Баршчэўскі, Юрка Туронак, Міхась Шаховіч, Міхась Хмялеўскі, Уладзімір Юзвюк, Ніна Амельянюк і Аляксей Карпюк.

Побач, у суседняй зале кінатэатра „Форум", адбываўся цэнтральны агляд конкурсу „Беларуская песня — 86". Прыняло ўдзел звыш 200 спевакоў з розных мясцовасцей Беласточчыны і з далёкага Гданьска. На сцэне выступіла 14 салістаў, 17 малых і 18 вялікіх калектываў. Конкурс прайшоў паспяхова і на высокім мастацкім узроўні.



**Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі ўручае спевакам кветкі з падзякай за цудоўны канцэрт у гонар XXX-годдзя БГКТ і „Нівы".**
**Фота С. Грыняўіцкага.**







Журы кваліфікавала выканаўцаў паводле трох катэгорый твораў: фальклорныя неапрацаваныя, фальклорныя апрацаваныя і сучасныя песні беларускіх кампазітараў.

У катэгорыі неапрацаванага фальклору журы прызнала сярод салістаў: першае месца — Міхасю Артышэвічу з Кляшчэляў, другое — Валянціне Мароз з Бельска, трэцяе — Надзеі Грыцук з Навасёлкаў; сярод малых калектываў журы месц не прызнала, адзначыла толькі дуэт Лідзія Янчук і Галіна Карбоўская з Беластока; сярод вялікіх калектываў першае месца — мужчынскаму хору з Рыбалаў, другое — жаночаму хору з Чаромхі.

У апрацаваных фальклорных песнях сярод салістаў першае месца заваявала Люба Гаўрылюк з Беластока, другое — Анна Аліфер са Старога Ляўкова, трэцяе — Ірына Макац з Беластока і сярод малых калектываў першае месца атрымаў мужчынскі квартэт „Звон" з Беластока, другое — жаночы калектыў з Дашоў; адзначаны дуэт Ірына і Анна Макац і калектыў з Гданьска; сярод вялікіх калектываў першае месца — мужчынскі хор з Гайнаўкі, два другія месцы — змешаны і жаночы хор з Гайнаўкі, трэцяе — хор з Нараўкі, журы адзначыла хор са Стагора Ляўкова.

У катэгорыі сучасных песень беларускіх кампазітараў сярод салістаў: першае месца — Аля Дубец з Беластока, другое — Юры Налівайка з Гарадка, два трэція месцы Уршуля Іванюк і Аляксандр Петручук з Гайнаўкі; сярод малых калектываў: першае месца — трыо з Бельскага дома культуры, другое — дуэт Люба Гаўрылюк і Аля Дубец з Беластока, трэцяе — старэйшы вакальна-музычны калектыў з Дубін, адзначаны малодшы музычны калектыў з тых жа Дубін; сярод вялікіх калектываў першае месца — бельскія „Васілёчкі", два другія месцы — калектывы з Беластока і Гарадка, трэцяе — жаночы хор з Орлі, адзначаны „Дзявочыя ноткі" з Бельскага беларускага ліцэя.

2.III.86. У будынку прафсаюзаў у Беластоку адбыўся ўрачысты пленум ГП БГКТ з нагоды юбілею 30-годдзя таварыства і „Нівы". Прыехалі БГКТоўцы з Бельскага, Беластоцкага, Гайнаўскага, Сямяціцкага, Дуброўскага і Сакольскага аддзелаў, а таксама з Варшавы і Гданьска. У пленуме прынялі ўдзел прадстаўнікі ўлад: старшы інспектар грамадска-юрыдычнага аддзела ЦК ПАРП Войцех Клімэк, намеснік старшыні ВРН у Беластоку Юзэф Эльясевіч, віцэ-ваявода Ежы Слезак, сакратары: ВК ЗСЛ Яўгеніюш Гасеўскі і ВК СД Антоні Святліцкі, кіраўнік ідэалагічнага аддзела і інфармацыі Ваяводскага камітэта ПАРП Анатоль Вакулюк, сакратар ваяводскага калектыву паслоў у Сейм Гертруда Орляч, намеснік старшыні Ваяводскай рады ПРОН Веслаў Дамброўскі. Пленум адкрыў і з прамовай выступіў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі.

Затым адбылося ўрачыстае адзначэнне заслужаных актывістаў БГКТ і працаўнікоў „Нівы“. З дакладам выступіў сакратар ГП Віталі Луба. Пасля даклада голас узяў старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі Уладзімір Юзвюк. Віншавальны ліст ад Беластоцкага прэсавага выдавецтва зачытаў намеснік дырэктара Уладзіслаў Залескі, ад імя ГП Літоўскага таварыства ліст зачытала галоўны рэдактар „Аўшры“ Вальдэмара Маліноўская. Ад імя ўлад найлепшыя пажаданні ГП БГКТ і „Ніве“ перадаў прадстаўнік Ваяводскага камітэта ПАРП Анатоль Вакулюк. Пасля пленума ў зале кінатэатра „Форум“ адбыўся ўрачысты, 2-гадзінны канцэрт лаўрэатаў конкурсу „Беларуская песня—86“.

8.III.86. Члены хору „Васілёчкі“ ў Бельску і хору БГКТ у Гайнаўцы арганізавалі вечарыны з нагоды Дня жанчын.

8.III.86. У Агародніках каля Сямяціч адбылася вечарына ў гонар Дня жанчын. З беларускімі народнымі песнямі выступіў мясцовы аматарскі калектыў.

9.III.86. У вясковым доме культуры ў Рыбалах прайшла вельмі цікавая і багатая вечарына, арганізаваная БГКТоўцамі. Выступілі з канцэртам калектывы з Райска, Дашоў і мясцовы мужчынскі калектыў.

7-9.III.86. Адбыўся чарговы турыстычны рэйд „Бацькаўшчына“, які арганізавалі беларускія студэнты. У ім прыняло ўдзел каля 40 асоб. Траса рэйду: Супрасль — Беласток.

15.III.86. Гарадскі аддзел БГКТ у Гайнаўцы арганізаваў для сваіх членаў „запусты“. Да танца іграў музычны калектыў з Дубін. Даход з імпрэзы арганізатары перадалі ў фонд пабудовы Беларускага музея.

15.III.86. Галоўнае праўленне БГКТ арганізавала ў клубе „Будаўнікоў“ у Беластоку „запусты“ для членаў таварыства ў Беластоку. У мастацкай частцы выступіў хор беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ. Да танцаў іграў калектыў з Завыкаў, які ў сваім рэпертуары мае шмат беларускіх народных і сучасных песень.

15.III.86. У Падставовай школе № 3 у Бельску Падляшскім адбылася сустрэча членаў літаратурнага аб'яднання „Белавежа“ з настаўнікамі беларускай мовы. З мастацкай часткай выступіў тэатр паэзіі „Парнас“, якім кіруе загадчык культурна-асветнага аддзела ГП БГКТ Ян Мордань. Вечарам 15 сакавіка члены літаб'яднання „Белавежа“ правялі аўтарскія сустрэчы на Гайнаўшчыне. Паэтэса Надзея Артымовіч і Васіль Петручук сустрэліся з жыхарамі вёскі Махнатае, Віктар Швед і Аляксандр Батура пабывалі ў Моры, а Сакрат Яновіч правёў аўтарскую сустрэчу ў Ягадніках. Белавежцы: Ян Чыквін і Яніна Шостак сустрэліся з жыхарамі Старога Корніна. Міра Лукша і Ян Мордань правялі сустрэчу ў вясковым клубе ў Збучы.







20.III.86. Падпісана пагадненне аб патранаце Філіяла Варшаўскага універсітэта над Агульнаадукацыйным ліцэем з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім.

28.III.86. Адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, на якім быў ацэнены ход конкурсу „Беларуская песня — 86“. Абмяркоўвалася таксама справа правядзення ў чэрвені г.г. у Беластоку Свята беларускай культуры.

5.IV.86. У вясковым клубе ў Дубінах адбыўся раённы агляд конкурсу „Беларуская песня-86“ для школьнікаў. Прыняло ў ім удзел 14 салістаў, 8 дуэтаў і 9 вакальных калектываў з Гайнаўскага раёна.

10.IV.86. У Гайнаўскім аддзеле БГКТ у Беластоку адбылася сустрэча з Мікалаем Іванавым, навуковым працаўніком Акадэміі навук БССР. Абмяркоўваліся справы, звязаныя з фармаваннем нацыянальнай свядомасці беларусаў.

12.IV.86. У выставачных залах Музея ў Тыкоціне адбылася пасляконкурсная выстаўка п.з. „Гафт і карунка“, якую арганізаваў Акруговы музей у Беластоку. У ліку ўзнагароджаных прац былі паказаны працы дзяўчак БГКТ: Ніны Мушынскай, Ірыны Паўлючук і Надзеі Дудзік з Гарадка.

17.IV.86 Секцыя культуры ГП БГКТ прыняла праграму Свята беларускай культуры на чэрвень г.г. у Беластоку.

20.IV. 86. Адбылося ўрачыстае пленарнае пасяджэнне Бельскага аддзела БГКТ, прысвечанае 30-годдзю БГКТ і „Нівы“. Значная група бэгэкатоўскага актыву была ўзнагароджана Ганаровай граматай БГКТ. З дакладам „30 год БГКТ і „Нівы“ выступіў член Прэзідыума ГП БГКТ Сяргей Лукашук. Затым старшыня аддзела Васіль Ляшчынскі прадставіў план святкавання юбілею БГКТ і „Нівы“ на Бельшчыне. У дыскусіі закрануты былі праблемы найбольш хвалюючыя беларускае асяроддзе. Намеснік галоўнага рэдактара „Нівы“ М. Гайдук пазнаёміў з планамі нашага тыднёвіка. У заканчэнні пасяджэння сакратар ГП Віталі Луба адказваў на пытанні. З мастацкай часткай выступіў тэатр паэзіі „Парнас“ з Бельска, якім кіруе Янка Мордань. Выступіў ён з пастаноўкай „Роднае“ па творах літаратараў „Белавежы“ і сатырычнымі сцэнкамі.

20.IV.86. Адбылася раённая канферэнцыя БГКТ у Міхалове. З дакладам пра 30-гадовую дзейнасць БГКТ і „Нівы“, а таксама аб заданнях нашай арганізацыі на бліжэйшыя гады выступіў намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня. На канферэнцыі быў створаны Міхалоўскі аддзел БГКТ. Яго ўзначаліў Уладзімір Васько. Канферэнцыя прыняла праграму дзейнасці аддзела на бягучы год.

24.IV.86. У гонар 30-годдзя БГКТ і „Нівы“ адбыўся юбілейны пленум праўлення Гайнаўскага гарадскога аддзела БГКТ.

26.IV.86. У Бельскім доме культуры адбыўся раённы агляд „Беларуская песня — 86“ для школьнікаў (бельскага раёна). У аглядзе ўдзел прыняло 7 салістаў, 5 дуэтаў, 1 трыо, 3 квартэты і 3 вакальныя калектывы. Выступіла ўсяго 62 асобы з 8 пачатковых школ Бельшчыны.

27.IV.86. У Паўднёвым Востраве адбыўся сход гуртка БГКТ, прысвечаны 30-годдзю БГКТ і „Нівы“. Члены гуртка перадалі 1750 зл. на пабудову беларускага музея ў Гайнаўцы.

28.IV.86. Секцыя асветы ГП БГКТ на пасяджэнні ў Бельску займалася станам навучання беларускай мовы ў пачатковых школах Беласточчыны.

7.V.86. Група дзеячоў БГКТ з Беласточчыны пабывала на экскурсіі ў Варшаве. Удзельнікі экскурсіі наведалі ў Доме польска-савецкай дружбы выстаўку „Эканоміка-навука-тэхніка БССР“ і ў Доме савецкай навукі і культуры выстаўку жывапісу Міхася Савіцкага.

8.V.86. Удзельнікі студэнцкага рэйда „Развітанне“ сустрэліся ў Нараўцы з беларускім аматарскім калектывам. Студэнты пазнаёміліся з песнямі ў выкананні жаночага хору. Аб заданнях студэнцкага рэйда расказаў студэнт Валянцін Сельвясюк.

8.V.86. У Варшаўскім аддзеле БГКТ адбылася сустрэча з прадстаўнікамі Пасольства СССР у Польшчы на чале з І сакратаром пасольства А. Харчэнкам. Старшыня аддзела д-р Мікалай Аляксеюк пазнаёміў гасцей з гісторыяй і цяперашняй дзейнасцю БГКТ, яго праблемамі і патрэбамі. У дыскусіі абмяркоўваліся справы культурна-асветнага абмену паміж адпаведнымі ўстановамі ў БССР з БГКТ.

8.V.86. З нагоды Дня Перамогі адбылася ўрачыстая вечарына ў вясковым клубе ў Паўлах. Мастацкую частку падрыхтавалі мясцовыя самадзейнікі, якія паставілі п'есу „Немцы“ Леана Кручкоўскага ў перакладзе на беларускую мову Валянціны Мароз. Паўлаўцы выступілі таксама з песнямі, дэкламацыямі вершаў і жартамі на беларускай мове.

10.V.86. Адбылася сустрэча ўдзельнікаў студэнцкага рэйда „Развітанне“ з мясцовай моладдзю ў клубе ў Семяноўцы. З канцэртам выступілі „Сямяне“ з Семяноўкі і „Дубіны“ з Дубін.

10.V.86. У стражацкай рамізе ў Бандарах адбылося спатканне жыхароў Рыбакоў і Бандароў з ветэранамі ІІ сусветнай вайны М. Боўтрыкам, І. Бароўскім і І. Рыгаровічам, якія расказалі аб сваім цяжкім і небяспечным ваенным шляху. Вучні разам з настаўнікамі школы ў Рыбаках падрыхтавалі слоўна-музычны мантаж „Дзень Перамогі“.

10.V.86. З нагоды 30-годдзя БГКТ і „Нівы“ ў Паўночным Востраве, гм. Шудзялава, адбыўся ўрачысты сход гуртка.

11.V.86. У Мілейчыцах, традыцыйна з нагоды Дня Перамогі



© PDF: Kamunikat.org 2011



адбыўся вялікі фэст. З канцэртам выступілі калектывы з Дашоў і Рыбалаў.

16.V.86. У Дамброўках адбыўся сход гуртка БГКТ, на якім абмяркоўваліся пытанні актывізацыі таварыства ў вясковым асяроддзі.

17.V.86. У рамках V Сямяціцкіх дзён адбыўся паказ культуры беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы, т.зв. беларускі дзень. У Сямяціцкім асяродку культуры адбылося ўрачыстае пасяджэнне аддзела БГКТ, у якім прынялі ўдзел намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня і сакратар ГП Віталі Луба. Старшыня праўлення аддзела Мікалай Касцюк выступіў з дакладам аб беларускай дзейнасці ў Сямяціцкім раёне. Шматлікай групе тутэйшых актывістаў былі ўручаны Ганаровыя граматы з нагоды 30-годдзя БГКТ. Пасля выступіў тэатр паэзіі „Парнас“ з Бельска Падляшскага пад кіраўніцтвам Янкі Мордаля. Пасля абеду ў Сямяціцкім амфітэатры выступілі з канцэртам бельскія „Васілёчкі“ і трохасабовы эстрадны калектыў з Бельскага дома культуры. Абодва калектывы вечарам выступілі з канцэртам у Чорнай Сярэдняй.

18.V.86. У Чыжах адбылося раённае Людовае Свята. Жанчыны з гуртка БГКТ у Курашаве падрыхтавалі на выстаўку каравай, а з канцэртам выступіў калектыў „Тыневічанкі“ з Тыневіч Вялікіх.

18.V.86. У Бельскім Доме культуры адбыўся цэнтральны агляд конкурсу „Беларуская песня-86“ для школьнікаў. У аглядзе ўдзельнічала 21 саліст, 12 дуэтаў, 6 трыо і квартэтаў, а таксама 11 вакальных калектываў. Усяго разам 144 удзельнікі з 30 школ нашага ваяводства. Конкурс быў вельмі багаты, масавы і добра падрыхтаваны.

20.V.86. У Агародніčках, гм. Супрасль, адбыўся сход гуртка БГКТ, прысвечаны арганізацыі харавога жаночага калектыву.

21.V.86. Адбыўся пленум праўлення аддзела БГКТ у Чыжах з нагоды 30-годдзя таварыства і „Нівы“.

22.V.86. БГКТ арганізавала кніжную латарэю ў Градзіску каля Сямяціч. Было прададзена каля 150 кніг.

25.V.86. Адбыўся сход гуртка БГКТ у Вяржлессі, гм. Шудзялава, на якім абмяркоўваліся справы арганізацыі беларускага фэсту на ліпень г.г.

25.V.86. У Бельскім Доме культуры адбыўся агляд беларускіх тэатральных калектываў. Бельскі тэатр паэзіі „Парнас“ выступіў з мантажам „Роднае“ па творах пісьменнікаў аб'яднання „Белавежа“, драматычны гурток з вёскі Піліпкі, гм. Бельск, паставіў п'есу „Пярэстая красуля“, а самадзейнікі з Тыневіч Вялікіх, гм. Нарва, паказалі арыгінальную фальклорную пастаноўку „Адведкі“. „Парнас“ выступіў таксама з гумарыстычным абразком „Аўтарская сустрэча“.

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

25.V.86. У Гарадку адбылася раённая канферэнцыя БГКТ. З дакладам аб асноўных напрамках дзейнасці і дасягненнях БГКТ і „Нівы" ў мінулым 30-годдзі, а таксама аб ходзе рэалізацыі пастаноў X з'езда нашага таварыства расказаў намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня. У дыскусіі асаблівая ўвага звернута была на ўвядзенне навучання роднай мовы ў школе ў Гарадку і іншых школах і пашырэнне культурна-асветнай працы ў гэтым раёне. Затым канферэнцыя выбрала 18-асабовае праўленне Гарадоцкага раённага аддзела БГКТ, якое ўзначаліла Тамара Бурачэўская, дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Гарадку.

31.V.86. З нагоды юбілею БГКТ і „Нівы" адбыўся сход гуртка БГКТ у Гданьску. З дакладам выступіў сакратар ГП БГКТ Віталі Луба. Гданьскі хор выступіў з канцэртам беларускіх песень.

1.VI.86. У Беластоцкім амфітэатры з нагоды Міжнароднага дня дзіцяці адбыўся вялікі фэстын. У мастацкай частцы выступілі лаўрэаты дзіцячага агляду „Беларуская песня-86".

6.VI.86. Адбылося пасяджэнне Праўлення аддзела БГКТ у Дуброве Беластоцкай, на якім абмяркоўвалася арганізацыя беларускага фэстыну ў Хільмонах.

7.VI.86. „БГКТ прапануе" — гэтак называўся беларускі дзень у святкаванні Дзён Бельска Падляшскага. У гэтым дні адбыліся аўтарскія сустрэчы Віктара Шведа і Яна Чыквіна са школьнікамі, была наладжана выстаўка малюнкаў вучняў пачатковых школ, адбыўся канцэрт беларускага хору з Гайнаўкі і выступленне калектыву „Парнас" з Бельска.

7.VI.86. Гайнаўскі беларускі хор выступіў у Орлі з багатым і цікавым канцэртам.

8.VI.86. Адбылося пленарнае пасяджэнне Грамадскага камітэта пабудовы музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы.

12.VI.86. У гонар 30-годдзя БГКТ і „Нівы" адбыўся ўрачысты сход гуртка ў Кнышэвічах. Былі прыняты ў БГКТ новыя члены.

14.VI.86. На запрашэнне арганізатараў перад удзельнікамі „Рэйду хімікаў" выступіў хор гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку.

14-15.VI.86. У Беластоку адбылося Свята беларускай культуры. Пачалося яно ў суботу 14.VI. выступленнем самадзейных тэатральных калектываў у зале „Форум". Выступілі чатыры калектывы: „Парнас" з Бельска Падляшскага, тэатральны калектыў з Паўлаў, Піліпкаў і Тыневіч Вялікіх. У „Форуме" была таксама наладжана фотавыстаўка „Родная старонка", была магчымасць купіць выданні БГКТ. У нядзелю 15.VI. пасля абеда ў Беластоцкім амфітэатры адбыўся вялікі канцэрт. На сцэне выступілі беларускія калектывы і салісты з Беластока, Гарадка, Орлі, Нараўкі, Гайнаўкі і Бельска. Прыбыло каля пяці тысяч гледачоў.










**Самадзейны харавы калектыў з хутароў Хільмоны гм. Новы Двор на фэсце ў гонар XXX гадавіны БГКТ і „Нівы" ў в. Хільмоны.**

**Фота М. Хмялеўскага.**

22.VI.86. У Літвінавічах адбыўся народны фэстын, арганізатарам якога былі гурткі БГКТ і ЗСЛ у гэтай мясцовасці. У фэстыне прынялі ўдзел прадстаўнікі гмінных партыйных і адміністрацыйных улад. Адкрыў урачыстасць прэзас гміннага праўлення ЗСЛ у Нурцы Сяргей Путка, які падкрэсліў, што фэстын прысвечаны 30 гадавіне БГКТ і святкаванню Дня селяніна. Затым намеснік старшыні ГП Янка Зенюк з нагоды юбілею БГКТ уручыў Ганаровыя граматы заслужаным дзеячам нашага таварыства. З дакладам выступіў сакратар ГП БГКТ Віталі Луба.

27.VI.86. У Філіяле Беластоцкага акруговага музея ў Бельску Падляшскім адкрыта была часовая выстаўка з нагоды 60-годдзя Беларускай сялянска-рабочай Грамады.

28.VI.86. Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў Купальскую ноч на беразе ракі Нараў каля Войшкаў. Адбылася вельмі цікавая і прыемная імпрэза. На Купалле з'ехаліся харавыя калектывы з Гайнаўкі, Бельска, Гарадка, Беластока і Рыбалаў.

**Яўгенія Палоцкая**

**д-р У. Юзвюк**

## МІНУЛАЕ І БУДУЧАЕ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ

**(Даклад на навукова-папулярнай сесіі ў гонар XXX-годдзя БГКТ і „Нівы“)**

Даручэнне Прэзідыумам Галоўнага праўлення БГКТ мне тэмы, звязанай з арганізаваннем музея беларускай матэрыяльнай і духовай культуры лічу гонарам, але і адказнасцю. Гонарам таму, што ізноў паявілася перспектыва яго ўтварэння. А я належу да ліку арганізатараў. І таму, што ёсць яшчэ каштоўныя экспанаты і зычлівыя людзі, якія перададуць іх таварыству і што ёсць сярод актыву ахвярныя кадры, здольныя выканаць кожную працу для дабра музея, незалежна ад дагэтуляшніх няўдач. Адказнасцю жа ізноў таму, што статутовы абавязак БГКТ ахоўвання каштоўных помнікаў даўніны не рэалізуецца адпаведна да яго рангу з увагі на недахоп музейнага памяшкання.

Ідэя арганізавання беларускага этнаграфічнага музея ўзнікла разам з пакліканнем БГКТ. Аб патрэбе пабудовы музея гаворыцца ўжо ў папастанове І з'езда з 1956 года. У тым жа годзе таварыства арганізавала дзве выстаўкі народнага мастацтва ў Бельску Падляшскім і Гарадку. Два гады пасля Этнаграфічны музей у Кракаве арганізаваў Выстаўку народнага мастацтва нацыянальных меншасцей у Польшчы, якая выклікала надзвычай прыхільныя водгукі ў цэнтральнай прэсе. У наступным 1959 годзе ў супрацоўніцтве з БГКТ падрыхтаваў выстаўку народнага мастацтва Акруговы музей у Беластоку, пасля заканчэння якой з 300 экспанатаў сорак набылі музеі Варшавы і Кракава. Усходняя Беласточчына пачала выклікаць зацікаўленне не толькі актыву таварыства, але і этнографаў. Гэта несумненна заслуга БГКТ. Дзеячы старэйшага пакалення — настаўнікі і грамадскія дзеячы Васіль Дзун, Ілья Бернат, Яраслаў Кастыцэвіч, Піліп Кізевіч, Васіль Літвінчык, Мікалай Лебядзінскі, Якуб Базылюк і іншыя на пасяджэннях гурткоў, аддзелаў і Галоўнага праўлення нястомна падкрэслівалі выключную насычанасць тэрыторыі вартаснымі экспанатамі, якія неабходна пачаць ахоўваць ад знішчэння з увагі на негатыўнае ўздзеянне прагрэсіўных гаспадарчых і культурных пераўтварэнняў у гады народнай улады. Саматужныя вырабы прыладаў працы, вопраткі, традыцыйнае будаўніцтва пачало хутка выцясняцца сучаснасцю. На шчасце, гэтая даўніна не знішчалася насельніцтвам, а захоўвалася „на ўсяляк выпадак“. Захаваннем некаторых вырабаў заняліся члены БГКТ, а шырэй яно сталася магчымым пасля атрымання цяперашняга будынка ГП БГКТ, яго адаптаванні на патрэбы грамадска-культурнай дзейнасці і пакліканння Беластоцкага гарадскога аддзела Таварыства, які ў сваёй святліцы пачаў наладжваць выстаўкі і захоўваць частку найбольш каштоўных экспанатаў. Збіраннем іх стыхійна займаліся таксама многія іншыя жыхары Беласточчыны. На Гайнаўшчыне і Сакольшчыне этнаграфічную разведку правёў член БГКТ з Торуня, этнограф Мар'ян Пецюкевіч.

Дзякуючы добрым пачаткам III з'езд Таварыства ў 1960 г. вынес пастанову аб неабходнасці стварэння пры Беластоцкім акруговым музеі беларускага аддзела, а ў будучыні пераўтварэння яго ў самастойны музей. Зрэалізаваць пастанову не ўдалося з увагі на ўжо існуючую ў музеі этнаграфічную выстаўку і пануючую ў ім цеснату. Але 26.II.1962 г. быў пакліканы грамадскі камітэт пабудовы дома культуры імя К. Каліноўскага ў Гарадку, яго ўзначаліў намеснік старшыні ВРН Станіслаў Юхніцкі. Ініцыятыву падтрымалі Ваяводскі камітэт ПАРП з Аркадзем Лашэвічам (ліст з 16.VIII.1962 г.) і прысутныя на сходзе паслы Беласточчыны Ян Рызнар і Галена Пярэська. Хутка быў падрыхтаваны план пабудовы на 1100 кв. м. выставачнай плошчы і пачаўся збор грашовых сродкаў. Быў ён вельмі скромны: на працягу некалькіх год сабралі 160 тысяч злотых. У такіх абставінах пачаліся пошукі старых будынкаў у Беластоку, а затым у Гайнаўцы да адаптавання, але прапанаванае драўлянае



**Фрагмент будынка былой „паркецярні“ пад будучы Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Стан з ліпеня 1984 г. Фота М. Гайдука.**

 

старое будаўніцтва не адпавядала патрэбам. Бязвыхаднае становішча хвалявала дзеячоў Таварыства. Пастанова чарговага IV з'езда БГКТ у 1963 г. проста забавязала членаў да збірання і захоўвання экспанатаў. Да канца года сабралі ўсяго каля 30 штук.

Частка актыву пачала звязваць надзею падрыхтоўкі экспазіцыі ў новапабудаваным Доме культуры ў Гарадку. Маючы гэта на ўвазе Грамадскі камітэт пабудовы музея пераказаў у 1964 г. сродкі на заканчэнне гарадоцкай пабудовы, а аб'екту запрапанаваў даць імя К. Каліноўскага. Фінансавая дапамога была там вельмі патрэбная. Але з сённяшняга пункту гледжання гэтае рашэнне здаецца не самае ўдачнае. Той жа 1964 год прынёс значныя змены на лепшае. Кіраўнік культурна-асветнага аддзела ГП Мікола Лобач закончыў паслядыпломны студыюм этнаграфіі і заняўся зборам экспанатаў. Не чужая гэта праблематыка была і мне. Часцей стаў наведваць нас успамянуты этнограф Мар'ян Пецюкевіч і члены навуковага гуртка пры БГКТ. Таварыства атрымала ўласны мікробус „Ныса", які вельмі дапамог у перавозе экспанатаў. У выніку ўсяго на працягу 1964 года сабралі яшчэ 300 экспанатаў. Тканіны захоўваліся ў ГП, а вырабы з дрэва, жалеза, саломы — у малым пакойчыку ГС у Нараўцы. Захаванне і павелічэнне колькасці экспанатаў працягвалася звыш года.

Нечаканы клопаты з памяшканнем вырашыла добрае супрацоўніцтва з гайнаўскім ПЗГСам. У гэты час ГС у Белавежы асвабодзіла драўляны прыватны будынак Вашкевічаў, які пры дапамозе прэзаса ПЗГСу Кастуся Майсені, праўлення ГСу і падтрымцы старшыні грамадскай рады нарадовай у Белавежы Мікалая Седуня, а таксама павятовых уладаў, быў прызначаны на арганізаванне супольнага музея. Белавежа патрабавала такога аб'екта з увагі на ўзрастаючы турыстычны рух. ГС абавязаўся нават да ўтрымлівання будынка, а БГКТ — да падрыхтоўкі выстаўкі. Сіламі штатных працаўнікоў ГП хутка быў праведзены рамонт, звезены экспанаты, а Мар'ян Пецюкевіч склаў сцэнарый экспазіцыі і грамадска падрыхтавалі яе настаўнікі Віктар Кабац і Анатоль Корзун.

12 сакавіка 1966 года музей урачыста быў адкрыты для наведвальнікаў. На плошчы звыш 100 кв. м. было размешчана 550 экспанатаў, сярод іх былі саха, драўляныя плугі, сошкі, некалькі тыпаў баран, драўляны воз, ярмо, жорны, ступа, кадаўбцы, капанькі, лыжкі, каляснічая майстэрня, такарня, ляда, ганчарныя вырабы, церніца, шчоткі, калаўротак, вырабы з саломы, кросны, шматлікія вырабы ткацтва і вышыўкі. Рэшта экспанатаў з увагі на недахоп плошчы захоўвалася ў складзе.

Спачатку абслугоўваннем турыстаў займаліся грамадска працаўнікі ГС, а праз год абавязкі захавальніка музея прыняў археолаг Уладзімір Гацута, які заняўся абагачаннем музея новымі экспанатамі, іх апісаннем (была падрыхтавана картатэка, але яна не захавалася), а нават навукова-асветнай дзейнасцю. Паводле справаздач У. Гацуты ў 1966 годзе музей наведала 6 тысяч турыстаў, у 1968 — 8 тысяч, у 1970 — 14. 627, у тым 900 замежных і ў 1971 — 11.630 чалавек. Ацэньваючы становўча працу музея, Грамадскі камітэт вырашыў нават змяніць яго размяшчэнне. Хто шырэй цікавіцца працай гэтага надта скромнага аб'екта кірую да апрацовак, змешчаных у Беларускіх календарах: У. Юзвюка „Этнаграфічны музей у Белавежы" — 1967 г. і У. Гацуты „Рэгіянальны грамадскі музей у Белавежы" — 1969 г., „Прылады да земляробства і нарыхтоўкі ежы..." „У Беларускім грамадскім этнаграфічным музеі ў Белавежы" — 1970 г., а таксама артыкулаў „Беларускі этнаграфічны Музей" у Беларускай Савецкай Энцыклапе-







**На аглядзе аб'ектаў пад будучы Музей помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы, ліпень 1984 г. Справа налева: захавальнік Беластоцкага акруговага музея Г. Якубоўская, намеснік старшыні ГП БГКТ К. Майсеня, дырэктар Беластоцкага акруговага музея Я. Гасціловіч, дырэктар Гайнаўскага беларускага ліцэя А. Іванюк.**

**Фота М. Гайдука.**



© PDF: Kamunikat.org 2011

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

дыі 1970 г. 2 і ў інфарматары „Музеі Белавежы“.

Мне хочацца, аднак, прывесці некалькі анекдатычных успамінаў перыяду збірання экспанатаў у 1964-1965 гадах. Збіранне — гэта не толькі выезды ў адлеглыя вёскі і прыйманне гатовых вырабаў ад мясцовых сялян — такія факты таксама здараліся. Але гэта ў першую чаргу шуканне найбольш кансерватыўных жыхароў вёскі, якіх аднавяскоўцы падазраюць у захоўванні прадметаў даўніны. Пасля наступала кароткая, але шчырая з імі размова аж да атрымання дазволу на агляд падстрэшша, гары, свіронкаў, кладовак, а нават сундукоў. Найчасцей гэтым незнаёмым збіральнікам гаспадары пільна прыглядаліся, каб не ўкралі яны якіх-небудзь каштоўнасцей. Вынесены на панадворак стары кадаўбец ці драўляная лыжка выклікалі спачатку здзіўленне і аднолькавы ўсюды адказ: „Ну, гэта можаце забраць“. Хутка складалі вопіс, падзяку, а на заканчэнне выказвалі ўпэўненасць, што прозвішчы іх уласнікаў будуць вялікімі літарамі віднець доўгія стагоддзі пры экспанаце ў Беларускім этнаграфічным музеі ў Белавежы. Аднак гэтак не сталася, з нашай віны, перапрашаем.

Найкарысней, калі сярод збіральнікаў быў нехта знаёмы, ды яшчэ з аўтарытэтам сярод сялян. Без клопатаў збіралася экспанаты з Міхалаем Самоцікам, Кастусём Майсенем, Кастусём Хлябічам, Мікалаем Міруцём, Міхасём Хмялеўскім і іншымі членамі або сімпатыкамі Таварыства.

Трапілі мы да Чэхаў Арлянскіх і даведаліся, што Лявон Андрасюк мае самаробную саху з 1922 года і ярмо. Селянін не пярэчыў, але заўважыў, што саха ляжыць між лягарамі на хляве і падтрымлівае салому. „Можаце яе забраць, я ёю араць не буду, але нечым трэба яе замяніць“. Прыйшлося папрацаваць. Саха захавалася вельмі добра.

Ізноў у Глейску каля Гарадка нехта бачыў драўляны аграмадны манеж. З уласнікам неяк мы дагаварыліся аб перадачы яго музею, хутка яго нават разабралі і з цяжкасцямі пагрузілі ў „Нысу“, але злажыць у Белавежы доўга не змаглі таму, што не разгадалі канструкцыйнай загадкі нашых продкаў. Манеж не хацеў нават стаяць, а тым больш прыводзіць у рух малатарню ці сячкарню.

Іншыя прыклады. Ганчары славутых цэнтраў у Кляшчэлях і Луцэ першажывалі ў гэты перыяд канъюнктурны крызіс, а мы не змаглі скампляктаваць іх вырабаў. Таму дамовіліся з Гладскім з Кляшчэляў на выкананне для музея ўсіх вядомых яму формаў посуду і ў такі спосаб атрымалі каля 30 экспанатаў.

Пакінуць па сабе след згадзіўся таксама Міхась Максімчук з Трасцянкі, які доўгія дзесяцігоддзі выконваў на свае патрэбы пляцёнкі з саломы. Пайшоў за прыкладам ганчара, і мы атрымалі каля 10 вырабаў найвышэйшай якасці.

Бязмежная была ахвярнасць сялян, ці будзе яна зараз — невядома. Хіба не знойдзем ужо драўлянага манежа, красёнак да вырабу сітаў, такарні, утулак да воза, самаробнага гадзінніка і гэтак далей.

Здавалася, што маленькі музей разрасцецца з часам у сапраўдную навукова-асветную ўстанову. Але ў сямідзесятых гадах сталася інакш. БГКТ не атрымала сродкаў на ўтрыманне музея, а гаспадар будынка патрабаваў асвабадзіць памяшканне.

З захаванай дакументацыі вынікае, што Прэзідыум ГП ужо 22 красавіка 1970 года заслухала шасцістаронкавую інфармацыю на польскай мове сакратара Янкі Зенюка аб катастрафічным стане музейнага будынку і экспанатаў, у заканчэнні якой гаварылася аб неабходнасці задумацца над тым, каб перадаць фінансавую дзейнасць музея рэсарту Міністэрства культуры і мастацтва, а затым „...пад яго адміністрацыю“. Прэзідыум прыняло прапанову. Хутка накіравалі



**Галоўны будынак на будучы Музей.**

ў Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай просьбу аб пераняцці музея на дзяржаўны бюджэт пад варункам аднак захавання назвы „Рэгіянальны Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы“, права ўздзеяння на сцэнарый экспазіцыі, атрымлівання згоды на „карыстанне экспанатамі“, захаванне іх назваў на польскай і беларускай мовах, а таксама рэгіянальных назваў, і дагэтуляшняга працаўніка, на змену якога патрабавалася згода Прэзідыума. Змест быў пададзены да ведама Ваяводскаму камітэту ПАРП у Беластоку і Міністэрству ўнутраных спраў. У дзеянні ўладаў не бачу хібаў. ВРН прыхільна аднеслася да просьбы Прэзідыум ГП і пераказала яе Міністэрству культуры і мастацтва, якое 2.II.1971 г. забавязала ваяводскага кансерватара і Акруговы музей у Беластоку да забеспячэння экспанатаў перад знішчэннем і „...выстаўкі іх у адным з музеяў як спецыялістычную калекцыю“.

У тым жа месяцы камісія ВРН наведала закрыты музей (ён 3—4 зімовыя месяцы заўсёды меў перапынак з увагі на недахоп наведвальнікаў і цяжкасці ўтрымання ў ім адпаведнай тэмпературы), правяла з працаўніком У. Гацутай размову, у якой папярэдзіла, што калі ў захоўванні экспанатаў не зменіцца становішча на лепшае, кансерватар перадасць іх музеям у Цеханоўцы і ў Белавежы (апошні раней ужо прасіў іх пазычыць).

Пачаліся безвыніковыя пошукі лепшага памяшкання, асабліва захады атрымаць стары паслямузейны будынак у Белавежскім парку. Урэшце музейны штат быў ліквідаваны і з 30 чэрвеня 1972 г. спыніў працу ў музеі У. Гацута.

Далей існаваў успамянуты Камітэт пабудовы музея, які на сваім пасяджэнні 3.VII. 1972 г. разгледзеў абставіны і вырашыў да канца турыстычнага сезона ўтрымліваць музей для наведвальнікаў з сабраных 381 990 злотых. Але заняпад дзейнасці выкарысталі ўласнікі дома і судова забралі яго. Камітэт ізноў разважыў магчымасць выкарыстання апошніх каля 200 тысяч злотых, сабраных на пабудову помніка К. Каліноўскаму ў Беластоку, але ў выніку разнагалосся перадаў іх на бягучыя патрэбы ГП БГКТ, а сам 1.II.1973 г. спыніў сваю дзейнасць.

У красавіку таго ж года Прэзідыум ГП і Акруговы музей паклікалі супольную камісію перадачы-прыняцця экспанатаў у складзе шасці асоб, якая 31 мая 1973 г. пад націскам тадышняга старшыні Прэзідыума ГП Мікалая Самоціка канчаткова перадала Акруговаму музею 847 панумараваных і 140 непанумараваных — разам 987 экспанатаў. Пратакол не мае ўспамянутых раней дадатковых абумоўленняў. З боку таварыства ўваходзілі ў камісію людзі юрыдычна некампетэнтныя.

Аб музеі стала ціха, нават у інтэрв'ю старшыні для трох чарговых Беларускіх календароў 1974, 1975, 1976 з нагоды трыццацігоддзя Народнай Польшчы і дваццацігоддзя БГКТ. Затое неспакойна было сярод дзеячоў, і старшыня М. Самоцік вымушаны быў на VIII з'ездзе БГКТ зрабіць у дакладзе тлумачэнне, што экспанаты пераняў Акруговы музей дзеля забеспячэння іх ад знішчэння, кансервацыі і падрыхтоўкі філіяльнай экспазіцыі ў адрамантаванай ратушы ў Бельску Падляшскім. У маі 1977 г. выстаўка была арганізавана пад назвай „Помнікі народнай матэрыяльнай культуры“, але ў ёй не ўспаміналася пра паходжанне экспанатаў.

Аднак на хвалі адновы 25.XI.1980 г. Прэзідыум ГП накіравала ліст I сакратару Цэнтральнага Камітэта ПАРП і прасіла ў ім аказаць дапамогу ў аднаўленні музея. Праз месяц адбылася сустрэча дэлегацыі таварыства з I сакратаром Ваяводскага камітэта ПАРП Стэфанам Завадзінскім, які са зразуменнем аднёсся да пастулатаў БГКТ і абяцаў падтрымку ў іх ажыццяўленні. І датрымаў слова. У лютым 1981 г. тая ж дэлегацыя правяла рабочую сустрэчу з намеснікам старшыні Ваяводскай управы Зенонам Світаем, а пасля з адказнымі працаўнікамі Міністэрства культуры і мастацтва і дырэктарам аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку. Усе яны згаджаліся аказаць дапамогу ў арганізаванні музея, але адпаведнага будынку да наладжання экспазіцыі не было. Урэшце спыніліся на пакінутых Дрэваапрацоўчым камбінатам мураваных будынках у цэнтры Гайнаўкі. 29 чэрвеня 1983 года начальнік горада перадаў Беларускаму грамадска-культурнаму таварыству моцна знішчаныя тры аб'екты з прызначэннем іх на музейную і грамадска-культурную дзейнасць.

Кансультацыі з мясцовымі ўладамі па справах рамонту будынкаў і загаспадарання іх наваколля закончыліся кампрамісным рашэннем, паводле якога БГКТ затрымае на ўласныя патрэбы толькі вытворчы цэх былой „паркецярні“ агульнай плошчай каля 860 кв. метраў і гаспадарчы будынак — 80 кв. метраў. У будучыні прыме да сябе выстаўку Гайнаўскага музея рэвалюцыйнага руху (каля 50 кв. метраў). Побач, у трэцім будынку, Дрэваапрацоўчы камбінат у Гайнаўцы будзе арганізаваць музей вырабаў з драўніны. Пры Беларускім музеі працірацца каля 0,8 га свабоднай плошчы. Прадбачана аддзельнае месца на паркінг і на даезд да музея ад галоўнай гарадской магістралі.

Найцяжэйшай праблемай быў і далей астаецца недахоп фінансавых сродкаў на аб-

сталяванне музея. Пачатак васьмідзесятых гадоў у гэтых адносінах быў у краіне цяжкі і не спрыяў іх уладкаванню. Таму з ініцыятывы Прэзідыума ГП у студзені 1984 года пачаў сярод актыву таварыства засноўвацца новы грамадскі камітэт пабудовы музея. Першае пасяджэнне „Грамадскага камітэта пабудовы музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы“ (такую прыняў ён назву) адбылося 8.VII.1984 года ў Гайнаўцы. Сярод прысутных на пасяджэнні пачынальнікаў і сімпатыкаў музея было выбрана пятнаццаціасабовае праўленне і пяціасабовая рэвізійная камісія. У склад Прэзідыума камітэта ўвайшлі: Кастусь Майсеня — старшыня, Мечыслаў Охнё і Янка Хіліманюк — намеснікі старшыні, Панцеляймон Мароз — сакратар, Аляксандр Плева — скарбнік, Мікалай Клімюк і Мікалай Нікалаюк — члены.

Камітэт прыняў даволі абшырны статут. У ім, між іншым, гаворыцца, што „Камітэт будзе рэалізаваць свае заданні праз уключэнне мясцовага насельніцтва і прыватных асобаў да актыўнага ўдзелу ў пабудове і арганізаванні музея; збіранне на ўласным конце фінансавых сродкаў... праз датацыі, ахвяраванні, складчыны і з іншых прадбачаных правам крыніц; збіранне экспанатаў культуры беларускай нацыянальнай меншасці і рэвалюцыйнага руху..., развіванне і ўмацоўванне сувязі польскага насельніцтва з прагрэсіўнымі традыцыямі беларускай нацыянальнай меншасці, вядзенне агітацыйнай дзейнасці ў форме дакладаў, гутарак, на тэму гісторыі беларускай культуры, арганізаванне неабходнай праектнай дакументацыі, выканаўства і кантролю над ім..., а таксама загаспадарання аб'екта“.

Прадбачваюцца: членства звычайнае (месячныя складчыны 100 зл.) і членства ўспамагаючае (аднаразовыя складчыны), агульныя сходы членаў і іх кампетэнцыі.

Камітэт звярнуўся да грамадскасці з заклікам пра ўнясенне грошавых ахвяраванняў на конта музея. Падаем яго яшчэ раз: у польскіх злотых: Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr konta 905217-1922-132, а ў замежнай валюце :Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

Зварот апублікавала мясцовая прэса, а „Ніва“ ўвяла сталую рубрыку, у якой падае да агульнага ведама прозвішчы ахвяравальнікаў. Уплочанні да канца 1985 года склалі амаль 5 мільёнаў 955 тысяч злотых і 1100 доляраў. Конта камітэта адкрыла 5 мільёнамі злотых Ваяводская ўправа ў Беластоку (праз Гарадскую ўправу ў Гайнаўцы). Сярод іншых устаноў да ліку першых належаць: Управа гміны ў Гайнаўцы — 100 тыс. зл., Ваяводскі саюз сельскагаспадарчых кааператываў у Беластоку — 30 тысяч зл., Гарадская ўправа ў Бельску Падляшскім — 20 тыс. зл., Праўленне Аддзела БГКТ у Варшаве — 20 тыс. зл., Управа гміны ў Белавежы — 15 тыс. злотых.

Першай індывідуальнай ахвяравальніцай была настаўніца з Трасцянкі Галена Таналянская, якая ўжо 7.III. 1984 года ўплаціла 500 злотых на пабудову музея, а таксама члены гуртка беларускай мовы ў Пачатковай школе ў Трасцянцы — 1000 злотых.

Сярод індывідуальных ахвяравальнікаў на конта пабудовы музея па велічыні ўзносаў да ліку першых належаць: Аляксандр Баршчэўскі (Варшава), Аляксандр Залеўскі (Лондан), Аляксандр Юзэфовіч (Прушч Гданьскі), Надзея Касабук (Беласток), Аляксандр Іванюк (Гайнаўка), Юрый Раманьчук (Альхоўка).

У замежнай валюце самымі шчодрымі ахвяравальнікамі з'яўляюцца: Пэтэр Казура (ЗША), Амерыканская Беларуская Праваслаўная Царква, Эдмунд Кажанеўскі (Канада), М. Нікон, М. Скрабей і А. Груша (Аўстралія), Ян Мойсік (Ватыкан) — арганізатар збору сярод беларусаў у ЗША.

**Грамадскі камітэт пабудовы музея ўсім ахвяравальнікам выказвае шчырую падзяку.**

Добра гэта, але ў параўнанні да патрэб, скромны пачатак. Гатовы ўжо праект адаптацыі цэха „паркецярні“ і дабудовак да яго прадбачвае каля 2,2 тыс. кв. метраў выставачнай і дапаможнай плошчы (майстэрні, склады), а таксама чытальны і канферэнцыйны залы, гасцінныя памяшканні, якія складаюць разам каля тысячы кв. метраў. Агульныя кошты пабудовы музея і загаспадарання яго наваколля вызначаюцца рабочымі праектамі на 150 млн. злотых.

Прадбачваючы фінансавыя цяжкасці як асноўную перашкоду ў арганізаванні музея, мы звярнуліся да старшыні Грамадскага камітэта пабудовы музея Кастуся Майсені з некалькімі пытаннямі:

— Калі пачнецца пабудова? Ці існуюць магчымасці атрымаць адпаведныя будаўнічыя матэрыялы? Які прадбачваецца ўдзел насельніцтва ў пабудове? Калі адкрыецца першая выстаўка? Ці ёсць ужо першыя экспанаты?

К. Майсеня сказаў: Адказаць на тыя пытанні, вырашэнне якіх залежыць выключна ад фінансаў, даволі цяжка, бо іх у нас вельмі мала. Незалежна аднак ад усяго, пабудова пачнецца ў 1986 г. ад рамонту існуючага цэха былой „паркецярні“ з адначаснай дабудовай сацыяльных памяшканняў і будзе

працягвацца каля двух гадоў. Гэты час мы назвалі першым этапам пабудовы музея. Пачатак другога этапа прадбачваецца на 1988 год і будзе ахопліваць асноўную частку музейнага будынка. Ён жа будзе аб'ядноўваючым увесь комплекс музеяў: рэгіянальнага, рэвалюцыйнага і вырабаў з драўніны. У залежнасці ад фінансавых магчымасцей ён будзе працягвацца два, а можа і больш гадоў. Камітэт далей моцна разлічвае на дапамогу грамадзян, членаў БГКТ, дзяржаўных устаноў нашай краіны і сімпатыкаў з-за мяжы.

У атрыманні асноўных будаўнічых матэрыялаў асаблівых цяжкасцей не прадбачваецца, тым больш, што блізка, у Старым Ляўкове знаходзіцца найбольшая на Беласточчыне цагельня. Частка матэрыялаў будзе нарыхтавана насельніцтвам грамадскім пачынам. Спадзяемся атрымаць ад яго таксама ў рамах грамадскага пачыну неабходныя транспартныя сродкі і дапаможную рабочую сілу.

Адкрыццё музея для наведвальнікаў прадбачваецца адразу пасля заканчэння першага этапа прац, а пашырэнне экспазіцыі да планаванай велічыні — пасля заканчэння ўсяе пабудовы. Захаванне гэтых тэрмінаў будзе залежыць ад удзелу і ахвярнасці нашага грамадства.

Збор экспанатаў да новага музея ўжо запачаткавалі настаўнікі і школьная моладзь, а таксама паасобныя дзеячы, якія іх беражліва перахоўваюць. Аднак усё ж экспанаты нішчэюць і трэба спяшацца з іх забеспячэннем. Пажадана, каб актыўней у гэты пачын уключаліся таксама грамадскія ўстановы.

**У. Юзвюк**

# Ці ты ўнёс свой уклад у пабудову Беларускага музея?



# НАШЫ БРАТЫ-НАШЫ СУСЕДЗІ

## XXVII З'ЕЗД КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

### ПАСКАРЭННЕ

XXVII з'езд КПСС адобрыў палітычны курс і практычную дзейнасць Цэнтральнага Камітэта КПСС, разгледзеў і зацвердзіў праграму эканамічнага і сацыяльнага развіцця Савецкага Саюза. Гэта праграма была выкладзена ў дакладзе „Аб асноўных напрамках эканамічнага і сацыяльнага развіцця СССР на 1986-1990 гады і на перыяд да 2000 года", з якім выступіў на з'ездзе Старшыня Савета Міністраў СССР М. Рыжкоў.

Праект асноўных напрамкаў, сказаў М. Рыжкоў, — важны палітычны і народнагаспадарчы дакумент. Яго аснова — канцэпцыя паскарэння. У ім канкрэтызуюцца праграмныя задачы і мэты, якія трэба будзе ажыццявіць да канца гэтага стагоддзя, вызначаны важнейшыя напрамкі якаснага пераўтварэння прадукцыйных сіл і сацыяльнага развіцця грамадства СССР.

Праект асноўных напрамкаў поўнасцю адпавядае жыццёвым інтарэсам савецкіх людзей, іх надзеям на будучыню. Гэта з усёй сілай паказаў сапраўды ўсенародны маштаб яго абмеркавання, у якім прынялі ўдзел каля 110 мільёнаў грамадзян.

У праекце асноўных напрамкаў падведзены вынікі мінулай пяцігодкі (1980-1985). Яны даюць усе падставы зрабіць вывад, што працай савецкіх людзей унесены значны ўклад ва ўмацаванне эканамічнай магутнасці краіны. Нацыянальны даход, сказаў дакладчык, за гады гэтай пяцігодкі павысіўся на 17 працэнтаў, прадукцыя прамысловасці — на 20 працэнтаў. Сярод галін індустрыі хутка развівалася газавая. Па аб'ёму здабычы газу СССР выйшаў на першае месца ў свеце. Больш чым падвоілася вытворчасць электраэнергіі на атамных электрастанцыях. Павысілася сярэднямесячная заработная плата рабочых і служачых, аплата працы калгаснікаў, павялічыліся грамадскія фонды спажывання.

Удасканальваліся пенсіённае забеспячэнне, сістэма аховы здароўя, прыметна павялічылася дзяржаўная дапамога сем'ям, якія маюць дзяцей. Значныя рэсурсы былі накіраваны на адукацыю. Як і ў папярэднія пяцігодкі, з вялікім размахам вялося жыллёвае будаўніцтва. Здадзена ў эксплуатацыю звыш 10 мільёнаў кватэр.

У праекце асноўных напрамкаў, сказаў М. Рыжкоў, у канкрэтных заданнях і лічбах матэрыялізуецца праграмная ўстаноўка партыі на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2000 года, дасягненне якасна новага стану савецкага грамадства, глыбокае пераўтварэнне яго прадукцыйных сіл, удасканаленне вытворчых адносін.

Намячаецца падвоіць аб'ём нацыянальнага даходу і прамысловай прадукцыі. У выніку за пятнаццаць гадоў будзе створаны эканамічны патэнцыял, прыкладна роўны накопленаму за ўсе папярэднія гады Савецкай улады, зроблены буйны крок у пабудове матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізму.

Вышэйшая мэта грамадскай вытворчасці пры сацыялізме — няўхільнае павышэнне матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця народа. На сучасным этапе Камуністычная партыя Савецкага Саюза ставіць задачу ўзняць дабрабыт на якасна новую ступень.

У першую чаргу будуць істотна скарочаны цяжкія, манатонныя работы. Больш чым удвая знізіцца доля ручной працы. Гэта дасць магчымасць вызваліць ад малакваліфікаванай работы звыш 20 мільёнаў чалавек, зрабіць іх дзейнасць змястоўнай, якая прыносіць задавальненне.

Да 2000 года будзе выканана задача вялікай сацыяльнай значнасці — забеспячэнне практычна кожнай савецкай сям'і асобным жыллём — кватэрай або індывідуальным домам. Карэнным чынам палепшыцца сістэма адукацыі і падрыхтоўкі кадраў, медыцынскае абслугоўванне, значна расшырыцца і ўмацуецца матэрыяльная база культуры, адпачынку і спорту.

Зразумела, што выйсці на такія рубяжы грамадскай вытворчасці і народнага дабрабыту ў намечаныя тэрміны можна толькі на шляхах істотнага павышэння эфектыўнасці і тэмпаў руху наперад.

Магістральным напрамкам вырашэння карэнных праблем сацыялізму ў канчатковым выніку з'яўляецца павышэнне прадукцыйнасці грамадскай працы. Прадугледжваецца павысіць прадукцыйнасць працы ў цэлым па народнай гаспадарцы да 2000 гадоў у 2,3-2,5 раза. У выніку савецкая эканоміка выйдзе на якасна новы шлях развіцця.

Першым і вельмі адказным этапам практычнай рэалізацыі даўгачаснай эканамічнай стратэгіі партыі з'яўляецца дванаццатая пяцігодка 1986-1990 г. Вызначана яе галоўная задача. Яна



© PDF: Kamunikat.org 2011



заключаецца ў павышэнні тэмпаў і эфектыўнасці развіцця эканомікі на базе паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу, тэхнічнага пераўзбраення і рэканструкцыі вытворчасці, інтэнсіўнага выкарыстання створанага вытворчага патэнцыялу, удасканалення сістэмы кіравання, гаспадарчага механізма і ў дасягненні на гэтай аснове далейшага ўздыму дабрабыту савецкага народа.

У выніку аб'ём нацыянальнага даходу дасягне ў 1990 годзе 614 мільярдаў рублёў, а прамысловай вытворчасці — 1 трыльён рублёў.

Адзін з важнейшых напрамкаў навукова-тэхнічнага прагрэсу — шырокае асваенне перадавых тэхналогій. У дванаццатай пяцігодцы намячаецца ў 1,5-2 разы расшырыць прымяненне прагрэсіўных, базавых для кожнай галіны тэхналогій. Прыметнае месца зоймуць прынцыпова новыя тэхналогіі, такія, як мембранная, лазерная, плазменная, тэхналогіі з выкарыстаннем звышвысокіх ціскаў і імпульсных нагрузак і г.д.

Другі напрамак — аўтаматызацыя і механізацыя вытворчасці. Яны закліканы карэнным чынам пераўтварыць рабочыя месцы, зрабіць працу рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі больш прадукцыйнай, творчай, прыцягальнай.

Сучасны этап аўтаматызацыі апіраецца на рэвалюцыю ў электронна-вылічальнай тэхніцы, электранізацыю народнай гаспадаркі. У гады пяцігодкі прадугледжана стварэнне і асваенне новых пакаленняў электронна-вылічальных машын усіх класаў.

Характэрная рыса аўтаматызацыі ў дванаццатай пяцігодцы — хуткае развіццё работатэхнікі, ротарных і ротарна-канвеерных ліній, гібкіх аўтаматызаваных вытворчасцей, якія забяспечваюць высокую прадукцыйнасць. Парк прамысловых робатаў, напрыклад, за пяцігоддзе павялічыцца ў 3 разы.

У праекце асноўных напрамкаў грунтоўна вызначаны важнейшыя заданні па ўдасканаленню структуры народнай гаспадаркі, развіццю яе галін, рубяжы, на якія ім трэба будзе выйсці. Вось найбольш прынцыповыя напрамкі структурнай палітыкі дванаццатай пяцігодкі.

Перш за ўсё гэта апераджаны рост канчатковага прадукту — машын і абсталявання, прадметаў спажывання, гатовых будаўнічых аб'ектаў. Другая асаблівасць — паскарэнне развіцця галін, якія закліканы забяспечыць выхад народнай гаспадаркі на перадавыя ў свеце навукова-тэхнічныя рубяжы — электраэнергетыкі, хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці і, вядома, машынабудавання. І, нарэшце, што вельмі важна, усе галіны без выключэння ў большай меры, чым раней, арыентаваны на выпуск тавараў народнага спажывання і развіццё сферы паслуг.

Партыя, сказаў М. Рыжкоў, паставіла дакладную задачу:



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

ажыццявіць буйныя меры па ўдасканаленню ўсёй сістэмы кіравання, з тым, каб істотна павысіць яе эфектыўнасць. Яна заключаецца ў тым, каб, апіраючыся на непахісны прынцып дэмакратычнага цэнтралізму, умацоўваць і ўдасканальваць цэнтральнае планавае кіраўніцтва эканомікай — вялікую заваёву і карэнную перавагу сацыялізму. І ў гэтым пытанні відавочна, што мы „не апраўдалі", ды ніколі і не апраўдаем надзеі буржуазных ідэолагаў на наш адыход ад гэтага асноватворнага прынцыпу.

Курс партыі на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны прад'яўляе сур'ёзныя патрабаванні да знешнеэканамічнай дзейнасці. Зусім новая абстаноўка для міжнароднага эканамічнага супрацоўніцтва, яго інтэнсіўнага развіцця ў інтарэсах усіх краін можа быць створана ў выніку ажыццяўлення савецкай праграмы паэтапнай ліквідацыі ядзернай зброі да 2000 года і іншых міралюбівых прапаноў. Раззбраенне дазволіла б адвесці ад чалавецтва пагрозу знішчэння, пераключыць велізарныя матэрыяльныя і інтэлектуальныя рэсурсы на мэты эканамічнага развіцця. Савецкі Саюз не шкадуе намаганняў для аздараўлення міжнароднай абстаноўкі, падтрымання і ўмацавання адносін роўнапраўнага супрацоўніцтва з усімі дзяржавамі незалежна ад іх сацыяльнага ладу.

Вызначальным пры гэтым было і застаецца супрацоўніцтва з брацкімі сацыялістычнымі краінамі. У бліжэйшыя гады на аснове рашэнняў Эканамічнай нарады краін — членаў Савета эканамічнай узаемадапамогі (СЭУ) на вышэйшым узроўні трэба будзе зрабіць буйны крок у развіцці сацыялістычнай інтэграцыі, паглыбіць яе на базе шырокай кааперацыі і спецыялізацыі вытворчасці. Асновай усёй гэтай работы стане паслядоўнае ажыццяўленне Комплекснай праграмы навукова-тэхнічнага прагрэсу краін — членаў СЭУ да 2000 года. На сумеснае асваенне найноўшых навукова-тэхнічных дасягненняў, развіццё буйнамаштабнай кааперацыі ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, і ў першую чаргу ў выпуску сучасных відаў машын і абсталявання, перамяшчаецца цяпер цэнтр інтэграцыйнай дзейнасці.

Асноўнымі напрамкамі прадугледжваецца далейшае ўзмацненне эканамічных сувязей і з іншымі сацыялістычнымі дзяржавамі.

Савецкі Саюз будзе далей развіваць супрацоўніцтва з краінамі Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, разнабакова садзейнічаць гэтым дзяржавам, дапамагаць станаўленню і развіццю іх нацыянальнай эканомікі, пераадоленню каланіяльнай спадчыны, руху наперад па шляху эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу.







Савецкі Саюз, верны палітыцы мірнага суіснавання, выступае за супрацоўніцтва з развітымі капіталістычнымі дзяржавамі. Магчымасці тут немалыя. Гэта адносіцца практычна да ўсіх відаў сувязей — гандлёвых, навукова-тэхнічных, фінансава-крэдытных і іншых. Але вядома, што супрацоўніцтва — справа ўзаемная. Тут патрэбны строгі ўлік узаемных інтарэсаў, поўная адмова ад усялякіх абмежаванняў, байкотаў і эмбарга.

СССР выступае з новай прапановай аб скліканні ў будучыні сусветнага кангрэса па праблемах эканамічнай бяспекі, на якім можна было б абмеркаваць усё, што ўскладняе сусветныя гаспадарчыя сувязі.

КПСС імкнецца ўзняць жыццёвы ўзровень савецкіх людзей на якасна новую ступень, забяспечыць няўхільнае паляпшэнне ўмоў і працы і жыцця. Вырашэнне гэтай задачы партыя арганічна ўяўляе з гарманічным развіццём асобы, актывізацыяй творчай ініцыятывы працоўных.

Ажыццяўленне мерапрыемстваў у галіне аплаты працы дазволіць павысіць сярэднемесячную заработную плату рабочых і служачых да 1990 г. да 215-220 рублёў.

Больш высокімі тэмпамі будзе расці аплата працы ў калгасах. У адпаведнасці з намячаемым павышэннем прадукцыйнасці працы яна павялічыцца ў сярэднім да 180 рублёў у месяц. З улікам паступленняў ад асабістай падсобнай гаспадаркі рэальныя даходы калгаснікаў практычна зраўняюцца з даходамі рабочых і служачых. Разам з ростам тэхнічнай аснашчанасці працы, апераджальным развіццём у вёсцы жыллёвага і культурна-бытавога будаўніцтва гэта з'явіцца важным крокам у вырашэнні праграмнай задачы КПСС — пераадоленні істотных адрозненняў паміж горадам і вёскай.

Адначасова з умацаваннем прынцыпу размеркавання па працы будзе прадоўжана паслядоўнае развіццё грамадскіх фондаў спажывання, якія адыгрываюць выключную ролю ў жыцці савецкіх людзей. За пяцігоддзе яны значна павялічацца і складуць у разліку на душу насельніцтва ў 1990 годзе звыш 600 рублёў.

У 1986-1990 г.г. лінія на ўзмацненне дзяржаўнай дапамогі сем'ям з дзецьмі атрымае яшчэ большае развіццё. Увядзенне некалькі гадоў назад аплатнага водпуску для працуючых маці для догляду дзіцяці ва ўзросце да года пачало прыносіць нядрэнны сацыяльна-дэмаграфічны эфект. З улікам гэтага і пажаданняў грамадзян, прызнана мэтазгодным прадоўжыць водпуск яшчэ на паўгода. Прадугледжваецца таксама павялічыць дародавы водпуск і аплатны час для догляду хворага дзіцяці, увесці бясплатную выдачу лякарства для дзяцей ва ўзросце да трох гадоў.

Вялікія сродкі будуць накіраваны на паляпшэнне пенсіённага забеспячэння, узмацненне клопатаў грамадства аб ветэранах вайны і працы, сем'ях загінуўшых воінаў. Намячаецца істотна павялічыць сетку і палепшыць работу дамоў-інтэрнатаў. Пасшыраецца прымяненне прагрэсіўных форм абслугоўвання непрацаздольных грамадзян.

Толькі за кошт агульнадзяржаўных мер па павышэнню заработнай платы, пенсій і дапамог даходы ўзрастуць больш чым у палавіны ўсяго насельніцтва.

Клапоцячыся аб удасканаленні ўсіх бакоў жыцця народа, партыя ўзнімае на новую вышыню значэнне вечных маральных каштоўнасцей і ідэалаў, якія будуць аказваць усё большае ўздзеянне на фарміраванне савецкага чалавека — будаўніка камунізму.

# Варта ведаць

**(Беларуская ССР у ліках)**

Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка была ўтворана 1 студзеня 1919 года. Размешчана яна на захадзе Усходнееўрапейскай раўніны, займае тэрыторыю 207,6 тысяч квадратных кіламетраў. Мяжуе на захадзе з Народнай Польшчай, на паўночным захадзе з Літоўскай ССР, на поўначы з Латвійскай ССР, на поўначы, паўночным усходзе і ўсходзе з Расійскай СФСР, на поўдні з Украінскай ССР.

З поўначы на поўдзень тэрыторыя рэспублікі працягнулася на 560 км, з захаду на ўсход — на 650 км. Самы паўночны пункт БССР знаходзіцца на 56°10' паўночнай шырыні каля Асвейскага возера, самы паўднёвы — на 51°16' паўночнай шырыні на рацэ Дняпры, каля мясцовасці Камарын; самы заходні — на 23°11' усходняй даўжыні, непадалёку ад мястэчка Высокае; самы ўсходні — на 32°47' усходняй даўжыні, каля мястэчка Хоцімск. Найвышэйшы пункт на Беларусі — Святая гара (вышыня 345 м над узроўнем мора) каля вёскі Вертнікі ў Дзяржынскім раёне, самы нізкі (80 м над узроўнем мора) — у даліне ракі Нёман, каля мяжы з Літоўскай ССР.

На тэрыторыі БССР знаходзіцца больш за 10 тысяч азёраў, з іх 1072 маюць плошчу большую за адну тысячу квадратных метраў, агульная іх паверхня складае каля 1400 квадратных кіламетраў, аб'ём вады ў іх сягае 6 кубічных кіламетраў. Азёры сканцэнтраваны пераважна на поўначы рэспублікі, у Беларускім Паазер'і, і на яе поўдні, у Беларускім Палессі. Найбольшыя азёры: Нарач (плошча каля 80 кв. км), Асвейскае (53 кв. км), Чырвонае (44 кв. км), Лукомскае (37 кв. км), Дрывяты (36 кв. км), Нешчарда (27 кв. км), Выганоўскае (26 кв. км), Снуды (22 кв. км), Свір (22 кв. км). Самыя глыбокія: Доўгае (у Глыбоцкім раёне) з найбольшай глыбінёй 54 метры, Рычы — 52 м, Гінькава — 43 м.







Па Беларускай ССР працякае каля 21 тысячы рэк і рэчак, даўжыня іх больш за 90 тысяч км. Найбольшыя з іх: Дняпро — агульная даўжыня 2145 км, у тым у межах Беларусі — 690 км; Заходняя Дзвіна — 1020 км, у БССР — 328 км; Нёман — 937 км, у БССР — 459 км; Сож — 648 км, у БССР — 493 км; цякуць толькі па Беларускай ССР: Бярэзіна (прыток Днякра) — 613 км; Друць — 295 км, Бярэзіна (прыток Нёмана) — 226 км. На рэках працуе 18 гідраэлектрастанцый, найбольшая з іх Асіповіцкая (2250 квт) на рацэ Свіслачы. Агульная даўжыня рачных суднаходных шляхоў складае каля 4 тысяч км, суднаходныя: Днякро, Бярэзіна, Сож, Друць, Дзвіна, Нёман, Прыпяць і іншыя. Даўжыня лесасплаўных рэк — 15 тысяч км. Шэраг рэк і азёраў злучаюць каналы. Найбольшыя суднаходныя каналы: Дняпроўска-Бугскі канал, агульная яго даўжыня — 196 км; Бярэзінскі — 169 км; Агінскага — 54 км.

Лясы займаюць у Беларускай ССР больш за 8 мільёнаў гектараў паверхні, гэта складае каля 35 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі. Найбольшыя пушчы: Белавежская займае разам 145 тысяч га (88 тыс. га на тэрыторыі БССР і 57 тыс. га ў Народнай Польшчы), Налібоцкая — каля 140 тысяч га, Гродзенская — каля 40 тыс. га, Ружанская — каля 15 тыс. га.

Балоты ў БССР займаюць каля 2,5 мільёна га, у іх змяшчаецца больш за 31 мільярдаў кубічных метраў торфу. Большасць балот меліяравана і складае сельскагаспадарчыя ўгоддзі.

У БССР жыве і гняздуецца 73 віды дзікіх звяроў, 286 відаў дзікіх птушак, 54 віды рыб, 20 відаў паўзуноў і земнаводных.

Тэрыторыя Беларускай ССР падзяляецца на пяць абласцей: Брэсцкую, Віцебскую, Гомельскую, Гродзенскую, Магілёўскую і сталічны горад Мінск. У ёй 95 гарадоў, 117 раёнаў, 110 гарадскіх і рабочых пасёлкаў, 1525 сельскіх саветаў (гмінаў). Найбольшыя гарады: Мінск (каля 1 мільёна 500 тысяч насельніцтва), Гомель (каля 365 тыс. насельніцтва), Віцебск (каля 290 тыс. насельніцтва).

Паводле перапісу на 17 студзеня 1979 г. у Беларускай ССР жыло 9 мільёнаў 559 тысяч чалавек насельніцтва; 46,5 працэнта яго складалі мужчыны і 53,5 прац. жанчыны; 55 прац. жыло ў гарадах, 45 прац. на вёсцы. Нацыянальны склад: 7 мільёнаў 568 тысяч беларусаў; 1 мільён 134 тыс. рускіх; 402 тыс. палякаў; 231 тыс. украінцаў; 135 тыс. яўрэяў, 11 тыс. татараў; 8 тыс. цыганоў, 7 тыс. літоўцаў і 35 тыс чалавек іншых нацыянальнасцей.

Асноўныя карысныя выкапні ў Беларускай ССР: будаўнічыя матэрыялы (пясок, камень, гліна, вапені для выпальвання вапны і цэменту, граніт, мармур і іншыя), торф (не толькі паліва, але і каштоўная сыравіна для хімічнай пераробкі), каменная

соль — разведаны паклады больш за 22 мільярды тон, калійная (патасовая) соль — запасы каля 10 мільярдаў тон, нафта — разведаны і эксплуатуюцца 18 радовішчаў, буры вугаль, руды жалеза і каляровых металаў, вялікія запасы прэснай і мінеральных водаў.

Беларуская ССР — гэта рэспубліка развітай гаспадаркі і высокай культуры. Вырашальнае значэнне ў яе эканоміцы мае прамысловасць, у якой дзейнічае каля 1500 вялікіх прадпрыемстваў, 780 будаўнічых і мантажных арганізацый, каля 11 тысяч прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання, каля 14 тысяч прадпрыемстваў дзяржаўнага гандлю. Вось некалькі прыкладаў. Амаль трэцюю частку прамысловай прадукцыі БССР складаюць машынабудаванне і металаапрацоўка. Шырока вядомы ў свеце беларускія фабрыкі грузавых аўтамабіляў (у Мінску, Жодзіне і Магілёве) выпускаюць у год каля 40 тысяч аўтамабіляў вялікай грузападымальнасці (40, 75 і 120 тон). Карыстаюцца вялікім попытам на свеце папулярныя і ў нас трактары „Беларусь“, якіх Мінскі трактарны завод выпускае каля 100 тысяч штук у год. Магутная хімічная прамысловасць дае дзесятую частку ўсяе прамысловай вытворчасці Беларускай ССР, яна, між іншым, выпускае каля 13 мільёнаў тон мінеральных угнаенняў, у тым ліку каля 9 млн. т калійнай (патасовай) солі; каля 200 тыс. т хімічных валокан і нітак, каля 1 мільёна штук шын (апонаў) для аўтамабіляў і іншых машын. У Беларусі буйна развіта нафтаздабыўная і нафтаперапрацоўчая прамысловасць. З нетраў рэспублікі здабываецца ў сярэднім у год каля 7 мільёнаў тон нафты. Нафта падаецца ў Беларусь таксама па нафтаправодзе „Дружба“ з Паволжа і іншых рэгіёнаў СССР. У нафтаперапрацоўчых заводах Беларусі вырабляюць з яе больш за 50 відаў прадуктаў, у тым бензін, які паступае і ў Народную Польшчу. Беларусь славіцца вырабамі свае тэкстыльнае прамысловасці, якая ў год выпускае 300 мільёнаў метраў тканін самых разнастайных відаў. Беларуская ССР — гэта краіна прыладабудавання, у ёй вырабляюцца сучасныя электронныя вылічальныя машыны, разнастайныя гадзіннікі (каля 4 млн. 500 тыс. штук у год), фотаапараты (каля 1 млн. шт. у год), вымяральныя прылады і апараты. Вырабы беларускай прамысловасці паступаюць у больш за 80 краін свету.

У БССР больш за 5 мільёнаў 700 тысяч гектараў — гэта ворыўныя глебы, 3 мільёны 500 тысяч га — лугі і сенажаці. Сельская гаспадарка рэспублікі — гэта 899 буйных саўгасаў і 1994 калгасы. У сярэднім у год яна вырошчвае 6-7 мільёнаў тон збожжа, каля 13-14 млн. т бульбы, больш за 1 млн. т цукровых буракоў, больш за 130 тыс. т валакна лёну і г.д. У БССР гадуюць каля 7 млн. шт. быдла, у тым каля 3 млн. шт. дойных кароў, свіней — каля 4 млн. 500 тыс. шт.







Агульнаадукацыйных (пачатковых і сярэдніх) школ у БССР 7 575, у іх працуе каля 107 тысяч настаўнікаў і вучыцца 1 мільён 575 тысяч дзяцей і моладзі, апрача гэтага працуе 345 прафесійных (завадовых) школ рознага тыпу і ў іх займаецца больш за 300 тыс. моладзі. У Беларусі 31 вышэйшая школа і каля 180 тысяч студэнтаў.

У БССР працуе каля 30 тысяч лекараў розных спецыяльнасцей, ёсць каля 900 бальніц з 120 тысячамі ложкаў, больш за 50 санаторыяў з 11 тысячамі ложкаў.

У 5 аддзяленнях Акадэміі навук Беларускай ССР працуе больш за 5 тысяч навуковых работнікаў, вядуцца даследаванні па 55 навуковых кірунках. Навуковымі даследаваннямі займаюцца таксама ўсе вышэйшыя школы, навукова-даследчыя інстытуты, навукова-вытворчыя ўстановы.

У БССР выходзіць 190 газет і каля 100 часопісаў і іншых перыядычных выданняў агульным тыражом каля 850 мільёнаў экземпляраў. Дзейнічае 10 вялікіх выдавецтваў і 40 установаў і арганізацый, якія выпускаюць разнастайныя выданні, разам яны выдаюць у год каля 2900 назваў кніг, брашур і альбомаў агульным тыражом каля 36 мільёнаў экземпляраў.

Беларускае радыё вядзе перадачы па 4 праграмах — разам 23 гадзіны ў суткі, Беларускае тэлебачанне перадае па 3 праграмах — разам больш за 30 гадзін у суткі.

У творчыя саюзы Беларускай ССР уваходзяць: у Саюз архітэктараў каля 700 чалавек, Саюз кампазітараў — каля 70 ч., у Саюз кінаматаграфістаў — больш за 200 ч., Саюз мастакоў — каля 470 ч., Саюз пісьменнікаў — 330 чалавек.

У БССР працуюць 402 дзіцячыя і юнацкія спартыўныя школы, у якіх авалодваюць спартыўным майстэрствам больш за 100 тысяч моладзі па 41 віду спорту і 8 школ вышэйшага спартыўнага майстэрства. У фізкультуры і спорце заняты (апрача рознага тыпу школаў) каля 14 тысяч штатных працаўнікоў і 330 тысяч грамадскіх трэнераў і інструктараў. Таму такія зоркі як Вольга Корбут могуць ясненць у сусветным спорце і славіць Беларусь.

**(мг)**

## Выпісвайце газеты і часопісы Савецкай Беларусі!

## БЕЛАРУСКІЯ ФІЛЬМЫ Ў ПОЛЬШЧЫ

На экранах польскіх кінатэатраў паявілася дагэтуль больш за 30 беларускіх мастацкіх фільмаў, рэалізаваных у кінастудыі „Беларусьфільм" (да 1946 г. — „Савецкая Беларусь"). Падаем іх у наступным парадку: месяц і год польскай прэм'еры, назвы фільма — польская і беларуская, год рэалізацыі, прозвішчы рэжысёраў, кароткая характарыстыка фільма.

1) 1932 г. — „Powrót Natana Bekiera" („Вяртанне Нейтана Бекера", 1932 г.). Рэж. Б. Шпіс і Р. Мільман. Фільм кранае праблему прыстасавання імігрантаў.

2) 1934 г. — „Car szaleniec" („Паручнік Кіжэ", 1934 г.). Рэж. Файнцымер. Сатырычная камедыя, заснаваная на гістарычным матэрыяле.

3) VII.1948 г. — „Moja miła" („Маё каханне"). Рэж. У. Корш-Саблін. Музычная камедыя.

4) XII.1949 г. — „Konstanty Zasłonow" („Канстанцін Заслонаў" 1949 г.) Рэж. А. Файнцымер і У. Корш-Саблін. Фільм аб антыгітлераўскім руху супраціўлення беларускіх чыгуначнікаў.

5) II.1950 г. — „Nowy dom" („Новы дом", 1947 г.). Рэж. У. Корш-Саблін. Камедыя. Пасляваенная адбудова беларускай вёскі.

6) V.1950 г. — „Koncert Beethovena" („Канцэрт Бетховена", 1937 г.). Рэж. М. Гаўронскі і У. Шмітгоф. Фільм для дзяцей. Спаборніцтвы вучняў музычнай школы.

7) X.1951 г. — „Niedźwiedź" („Мядзведзь", 1938 г.). Рэж. І. Аненскі. Паводле вадэвіля А. Чэхава.

8) II.1954 г. — „Śpiewają skowronki" („Пяюць жаваранкі", 1953 г.). Рэж. У. Корш-Саблін і К. Саннікаў. Паводле п'есы К. Крапівы аб спаборніцтве двух калгасаў.

9) IX.1955 г. — „Dzieci partyzanta" („Дзеці партызана", 1954 г.). Рэж. Л. Голуб і М. Фігуроўскі. Фільм для дзяцей. Сенсацыйная барацьба са схаваным у пушчы шпіёнам.

10) XI.1957 г. — „Mały bohater" („Міколка-паравоз", 1956 г.). Рэж. Л. Голуб. Падзеі перыяду І сусветнай вайны і гадоў рэвалюцыі на Беларусі ў вачах 10-гадовага хлопчыка Міколкі.

11) III.1960 г. — „Weseli współlokatorzy" („Нашы суседзі", 1957 г.). Рэж. С. Сплашноў. Сатырычная камедыя аб жыллёвых клопатах.

12) XI.1960 г. — „Szukam ojca" („Дзяўчынка шукае бацьку", 1959 г.). Рэж. Л. Голуб. Лёсы 4-гадовай дзяўчынкі падчас II сусветнай вайны.

13) XII.1960 г. — „Miłość należy cenić" („Каханнем трэба даражыць", 1960 г.). Рэж. С. Сплашноў. Лёсы некалькіх дзяўчат, іх праблемы і старт у свет дарослых людзей.


© PDF: Kamunikat.org 2011



14) VII.1961 г. — „Przed nami zakręt" („Наперадзе — круты паварот", 1960 г.). Рэж. Р. Віктараў. Драма жанчыны, якой наканоны аказваецца эгаістам.

15) X.1961 г. — „Porucznik Marynin" („Чалавек не здаецца", 1961 г.). Рэж. І. Шульман. Ваенная драма. Гераізм савецкага салдата ў час трагічнага чэрвеня 1941 г.

16) XII.1963 г. — „Dziecięce marzenia" („Маленькія летуценнікі", 1962 г.). Рэж. А. Грачыха, А. Ястрэбаў, і В. Тураў. 3 эцюды, якія паказваюць дзіцячую псіхіку, механізм паўставання і падзення аўтарытэтаў, першыя маральныя праблемы, справы ўражлівасці дарослых на дзіцячыя летуценні.

17) V.1965 г. — „Czterdzieści minut przed świtem" („40 мінут да світання", 1964 г.). Рэж. Б. Рыцараў. Псіхалагічная драма, яна паказвае складанасць людскіх лёсаў, на якіх сваё кляймо паклала вайна.

18) X.1965 г. — „Droga przez cmentarz" („Праз могілкі", 1965 г.). Рэж. В. Тураў. Ваенная драма. Паказвае вайну і партызанскі рух цераз аналіз перажыванняў маладога партызана.

19) I.1966 г. — „Najdroższa" („Каханая", 1965 г.). Рэж. Р. Віктараў. Псіхалагічная аповесць аб моладзі, якая распачынае самастойнае жыццё, аб яе першых вопытах у працы, першым каханні.

20) X.1967 г. — „Najazd czarnego księcia" („Горад майстроў", 1965 г.). Рэж. У. Бычкоў. Казка для дзяцей аб сярэдневяковым горадзе рамеснікаў, які бароніцца перад нападам бязлітаснага князя.

21) VII.1969 г. — „Za frontem" („Іван Макаравіч", 1968 г.). Рэж. І. Дабралюбаў. Ваенныя перажыванні асірацелага 13-гадовага хлопчыка, які вымушаны справіцца з ускладзенымі на яго абавязкамі дарослага мужчыны.

22) XII.1969 г. — „Niezdolny do służby wojskowej" („Прыгодны да нестраявой", 1969 г.). Рэж. У. Рагавой. Камедыя. Ваенныя прыгоды маладзенькага салдата, якога пачаткова цураюцца сябры як блазнюка і наіўнага, неўзабаве ён заваёўвае сэрцы і пашану цэлай часці.

23) II.1971 г. — „Mój pies Wulkan" („Мы з Вулканам". 1970 г.). Рэж. В. Пяроў. Маляўнічая аповесць аб сяброўстве хлопца і сабакі.

24) XI. 1972 г. — „Polonez Ogińskiego" („Паланез Агінскага", 1971 г.). Рэж. Л. Голуб. Фільм для дзяцей. 10-гадовы сірата, які памагае партызанам у баявой часці, трапляе ў рукі гестапа. Хлопца выратоўвае захоплены яго ігрой на скрыпцы польскі арганіст.

25) VIII.1973 г. — „Zimorodek" („Зімародак", 1972 г.). Рэж. В. Нікіфараў. Тры маладыя сябры шукаюць легендарнага пар-


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

тызана, аб якім ведаюць толькі тое, што ён змагаўся пад псеўданімам „Зімародак“.

26) V.1974 г. — „Jutro będzie za późno“ („Заўтра будзе позна“. 1973 г.). Рэж. М. Цяпак і А. Карпаў. Фільм (рэалізаваны супольна з братыслаўскай кінастудыяй „Слёвэнскі фільм“) аб легендарным славацкім капітане Яне Налепку, які быў высланы ў 1941 г. на ўсходні фронт і там наладзіў сувязі з савецкім партызанскім штабам.

27) V. 1975 г. — „Straszna teściowa“ („Цёшча“, 1973 г.). Рэж. С. Сплашноў. Гэтая сатырычная камедыя апавядае аб агрэсіўных планах кандыдаткі на цёшчу, якая не перабіраючы ў сродках прабуе забяспечыць дачцэ шчаслівае будучае.

28) IV.1980 г. — „Wianek sonetów“ („Вянок санетаў“, 1976 г.). Рэж. В. Рубінчык. Трагічны лёс 14-гадовага хлопца ў віры ваенных здарэнняў. Карціну суправаджаюць прыгожыя вершы савецкай паэтэсы Б. Ахмадулінай.

29) V.1980 г. — „Spotkanie w końcu zimy“ („Сустрэча ў канцы зімы“, 1978 г.). Рэж. І. Шульман. Аповесць аб лёсах журналісткі, на якой жыцці незабыўнае пятно пакінула вайна.

30) VIII.1980 г. — „Telegram za zaliczeniem“ („Прымеце тэлеграму ў доўг“, 1979 г.). Рэж. Л. Нечаева. Аповесць аб 12-гадовым хлопцу, які перажывае першыя жыццёвыя расчараванні.

31) IV.1982 г. — „Wezmę twój ból“ („Вазьму твой боль“, 1981 г.). Рэж. М. Пташук. Паводле рамана Івана Шамякіна пад такім жа загалоўкам. Псіхалагічная драма. Чалавек праз 35 год пасля вайны сустракае забойцу свае сям'і ў часы вайны.

32) IV.1983 г. — „Żagle mojego dzieciństwa“ („Ветразі майго дзяцінства“, 1981 г.). Рэж. Л. Мартынюк. Экранізацыя рамана В. Хомчанкі „Чырвоныя хвалі“. Прыгодніцкі маладзёжны фільм з часоў змагання за Савецкую ўладу на Беларусі.

33) X.1983 г. — „Ludzie z bagien“ („Людзі на балоце“, 1981 г.). Рэж. В. Тураў. Экранізацыя рамана Івана Мележа пад такім жа загалоўкам. Палеская вёска ў 20-я гады на фоне грамадска-палітычных пераўтварэнняў у Савецкай Беларусі. Узнагароджаны некалькімі прызамі.

34) X.1984 г. „Powiew burzy“ („Дыханне навальніцы“, 1983 г.). Рэж. В. Тураў. Экранізацыя рамана Івана Шамякіна „Начныя зарніцы“, прысвечанага пераўтварэнням у беларускай вёсцы ў 30-я гады.

35) I.1985 г. „Białe Rosy“ („Белыя росы“, 1983 г.). Рэж. І. Дабралюбаў. Грамадская драма пра перамены ў беларускай вёсцы, далучанай да горада.

36) II.1985 г. — „Mecenas sztuki“ („Мецэнат. Культпаход у тэатр“, 1982 г.). Рэж. В. Рубінчык. Гумарыстычная аповесць пра вясковага дзеяча і апекуна аматарскага руху.

**П. Байко**









**Мікола Гайдук**

# АДГЭТУЛЬ МЫ РОДАМ

## Драгічын

Як згодна сцвярджаюць усе сур'ёзныя гісторыкі навейшых часоў, нашы землі здаўна былі густа заселенай тэрыторыяй. На ёй вельмі рана ўзнікла і развілося некалькі асяродкаў гаспадарчага і палітычнага жыцця. Сярод іх цэнтральнае месца займаў Драгічын і яму неабходна прысвяціць болей увагі. І то перш за ўсё таму, што з лёгкай рукі польскага храніста Яна Длугаша (1413-1480), які ў сваёй „Гісторыі Польшчы“ пад 1112 годам назваў Драгічын сталіцай і самай магутнай крэпасцю Яцвягіі і такім чынам на доўгія стагоддзі Пабужжа і Панароўе цалкам беспадстаўна было прыпісана ва ўласнасць колішнім нашым паўночным суседзям — яцвягам. Красачны длугашаў запіс прыбралі буйнай выдумкай і шырока распаўсюдзілі гісторыкі і публіцысты XIX стагоддзя, а ў іхняй немалой грамадзе бясспрэчнае першынство належала Юзафу Ярашэвічу (1793-1860), які нарадзіўся і ўзгадаваўся ў Бельску Падляшскім. Як моцна ўздзейнічала напісанае імі на тадышняга чытача, сведчаць не толькі самотныя і групавыя паломніцтвы ў Драгічын, на Замкавую гару, але і тое, што нават і сёння сярод людзей з навуковымі званнямі нярэдкасць такія, якія шчыра вераць длугашавай легендзе і лічаць сябе яцвягамі, амаль што нашчадкамі выдуманых яцвяжскіх князёў-кунігасаў з Драгічына.

Хоць верагоднасць гэтага запісу і выклікала сумненні ў некаторых вучоных раней, але праўдзівае змаганне за гістарычную праўду пачаў толькі рускі археолаг і краязнавец Мікалай Авенарыус (1835-1903). На падставе сваіх 7-гадовых (1882-1888) раскопак у Драгічыне і даследаванняў гарадзішчаў і могільнікаў у розных мясцовасцях паміж Бугам і Нарвай ён сцвердзіў, што гэтыя землі насялялі дрыгавічы і няма тут ніякіх слядоў сталай бытнасці яцвягаў. Гэта пацвердзілі і дзесяткі іншых вучоных. Яны за мінулыя 100 год сабралі вялікую колькасць археалагічных знаходак, якіх багата ў Беластоцкім акруговым музеі, а таксама ў археалагічных музеях Варшавы і Ленінграда, у Гродзенскім абласным краязнаўчым музеі. Цяпер паўстаў краязнаўчы музей у Драгічыне. Трэба спадзявацца, што з бегам часу ён стане найлепшым захавальнікам багатага мінулага Драгічына — выдатнага дрыгавіцкага горада на Бузе.

Старажытнаму Драгічыну прысвечаны некалькі дзесяткаў навуковых артыкулаў, сярод якіх асаблівай каштоўнасцю вылучаюцца працы варшаўскага археолага Крысціны Мусяновіч. І так, Драгічын — дагэтуль адно з найлепш даследаваных на Пабужжы і Панароўі гарадзішчаў. Археолагі і па сённяшні дзень у ім не вылазяць з раскопак. Кожны сезон прыносіць усё новыя адкрыцці, а працы тут на доўгія дзесяцігоддзі.

Якім жа быў старажытны Драгічын?

Шмат было прычын для таго, каб гэты стромкі, пагоркаваты бераг Буга чалавек здаўна аблюбаваў сабе на паселішча. Магутны і паўнаводны Буг — невычэрпная кладоўка харчоў: рыбы, птаства і іншых вадзяных жывёлаў; заліўныя лугі — добрая паша для свойскай жывёлы; навакольныя буйныя лясы — багацце розных пладоў і звярыны ды дрэва на будынкі, разнастайныя вырабы, абаграванне; залежы балотнай руды — сыравіна для вырабу зброі і прыладаў; паклады гліны — на посуд, абсталяванне, а навокал да таго — даволі ўраджайная глеба. Яшчэ плынь магутнай ракі, што злучае казачны поўдзень з яго багаццямі з бурштыновай поўначчу. І чаго ж дзівавацца, што ад часоў, як толькі сышоў адсюль ледавік (12-15 тысяч год таму назад), амаль непарыўным цягам тут жылі людзі, а ў драгічынскай зямлі, быццам у торце, спачываюць напластаваныя археалагічныя помнікі з 10 мінулых тысячагоддзяў.

Для нас жа найважнейшае тое, што ад заранку свайго існавання тут жылі дрыгавічы. Пра гэта непадважальна сведчаць толькі ім уласцівыя помнікі: курганныя могільнікі з захаванымі ў іх астанкамі нябожчыкаў — раней спаленыя, у пазнейшы час з трупапалажэннямі, — рэшткі будынкаў, якія ставіліся на паверхні зямлі „ў зруб“, скроневыя кольцы ў паўтара звітка, зярнёныя пацеркі і іншае. Ды і сама назва „Драгічын“ абазначае мясцовасць, у якой жывуць дрыгавічы, якая належыць дрыгавічам. Тут таксама знаходзяцца пахаванні ў каменных абкладах, скроневыя кольцы з завітком у форме польскай літары „S“ і іншыя прыкметы, уласцівыя мазаўшанам. Значыць, спакон веку ў Драгічыне і яго наваколлі ў асноўным жылі дрыгавічы, а сярод іх — мазаўшане. Сужыццё было мірнае, з узаемнымі ўздзеяннямі, бо ў мазавецкіх могільніках знаходзіцца многа дрыгавіцкіх рэчаў, а ў дрыгавіцкіх — мазавецкіх, могільнікі таксама распалажаны адны паблізу другіх.

Ужо ў VII-VIII стагоддзях нашай эры на месцы сённяшняга Драгічына было значнае дрыгавіцкае паселішча. Жыхары яго мелі жывыя сувязі не толькі з іншымі дрыгавіцкімі асяродкамі як Бярэсце (сённяшні Брэст), Тураў і іншымі, але і з другімі краінамі. Гэтаму доказ знойдзеная тут сярэбраная манета — арабскі дырхем з 746-7 года з Дамаска. У наступным стагоддзі тут быў захаваны аграмадны скарб каля 300 манет з розных манетных двароў (аж з 27) аграмаднай аравійскай імперыі, большасць з тэрыторыі Ірана. Яны былі выпушчаны ў свет у 713-894 гадах. Тады, мабыць, Драгічын вырастае ў важны і рухлівы гаспадарчы і гандлёвы цэнтр. У ім крыжуюцца міжнародныя шляхі: адзін з Чорнага мора па Дняпры, Прыпяці, Бузе, Вісле ў Балтыйскае мора; другі — з Заходняй Еўропы праз Вроцлаў, Каліш, Лэнчыцу, Плоцк, Драгічын, Брэст, Ваўкавыск, Навагрудак і далей на аграмадныя абшары Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропы ды Сярэдняй Азіі. Ад гэтага вялікага скрыжавання шляхоў адыходзілі іншыя тракты: адзін з іх вёў праз Візну ў Яцвятгію і далей у глыб зямель старажытнай Прусіі, Самбіі, Жамойціі; другі ж кіраваўся па Бузе ў Чэрвень і далей, праз Галіч, у Наддунайскія гарады; іншыя ішлі ў бліжэйшыя мясцовасці — Гродна, Люблін і г.д. Гэтыя ажыўленыя міжнародныя гандлёвыя сувязі Драгічына пераканаўча пацвярджаюцца тым мноствам розных рэчаў, якія за мінулыя сто год знайшлі ў ім археолагі і надалей знаходзяць.

Чаго толькі прывазнога не знайшлі ў Драгічыне! З Далёкага Усходу праз Візантыю і Кіеў трапіла сюды залататканая парча і каштоўныя шоўкі; з Візантыі — нагрудныя крыжыкі і іконы, мастацкія вырабы; з Кіева — шкляныя пацеркі, пярсцёнкі, бранзалеткі, круглыя аконныя шыбіны і мноства іншых вырабаў; з Гродна — паліваныя керамічныя пліткі для выкладкі падлогі ў царкве і палацы („павалушы“) княжацкага пасадніка і інш.; з капальняў ружовага сланцу ў Оўручы на Паўднёвым Палессі — надта ж модныя ў тыя часы прасліцы (кружочкі для абцяжвання верацёнаў); з далёкага Заволжа — волава і медзь, з Заходняй і Паўднёвай Еўропы (гарадоў над Рэйнам, італьянскай Венецыі) — нейкія надзвычай каштоўныя тавары, ад якіх захаваліся меткі; апрача таго па Бузе з капальняў на Галіччыне плыла соль; з Валыні — збожжа; а з усіх бакоў гналі на драгічынскі торг нявольнікаў, якіх скуплялі тут арабскія і візантыйскія купцы.

У Драгічыне адбываўся продаж разнастайных тавараў, якія накіроўвалі ў Польшчу, Скандынавію і Заходнюю Еўропу князі і баяры з розных княстваў Кіеўскай Русі, у тым ліку з Кіева, Чарнігава. Пасля іх засталіся тут тысячы алавяных пломбаў з апазнавальнымі знакамі ўладальнікаў тавараў і камы волава, у якія былі пераплаўлены выкарыстаныя пломбы. Аб вялікім размаху гандлю ў Драгічыне найбольш пераканаўча сведчаць знойдзеныя часткі лічыльнікаў, якія неабходны пры абарачэнні вялікімі лікамі і сумамі. Гандлявалі таксама і каштоўнымі металамі і іншымі дарагімі рэчывамі, бо тут аказаліся і часткі падвясных, вельмі чулых вагаў. І на гэтым спынімся, бо проста немагчыма пералічыць нават і часткі тавараў, якія праходзілі праз Драгічын у розныя кірункі свету.

Аднак не толькі на гандлі стаяў ды развіваўся Драгічын у VII-XIII стагоддзях. Тыя ж археалагічныя даследаванні выявілі тут высокі ўзровень мясцовага рамяства. Перш за ўсё ў Драгічыне паўстаў магутны ганчарны асяродак, пад уздзеяннем якога на працягу некалькіх стагоддзяў знаходзілася ганчарства Пабужжа і Панароўя. Драгічынскія ганчары выраблялі вялікую колькасць начынняў асаблівых, уласцівых толькі ім, прыгожых формаў з цікавымі здобінамі. Своеасаблівым водгуллем гэтага старажытнага майстэрства з'яўляецца цяперашняя, гэтак званая, чорная кераміка Беласточчыны.

Славіліся таксама драгічынскія кастарэзы, якія пераважна са згубленых аленямі, ласямі і іншымі дзікімі звярамі рогаў выраблялі перш за ўсё густоўна здобленыя грабяні, гузікі, тронкі нажоў і інш. Усю ўсходнюю частку горада складалі печы для выплаўкі жалеза з балотнай руды і кузні, у якіх выраблялі зброю і самыя разнастайныя рэчы агульнага ўжытку. У заходняй частцы горада жылі дзегцяры, іхні выраб — дзёгаць — карыстаўся ў тыя часы вялікім попытам: ім смалавалі лодкі, гарбавалі скуры на абутак і вупраж, ужывалі на лякарства і г.д. Развіваліся і іншыя рамёствы, як ювелірнае, шавецкае, кравецкае, а нават мясніцкае, на якое паказваюць з вялікім умельствам разбураныя косці ўбойнай жывёлы і г.д. Жылі ў Драгічыне рыбакі, перавознікі, сяляне, бортнікі і інш.

Драгічын у раннім сярэднявеччы — гэта не адно вялікі дрыгавіцкі гандлёва-рамесніцкі цэнтр. Ён таксама — магутная крэпасць, якая ахоўвала насельніцтва, гандлёвыя шляхі і заходнюю мяжу Тураўскага княства. Моцны гарнізон займаў не толькі непрыступную крэпасць, што з вышыні цяперашніх рэштак размытай Бугам Замкавай гары пільна сачыў за наваколлем і горадам, але вайсковая дружына насяляла значную частку горада, асабліва яго заходні „пасад". Пра гэта сведчаць знойдзеныя там шматлікія мячы, тапары, вастрыі коп'яў, астрогі і іншае ўзбраенневояў і збруя іхніх коней. Частыя знаходкі стальных наканечнікаў стрэлаў і коп'яў, пласты вуголля і попелу ды выпаленыя, як чарэнь у старой печы, гліняныя адхоны Замкавай гары найбольш красамоўна расказваюць аб кровапралітных змаганнях абаронцаў горада.

Хто яны, чые астанкі спачылі ў курганах навокал Драгічына і палеткі, на якіх пераважна зраўнялі саха ды плуг наступных стагоддзяў? Напэўна гэта былі мужныя людзі, якія не ашчаджалі сябе ў ахове рубяжоў дрыгавіцкай зямлі ад нападаў чужынцаў. І явіцца яны нам непахісныя духам і моцныя целам, у зялючых шаломах, захінутыя надзейнымі шчытамі, з апушчанымі забраламі і з адмысловай зброяй, у руках іх былі магутныя мячы — рэшткі аднаго з іх знайшлі археолагі ў Драгічыне, і ён лічыцца самым цяжкім мячом з усіх, дагэтуль знойдзеных







на тэрыторыі Польшчы. Але не толькі ваеннае рамяство было сутнасцю іх жыцця. На знойдзеным тронку з турынага рабра ад баявога нажа захаваўся выразаны яго ўладальнікам надпіс: „Ежковъ ножъ а иже украдетъ проклятъ б(удетъ)". Ён якраз — найлепшы доказ адукаванасці драгічынскага рыцарства.

Густоўныя здобіны на вастрыях коп'яў і іншых ужытковых рэчах, прыгожыя забаўкі, элегантныя формы посуду і г.д. — усё гэта даказвае, што жыхары Драгічына ўзроўнем свайго жыцця і духоўнымі запатрабаваннямі зусім не ўступалі насельніцтву іншых гарадоў і краін сярэднявечнай Еўропы. Затое вылучаліся сярод іх тым, што гасцявалі купцоў з розных бакоў і краін. А на торгу ды прыстані ў Драгічыне чуваць былі мовы ўсяе айкумены — вядомага тагачасным еўрапейцам свету.

На высокі ўзровень духоўнага жыцця жыхароў сярэдневяковага Драгічына — купцоў, рамеснікаў, сялян і іншага працоўнага люду — паказвае знойдзенае археолагамі мноства нацельных крыжоў усходняй „грэчаскай" формы, кавалачкі каменных іконак. Няма сумнення, што тут на заранку хрысціянства ва Усходняй Славяншчыне была вялікая хрысціянская абшчына, знаходзіліся цэрквы. Жыло таксама духавенства, якое апрача спаўнення рэлігійных трэбаў, навучала дзяцей асновам граматы — чытання, пісання, лічэння і г.д.

Такі выдатны цэнтр гаспадарчага жыцця, якім быў Драгічын у VII-XIII стагоддзях, моцна ўздзейнічаў на ўсё наша Пабужжа і Панароўе. Пад яго аховай і кіраўніцтвам знаходзілася моцная сетка крэпасцяў, якія гарантавалі бяспеку няспынна гусцеючаму тут насельніцтву і купцам. Лёгкі і карысны збыт мясцовых вырабаў і прадуктаў ды шырокія магчымасці набыцця вырабаў і прадуктаў з другіх рэгіёнаў Тураўскага княства ды іншых краін прыцягвала сюды ўсё больш кмецяў, рамеснікаў, гандляроў і іншага вольнага люду. Сярод тутэйшага карэннага дрыгавіцкага насельніцтва, ахвотна сяліліся выхадцы з Мазоўша, Яцвягіі, Літвы, Валыні. І так, на заходняй ускраіне Тураўскага княства паўстаў і ўмацаваўся з бегам часу рэгіён, які паступова ўсё актыўней дамагаўся палітычнай самастойнасці. Складваліся падставы будучага Драгічынскага княства.

**Наш шлях да хрысціянства.**

На пытанне, калі нашыя продкі сталі хрысціянамі, дакладна і коратка адказаць надта ж цяжка, проста немагчыма. А гэта таму, што дасюль не ўстаноўлены навукай сціслa вызначаныя даты прыняцця хрысціянства паасобнымі славянскімі народамі. Доказам тыя многія сотні, ці нават тысячы кніг, даследаванняў, меркаванняў, разважанняў, выказванняў, якія ад заранку хры-

сціянства на Славяншчыне паяўляюцца ў свеце, пачынаючы ад розных хронік і летапісаў, у тым ліку і найранейшых запісаў у самым старажытным усходнеславянскім летапісе „Аповесці мінулых часоў“ („Повести временных лет“). І гэта не выпадкова, бо пранікане хрысціянскай веры на нашыя землі пачалося вельмі рана, ужо ў першыя стагоддзі яе існавання. Спачатку як вера нявольнікаў, ніжэйшых пластоў насельніцтва, затым таксама заможных і пануючых класаў хрысціянства з пабярэжжаў Міжземнага і Чорнага мораў вельмі актыўна праменіла на ўсход і захад. Яго пашыралі купцы, ваяўнікі, уцякаючыя з няволі палонныя і нявольнікі.

Упершыню вялікім струменем хрысціянскія ідэі праніклі на наша Пабужжа і Панароўе ўжо ў часы рымскага імператара Канстанціна Вялікага (панаваў у гадах 306-337), пры якім хрысціянства стала дзяржаўнай рэлігіяй у тагачаснай Рымкай імперыі. Якраз у тыя часы хрысціянскае веравызнанне прымаюць прывандраваўшыя з-над вусця Віслы паўз Нарву, Прыпяць і Днепр на чарнаморскае пабярэжжа германскія плямёны готаў. Пасля перамогі над імі ў 323 годзе Канстанціна Вялікага, значная іх колькасць прымае хрысціянства, паўстае нават гоцкая епархія, якую ўзначальвае епіскап Вульфіла. Для нас важна тое, што готы некалькі стагоддзяў карысталіся тым шляхам, якім яны прывандравалі з балтыйскага на чарнаморскае пабярэжжа. Гэты вельмі рухлівы ў тыя часы шлях быў даступны таксама іншым, скораным або саюзным готам, плямёнам, у іх ліку і праславянам. Якраз па ім на наша Пабужжа і Панароўе даходзіла ў IV-V стагоддзях моцная хваля вучэння Хрыста і пранікала ў гушчу тутэйшага насельніцтва. І трэба вельмі ўважліва і карпатліва вывучаць рэшткі вялікага гоцкага паселішча ў Цэцэлях каля Сямяціч, бо яно ў тамтыя часы ахоўвала гэты шлях і ў ім магла жыць першая значная хрысціянская абшчына на нашых землях.

Гэтыя першыя тхненні хрысціянскіх ідэй на Пабужжы і Панароўі неўзабаве загінулі ў крывавым вадавароце вандровак народаў (VI-VII стагоддзі) і перш за ўсё падчас панавання тут лютых азіяцкіх заваёўнікаў — гунаў і авараў. Толькі праз некалькі стагоддзяў, калі ўжо суцішыліся зніштажальныя нашэсці стэпоўцаў, канчаткова сфармаваліся і ўсталяваліся на сваіх землях усходнеславянскія плямёны ды пачалі наладжвацца іх сувязі з суседнімі і больш адлеглымі народамі, у Славяншчыну з поўдня і захаду ўсё мацнейшай хваляй пачало даходзіць хрысціянскае вучэнне. Цяпер яго прапаведваннем, пашырэннем і ўмацаваннем займаюцца не толькі купцы ці беглыя з няволі вoi і рабы, але перш за ўсё належна падрыхтаваныя місіі прапаведнікаў, манахаў і святчэннікаў. Да хрысціянства прыхіляецца ўсё болей племяннной старшызны, князёў і іх прыбліжаных.









**Царква Праабражэння Гасподня на гары Грабарцы. XVIII стагоддзе. Графіка У. Петрука.**

Хрысціянства ўваходзіла ў жыццё славянскіх народаў у зацяжных змаганнях з язычаскімі звычаямі і вераваннямі. Аднак хоць і паволі, усё ж наступала хрысціянізацыя. Захаваліся звесткі, што ў 860 годзе хрысціянства прынялі невядомыя па імю ўсходнеславянскія плямёны, якія жылі паблізу чарнаморскага ўзбярэжжа, магчыма, што гэта былі ўглічы і ціверцы. Усё часцей выказваецца меркаванне, што хрысціянства пашыралася ў Кіеве пры панаванні там князёў Аскольда і Дзіра (каля 860-882 г.г.) і пры іх была ўстаноўлена ў 862 г. кіеўская епархія на чале з епіскапам. Магчыма, што ўжо ў тыя часы хрысціянства пранікла таксама на наша Пабужжа і Панароўе. Аднак у 882 годзе пануючы ў Ноўгарадзе Вялікім князь Алег здабывае Кіеў, забівае Аскольда і Дзіра, разграмляе не толькі кіеўскую хрысціянскую абшчыну, але праследуе хрысціян і ў суседніх землях, таксама, мабыць, у часова ім падпарадкаваных крывічоў і радзімічаў. Пашырэнне хрысціянства на ўсходнеславянскіх землях на некаторы час запавольваецца.

Затое ў тым жа часе буйна развіваецца яно ў Вялікамараўскай дзяржаве, якая ўзнікла пры князі Майміры ў 830-833 гадах

на тэрыторыі сённяшняй Маравіі, узмоцнілася пры панаванні князя Расціслава (846-870) і дайшла да найбольшага тэрытарыяльнага абсягу і магутнасці пры князі Святаполку (870-894), але пры яго сынах заняпала і трапіла пад панаванне суседзяў — немцаў, чэхаў і венграў. Якраз князь Расціслаў, каб дабіцца незалежнасці ад Нямеччыны таксама і ў царкоўных справах, запрашае ў 862 годзе з Канстанцінопаля ў сваю дзяржаву двух выдатных прапаведнікаў хрысціянства — братоў Кірылу і Мяфодзія. Варта прыпомніць, што гэтыя славутыя „першанастаўнікі славянскія“ былі вынаходцамі славянскага алфавіта (глаголіцы), першымі найбольш плённымі перакладчыкамі свяшчэннага пісання на мову славянскага племені другувітаў, якія насялялі наваколле роднага братам горада Салонікаў, стваральнікамі славянскага богаслужэння. Дзякуючы іх актыўнай дзейнасці богаслужба і свяшчэннае пісанне на славянскай мове хутка пашыраюцца ў Вялікамараўскай дзяржаве. Пры панаванні Святаполка ў склад Вялікай Маравіі ўваходзілі, між іншым, сённяшні Шлёнск, Малапольшча і суседнія тэрыторыі аж да рэк Буга і Стыра. Няма сумнення, што тады ўплывы хрысціянства са славянскай богаслужбай пранікалі таксама на Верхняе і Сярэдняе Пабужжа, у тым ліку і на нашыя землі. Аднак датуль, пакуль не будзе дакладна вывучана тая безліч археалагічных помнікаў, якімі ўслана ўсё Пабужжа, цяжка гаварыць пра інтэнсіўнасць дзеяння і трываласць уплываў тут кірыла-мяфодзіеўскай царквы.

Застаецца таксама загадкай, ці мараўская кірыла-мяфодзіеўская царква мела якія-небудзь сувязі з той плынню хрысціянства, якая адрадзілася і ажывілася на землях Кіеўскай Русі пасля смерці князя Алега, гэта значыць, пры панаванні Ігара (912-942), Вольгі (945-964), Святаслава (965-972) і Яраполка (973--980). Яшчэ больш цікава, якую ролю ў гэтых сувязях адыграла наша Пабужжа і Панароўе, асабліва яго значны гаспадарча-культурны цэнтр — Драгічын. Бо нельга выпускаць з віду тое, што ў 966 годзе хрысціянства „заходняга абраду“ становіцца дзяржаўнай рэлігіяй у Польшчы. Пры тым да актыўных рэлігійных асяродкаў у польскім Плоцку было з Драгічына сама меней у два разы бліжэй, чым у Тураў, або яшчэ далейшы Кіеў. Археалогія паказвае, што гаспадарчыя сувязі Пабужжа і Панароўя з Мазоўшам і Малапольшчай заўсёды былі ажыўленыя і рознабаковыя. Таму і ўплывы хрысціянства „заходняга абраду“ на нашыя землі былі таксама інтэнсіўныя.

Аднак гісторыя справу павярнула інакш. Пасля смерці князя кіеўскага Святаслава паміж яго сынамі: малодшым наўгародскім князем Уладзімірам і старэйшым — кіеўскім князем Яраполкам разгарэлася жорсткая барацьба за першынство і ўсю спадчыну па бацьку. У ёй перамог Уладзімір, які сваё змаганне за кіеўскі вялікакняскі пасад прыкрываў імкненнем знішчыць хрысціянства. Вартае ўвагі таксама і тое, што ўмацаваўшыся ў 978-980 гадах у Кіеве, у першы свой вялікакняскі паход у 981 годзе Уладзімір накіраваўся на верхняе Пабужжа і Пасанне, у гэтак званыя Чэрвеньскія гарады — якраз на тую ўскраіну Усходняй Славяншчыны, якая была найраней і, мабыць, най-



**Міхайлаўская царква ў Орлі. XVIII стагоддзе. Рэстаўраваная на дзяржаўны кошт у канцы 60-х — на пачатку 70-х гадоў. Графіка У. Цетрука.**

глыбей хрысціянізавана мараўскай кірыла-мяфодзіеўскай царквой, значыць, хрысціянства там мела за сабой больш за стогадовую, трывалую традыцыю. Які быў лёс хрысціянскіх абшчын у верхнім Пабужжы і на Пасанні, калі яны ў выніку гэтага паходу апынуліся пад уладай Уладзіміра, можам толькі здагадвацца па той заўзятасці і жорсткасці, з якой гэты князь узводзіў у Кіеве свяцілішча са статуямі паганскіх багоў і ў ахвяру ім загадваў забіваць хрысціян. Не пабаяўся ён нават пакараць смерцю тых вояў са свае дружыны, якія патаемна верылі ў вучэнне Хрыста. Гэта адбывалася ў той самы час, калі ў *983* і *985* гадах Уладзімір ідзе паходамі праз наша Пабужжа і Панароўе супраць яцвягаў. Ці не пацярпелі ад жорсткасці яго тутэйшыя хрысціяне? На гэтае пытанне адказ напрошваецца сам: няма сумнення, што Уладзімір моцна праследаваў на нашых землях хрысціян.

Аднак энергічны кіеўскі князь быў дальнавідным палітыкам і выдатным дзяржаўным дзеячом. Ён хутка зразумеў, што першабытныя язычаскія вераванні аджываюць у славян свой век, а хрысціянства ён не адолее, бо яно ўжо ўкаранілася, мае перад сабою перспектыву і будзе набліжаць яго княства з тымі еўрапейскімі дзяржавамі, на якія ён раўняецца. Таму публічнае ахрышчэнне Уладзіміра, яго жаніцьба з канстанцінопальскай царэўнай Аннай, аб'яўленне хрысціянства дзяржаўным вераваннем у 988 годзе ў Кіеўскай Русі было натуральным вынікам папярэдніх грамадскіх працэсаў.

Афіцыяльную хрысціянізацыю княства Уладзімір пачаў пры дапамозе вялікай місіі святароў, якія прыбылі ў Кіеў разам з царэўнай Аннай. Першае публічнае хрышчэнне насельніцтва адбылося ў Кіеве ў рацэ *Дняпры. Затым* Уладзімір, каб зацерці сваю нядаўнюю заўзятасць у абнаўленні язычаства і жорсткае праследаванне хрысціян — усе сілы і помыслы накіраваў на пашырэнне хрысціянства ў Русі. Няма сумнення, што рабіў гэта з такой жа зацятасцю і сілаю, як некалькімі гадамі раней вынішчаў яго веравызнаўцаў. Як чытаем у „Аповесці мінулых часоў", ён „и всю землю рускую кресте от коньца и до коньца... повеле рубити (г.зн. будаваць з дрэва — М.Г.) церквы и поставляти по местам идеже стояху кумиры" (статуі паганскіх багоў — М.Г.).

Вядома, увядзенне новай веры на вялікіх абшарах Усходняй Славяншчыны не праходзіла так лёгка і хутка, як пісаў летапісец. Хрысціянізацыя адбывалася вельмі марудна, праводзілася яна „зверху": новае веравызнанне прымалі перш за ўсё княжацкія службоўцы, племянная старшызна, дружыннікі і іхнія сем'і, заможныя гараджане, а народныя масы адносіліся да гэтай новай „княжацкай" веры абыякава, насцярожана, варожа і заставаліся пры сваіх папярэдніх вераваннях і, нават фармальна





**Петрапаўлаўская царква ў в. Юраўляне гм. Шудзялава. XIX стагоддзе. Графіка У. Петрука.**

прыняўшы хрышчэнне, у сваіх перакананнях і вераваннях заставаліся па-ранейшаму язычнікамі. Гэта відаць па накіраваных супраць хрысціянства паўстаннях, якія яшчэ праз сто і болей год ад часу хрышчэння кіеўлян у Дняпры ўспыхвалі ў Растова-Суздальскай зямлі (1024 г.), Ноўгарадзе Вялікім (1071 г.) і іншых паўночна-ўсходніх рэгіёнах Кіеўскай Русі. Варта заўважыць, што яшчэ ў XIII-XIV стагоддзях пад Масквою жылі і спраўлялі свае малебны язычнікі.

Зусім інакш выглядала справа на поўдні і захадзе Кіеўскай Русі. У гэтых княствах хрысціянства проста адраджалася пасля ранейшых праследаванняў яго тым жа князем Уладзімірам і таму няма ніякай чуткі ці следу пра выступленні супраць хрысціянства ў Тураўскай ці Полацкай землях. Болей таго, сярод першых епіскапскіх кафедр, якія паўсталі ва Усходняй Славяншчыне, знаходзяцца епіскопіі ў дрыгавіцкім Тураве і крывіцкім Полацку.

З усяго сказанага вынікае, што першыя цэрквы паўсталі, а дакладней — адрадзіліся, на нашым Пабужжы і Панароўі недзе каля 1000 года і то якраз у Драгічыне і Бярэсці. Мабыць, з іх заснаваннем ці адраджэннем місіянеры не мелі вялікіх цяжкасцей, бо захавалася пры жыцці частка тых хрысціян, якія разбегліся па лясных нетрах падчас паходаў 983/5 г.г. Уладзіміра на Яцвягію. Драгічынская і іншыя парафіі на Пабужжы і Панароўі былі падпарадкаваны епіскопіі ў Тураве. Але нельга забываць і пра тое, што хрысціянства „ўсходняга абраду“ пранікала на землі сённяшняй Беласточчыны таксама з Полацка праз Наваградак (сённяшні Навагрудак) і Горадню (Гродна).

**Умацаванне**

Нямнога вядома нам пра падзеі на нашым Пабужжы і Панароўі ў часы панавання папярэднікаў Мешка I (960-992) і Баляслава Хробрага (992-1025) у Польшчы і Уладзіміра Вялікага (980-1015) і Яраслава Мудрага (1019-1054) у Стараруской дзяржаве. І не таму, што тут нічога не дзеялася, а таму, што пра гэта вельмі мала запісана ў хроніках ці летапісах, бо ў тыя часы заходнія і ўсходнія славяне толькі пачыналі знаёміцца з пісьмом. Дагэтуль, як пісаў тагачасны манах Храбр, нашыя продкі карысталіся „чэртамі і рэзамі“. А на нашых землях дзеялася, напэўна, шмат такога, што моцна паўплывала на далейшы ход падзей.

Бацька Уладзіміра Вялікага — князь кіеўскі Святаслаў Ігаравіч (945-972) усю моц свае федэратыўнай дзяржавы накіраваў на пераможныя паходы супраць усходніх і паўднёвых суседзяў (разбіў дзяржаву камскіх балгар і здабыў іхнюю сталіцу горад Балгар на Волзе, перамог хазараў і спустошыў іхнюю сталіцу Ітыль пры ўпадзенні Волгі ў Каспійскае мора, вёў пераможныя войны з Візантыйскай імперыяй за Наддунайскія землі). У той жа час надта занядбаў паўночныя і заходнія землі Усходняй Славяншчыны. Наша Пабужжа і Панароўе тады апынуліся пад моцным уплывам заходніх і паўночных суседзяў — мазаўшан і яцвягаў.

Некаторыя гісторыкі мяркуюць, што ў тым часе яны праз некалькі дзесяцігоддзяў уваходзілі ў склад Польскай дзяржавы. Павялічыўся таксама націск яцвяжскіх і літоўскіх плямёнаў на гэтыя землі. Адначасна прыбывала сюды насельніцтва з суседніх Мазоўша, Яцвягіі і Аўкштоціі і рассялялася паміж дрыгавічамі. Гэты стан не змяніўся і пасля смерці Святаслава Ігаравіча, калі паміж яго сынамі разгарэлася жорсткая 8-гадовая барацьба за кіеўскі пасад, а ў той жа час у Польшчы панаваў энергічны палітык Мешка I, які ўмела і ўдала ўмацоўваў польскую дзяржаўнасць. Тады таксама ўмацоўвала сваю абасобленасць дрыгавіцкая зямля — Тураўскае княства. Яно павяло незалежную ад Кіева знешнюю палітыку, выкарыстоўваючы ў ёй супярэчлівасці паміж Кіеўскай Руссю, Польшчай, Яцвягіяй і стэповымі плямёнамі печанегаў. Гаспадарчая моц і палітычная незалежнасць Тураўскага княства ў той час была значная. І таму не выпадкова, калі ў 980 г. Уладзімір, пасля таго, як пазбавіў жыцця свайго роднага брата Яраполка, заняў кіеўскі пасад і пачаў „збіраць“ пад сваю ўладу ўсходнеславянскія землі, то пасля здабыцця ў 981 г. Пасання і верхняга Пабужжа (Пярэмысль і Чэрвеньскія гарады), скарэння вызваліўшыхся з-пад улады Кіева вяцічаў у 982 г., адразу заняўся ўладкаваннем адносін з Тураўскім княствам. Мабыць, моцны тагачасны тураўскі князь за кошт саюза з Кіевам патрабаваў супольнай абароны паўночных і заходніх рубяжоў Тураўскай зямлі. І, як чытаем у „Аповесці мінулых часоў“: „В лето 6491 (983 год — М. Г.) иде Володимер на Ятвяги и победи ятвяги и взя землю их“.

Няма сумнення, што Уладзімірава дружына ішла старым дняпроўска-бужанскім шляхам: Кіеў-Тураў-Пінеск(Пінск)-Бярэсце-Дарагічын, і да іх далучаліся атрады вояў тураўскага князя. І якраз дрыгавічы былі асноўнай вайсковай сілай гэтага „палка“ — як тыя часы называлі ваенныя паходы ці экспедыцыі. Уладзіміраў „полк“ прайшоў з-над Буга за Бобру (сённяшнюю Бебжу) і аж на Нёман. Ён не толькі быў накіраваны на ўмацаванне заходніх і паўночных рубяжоў Усходняй Славяншчыны, але і спробай прабіць выхад па Нёману ў Балтыйскае мора. Няма сумнення, што гэты „полк“ праводзіўся перш за ўсё на карысць Тураўскага княства, бо ўмацоўваў яго рубяжы і нават пашыраў, асабліва на поўначы, тураўскія ўладанні. Войскі прайшлі, між іншым, і па тэрыторыі цяперашняй Беласточчыны. Іхні трывалы след — гэта густы шэраг крэпасцяў на паўночна-заходнім узмежжы ўсходнеславянскага насельніцтва (дрыгавічоў і крывічоў). Частка гэтых умацаванняў была тады адноўлена і ўзмоцнена, частка ж — заснавана. Мабыць, адноўленыя былі: Бярэсце, Дарагічын, Бранск, Сураж, Гонязь (сённяшні Гонёндз) на Бобры, Гародня на Нёмане, Ваўкавыеск на Ваўкавыі і іншыя, назвы якіх не захаваліся, але засталіся па іх гарадзішчы, земляныя насыпы і г.д. Заснаваны ж былі — Мельнік, Астражаны, Бельск, Нарва, Гародзіск на Бобры, Градзішчаны, Мсцібогаў і іншыя.

Вядома, у выніку Уладзіміравага „палка“ на нашых землях

узмацнілася роля дрыгавічоў і крывічоў, затое паслабела пазіцыя мазаўшан і яцвягаў, але насельніцтва па-ранейшаму засталося змешаным. Зрэшты, нідзе і ніколі не было так, каб граніцы дзяржаваў поўнасцю адпавядалі межам паміж плямёнамі ці народамі — заусёды і ўсюды былі і ёсць пагранічча са змешаным насельніцтвам.

Таксама на тадышнія рэлігійныя справы нельга глядзець сённяшнімі вачыма ды мерыць іх цяперашнімі меркамі. Хоць князь Уладзімір прыняў сам у 987 г. і ўвёў у 988 г. у сваім княстве як дзяржаўную рэлігію хрысціянства „ўсходняга", „грэчаскага" абраду ад Візантыі, то зусім не кваліўся падпарадкавацца ў якой-небудзь ступені Візантыі. Ён адразу павёў барацьбу за поўную незалежнасць хрысціянскай царквы ў сваёй дзяржаве ад канстанцінопальскага патрыярха, каб не дапусціць і да палітычнага падпарадкавання Кіеўскай Русі Візантыйскай імперыі.

У гэтым змаганні за незалежнасць маладой усходнеславянскай царквы ён абапіраўся на Балгарскі патрыярхат, які быў незалежны ад Візантыйскага патрыярхата і нават выступаў супраць яго. Ад Балгарскага патрыярхата Уладзімір атрымаў адукаваных святчэннікаў-місіянераў, якія прапаведвалі і служылі набажэнствы на славянскай мове, царкоўныя славянскія кнігі, начынне і іншае царкоўнае абсталяванне, а разам з гэтым у Кіеўскую Русь перайшлі ўсе нормы і структура царкоўнага жыцця, якія абавязвалі ў той час у Балгарскай Ахрыдскай патрыярхіі.

Уладзімір не цураўся таксама блізкіх сувязей з „заходнім", „лацінскім" хрысціянскім абрадам і яго сталіцай Рымам. Вядома, напрыклад, што ў 994 г. вярнулася ад папы рымскага нейкае Уладзіміравa пасольства, у 1000 г. паслы папы Сільвестра II наведалі Кіеў, а ў наступным годзе кіеўскае пасольства зноў падалося ў Рым. І гэта не павінна нас здзіўляць ужо нават таму, што ў тую эпоху розніц паміж „рымскай" і „грэчаскай" ці „заходняй" і „ўсходняй" цэрквамі ў рэлігійных абрадах не было амаль ніякіх, а афіцыйны падзел паміж імі наступіў толькі ў 1054 г. Зрэшты, і гэтая дата не абазначае пачатку адчужанасці паміж каталікамі і праваслаўнымі. А ўжо варагаванне паміж гэтымі сапраўднымі найбліжэйшымі сабе „брацiямі ва Хрысце" — гэта вынік палітычнай барацьбы розных сіл, якія часцей за ўсё не мелі нічога супольнага з хрысціянскім вучэннем і ў значна пазнейшыя часы.

І не дзіва, што ў Кіеве вельмі прыхільна быў прыняты нядаўні духоўнік нямецкага імператара Отта III, місійны епіскап Бруна з Кверфурта, які падняўся міратворчага задання — уладкаваць добрасуседскія адносіны паміж Баляславам Хробрым і Уладзімірам Вялікім. Яму не толькі ўдалося пагадзіць варагуючых паміж сабою магутных славянскіх валадароў, але нават памірыць Уладзіміра Вялікага з стэпоўцамі-печанегамі і вызваліць з печанежскай няволі Святаполка — сына Уладзіміравага — і давесці да жаніцьбы яго на дачцы Баляслава Хробрага.

Пра гэта можна было б і не ўспамінаць, калі б не тое, што Святаполк быў князем тураўскім і яго ўладзе падлягала наша Пабужжа і Панароўе. Да таго епіскап Бруна неўзабаве пасля гучнага вяселля свайго выратаванка Святаполка з польскай княжной накіраваўся з нейкім таямнічым і вельмі важным, відаць, даручэннем ад маладой пары ў Яцвягію. Свае загадкавай місіі не выканаў, бо загінуў ён у 1009 г. у не меней таямнічых абставінах недзе на дрыгавіцка-мазавецка-яцвяжскім паграніччы каля крэпасці Візна на рацэ Нарве. Мабыць, гэта наступіла на сцячэнні старажытных шляхоў з дрыгавіцкага Дарагічына і мазавецкага Плоцка, якія ўтваралі каля Візны адзін тракт у Райгарад — тадышні цэнтральны асяродак палітычнага і грамадскага жыцця Яцвягіі. Хоць агульна прынята лічыць, што Бруна накіраваўся да яцвягаў прапаведваць хрысціянства і загінуў з іхніх рук, але глыбейшыя роздумы над далейшымі падзеямі ў Тураўскім княстве схіляюць да думкі, што яго місія мела больш свецкі і палітычны характар.

Справа ў тым, што князь тураўскі Святаполк (нарадзіўся каля 978 года — загінуў пасля 1019 года) павёў патаемную, але вельмі настойлівую палітыку на поўнае адлучэнне ад Кіева.



**Капліца на могілках у в. Рыбалы гм. Заблудаў. XVIII стагоддзе. Графіка У. Петрука.**

Правёўшы адпаведную падрыхтоўку ўнутры княства і забяспечыўшыся падтрымкай свайго цесця Баляслава Хрobрага і ваяўнічых стэпоўцаў-печанегаў Святаполк у 1012 годзе аб'явіў сябе і сваё Тураўскае княства поўнасцю незалежным ад улады свайго бацькі князя кіеўскага Уладзіміра Вялікага. І тут, мабыць, крыецца загадка патаемнай місіі епіскапа Бруна ў Яцвягію, ён падаваўся туды, каб прыхіліць яцвяжскіх кунігасаў-князькоў да выступлення ў падтрымку князя тураўскага Святаполка супраць яго бацькі Уладзіміра Вялікага. Але нехта разгадаў гэтую таямніцу і смерць дагнала пасланца аж на пагранiччы. Князю Святаполку не ўдалося абараніць незалежнасць, і ў 1014 г. ён разам з жонкай і яе духоўнікам, епіскапам калабжэскім Рэйнбернам апынуліся ў Кіеве ў турме, або па-тадышняму — у „порубе" (бязвыхадным, моцна складзеным вакол чалавека зрубе — М.Г.). Аднак не на доўга, бо ў 1015 г. памірае Уладзімір Вялікі, і прыхільнікі Святаполка вызваляюць яго з „порубу" і ўзводзяць на пасад вялікага князя кіеўскага.

Здавалася б, што ўрэшце-рэшт шчасце ўсміхнулася Святаполку. Але ж па даўняму звычаю супраць шчаслiўчыка выступілі яго браты. Кожны з іх быў перакананы, што кіеўскі вялікакняскі пасад належыцца выключна толькі яму самому. А братоў-сапернікаў было ў Святаполка аж чатырох! У хуткім часе ў братабойчым змаганні за кіеўскі трон загінулі Барыс, Глеб і Святаслаў, а на паядынак са Святаполкам выйшаў Яраслаў — князь Вялікага Ноўгарада.

У бітве пад Любечам зімою 1016/17 года перамог Яраслаў. Святаполк уцёк у сваё Тураўскае княства, умацаваўся ў Бярэсці на Бузе, і тут, сабраўшы свежыя сілы з Берасцейскай зямлі, у склад якой уваходзілі тады наша Пабужжа і Панароўе, ды пры дапамозе войск, якія прыслаў яму Баляслаў Хробры, адбіў наступ Яраслава. А ў наступным, 1018 годзе, на чале дрыгавіцкіх дружын і пры дапамозе вялікай арміі Баляслава Хробрага ды падтрымцы печанегаў Святаполк разбіў войскі Яраслава і вярнуўся на кіеўскі вялікакняжацкі пасад.

Панаванне Святаполка трывала ў Кіеве нядоўга. Яраслаў зноў удала яго заатакаваў і прымусіў назаўсёды пакінуць Кіеў. Святаполк яшчэ спрабаваў пры дапамозе печанегаў адолець Яраслава, але і гэта яму не ўдалося, і ён зноў вярнуўся ў сваё Тураўскае княства, мабыць, на Пабужжа, у Бярэсце або Дарагічын. У 1022 г. Яраслаў, сабраўшы аграмадныя вайсковыя сілы, здабыў Бярэсце і недзе на Бузе, магчыма пад Дарагічынам, канчаткова разбівае Святаполка. Пасля гэтага звесткі пра Святаполка — няшчаслівага сына чэшскай і мужа польскай княжны ды князя князёў вялікіх кіеўскіх — канчаткова гінуць. Відаць, тут, недзе пад нашым Дарагічынам, у безыменным кургане спачываюць яго астанкі.







Аднак і пасля смерці Святаполка не занікае імкненне Тураўскага княства выйсці з-пад улады Кіева. І не толькі таму, што гэтага хацеў князь і яго двор, старшызна, купцы. Да таго часу ў Тураўскім княстве паўстала даволі моцная царкоўная арганізацыя на чале з епіскапам. У адным са старажытных пераказаў чытаем:

„Епископию постави в Турове в лето 6513 (у 1005 годзе — М.Г.) и придах к ней городы и погосты (асяродкі збору даніны князем з навакольнага насельніцтва — М.Г.) в послушание и священие и благословение держати себе Туровской епископии: Пинеск, Новогородок (сённяшні Навагрудак), Городень (Гродна), Берестье, Волковыеск, Здитов, Неблетеск, Дубовица, Высочко, Случеск, Копысь, Ляхов, Городок, Смедяне и поставих первого епископа Фому и придах села, винограды, земли бортные со всеми придатками... Святому Спасу и святей Богородице..."

### Блуд

Гаворачы пра змаганні Святаполка за незалежнасць Тураўскага княства ад Кіева, аніяк нельга абысці маўчаннем злавесную асобу кіеўскага ваяводы Блуда, дзейнасць якога пакінула, мабыць, заўважальны след на нашай Беласточчыне. Належаў ён да кіеўскіх магнатаў і адыгрываў пры дварах вялікіх князёў кіеўскіх Яраполка, Уладзіміра і Яраслава вельмі важную ролю.

Блуд уславіўся ў гісторыі тым, што ганебна здрадзіў свайму князю Яраполку і дапамог ягонаму смяротнаму ворагу князю Уладзіміру заняць Кіеў і давесці да забойства Яраполка ў крэпасці Родня, у якую той схаваўся пасля страты сталіцы. Як толькі пры дапамозе здрадлівага ваяводы Уладзімір умацаваўся на вялікакняскім пасадзе, зараз жа, як вядома, накіраваўся са сваімі дружынамі на заходнія рубяжы Кіеўскай Русі. Няма сумнення, што першым дарадчыкам і памочнікам маладому князю быў якраз Блуд. Калі ў 983 г. Уладзімір, як гаворыцца ў летапісе, перамог яцвягаў і ўзяў зямлю іх, першапланавая роля ў гэтым паходзе, несумненна, належала таксама Блуду.

Яцвягі былі надта ж ваяўнічымі і непакорлівымі. Адным паходам нельга было іх зняволіць. Пра гэта добра ведала кіеўская знаць ды і сам князь. Таму і было вырашана новы тэрытарыяльны здабытак замацаваць калі ўжо не безагаворачным панаваннем над ім, то хаця б аховай Тураўскага княства ад набегаў яцвягаў. Гэтая важная справа, відаць, і была даручана ваяводу Блуду. Ён і заняўся актыўнай дзейнасцю на сумежных з Яцвягіяй землях, гэта значыць на тэрыторыі цяперашняй усходняй і паўднёвай Беласточчыны: ставіў тут крэпасці для забеспячэння граніц. Не будзе пазбаўлена падстаў і меркаванне, што Блуд заснаваў тут таксама вялікую крэпасць як сваё ра-

давое ўладанне і тадышнім звычаем даў ёй назву Блудаў, гэта значыць: „прыналежная Блуду“. Ад яе і заімела затым назву Блудаўская пушча і мястэчка Заблудаў, інакш — распаложанае „за Блудавам“, за Блудаўскай пушчай.

— Добра, добра, але дзе ж знаходзіўся той Блудаў? — запытае чытач.

На жаль, дасюль нічога даставернага пра гэта сказаць нельга. Відаць, яго рэшткі ўсё яшчэ тояцца ў адным з гарадзішчаў, што параскіданы па нашай зямлі, цярпліва чакаючы свайго адкрывальніка і даследчыка. Але ўсё ж цяжка інакш растлумачыць сабе тыя падзеі, якія адбыліся на нашай зямлі ў тым часе.

Перш за ўсё смерць епіскапа Бруна Кверфурцкага — гэта справа рук якраз, мабыць, Блуда. Бо хто як хто, але гэты верны служка Уладзіміра Вялікага і выхаваўца яго сына Яраслава быў заятым ворагам незалежніцкіх імкненняў Святаполка і саюза Тураўскага княства з Яцвягіяй проста таму, што гэта пагражала ваяводавай ролі пры вялікакняжацкім двары ды ягоным маёмасным набыткам на Панароўі.

Таксама як бацьку, імкнуўся Блуд служыць і ягонаму сыну Яраславу. Толькі дзякуючы ваяводавым хітрыкам Яраславу ўдалося заняць вялікакняскі кіеўскі пасад. Відаць гэта і з таго, як падчас сутыкнення войск Баляслава Хробрага і Яраслава Мудрага ў 1018 годзе недзе каля горада Валыні на верхнім Бузе ваявода Блуд прымае самы актыўны ўдзел. Калі войскі праціўнікаў сталі насупраць сябе па абодвух берагах ракі і не выяўлялі асаблівай ахвоты біцца, ваявода сыграў ролю правакатара. Ён выехаў папярод Яраслававых дружын і стаў лаяць ды абзываць князя польскага Баляслава. У абарону гонару свайго манарха польскія дружыны кінуліся праз раку, разбілі Яраслававы войскі і Блудаў выхаванак — Яраслаў — уцёк аж у Ноўгарад Вялікі. Ваяводу-правакатару, відаць, таксама не пашчаслівілася — ён, праўдападобна, загінуў у гэтай жа бітве, бо пасля яе імя яго ўжо не сустракаецца болей у дайшоўшых да нас дакументах. Гэты факт якраз і падмацоўвае меркаванне пра сядзібу Блуда на нашай Беласточчыне. Бо чаму ж з імем гэтага ваяводы мы не сустракаемся ў паходах князёў Уладзіміра і Яраслава на ўсходнія ці паўднёвыя рубяжы Кіеўскай Русі? Было ж такіх „палкоў“-паходаў не так ужо і мала.

Пра лёс Блудавай латыфундыі на Панароўі не цяжка здагадацца — яна адразу апынулася ў руках прыхільнікаў Святаполка.

### Мужыцкая дзяржава

Пасля смерці першага польскага караля Баляслава Хробрага (каранаваўся ў 1025 годзе) у польскай дзяржаве наступіў такі



ж цяжкі крызіс, як у Кіеўскай Русі пасля смерці Уладзіміра Вялікага. Разгарэлася змаганне за трон паміж Баляслававымі сынамі Мешкам, Бяспрымам і Оттам. У польскія справы ўмяшаліся суседзі — Чэхія, Нямеччына, Кіеўская Русь. У гэтай братабойчай барацьбе выгінулі або вымерлі ўсе сыны Баляслава, а на польскі княжацкі пасад узышоў яго ўнук — Казімір Аднавіцель (1034-1058). Краіна была абрабавана і зруйнавана, цэнтральная ўлада князя кракаўскага вельмі паслабела. У 1037 годзе выбухла народнае паўстанне супраць магнатаў і царквы, якое ахапіла значную частку Польшчы. Мазоўша абасобілася і ўтварыла самастойнае княства, якое ўзначаліў былы Казіміраў прыдворны вяльможа Мецлаў або Маслаў.

Паўстанне Мецлава і дзяржава, якую ён стварыў, здаўна выклікаюць у вучоных заядлыя спрэчкі, яны не суняліся і да сёння. Гэтую з'яву адны лічаць народным паўстаннем; другі я ж — уцалеўшай ад агульнапольскага народнага паўстання часткай краіны, куды схаваліся ад народнай расправы магнаты і духавенства; трэція — аднаўленнем племянной дзяржаўнасці мазаўшан; чацвёртыя — абаронай славянскага царкоўнага абраду, які ўзяў пачатак ад Кірылы і Мяфодзія, перад наступам лацінскай літургіі. Выказваюцца яшчэ і іншыя меркаванні.

Аднак найбольш пераконвае спалучэнне некалькіх поглядаў, гэта значыць паўстанне Мецлава трэба лічыць народным паўстаннем мазаўшан, накіраваным на аднаўленне іхняй колішняй пляменнай дзяржавы з устанаўленнем славянскага царкоўнага абраду, як дзяржаўнага веравызнання. Гэты рух з цэнтрам у Плоцку ахапіў значную тэрыторыю.

Паўстаў, праўдападобна, нейкі ваенны саюз мазаўшан, памаран, прусаў, яцвягаў, літоўцаў і значнай часткі дрыгавічоў (перш за ўсё нашага Панароўя і Пабужжа), які быў накіраваны супраць націску на гэтыя землі з боку маладых кракаўскай і кіеўскай дзяржаваў і таго прыгнёту, што нёс мацнеючы ў іх феадальны лад. А традыцыі славянскага царкоўнага абраду, які пранік сюды яшчэ на пераломе IX-X стагоддзяў і прыняў тут своеасаблівыя формы, былі надта ж моцныя.

Паяўленнем небяспечнага рассадніка бунту і палітычнага канкурэнта занепакоіліся ў роўнай ступені Кракаў і Кіеў. Перапалоханы падзеямі ў краіне Казімір уцёк у Нямеччыну, але Яраслаў рук не апусціў. У „Аповесці мінулых часоў“ чытаем запіс пад 1038 годам: „Ходи князь великий Ярослав на Ятвязи и не може их взяти“. Значыць, ваенны саюз на чале з Мецлавам патрапіў даць яму адпор. Двума гадамі пазней у тым жа летапісе чытаем: „Ходи Ярослав на Литву“, але пра вынік гэтага паходу няма ні слова. Магчыма, што Мецлавава федэратыўнае аб'яднанне зноў абараніла аднаго са сваіх членаў — Літву.

У 1039 годзе з Нямеччыны вяртаецца Казімір, жэніцца на

Яраслававай дачцэ Дабранезе Марыі, бярэ за ёю аграмадны пасаг і ў асобе цесця здабывае неадступнага саюзніка ў змаганні супраць Мецлава. У 1041 годзе цесць і зяць накіравалі супраць яго ўсе свае сілы. У тым жа летапісе пад 1041 годам знаходзім: „Иде Ярослав на мазовшаны в ладьях“. Значыць, Яраславава дружына ішла па Прыпяці і Бузе. Але і з гэтай атакай Мецлаў расправіўся (недзе над Бугам, каля Бярэсця), што і цесцю і зяцю давялося аж пяць год збіраць сілы для наступнага паходу. Аднак у 1046 годзе аб'яднаным сілам Казіміра і Яраслава ўдалося напасці на Мецлава ў вельмі непрыхільным яму моманце і канчаткова разграміць нянавісную абодвум князям „смердаву“ (гэта значыць — мужыцкую — М. Г.) дзяржаву. Хоць невядома, на чыім баку была перамога, калі б не спозніліся на бітву войскі памаран ды і сам Мецлаў не загінуў на самым пачатку яе. Гэтыя фатальныя здарэнні абязволілі Мецлававы войскі.

Цесць і зяць доўга, шумна і кровапралітна святкавалі сваю перамогу — знішчожылі дашчэнту Мецлававу дзяржаўнасць і мясцовую разнавіднасць славянскага багаслужэння. Казімір Аднавіцель падпарадкаваў сабе Мазоўша, далучыўшы яго да свае дзяржавы. Яраслаў Мудры замацаваў сваю ўладу на Пабужжы і Панароўі, узмацніў заходнія і паўночныя рубяжы Кіеўскай Русі, загадаўшы аднавіць знішчожаную паўстанцамі Мецлава сістэму крэпасцей і збудаваць новыя.

Ці ўдалося Яраславу Мудраму задушыць незалежніцкія імкненні дрыгавічоў — сказаць з упэўненасцю нельга. Хутчэй за ўсё гэта было нават яму не пад сілу, калі недзе ў 1043/44 гадах ён жэніць свайго сына Ізяслава з сястрою Казіміра Аднавіцеля, княжной Гертрудай і аддае маладой пары ва ўладанне... Тураўскае княства! Якраз Ізяслаў Яраслававіч і Гертруда, дачка польскага князя Мешка II, даюць пачатак княжацкай дынастыі турава-пінскіх Рурыкавічаў. За іх панавання сувязі Тураўскага княства з яго заходнімі суседзямі мацнеюць.

У выніку гаспадарчага развіцця і імкненняў да раздраблення, што было ўласціва ўсім тадышнім краінам Еўропы, пасля смерці Яраслава Мудрага (1054 г.) Кіеўская Русь хутка распалася. Ужо праз стагоддзе на яе тэрыторыі паяўляюцца аж 72 незалежныя ад сябе і варожыя сабе малыя княствы. Гэтая з'ява не абмінула і нашых зямель.

Цяпер жа заглянем на поўнач, да Рагвалодавічаў — дзедзічаў Полацкага княства.

**Рагвалодавічы**

Хоць з Пабужжа і Панароўя ў Полацк паўтара раза далей, чым у Тураў, але сувязі нашай зямлі ў X-XI стагоддзях з магутным Полацкім княствам былі ажыўленыя і рознабаковыя. Спрыяла ім не толькі тое, што тут сярод карэннага дрыгавіц-







кага насельніцтва былі густа рассеяны астравы крывічоў (падрабязней пра гэта ў частцы „Крывічы“ ў артыкуле „Нашыя продкі“ ў „Беларускім календары“ на 1986 год). Яны, вядома, даволі доўга не парывалі сувязей са сваімі родзічамі ў Полацкім княстве, асабліва з верхнім Панямоннем. Як паказваюць знаходкі падчас археалагічных даследаванняў Драгічына, праз Пабужжа і Панароўе праходзіў рухлівы старажытны шлях, які злучаў краіны Заходняй і Паўднёвай з краінамі Паўночна-Усходняй Еўропы. Ён, між іншым, праходзіў праз Полацк і вёў на поўнач — у Пскоў і Ноўгарад Вялікі, або на ўсход — на Паволжа. Затым нашыя землі, якія складалі паўночна-заходнюю ўскраіну Тураўскага княства, непасрэдна суседнічалі з паўднёвай ускраінай абшырнага Полацкага княства і звязвала іх супольная палітыка ў адносінах да Кіева.

Таму, каб лепш зразумець падзеі на Пабужжы і Панароўі ў X-XI стагоддзях, неабходна хоць з большага прыгадаць тое, што адбывалася ў тым часе ў Полацкім княстве. А дзеялася там многае, як і пасавала моцнаму княству, галоўны горад — сталіца якога Полацк ўпамінаецца ў летапісе „Аповесць мінулых часоў“ ужо ў 862 годзе. Вядома, напрыклад, што Полацк пераможна адбіваецца ў 865 годзе ад нашэсця кіеўскіх князёў Аскольда і Дзіра. Распаложаны пры ўпадзенні рэчкі Палаты (ад яе і займеў сваю назву) у магутную Дзвіну ён хутка абрастае рамесніцкімі і гандлёвымі „пасадамі“-прыгарадамі і пераўтвараецца ў моцны палітычны і гаспадарчы цэнтр. Пад яго ўладай была вялікая тэрыторыя цяперашняй Паўночна-Усходняй Беларусі і суседніх зямель. Ад назвы свае сталіцы, як вядома, атрымала заходняя частка крывічоў назву „палаччане“. Палаччане як саюзнікі кіеўскага князя Алега ўдзельнічалі ў 907 годзе ў вялікім паходзе „на конях і караблях“ на візантыйскую сталіцу — Канстанцінопаль. Полацкае княства і яго сталіца былі добра вядомы ў тагачаснай Заходняй Еўропе — у старажытных скандынаўскіх песнях-сагах часта расказваецца пра магутную дзяржаву Палтэскію і яе князя Палтэса. Норманы — купцы і вандроўныя ваяўнікі — часта, мабыць, завітвалі ў Полацкае княства і суседнія з ім землі і, відаць, пасля іх засталіся тыя скандынаўскія мячы і лязы коп'яў, якія археолагі знайшлі ў суседніх з намі Гродне і Ваўкавыску.

Аднак першым верагодным імем полацкага князя лічыцца Рагвалод, які „держащю и владеющю и княжащю Полотьскую землю“ — чытаем у запісе „Аповесці мінулых часоў“. Гэта было ў часах, калі ў Кіеве княжылі Святаслаў (962-972) і яго сын Яраполк (972-978). Той жа летапіс кажа, што Рагвалод у Полацк прыйшоў „з-за мора“, гэта значыць, па паходжанню, быццам, ён быў норманам. Але гэтае імя можа таксама паходзіць ад літоўскага слова „рыквалд“ — уладальнік. Не пазбаўлены пад-

ставы і меркаванні, што яно мясцовае, крывіцкае: Рогвалад — уладальнік рога зямлі, які ўрэзваецца ў водную ці іншую, напрыклад — чужую, прастору.

Калі пасля смерці Святаслава паміж яго сынамі-князямі: кіеўскім Яраполкам, драўлянскім Алегам і наўгародскім Уладзімірам разгарэлася кровапралітнае змаганне за вялікакняжацкі кіеўскі пасад, полацкі князь Рагвалод стаў на бок Яраполка. Чаму? Мабыць, было на гэта шэраг прычын, у іх ліку таксама і тая, што Ноўгарад Вялікі не спыняў свайго наступу на крывіцкія землі і Полацку здаўна даводзілася змагацца супраць яго за першынства на паўночна-ўсходняй ускраіне Славяншчыны і ў гандлі на міжнародным шляху з Балтыйскага мора па Дзвіне і Дняпры ў Чорнае мора („з варaг у грэкі") ды па Балтыцы. Але вынік гэтай прыхільнасці да Кіева аказаўся для яго трагічны.

Уладзімір сабраў вялікае войска са славен-ноўгарадцаў і нанятых за морам норманаў-варагаў і перад тым, як рушыць на Яраполка, рушыў перш за ўсё расправіцца з саюзнікам свайго праціўніка. І тут у „Аповесці мінулых часоў" знаходзім адну з самых красачных і павучальных легенд у нашай гісторыі. Немагчыма не прыгадаць яе.

Уладзімір паслаў перадаць Рагвалоду: „Хачу ўзяць дачку тваю сабе ў жонкі". Бацька запытаў сваю адзіную дачку-любіміцу Рагнеду: „Ці хочаш выйсці за Уладзіміра?" Але ж ёй падабаўся князь кіеўскі Яраполк — любімец ягонай бабулькі княгіні Вольгі, якая акружыла Яраполка адукаванымі грэчаскімі выхавальцамі, і зрабіла з яго светлага, культурнага чалавека. Рагнеда спадзявалася выйсці за яго замуж, таму рашуча адказала бацьку: „Не хачу разбуць сына нявольніцы, хачу ісці за Яраполка". Што ж, на такі ганарлівы адказ у яе былі не абы-якія падставы: Уладзімір быў сынам Малушы — служанкі-ключніцы ў двары княгіні Вольгі. Затым Уладзімір узначальваў язычаскія дружыны, варожыя глыбока хрысціянізаванаму ўжо тады і на высокім культурным узроўні Полацку. І полацкай князёўне „чыстай" крыві і, напэўна, ужо тады хрысціянцы не да спадобы было замужаства з „нізкага паходжання" ды паганскім наўгародскім князем. На тое Уладзімір „собра вои своя многы" ды напаў на Полацк якраз у той момант, калі „хотяху Рогнеду вести ко Ярополку". Атака была, відаць, неспадзяваная і вялікай моцы, бо палачане панеслі паражэнне. Хоць князь Рагвалод здолеў выйсці цэлым з поля бітвы і зачыніцца ў Полацку, але Уладзіміравы дружыны прыступам здабылі горад. Загінулі Рагвалод, яго жонка, абодва сыны. Полацк быў абрабаваны, а Полацкае княства падпарадкавана Уладзіміру. Рагнеда ж апынулася ў ложы пераможцы. Уладзімір узяў яе ў свае жонкі (было іх у яго пяць ці шэсць) і даў імя Гарыслава (інакш: ззяючая славай).







Неўзабаве Уладзімір перамог Яраполка і ўмацаваўся на вялікакняскім кіеўскім пасадзе. Але незайздросны лёс спаткаў княгіню Рагнеду-Гарыславу, бо, як заўважае летапісец, князь быў ненасытны „блудом, приводя к себе мужеские жены и девицы растляя". Неўзабаве пасадзіў ён княгіню Рагнеду воддаль сталіцы, у крэпасці на гары Лыбедзь, на правах адхіленай жонкі. Але яна не паддалася, не ўпала духам. Чакала зручнага моманту, каб адпомсціць за ганьбаванне сябе і смерць яе родзічаў.

Калі аднойчы Уладзімір, наведаўшы Рагнеду, заснуў, яна вырашыла зарэзаць яго. Князь прачнуўся ў апошні момант, схапіў жонку за руку, у якой яна трымала нож, і такім чынам пазбег смерці. На пытанне, чаму яна рашылася на такое, Рагнеда шчыра адказала: „За тое, што ты бацьку майго забіў і запаланіў яго зямлю ды не кахаеш мяне з гэтым вось дзіцянём" і паказала на сына Ізяслава. Хоць і кранулі гэтыя словы Уладзіміра, але ён усё ж загадаў ёй падрыхтавацца да смерці. Рагнеда апранула свой колішні шлюбны ўбор і села на пасцель, а малалетку Ізяславу падала выняты з ножнаў меч і павучыла: „Як прыйдзе сюды бацька, скажы яму: „Ты не адзін тут!" І калі з'явіўся князь, убачыў агалены меч у руках сына і, пачуўшы ягоныя словы, сказаў: „А хто ж ведаў, што ты тут?.." Рука яго не паднялася выканаць на жонцы і сыне смяротны прысуд.

Усхваляваны, ён склікаў баярскую раду і расказаў пра гэтае здарэнне. Баяры параілі Уладзіміру: „Не забівай ты яе дзеля дзіцяці гэтага, але аднаві айчыну яе і аддай ёй з сынам сваім". І князь паслухаў парады: пабудаваў новы горад, якому даў назву Ізяслаўль (сённяшняе Заслаўе каля Мінска) у гонар сына і „пасадзіў" у ім Рагнеду-Гарыславу з сынам Ізяславам. Аднак летапісец не прамінуў заўважыць, што гэта не суцішыла барацьбу Полацкай зямлі супраць Кіева за сваю самастойнасць: „І з таго часу меч падымаюць Рагвалодавы ўнукі на ўнукаў Яраслава".

Вядома, легенда — легендай, яна надта ж наіўна тлумачыць тадышнія вельмі складаныя палітычныя працэсы. На самай справе князь кіеўскі рабіў усё, каб утрымаць пад сваёй уладай Полацкую зямлю, якая пасля паражэння хутка адбудоўвала сваю палітычную незалежнасць, абапіраючыся на моцнай гаспадарцы. Якраз сын князя кіеўскага сваёй асобай павінен быў гарантаваць яе падпарадкаванне Кіеву. Перанясенне ж сталіцы Полацкага княства ў цалкам новы горад было нацэлена на заціранне традыцый пра яго ранейшую незалежнасць і славу.

Аднак гэтыя намеры Уладзіміра і яго двара не здзейсніліся. Пад уплывам Рагнеды і дзякуючы заахвочванню полацкай знаці пры першай нагодзе Ізяслаў пасяліўся са сваім дваром у Полацку. Ён не толькі аднавіў і належна ўмацаваў княжацкую крэпасць свайго дзеда Рагвалода, „сабраў" пад сваю ўладу ўсе

ранейшыя землі Полацкага княства, але і пайшоў яго следам, імкнучыся весці ўласную, незалежную ад бацькі, палітыку. Наколькі яму гэта ўдалося, найлепш сведчыць тое, што пасля яго смерці ў 1001 годзе Уладзімір не наважыўся „пасадзіць“ на полацкім княжацкім пасадзе каго-небудзь са сваіх сыноў. Князем полацкім стаў Брачыслаў — сын Ізяслава, праўнук Рагвалода. Такім чынам была адбудавана дынастыя патомных полацкіх князёў.

А што сталася з галоўным узнавіцелем моцы і славы Полацкага княства — Рагнедай-Гарыславай?

Як перадаюць летапісцы, яна настала жыла ў Ізяслаўлі. Калі Уладзімір пасля свайго хрышчэння і жаніцьбы з візантыйскай царэўнай Аннай „выдаваў замуж“ сваіх папарэдніх жонак і запрапанаваў Рагнедзе выйсці за любога з яго баяраў, яна адмовілася таксама рашуча, як некалькімі гадамі раней яму самому і пастрыглася ў манашкі. Прыняла новае імя Анастасія, пабудавала ў Ізяслаўлі манастыр і памерла ў ім у 1000 годзе. Відаць, гэта Рагнеда выдатна прычынілася да заснавання ў 992 г. Полацкай епіскопіі.

Адпомсціў Ноўгараду Вялікаму за крыўды Полацка ажно ўнук Рагнеды-Гарыславы — князь полацкі Брачыслаў. Ён у 1021 годзе пайшоў вялікім паходам на Ноўгарад, здабыў яго, абрабаваў, спаліў і вывеў з Ноўгарадскай зямлі мноства палонных і прывёз у Полацк аграмадныя багацці. Хоць князь кіеўскі Яраслаў Мудры (прыходзіўся ён родным дзядзькам Брачыславу) напаў на яго, але скарыць не здолеў. Каб мець у асобе Брачыслава саюзніка, а ў Полацкім княстве падтрымку, Яраслаў аддаў ва ўладанне Полацка значны абшар раней падпарадкаваных Кіеву зямель з гарадамі Усвяцк і Віцебск. Гэтым яму ўдалося прыхіліць Брачыслава прыняць удзел у паходзе супраць мазавецкага ўладара Мецлава — Яцвягіі (у 1038 г.), а затым (у 1041 г.) — супраць самога Мецлава. Тады полацкія дружыны Брачыслава прайшлі і праз наша Панароўе і Пабужжа, як саюзнікі Яраслава Мудрага і Казіміра Аднавіцеля. Праўда, пацярпелі паражэнне. Аднак тады, мабыць, умацавалася крывіцкае ўладанне на Сярэднім Панямонні (Горадна, Ваўкавыеск, Слонім, Наваградак, Крывы Горад і інш.).

У 1044 годзе памёр Брачыслаў, але Яраслаў Мудры не змог і нават не спрабаваў „пасадзіць“ на полацкі княжацкі пасад каго-небудзь са сваіх сыноў. Адроджаная і моцная дынастыя Рагвалодавічаў узняла на гэты пасад Брачыслававага сына Усяслава, пры панаванні якога Полацкае княства дасягнула свайго росквіту і магутнасці.

Усяслаў — гэта быў мудры палітык, таленавіты военачальнік, дасканалы адміністратар. Нездарма ж сучаснікі назвалі яго Чарадзеем. Ён падобна, як і бацька, расправіўся з адвечным канкурэнтам Полацкага княства — Ноўгарадам Вялікім; у 1066 годзе здабыў яго, абрабаваў і спаліў. Але ў выніку супольных намаганняў сыноў пакойнага ўжо Яраслава — князёў Ізяслава, Усевалада і Святаслава — панёс паражэнне на рацэ Нямізе пад Менскам (сённяшнім Мінскам) і затым трапіў у „поруб“ у Кіеў. Аднак незвычайныя дараванні гэтага чалавека не дазволілі яму загінуць. У 1068 г. у Кіеве ўспыхвае народнае паўстанне і кіяўляне вызваляюць з „порубу“ Усяслава ды ўзводзяць на пасад вялікага князя кіеўскага. Аднак Усяслаў не захацеў заставацца на гэтым ганаровым і цяжкім пасадзе, ён неўзабаве вярнуўся ў родны Полацк. Пасля смерці Усяслава ў 1101 годзе Полацкая зямля была падзелена паміж яго сынамі на некалькі ўдзелаў і яе моц паслабла.

Але нам пара вяртацца на наша Пабужжа і Панароўе.

### Прынадны кавалак

Адначасова з развіццём Дарагічына як магутнага гандлёвага, рамесніцкага і культурнага цэнтра няспынна пашыраўся і дужэў абсяг яго ўздзеяння на навакольную тэрыторыю. Перш за ўсё пад яго ўладай былі ўмацаваны паселішчы, якія ахоўвалі гандлёвыя шляхі. На водным бужанскім шляху пад непасрэдным уплывам Дарагічына знаходзіліся: Нур, Гарадок Надбужны, Мельнік, Нівіцы (сённяшні Няміраў), а таксама Бярэсце. На сухапутных шляхах, пераважна для аховы бродаў на рэках і рэчках, на гасцінцы ў Яцвятію — Бранск (на рэчцы Нурэц), Свенцк-Струмяны (на Броку), Візна (на Нарве); у напрамку на Полацк і Ноўгарад Вялікі — Бельск (на Белай), Нарва (на Нарве), Гарадок (на Супраслі) і нават сама Гародня (на Нёмане), як мяркуюць некаторыя гісторыкі, паўстала пад уздзеяннем Дарагічына; на дарозе на ўсход — безыменныя гарадзішчы ля вытокаў рэчкі Пульвы (Яцэвічы і інш.), Камянец (на Лясной), Ваўкавыеск (на Ваўкавыі); у кірунку на Люблін — Чаламыі і іншыя. Так паступова на паўночна-заходняй ускраіне абшырнага Тураўскага княства складаецца на чале з Дарагічынам густа населены і заможны рэгіён. У XI стагоддзі ён прасціраўся на аграмаднай тэрыторыі: на поўначы абапіраўся на рэках Бобры (Бебжы) і Нёмане, на ўсходзе даходзіў да тэрыторыі, дзе сёння стаяць Ваўкавыск і Кобрын, на поўдні — пад Уладаву, Парчэў, Радзынь-Падляшскі, на захадзе — да Лукова, Ліва, Візны. Велічны абшар!

Вядома, на працягу стагоддзяў, пад уздзеяннем розных палітычных і гаспадарчых працэсаў велічыня яго і моц змяняліся. Першапачаткова ён абмяжоўваўся да сярэдняга Пабужжа і бліжэйшых яму зямель, а самым магутным умацаваннем на іх было Бярэсце, якое ахоўвала переналокі з Прыпяці ў Буг. Але ўжо

ў канцы XI стагоддзя гэтую ролю сталіцы рэгіёна пераняў Дарагічын, хоць за Бярэсцем засталося значэнне важнага гандлёвага і рамесніцкага асяродка і абароннага пункта.

Інакш сталася з Гародняй. Яна з крэпасці, якая ахоўвала пераправу цераз Нёман, пачала разрастацца ў актыўны гаспадарчы, вайсковы і палітычны цэнтр. Што ж, Гародня знаходзілася амаль у такіх жа самых умовах, як Дарагічын: перакрыжаванне водных (Нёман, Шчара, Бобра) і сухапутных (у Літву, Полацк, Кіеў, Дарагічын, Плоцк) шляхоў. Да яе прыбывала дрыгавіцкае, крывіцкае, яцвяжскае, літоўскае насельніцтва. З бегам часу скламіся прадпасылкі да таго, што Гародня стала сталіцай самастойнага Гарадзенскага княства.

Заглядаючы ў сярэднявечча беларускіх земель, неабходна памятаць сцверджанне вядомага сучаснага беларускага савецкага гісторыка П. Лысенкі пра тое, што *„Тураўскае княства было ў пэўнай ступені самастойным эканамічным рэгіёнам, які быў слаба звязаны з Кіеўскай Руссю, а аб'яднанне паасобных земель у Старажытнарускай дзяржаве не мела пад сабою трывалых эканамічных падстаў і прадстаўляла механічнае аб'яднанне тэрыторый пад уладай адной палітычнай сілы, было нетрывалым і мела сталую тэндэнцыю да распаду“.* І таму трэба глядзець на Тураўскае княства як на самастойны эканамічна-палітычны арганізм. Такімі, зрэшты, былі ўсе больш значныя княствы ў сярэднявечнай Еўропе.

Пакуль князі тураўскія валодалі значнай вайсковай сілай і разам з гэтым моцнай палітычнай уладай у сваім княстве ды адыгрывалі ў Старажытнарускай дзяржаве вядучую ролю, наш Дарагічынскі рэгіён быў неад'емнай часткай Тураўскага княства. І тут нельга абмінуць тое, што за час ад 1015 да 1140 г.г. змянілася ў Кіеве дзесяць князёў, і з іх аж чатыры здабылі гэты пасад будучы папярэдне князямі тураўскімі (Святаполк Уладзіміравіч княжыў у Кіеве ў 1015-1019 гадах, Ізяслаў Яраслававіч — 1054-1078 г.г., Святаполк Ізяслававіч — 1093-1113 г.г., Вячаслаў Уладзіміравіч у 1139 г., затым у 1151-1155 г.г.). Значыць, на 125 год у Кіеве больш за 50 год панавалі князі тураўскія! І не дзіва, што ў Кіеўскай Русі панавала перакананне: хто валодае Туравам, таму адкрыты доступ на вялікакняскі кіеўскі пасад.

Няма сумнення, што і ў гаспадарчым, палітычным і культурным жыцці Кіева дрыгавічы займалі важнае месца. Доказам таму запісы ў „Аповесці мінулых часоў“, дзе знаходзім звесткі пра ўласную тураўскую дружыну, на якую абапіраўся пануючы ў Кіеве Святаполк Ізяслававіч. Там жа згадваецца і аб „Туровой божницы“ (Тураўскай царкве), якую пабудаваў у Кіеве, быццам бы, легендарны князь Тур. Затое напэўна вядома, што тураўскія князі: Ізяслаў пабудаваў у Кіеве Дзмітрыеўскі манастыр з







царквою, яго сын Яраполк — царкву св. Пятра ў тым жа манастыры, а ягоны брат Святаполк — багатую царкву св. Міхала. На жаль, у летапісы зусім не траплялі звесткі пра свецкае манументальнае будаўніцтва, мастацтва, рамёствы, гандаль, грамадскае жыццё ў Кіеве і таму застаецца нам толькі здагадвацца пра актыўную ролю выхадцаў з Тураўскага княства ў кожнай з гэтых дзялянак. Сярод іх былі таксама воі, купцы, рамеснікі з нашага Пабужжа і Панароўя.

Ужо па знаходках археолагаў у нашым Драгічыне вядома, што было з чым жыхарам Тураўскага княства, або тураўцам —



**Вазнясенская царква ў в. Кленікі гм. Чыжы. Пабудаваная ў 70-х гадах нашага стагоддзя. Графіка У. Петрука.**

як іх тады называлі, падаваўца ў далёкія гарады, у тым і ў стольны Кіеў. Даследаванні Турава, Бярэсця, Горадні, Ваўкавыеска, Пінеска, Слуцака і іншых старажытных гарадоў Тураўскага княства таксама паказваюць на высокае майстэрства тамашніх рамеснікаў у вытворчасці жалеза і вырабе з яго і іншых металаў зброі і самых разнастайных прыладаў працы, рэчаў штодзённага ўжытку і ўпрыгожанняў, вытворчасці і абробцы шкла на пацеркі, бранзалеткі і іншыя аздобы, а таксама на шыбы для манументальнага будаўніцтва і ў памяшканні заможных людзей, былі яны сапраўднымі майстрамі ў ганчарстве, ткацтве, гарбарстве, абробцы дрэва, косці і інш.

Разам з умацаваннем хрысціянства ў важнейшых гарадах Тураўскага княства паўстаюць манументальныя храмы і манастыры, хутка пашыраецца пісьменства і не толькі сярод духавенства і пануючых, бо знойдзеныя шматлікія прылады да пісьма, клямры ад кніг, надпісы на розных рэчах штодзённага ўжытку даказваюць, што пісьменнай была значная колькасць насельніцтва.

Толькі ў такіх спрыяльных для развіцця культуры варунках, якія існавалі ў Тураўскім княстве ў X-XII стагоддзях, магло быць спісана ў XI ст. славутае сваім высокім майстэрствам выканання, асабліва мастацкасцю здобін, Тураўскае евангелле з XI стагоддзя — адзін з найбольш старажытных помнікаў усходнеславянскага пісьменства. Тут, у Тураўскім манастыры, паўстала ў канцы XI — на пачатку XII стагоддзяў арыгінальнае „Сказанне аб Мартыне-мніху“.

Але найяскравейшы прыклад высокага ўзроўню культурнага жыцця ў Тураўскім княстве — гэта шматгадовая, надзвычай плённая дзейнасць і творчасць Кірылы Тураўскага (нарадзіўся ён каля 1130 г. — памёр каля 1182 г.). Паходзіў ён з заможнай тураўскай сям'і, мабыць, блізкай двару тураўскіх князёў. Дасканалую, як на тыя часы адукацыю атрымаў Кірыла ў адным з тураўскіх манастыроў. Яго настаўнікамі былі, відаць, візантыйскія вучоныя з акружэння княгіні Варвары, якая паходзіла з імператарскага візантыйскага роду і якая пасля смерці мужа, вялікага князя кіеўскага Святаполка, пасялілася ў яго родным Тураве і ў ім жыла да апошніх сваіх дзён. Кірыл ужо ў маладыя гады славіўся сваёй вучонасцю і бездакорнымі паводзінамі як натхнёны аскет. Каля 1169 г. ён быў пастаўлены епіскапам абшырнай Тураўскай епархіі. Уславіўся ён як выдатны пісьменнік, прапаведнік і царкоўны дзеяч.

Да нашага часу захавалася 8 прапаведзяў-„слоў“, 3 павучальныя апавяданні-„прычты“, каля 30 малітваў, некалькі рэлігійных песень-канонаў Кірылы Тураўскага. Наколькі таленавітыя гэта творы, найлепш сведчыць тое, што яны настала ўвайшлі ў багаслоўскую літаратуру і па сённяшні дзень служаць праваслаўным







усяго свету. Памяць Кірылы Тураўскага праваслаўная царква адзначае 11 мая (28 красавіка старога стылю).

Гэтае наша падарожжа ў сярэднявечнае Тураўскае княства (летапісцы падаюць, што ў яго сталіцы, горадзе Тураве было тады каля 40 цэркваў!) робім дзеля таго, каб лепш сабе ўсвядоміць, што якраз у гэтай плыні грамадскага, гаспадарчага і культурнага жыцця знаходзіліся нашыя Пабужжа і Панароўе, якія былі арганічнай часткай Тураўскага княства. І хто ведае, ці не далёкім водгуллем з тых часоў захавалася на Бельшчыне прыпеўка для ад'язджаючай да вянцу маладой пары:

Хоть едтэ, нэ едтэ —
нэма попа дома:
поехав до Турова,
забыв ключоў взяті —
цэрковую одмыкаті.

Часам замест „до Турова“ можна пачуць — „до Львова“, але гэта нядаўняе знявечанне старадаўняй дрыгавіцкай песні, яно не мае аніякіх гістарычных падставаў, бо на Падляшша ніколі не пасціралася ўлада ці ўздзеянне Львоўскай праваслаўнай або уніяцкай епархій.

Але ў тым жа часе, калі Тураўскае княства перажывае свой „залаты век“, Усходняя Славяншчына раздрабняецца на мноства ўдзельных княстваў і ў выніку патанае ў бясконцай знішчальнай міжусобнай барацьбе шматлікіх князёў ды разрослых княжацкіх родаў. Кожны з іх намагаецца ўсялякімі сіламі і спосабамі здабыць самыя значныя княствы або прыдбаць сабе загаспадараныя і найбольш заможныя рэгіёны з іншых княстваў. У ход пайшлі не толькі асляпленні канкурэнтаў, узаемнае насыланне забойцаў, але і кровапралітныя бітвы, усё часцей з удзелам нанятых чужых, з-за межаў Старажытнарускай дзяржавы, войскаў.

Для суседзяў Тураўскага княства найбольш прынадным кавалкам было якраз наша Сярэдняе Пабужжа і Панароўе. Першы паласаваўся на гэты рэгіён князь Яраслаў, які пасля смерці свайго бацькі Яраполка Ізяславіча — князя тураўскага і валынскага — аказаўся „ізгоем“, гэта значыць, князем без свайго княства. А гэта таму, што тураўскі, наўгародскі і кіеўскі княжацкія пасады заняў яго родны дзядзька Святаполк Ізяслававіч, а на Валынскім княстве пасадзіў свайго роднага сына Мсціслава. Аднак спроба князя Яраслава Яраполкавіча адваяваць сабе самы тлусты кавалак бацькаўшчыны і заснаваць на ім сваё асобнае княства не ўдалася. Яго дзядзька надта ж уважліва і зайздросна дбаў пра свае ўладанні. Вялікі князь Святаполк накіраваўся ў 1101 годзе супраць адважнага пляменніка са значнай сілай і, як чытаем у „Аповесці мінулых часоў“, застаў яго ў горадзе Бярэсці, схапіў, закаваў у ланцугі і прывёў у Кіеў і, мабыць, намерваўся жор-

стка пакараць. Але пачалі за Яраслава прасіць мітрапаліт і ігумены і гэтак умалілі Святаполка. З палоннага ўзялі прысягу ля гроба святых Барыса і Глеба — першых усходніх славян, узведзеных у лік святых у тыя часы вельмі папулярных — і пусцілі яго.

Аднак амбітны князь-ізгой не зрокся сваіх намераў стварыць уласнае княства на Сярэднім Пабужжы і Панароўі. Можа, былі ў яго тут надзейныя саюзнікі, якія марылі пра незалежнасць гэтага аднаго з багацейшых у Старажытнай Русі рэгіёна? Мабыць, былі, калі ён, перахітрыўшы дзядзькавых старожаў, уцёк 1 кастрычніка таго ж года на Пабужжа. У пагоню за ім кінуўся ўжо не старэнькі дзядзька, але яго сын Яраслаў Святаполчыч, гэта значыць дваюрадны брат уцекача. І далей чытаем у той жа „Аповесці мінулых часоў“ наступнае: „У канцы таго ж месяца Яраслаў Святаполчыч абмануў Яраслава Яраполчыча — схапіў яго на Нуры і прывёў да бацькі Святаполка ды закавалі яго“. Відаць, у ланцугах і застала яго смерць, толькі невядома: з хваробы ці ад рукі падасланага забойцы. „Аповесць мінулых часоў“ — такая шматслоўная ды чуллівая на смерць князёў — у канцы запісу пад 1102 годам надта ж суха паведаміла: „У гэтым жа годзе сканаў Яраслаў Яраполчыч месяца жніўня на 11-ы дзень“.

Ад нас належыцца вытлумачэнне, што летапісная рака Нур — гэта наша сённяшняя рэчка Нурэц. А з саюзнікамі Яраслава Яраполчыча на Пабужжы і Панароўі жорстка разлічыўся яго дваюрадны брат. Якраз ён, Яраслаў Святаполчыч, найбольш пільна сачыў за гэтай ускраінай Тураўскага княства, бо ў 1112 годзе „хадзіў на яцвягаў і перамог іх“ — паведамляе тая ж „Аповесць“. Хто ведае, ці не было гэта звядзенне рахункаў з былымі саюзнікамі Яраслава Яраполчыча? Яго ж схапіў Яраслаў Святаполчыч на рацэ Нурцы, гэта значыць — на поўнач ад Бярэсця і Дарагічына, мабыць, падчас уцёкаў у прыязную яму Яцвягію або да палачан, якіх крэпасці знаходзіліся на суседнім Панямонні.

І на гэтым спынім апавяданне пра невялікі адрэзак нашай гісторыі.

**Мікола Гайдук**









**М. Гайдук**

## Ці „СЛОВА ПРА ПАХОД ІГАРАВЫ“ БЫЛО НАПІСАНА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ?

Калі толькі мне даводзіцца сягаць да нашай роднай даўніны, асабліва да начаткаў беларускай літаратуры, тады заўсёды ў маёй памяці ўсплываюць лекцыі самага сардэчнага апекуна і любімца былых студэнтаў беларускай філалогіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску, незабыўнай памяці нашага прафесара Міхася Ларчанкі. Бо гэта ж ён адкрыўчымі фактамі ды свежасцю меркаванняў разбудзіў у многіх з нас ніколі не заспакоенае зацікаўленне мінулым нашага народа. Памятаецца, як на пачатку выкладу гісторыі роднай літаратуры ён шматзначна ўзняў свой пухленькі ўказальны пальчык ды агарнуў пільным позіркам немалую нашу аўдыторыю і аўтарытэтна сцвердзіў: „Беларуская старажытная літаратура ў яе прагрэсіўным напрамку выйшла са „Слова пра паход Ігаравы“... І затым разгортваў перад намі непраміноючыя мастацкія каштоўнасці гэтага славутага твора і яго ўздзеянне на далейшы шлях беларускага прыгожага пісьменства...

„Слово о плъку Игореве, Игоря Святъславля, внука Ольгова“ або па цяперашняму — „Слова пра паход Ігаравы, Ігара, сына Святаслава, унука Алегава“ належыць да самых выдатных твораў мастацкай літаратуры, якія паўсталі ў сярэдневяковай Еўропе.

Да нас не дайшло ні імя ні прозвішча аўтара „Слова“, ні ўказанне на месца напісання гэтага твора, ні на час яго паўстання. Але як мяркуюць вучоныя, аўтар „Слова“ быў чалавекам адукаваным, грунтоўна азнаёмленым з вельмі складаным і багатым у канфлікты мінулым роднай яму Усходняй Славяншчыны, яе літаратурай, фальклорам, абычаямі. Ён добра арыентаваўся ў мінуўшчыне і сучаснасці бліжэйшых і далейшых суседзяў усходніх славян, не чужымі яму былі таксама справы тагачаснай міжнароднай палітыкі, густы ў еўрапейскай літаратуры і культуры.

У „Слове“ расказваецца пра паход супраць полаўцаў вясною 1185 года князёў Ігара Святаславіча і яго брата Усевалада.

Ігар панаваў у невялічкім Ноўгарад-Северскім княстве, якое прасціралася над сярэд-

нім цячэннем ракі Дзясны (левага прытоку Дняпра) і займала паўднёва-ўсходнія землі беларускага племя радзімічаў і паўночна-заходнія ўскраіны ўкраінскага племя севяран. Усевалад княжыў у маленькім Трубчэўскім і Курскім княствах, якія знаходзіліся на сумежжы рускага племені вяцічаў, беларускага — радзімічаў і ўкраінскага — севяран, над верхнім цячэннем рэк Дзясны і Сема (сённяшняя рака Сейм — левы прыток ракі Дзясны). Такім чынам абодва княствы з усходу суседнічалі з качэўнымі народамі, якія штораз то перасоўваліся па аграмадных стэпавых абшарах Прычарнамор'я. У часы панавання Ігара ў Ноўгарадзе-Северскім і Усевалада ў Трубчэўску і Курску іхнымі ўсходнімі суседзямі былі полаўцы — шматлікія качэўныя плямёны.

Полаўцы ўпершыню падышлі да паўднёвых граніц Усходняй Славяншчыны ў 1055 годзе і з таго часу пачалося двухсотгадовае сужыццё ўсходніх славян з гэтым вельмі неспакойным і ваяўнічым суседам. У гэтых суадносінах спачатку пераважалі ўзброеныя сутычкі і кровапралітныя бітвы. Полаўцы вельмі часта нападалі на сумежныя з імі славянскія землі, бралі ў няволю насельніцтва, рабавалі маёмасць, палілі гарады і сёлы. Найбольшым пагромшчыкам полаўцаў быў вялікі князь кіеўскі Уладзімір Манамах (1053-1125), які ў гадах 1103-1106 чатырма ўдалымі паходамі разбіў палавецкія орды, адагнаў іх за Дон, Волгу і Кубань, а значную кольkасць падпарадкаваў сваёй уладзе. Потым рускія князі ядналіся з полаўцамі ў ваенныя саюзы і запрашалі палавецкія дружыны сабе ў дапамогу падчас міжусобных войнаў і ўзаемнага выдзірання адзін другому лепшых княстваў, зямель, гарадоў. Асабліва часта карысталіся палавецкай узброенай дапамогай князі кіеўскія, валынскія і галіцкія ў сваіх нашэсцях на беларускія княствы, Яцвятію і Польшчу. Напрыклад, той жа Уладзімір Манамах, які з асаблівай заядласцю і лютасцю зніштажаў беларускія землі, у канцы свайго жыцця пісаў ва ўспамінах дзеля павучэння сынам і ўнукам: „хадзілі з чарнігаўцамі і полаўцамі-чытаевічамі (адно са скораных ім палавецкіх плямёнаў — М. Г.) на Менск, захапілі горад і не пакінулі ў ім ні чалядзіна (простага працоўнага чалавека — М.Г.), ні скаціны“. А варта прыпомніць, што Манамах прыводзіў полаўцаў сабе ў дапамогу аж 19 разоў і то пераважна дзеля зваявання Полацкага і іншых беларускіх княстваў. Вядома ж, тадышнім звычаем за такую паслугу не плаціў ім з уласнай кішэні, а толькі дазваляў браць нявольнікаў ды нарабаванае дабро на зваяванай зямлі. Таму насельнікі беларускіх зямель —нашчадкі радзімічаў, дрыгавічоў і крывічоў — палалі асаблівай нянавісцю і да полаўцаў і да князёў, якія карысталіся іхняй дапамогай.

Хоць за княжання Ігара і Усевалада Святаславічаў полаўцы ўжо не былі такой пагрозлівай сілай і ў большасці іхных плямёнаў склаліся саюзныя сувязі з суседнімі славянскімі княствамі, пры тым многія з іх прынялі праваслаўе, а палавецкія ханы і рускія князі парадніліся, выдаючы дачок ды жэнячыся, між іншым, той самы князь ноўгарад-северскі Ігар ажаніў свайго сына Уладзіміра з дачкой палавецкага хана. Усё ж паміж рускімі княствамі і полаўцамі раз-пораз успыхвалі цяжкія бітвы. І так, у 1183 г. дзевяць рускіх князёў з дружынамі рушылі ў стэп і разгрымілі вялікае вайсковае аб'яднанне полаўцаў, узялі ў палон больш за дзесяць палавецкіх ханаў, мноства нявольнікаў і ўсялякага дабра. У гэтым паходзе не ўдзельнічалі князі Ігар і Усевалад. Хоць пераможцы з удалага паходу ў 1183 г. пачалі адразу рыхтавацца самі і заахвочвалі іншых князёў да ўдзелу ў новым паходзе на полаўцаў у 1185 годзе, аднак Ігару і Усеваладу чамусьці было не ў смак далучыцца да гэтай грамады, і яны рашылі самі рушыць у палавецкія стэпы па рыцарскую славу і багатую здабычу: „Храбрымося самі! Самі пярэднюю славу захопім і з задняю самі падзелімся“[1]) — сказалі яны князю кіеўскаму Святаславу, як падае „Слова“.

У „Слове пра паход Ігаравы“ якраз і расказваецца пра гэты няўдалы паход. Калі Ігар са сваёй дружынай вырушыў з Ноўгарада-Северскага, Усевалад ужо чакаў са сваімі дружыннікамі ў Пуціўлі. Паход пачынаўся пад нядобрымі прадказаннямі: наступіла зацьменне сонца, налягела хмара груганоў, збеглася гайна выючых ваўкоў. Але падчас першай сутычкі рускія „патаптаўшы паганае войска палавецкае і рассыпаўшыся стрэламі па полі, паімчалі прыгожых дзяўчат палавецкіх, а з імі золата і папоны, і аксаміты дарагія; плашчамі і кажухамі ды ўсялякімі палавецкімі тканінамі ўзорнымі пачалі масты масціць па балотах і гразкіх мясцах“. Полаўцы адышліся ў глыб данскіх стэпаў.

Аднак перамога рускіх аказалася зманлівай. На другі дзень рушылі на іх полаўцы „ад Дона і ад мора, і ад усіх старон рускае войска абступілі“. Разгарэлася бітва не на жыццё, а на смерць. „Біліся дзень, біліся другі, трэцяга дня к палудню рухнулі сцягі Ігаравы, — чытаем у „Слове“, — ...тут баль дакончылі храбрыя русіны: сватоў напаілі, а самі палеглі за Рускую зям-

[1]) Усе цытаты са „Слова пра паход Ігаравы“ падаюцца з перакладу гэтага твора Янкам Купалам паводле Збору твораў, т. V, Мінск 1954, стар. 187-197.

лю". Рускія дружыны былі цалкам разгромлены, воі загінулі, або трапілі ў няволю, а князі апынуліся ў палавецкім палоне. Вялікі сум агарнуў Русь — „занылі сцены гарадоў, завяла весялосць".

Паражэнне „русінаў" схіліла аўтара „Слова" да роздумаў над трагічным лёсам Русі. Ён гнеўна асуджае міжусобныя войны паміж удзельнымі князямі, якія, прыводзячы сабе ў дапамогу „паганых" (гэта значыць, няхрышчаных чужынцаў — М.Г.), знішталі Русь бясконцымі братабойчымі войнамі. Уздыхаючы па славутым мінулым, асабліва па часах Уладзіміра Вялікага (панаваў у гадах 978-1015), ён усклікае: „О! Стагнаці Рускай зямлі, успомніўшы былую часіну і былых князёў!" З іх найболей услаўляе тых, хто мужна абараняў рубяжы Русі. З асаблівай пашанай ён ставіцца да князёў, якія panавалі ў самых вялікіх і магутных у яго часы Уладзіміра-Суздальскім, Галіцка-Валынскім і Полацкім княствах. З іх найбольш увагі прысвячае Полацкай зямлі. З горыччу і абурэннем згадвае пра нашэсце ў 1067 годзе з Паўднёвай Русі князёў кіеўскага Ізяслава, чарнігаўскага Святаслава і пераяслаўскага Усевалада па Полацкае княства і кровапралітную іх бітву з войскамі полацкага князя Усяслава на рацэ Нямізе (на тэрыторыі сённяшняга горада Мінска): „На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела. Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх".

З найбольшай пашанай і замілаваннем стваральнік „Слова" піша пра полацкага Усяслава. Але аддайма голас былому выхаванку праф. М. Ларчанкі, найлепшаму цяперашняму знаўцу беларускіх летапісаў — доктару Вячаславу Чамярыцкаму:

„Асаблівае месца займае ў паэме, — піша В. Чамярыцкі ў артыкуле пра „Слова", — вобраз Усяслава Полацкага, праўнука Святаславіча і легендарнай Рагнеды, які ўсё сваё доўгае і бурлівае жыццё аддаў барацьбе за ўмацаванне палітычнай магутнасці і незалежнасці Полацкага княства. Ні аднаму князю XI стагоддзя не аддаў паэт столькі ўвагі, не сказаў столькі цёплых слоў, як Усяславу, і ніхто з мінулых князёў не абмаляваны ім так ярка, жыва і задушэўна. Ён акружаны ў паэме таямнічым арэолам князя-чараўніка, які, бы казачны герой народнага эпасу, надзелены незвычайнымі чарадзейнымі здольнасцямі пераўтварацца ў ваўка, нечакана знікаць і з'яўляцца ў самых розных месцах неабсяжнай Русі. Ён герой незвычайных прыгод, хітры, умелы, імклівы. Вераломна палонены сынамі Яраслава Мудрага пасля бітвы пад Менскам у 1067 г., Усяслаў апынуўся ў кіеўскай цямніцы, адкуль праз год быў нечакана вызвалены паўстанцамі і ўзведзены волею народа на вялікакняскі трон.

Мудрым і дзейсным валадаром паказаны Усяслаў на гэтай пасадзе ў сталіцы Старажытнарускай дзяржавы:

*Усяслаў-князь людзям*
*чыніў суды,*
*радзіў князям гарады,*
*а сам уночы ваўком рыскаў,*
*з Кіева паспяваў да пеўняў*
*да Тмутараканя,*
*Хорсу вялікаму шлях*
*перацінаў.*
*Яму ў Полацку пазвоняць*
*ютрань рана*
*ў званы ў святое Сафіі,*
*а ён той звон чуе ў Кіеве.*

(Педаклад
Рыгора Барадуліна)

(Тмутаракань — сталіца старажытнарускага княства, якое ў X-XI стагоддзях знаходзілася на Таманьскім паўвостраве, пры ўпадзенні ракі Кубань у Азоўскае мора. Хорс — славянскі бог сонца і земляробства ў часах паганства. Сафія — Сафійскі сабор у Полацку, пабудаваны ў часы панавання Усяслава).

З усіх герояў „Слова" ён найбольш складаны і загадкавы. Усяслаў — вешчы, мудры народны абраннік і адначасова няшчасны, непрыкаяны князь, які, бы загнаны звер, нідзе не знаходзіць сабе прыстанішча. Аўтар асуджае сучасных яму полацкіх князёў, якія зацята варагавалі паміж сабою, няспыннымі міжусобіцамі давялі да заняпаду Полацкае княства, страцілі былую славу свайго славутага дзеда. Да самога ж Усяслава паэт ставіцца з адкрытай сімпатыяй і спачуваннем. Ён для яго — надзвычай яркая, выдатная гістарычная асоба і незаслужана пацярпеўшы, несправядліва пакрыўджаны чалавек. „Хоць і вешчую меў душу ў дзёрзкім целе, ды часта ад бедаў цярпеў ён", — так літаральна ў некалькіх ёмістых словах, напоўненых сардэчнай цеплынёй, аўтар змог раскрыць цяжкі лёс гэтага легендарнага князя і выразна выказаць свае захопленыя адносіны да яго"[1]).

І зноў аўтар „Слова" вяртаецца да падзеяў 1185 года. Над трагічным лёсам князя Ігара галосіць у Ноўгарадзе-Северскім яго жонка, княгіня Яраслаўна (Еўфрасіння, дачка галіцкага князя Яраслава Асмамысла — М.Г.). І, як быццам па яе жаданню, князю Ігару ўдалося ўцячы з палону, пазбегчы пагоні і шчасліва вярнуцца ў сваё княства. Затым ён паломнічае ў Кіеў, у храм Багародзіцы Пірагошчай з падзячнай малітвай за сваё ўратаванне. „Слова" заканчваецца шматзначнай здравіцай: „Здароўя князям і дружыне, выступаючым за хрысціян на войска паганых! Слава князям і дружыне!"

Чытача, пэўна, карціць да-

[1]) Чамярыцкі Вячаслаў, Неўміручая песня старажытнай Русі, „Маладосць" № 9, 1985, стар. 165-166.

ведацца, якія былі далейшыя лёсы дзеючых асобаў „Слова“: князёў Ігара, яго сына Уладзіміра і брата Усевалада.

Што ж, у 1187 годзе аб'яднаныя сілы рускіх князёў рушылі на полаўцаў і вярнуліся з перамогаю, але ў гэтым паходзе князі Ігар, Уладзімір і Усевалад не ўдзельнічалі. Як сведчаць летапісы, яны моцна не перажывалі з-за няўдалага самотнага паходу ў 1185 годзе і ў 1191 годзе зноў рушылі на полаўцаў без узгаднення з іншымі рускімі князямі, самі, і зноў пацярпелі паражэнне. Ігар памёр на 52-м годзе жыцця (у 1202 г.), але не на полі бою і не ад ранаў. Нямногім перажыў бацьку сын Уладзімір, які памёр ва ўзросце 38 год (у 1208 г.) у сталіцы свайго ўдзельнага княства Пуціўлі. Усевалад таксама памёр натуральнай смерцю на 44-м годзе жыцця (у 1196 г.).

Значыць, паход у 1185 г. быў усяго толькі адным з нязначных эпізодаў у працяглым змаганні ўсходніх славян супраць полаўцаў і не вырашаў лёсу ні адных, ні другіх. Такім чынам каштоўнасць „Слова пра паход Ігаравы“ не ў апісанні гістарычнага факту, але ў мастацкіх вартасцях гэтага твора.

„Слова пра паход Ігаравы“ палоніць нас сваёй ідэйнай глыбінёю, і мастацкай дасканаласцю, незвычайнай самабытнасцю і змястоўнасцю, непаўторнасцю жанравай формы, пластычнасцю і музычнасцю паэтычнай мовы, — піша В. Чамярыцкі ў цытаваным ужо артыкуле. — Магутны талент паэта, аплоднены гарачай любоўю да Бацькаўшчыны, зрабіў яго вечным, узняў над часам да вялікіх мастацкіх абагульненняў, да стварэння помніка неўміручага, агульначалавечага ідэйнамастацкага гучання і значэння.

„Паэма пра Ігара заўсёды будзе народнай і актуальнай, — казаў наш славуты зямляк Адам Міцкевіч. Бо заўсёды народным будзе заклік паэта да згоды і міру паміж людзьмі. Бо заўсёды актуальнымі будуць высокія гуманістычныя ідэалы, ідэі служэння роднай Зямлі і Чалавеку, з вялікай мастацкай сілаю выяўленыя ў гэтым творы“, — заўважае В. Чамярыцкі (стар. 168).

*

Аб „Слове пра паход Ігаравы“ за мінулыя амаль дзвесце год ад часу яго выяўлення напісана мноства кніг, доследаў, рэфератаў, артыкулаў і толькі самы іх пералік склаў бы таўшчэзнае выданне. Асабліва ж шчодрай рукой сыпнуў свежымі публікацыямі 1985 год, аб'яўлены ЮНЕСКАм 800-й гадавінай гэтага выдатнага твора, аднаго з каштоўнейшых у скарбніцы сусветнай культуры. Таму магло б здавацца, што ўсёўсенькае ўжо ў ім перааналізавана і вывучана. Аднак амаль кожны аўтар новай публікацыі пачынае сваю працу заявай пра тое, што і дагэтуль высветлены далёка не ўсе пытанні, якія датычацца „Слова“. Якраз з гэтых невырашаных праблемных пытанняў і хочацца засяродзіць увагу Шаноўных Чытачоў нашага „Календара“.

Адразу пасля выяўлення ў 1795 г. у Спаскім манастыры ў Яраслаўлі і апублікавання ў 1800 г. перакладу на тагачасную рускую мову тэксту „Слова“ разгарэліся спрэчкі пра тое, хто яго аўтар, дзе і калі яно было напісана. Гэтыя тры пытанні і да сённяшняга дня не атрымалі бясспрэчнага і канчатковага адказу, нягледзячы на тое, што іх не абыходзілі многія з выдатнейшых вучоных, якія займаліся славянскімі старажытнасцямі. Даказвалася і даказваецца рускае, украінскае, польскае яго паходжанне, мяркуецца, што яно было напісана ў 1185-1187 гадах, у 1249-1256 г.г. і ў іншых часах, а нават дапускаецца здагадка, што гэта падробка-фальсіфікат з канца XVIII ст.

Толькі зрэдку ў гэтым моры самых разнастайных здагадак, меркаванняў і тэорый можна пачуць кволенькія галасы пра беларускае паходжанне „Слова“. Сталася гэтак, між іншым таму, што на працягу больш за 125 год ад часу выяўлення гэтага твора не існавала ніводнага беларускага навукова-даследчага асяродка, якому пад сілу было б усебаковае вывучэнне яго, бо, як вядома, Беларускі універсітэт пачаў рэгулярную працу ў канцы 1921 г., а Інстытут беларускай культуры — у 1922 г.

Да ліку першых, хто выказаў у друку думку, што „Песня або Слова пра паход Ігаравы напісана на беларускай мове невядомым паэтам“, быў паэт і гісторык Людвіг Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля). Пры тым Л. Кандратовіч разам з гісторыкам і краязнаўцам Адамам Кіркорам лічылі, што названы ў „Слове“ вешчы паэт-пясняр Баян паходзіў з Менска. Гэтыя меркаванні былі выказаны ў палове XIX ст. Іх абгрунтаваў у 1871 г. вядомы славіст Пётра Бяссонаў, які сцвярджаў: „Мову сваю Беларусь дала большай частцы іншых... народнасцей, а з моваў — пісьменнасць...“, бо якраз на Беларусі ў старажытныя часы „народныя звычаі развіваліся беспершкодна і да падрабязнасцей творчасць кіпела багатымі сіламі; песням і вершам, не шырокім і не доўгім, а ў тысячах відаў; прыгожым і часткова жартоўным характарам напаўняўся ўвесь гэты бачымы і нябачымы вобраз народнага жыцця“ і ў гэтых абставінах узнікла „Слова пра паход Ігаравы“[1]).

Высновы П. Бяссонава пацвярджаў у 1911 годзе выдатны беларускі паэт Максім Багдановіч, хоць ён крыху і паддаўся агульнапрынятаму ў

[1]) Бяссонаў П., Белорусские песни, Москва 1871, стар. 1-11.

той час перакананню і напісаў пра „Слова" як „вытваранае каля XII века на Паўдзённай Русі". Неабходна падкрэсліць тое, што паэт усё ж не напісаў: „створанае" ці „напісанае", але „вытваранае", гэта значыць: выпрацаванае з іншых арыгінальных твораў, сярод якіх як прыклад уласнабеларускіх разглядзеў „Песню пра князя Ізяслава" і „Песню пра князя Усяслава". Нельга абмінуць гэтае ўдумлівае выказванне паэта пра „два... каштоўныя каменьчыкі-самародкі" як пра тое, што дала „народная гаворка для нашай пісьменнасці" — як ён падкрэсліў. М. Багдановіч, між іншым, піша:

„Песня пра князя Ізяслава, каторы „пазваніў мячамі аб шаломы літоўскія... а сам, ізрублены, пад чырвонымі шчытамі, на крывавай траве, усхапіў на гэтае ложка славу і прамовіў: „Дружыну тваю, княжа, скрыдлы птах прыадзелі і звяры кроў палізалі". Песня гэта наўсягды астанецца надзвычайным прыкладам згушчонасці пачування, сціснутасці руху выкладу. Быццам стрымоўваючы кожным словам душэўнае хваляванне, расказана цэлая жыццёвая драма і расказана так, што нічога не можна прыбавіць або адкінуць.

Другая песня-казка апавядае ўжо пра князя Усяслава, каторы „атварыў вароты Ноўгарада, расшыб славу Яраславу і датаркнуўся кап'ём да залатога трону Кіеўскага"; яна, праўда, не мае такой стройнасці ў агульнай будоўлі выкладу, як першая, але затое проста перапоўнена вобразамі і параўнаннямі, каторыя ўсе — з пачатку да канца — узяты з мужыцкай глебы, з быту народа-земляроба, пракладываючага свае бразны сярод бяскрайных лясоў; толькі ён, загублены ў дрымучых пушчах і балотах, мог на працягу некалькіх радкоў столькі раз успамянуць адзін і той самы выраз „скакнуў лютым зверам", „скакнуў воўкам", „воўкам рыскаў", „воўкам пуціну перабягаў". Толькі народ, усімі думкамі, усімі рухамі жыцця свайго прыкуты да хлебаробства, мог апісваць бітву ў такіх словах: „На Нямізе (рацэ) снапы сцелюць галавамі, малоцяць цапамі харалужнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела. Нямігі крывавыя берагі не збожжам былі пасеяны — пасеяны касцямі рускіх сыноў". Вось да якой моцнасці і вобразнасці выкладу дайшоў беларускі мужыцкі народ, вось якія краскі паэзіі ўзрасталі калісьці на яго палях"[1].

Адзінаццаццю гадамі пазней аўтар першага падручніка па гісторыі „старадаўняй беларускай літаратуры", прафесар Мікола Янчук „Слова" назваў „высокамастацкай пес-

[1]) Багдановіч Максім, Збор твораў у двух тамах, т. 2, Мінск 1968, стар. 106-108.

[2]) Янчук М. А., Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры, Менск 1922, стар. 4.



© PDF: Kamunikat.org 2011



няй невядомага аўтара" і далей акцэнтаваў, што пільны чытач „адразу заўважыць на гэтай „Песні" беларускую афарбоўку, пабачыць асаблівасці, характэрныя для нашай краіны"[2]).

Нашага выдатнага земляка, бо як вядома праф. М. Янчук нарадзіўся ў вёсцы Корніца над Бугам (каля Сямяцічаў) і вучыўся ў Бельску Падляшскім, не толькі падтрымаў, але і ўдакладніў яго сцверджанне заслужаны даследчык паўночна-ўсходніх і паўднёва-ўсходніх беларускіх гаворак, прафесар Павел Растаргуеў. Ён даказаў, што „Слова" напісана „на мове Северскай беларускай зямлі". Северскай беларускай мовай П. Растаргуеў называе тую беларускую гаворку, якая бытуе на тэрыторыі былых паўночных паветаў Чарнігаўскай губерні, гэта значыць на тэрыторыі Мглінскага, Навазыбкаўскага, Старадубскага і Суражскага паветаў і гаворка заходняй паласы Трубчэўскага павету былой Арлоўскай губерні (гэтая тэрыторыя ў XII-XIII ст.ст. уваходзіла ў Ноўгарад-Северскае і Трубчэўскае княствы, цяпер знаходзіцца ў складзе Бранскай вобласці Расійскай СФСР — М.Г.)... Северска-беларуская мае шэраг рысаў, агульных з паўднёва-заходнімі беларускімі гаворкамі і невядомых іншым чыстым гаворкам Беларусі"[1]).

Таксама і фалькларысты, асабліва В. Ф. Мачульскі ў працы „Слова пра паход Ігаравы і беларуская вусна-паэтычная творчасць"[2]), пацвярджаюць беларускі радавод фальклорных элементаў у „Слове". А беларускі гісторык літаратуры Сцяпан Майхровіч на падставе агляду асноўных фактаў па мове, вобразах і стылістыцы гэтага твора падкрэсліў, што яны паказваюць на „кроўнае сваяцтва паэтычнай стылістыкі, лексікі і фразеалогіі „Слова пра паход Ігаравы" з вуснай мастацкай творчасцю беларускага народа"[3]).

На падставе грунтоўнага аналізу гістарычных падзей XII і XIII стагоддзяў у Еўропе і Азіі і адносін да іх аўтара „Слова пра паход Ігаравы" савецкі гісторык Леў Гумілёў прыйшоў да вываду, што „Слова" было напісана не ў 1185-7 гадах, як цяпер лічыцца ў гісторыі літаратуры, але значна пазней, бо паміж 1249-56 гадамі, гэта значыць, ужо тады, калі землі Паўночна-Усходняй і Паўднёва-Заходняй Русі знаходзіліся ў татарскай няволі. Паводле Л. Гумілёва, аўтар „Слова" арыентаваўся на Захад і быў

[1]) Растаргуеў П. А., Северско-белорусский говор. Исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров, Ленінград 1927, стар. 217.

[2]) Мачульскі В. Ф., „Слово о полку Игореве" и белорусское устнопоэтическое творчество" (у:) „Вестник Московского университета, серия VII, Филология и журналистика, № 2, Масква 1962.

[3]) Майхровіч С., Слова аб палку Ігаравым", Мінск 1968, стар. 181.



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

прыхільнікам барацьбы за вызваленне рускіх зямель з-пад татарскага панавання абапіраючыся на падтрымку заходнееўрапейскіх дзяржаў[1]).

Гэта вельмі цікавы і, здаецца, найбліжэйшы гістарычнай праўдзе погляд. На самай справе, гады 1249-56 былі вельмі трагічным часам на захопленых татарамі рускіх землях, кажучы вуснамі аўтара „Слова" тады якраз „на Рускай зямлі рэдка пяяў аратай, але вараннё пакрумквала часта, дзелячы труп'ё між сабою, а галіцы гоман заводзілі свой, на ежу ляцелі збіраючыся". І то не толькі з прычыны крывавага татарскага прыгнёту, але і братабойчых бітваў, якія не сціхалі паміж рускімі князямі за багацейшыя княствы, землі ці гарады, хоць над усімі імі панаваў хан Батый. Прыгадайма толькі бясконцыя войны ў той час у Галіцка-Валынскай Русі, крывавыя бойні паміж сынамі князя Уладзіміра-Суздальскага Усевалада, напады галіцка-валынскіх князёў на беларускія землі і г.д. Якраз у той час найболей „чорная зямля пад капытамі касцьмі была пасеяна, а крывёю палітая, — туга адыйшла па Рускай зямлі", бо мала таго, што татары зніштажалі ды рабавалі Русь, дабівалі яе свае ж „русіны".

Вінаваты ў гэтай трагедыі, паводле аўтара „Слова", свае князі, якія міжусобнымі братабойчымі войнамі абяскровілі ды аслабілі айчыну, „а паганыя (няхрышчаныя чужынцы, інакш: татары, бо полаўцы ў асноўным былі хрысціянамі — М.Г.) самі адны, з перамогамі навалiўшыся на Рускую зямлю, дань вымагалі па белцы з двара" (полаўцы такой даніны з рускіх не бралі, абклалі ёю Русь татары — заўважае Л. Гумілёў).

Такім чынам аўтар „Слова" закамуфляванымі, іншасказальнымі вобразамі і прыкладамі з мінулага заклікаў усю Усходнюю Славяншчыну да яднання з краінамі Заходняй Еўропы на барацьбу супраць татараў. Пры тым ён паказвае, што яднацца трэба з немцамі, венецыянцамі, чэхамі і грэкамі (Канстанцінопаль быў тады ва ўладанні заходнееўрапейскіх крыжаносцаў). Гэта значыць, далучацца неабходна да тых краін, з якіх папа рымскі Інакенцій IV (ягоны пантыфікат працягваўся з 1243 па 1254 гады) намагаўся стварыць кааліцыю супраць татараў. З гэтай жа мэтай, няйнакш, ён узвёў у каралі ў 1253 годзе вялікага князя літоўскага Міндоўга і князя галіцка-валынскага Данілу Раманавіча. Адначасова папскія дыпламаты рабілі старанні, каб прыхіліць да гэтай жа кааліцыі князя Аляксандра Яраславіча Неўскага, які тады княжыў у заможным Ноўгарадзе Вялікім, а таксама іншых князёў Паўночна-Усходняй Русі.

Вось чаму аўтар „Слова" так красамоўна ўслаўляе князёў: галіцкага Яраслава Асмамысла і валынскага Рамана Мсціслававіча — папярэднікаў Данілы Раманавіча на княжанні ў вялікім Галіцка-Валынскім княстве, а таксама ўладальніка аграмаднага і заможнага Уладзіміра-Суздальскага княства, князя Усевалада Юр'евіча — бацькy сварлівых князёў, якія ў палове XIII стагоддзя панавалі ў Паўночна-Усходняй Русі. Таксама зусім не выпадкова ў „Слове" цэнтральнае месца займае Полацкае княства і яго князі — гэта ж вялікі князь літоўскі Міндоўг свой род выводзіў з полацкай княскай дынастыі Рагвалодавічаў, з якіх паходзіў таксама князь Усяслаў Чарадзей! Затым асноўная тэрыторыя Міндоўгавай дзяржавы — гэта ранейшыя землі Полацкага княства. Дарэчы будзе, здаецца, заўважыць, што многае і ў вобразе князя Усяслава нагадвае асобу Міндоўга — цэнтральную фігуру ў папскай кааліцыі еўрапейскіх дзяржаваў, накіраванай супраць татараў.

Усе гэтыя факты дазваляюць меркаваць, што аўтарам „Слова" быў высокаадукаваны саноўнік вялікага князя літоўскага Міндоўга і паходзіў ён з беларускай часткі колішніх Ноўгарад-Северскага ці Трубчэўскага княстваў, якія непасрэдна межавалі з уладаннямі татарскага хана ў палове XIII стагоддзя, таксама як межавалі з полаўцамі ў XII ст. Гэтым землям у кожную хвіліну пагражала смяротная небяспека з боку татараў. Мабыць, „Слова" было напісана ў Навагарадку — сталіцы Вялікага княства Літоўскага — падчас прабывання яго аўтара пры князі Міндоўгу.

Рыцарскія прыгоды князя Ігара ў часе яго няўдалага паходу на полаўцаў у 1185 г. паслужылі аўтару „Слова" ўсяго толькі канвой для выказання сваіх думак. Гэты факт з гаротнага мінулага роднай зямлі аўтара быў выбраны ім вельмі трапна і ўмела выкарыстаны. Пра гэты паход памяталі ўсе землі Усходняй Славяншчыны, пра яго пісалі летапісцы. Такім прыкладам можна было пакарыстацца, выказаць свае думкі, звярнуцца з заклікам: „Здароўя князям і дружыне, выступаючым за хрысціян на войска паганых!" і не баяцца быць зарэзаным прыхільнікамі татараў, якія знаходзіліся ў акружэнні Міндоўга, ды і не быць пакараным самім Міндоўгам, які імкнуўся захоўваць мірныя суадносіны з ханам Батыем і нічым не праваціраваць яго да нашэсця на Вялікае княства Літоўскае. Варта дадаць і тое, што за імкненнямі папы Інакенція IV стварыць антытатарскую кааліцыю крылася яго намаганне праз унію падпарадкаваць каталіцкаму Рыму

[1]) Гумілёў Л. М., „Опыт преодоления самообмана" (у кнізе) „Поиски вымышленного царства", Масква 1970, стар. 305-345.

праваслаўную царкву Усходняй Славяншчыны. Гэтыя намаганні папы не карысталіся папулярнасцю на ўсходнеславянскіх землях. Таму з заклікам да яднання Усходняй Славяншчыны з Заходняй Еўропай у кааліцыю трэба было выходзіць вельмі ўмела і асцярожна. І гэта па-майстэрску зрабіў аўтар „Слова".

Значыць, славутае „Слова пра паход Ігаравы" ўсё ж паўстала на беларускай зямлі.

**Мікалай Гайдук**

**М. Гайдук**

# Песні тых часоў

Апавяданне 75-гадовага Уладзіміра Хоміка са Слоі, што ў Шудзялаўскай гміне, — гэта дакументальны абразок таго шляху нашага беларускага малазямельнага ды бясхлебнага сялянства ў даваеннай Польшчы, які накіроўваў яго ў рэвалюцыйны рух. А шлях гэты быў пад сілу толькі нязломным духам і целам, бо вёў ён праз катаванні ў паліцэйскіх засценках і шматгадовыя пакуты ў турмах. Нямногія рашаліся ўступаць на гэты шлях адкрыта, з горда ўзнятай галавой, яшчэ менш іх змагло адолець яго і дайсці да мэты — пасляваенных пераўтварэнняў у жыцці беларускага сялянства. Адным з іх і ёсць Уладзімір Хомік.

— Калі мне было тры гады, гэта значыць у 1915 годзе, — згадвае ён, — бацькі мае разам з намі, дзетварой, ды небагатым хатнім скарбам, рушылі ў бежанства. Пасля доўгіх бадзянняў па станцыях апынуліся мы ў Тамбоўскай губерні. Як казалі бацькі, прынялі нас там сардэчна, дзяліліся ўсім, што мелі. Але ваенная разруха ды грамадзянская вайна выгналі нас адтуль — у канцы 1918 года мы вярнуліся на бацькаўшчыну.

Хату засталі цэлай, але не было за што рук залажыць — ні луснуць, ні труснуць, як кажуць. Праўда, зямлі ў нас было мнагавата — 12 дзесяцін, але ўсё гэта адзін пясок ды яшчэ ў цераспалосіцы. Пайшлі мы з маткай жабраваць, бо хоць бацькі маладыя ды здаровыя былі, ды нідзе ніякіх заробкаў не знойдзеш. Як стала мне 9 год, бацька аддаў мяне ў пастушкі. Пасвіў я ўвесь год шэсць кароў за шэсць пудоў збожжа. На другі год нанялі мяне пасвіць свінні за 7 пудоў. Потым пасвіў авечкі ўжо за 12 пудоў, бо плата крыху паднялася. А пазней у Сакалдзе пасвіў 18 кароў за 24 пуды збожжа. Так і абышоў пастухом усю ваколіцу. Пасвіў да 18 года жыцця, аж кавалерам стаў. Хоць і брыдка было перад людзьмі і для сябе самога, ды ж нідзе і за парабка не ўдалося наняцца.



**Вера і Уладзімір Хомікі.** **Фота М. Гайдука.**

А ў хаце — галеча. Сенакос нашага сяла быў аж у Супраслі, якраз насупраць манастыра, каля маста. Гэта ж далеч якая — 25 вёрст ад вёскі! Як ехалі ўжо на сенакос, то бралі з сабою і гаршчкі, і крупы, і бульбу і хто што меў. Бывала, на сенакос спецыяльна пакідалі якую-небудзь скварку ці костку, каб было чым страву прыкрасіць. І так мучыліся там тыдні два, а як пагоды не было — то і тры тыдні. Адна бяда было вазіць тое сена. Гэта ж далеч якая! А шашы тады не было. Дарога песчаная — адны пяскі ды горы. Як хочаш за адзін дзень абярнуць туды і назад, то трэба было ехаць цэлыя суткі. Добра яшчэ, калі конь не прыстане. Ехаць? То сёння — сеў на воз ды паехаў. А тады ўсю дарогу воз з сенам трэба было папіхаць: ці то ззаду, ці

то хопіш лейцамі за вось і цягнеш побач з канём. Так то: і конь напружваецца — цягне, і табе пот вочы залівае — ты таксама цягнеш тую фурку сена. Каню таксама на гэты час аўса крыху трымалі, а як авес выйшаў, то і куццю, што сабе мелі, жывёле давалі. Як прыстане, пакорміш крышку з торбы і зноў падганяеш. А таго сена было, што і смех казаць: на сённяшнюю фуру тадышніх чатыры вазкі ўлезла б ды і схавалася б.

Крупы ў ступах таўклі, на хлеб у жорнах малолі. І не таму, што не было млыноў, бо ветракоў было ўсюды аж густа, але не было восем грошаў, каб заплаціць за малацце пуда збожжа! А той пуд жыта ў жорнах трэба было круціць паўдня. Як мелеш, бывала, і мука сыплецца з жарон ды ўтварае такі маленькі каўпачок, то якраз той каўпачок беражліва адбіралі на зацірку, бо ў ім мука наймякчэй змелена.

На грош было вельмі цяжка, а зарабіць не было дзе. У нас тут паблізу быў маёнтачак Слойка, гектараў каля трохсот. Работнікаў туды мала наймалі, бо трымалі парабкаў. Часам толькі бралі звозіць збожжа, або да малацьбы ці капання бульбы. Прыедзе, бывала, у вёску фурман, што паню вазіў. Каго на вуліцы напаткае, таму і кажа: „Гаварылі, каб назаўтра хлопцаў трох-чатырох да работы прыйшло". А нас ранічкаю чалавек трыццаць забяжыць. Выйдзе аканом Марко: „О-ёй! Хлопцы, столькі вас прываліла, а мне толькі трох трэба!" Выбярэ з грамады, хто яму найбольш да спадобы, а іншыя — павярнулі дахаты насы апусціўшы. І кожны ідзе ды думае: „Прапала тры злотых... Прапала..." Бо за днёўку пераважна 3 або 5 злотых плацілі, залежна ад работы. А работа цяжка была — не разагнешся, не перадыхнеш. Шчыраваць трэба, бо на другі раз не возьмуць. Мне давялося і парабкаваць у Гарчаках, за 15 злотых у месяц. А цэны тады былі такія: кілаграм цукру — 1 злоты, бутэлька гарэлкі — 2 злотых.

І чалавек сам пачынаў даходзіць да розуму, што так далей жыць нельга, што няма нічога перад ім — толькі адно парабкаванне ды галеча. А ў нашай вёсцы было ўжо некалькі чалавек такіх, што пачытвалі беларускія газеты, да Грамады належалі: Уладзімір Якімец, Міхал Малішэўскі і іншыя.

На навуку ў школе то ў мяне і часу не было. Вучыўся я ўсяго дзве зімы, бо ад Пакровы да Вялікадня, калі жывёла ў хляве стаяла. Толькі ўсяго і было майго школьнага занятку. Але тады, калі ў 1918-20 гадах была ў нас тут Беларусь і школы былі беларускія, то якраз на добры шлях і наставіла мяне беларуская школа. Школа была ў нашай вёсцы, у хаце Мікалая Вуткі. Вучыла ў ёй народная настаўніца Вольга Ярашэвіч. Добрая была настаўніца! Па-беларуску добра ўмела сама, і нас навучыла любіць і шанаваць сваю мову. Яна таксама і па-польску чытаць і пісаць навучыла. Потым гэтую школу закрылі і не было навукі аж да 1924 года. А калі зноў пачаліся заняткі, то ўсе сядзелі ў першым класе: і дзеці сямігадовыя і кавалеры семнаццацігадовыя. Настаўніца ж маладзенькая была, вучыла яна першы год — жартавалі толькі ды кепікі строілі з яе. Але хутка яе замянілі баявым настаўнікам Юзафам Аргасінскім. Той адразу ўзяўся за нас, як след. Я ведаў ужо літары, добрым вучнем быў, ён мяне хутка прыўважыў. Хоць я і не хадзіў у школу, бо пасвіў быдла, але ён мне падсоўваў то газетку пачытаць, то кніжку. І так я сам сабе свет адкрываў і жыццёвай праўды вучыўся.

Падчас выбараў у Сейм у 1928 годзе старэйшыя залучылі мяне да нелегальнай работы то, маўляў, пайдзі туды і туды; лістоўкі перадай, то пайдзі ды скажы тое і тое. Змагаліся мы тады за галасы на наша беларускае „Змаганне". Пасля ж запрапанавалі мне ўступіць у Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі, потым сябры выбралі ў Крыноцкі раённы камітэт КСМЗБ. То так яно толькі называлася „Крыноцкі", бо сядзіба гэтага камітэта была штораз то ў іншым месцы — пераважна па вёсках і чым вёска глушэйшая, тым лепшая.

У 1935 годзе я ўступіў у партыю, гэта значыць у Камуністычную партыю Заходняй Беларусі. Дзейнасць была і цяжкая і небяспечная, бо ўсюды поўна было даносчыкаў і правакатараў. Паліцыя добра ведала, хто чым дыхае і час ад часу „запрашала" на пастарунак, каб „усыпаць" колькі ўлезе. Але білі так, каб знаку на целе не было і кроў не пайшла. Пераважна лілі ў нос ваду, змешаную з воцатам і нафтай, білі палкамі ў пяты, па шыі.

Урэшце 6 сакавіка 1936 года ліквідавалі нашу КПЗБоўскую арганізацыю. Са Слоі і суседніх вёсак пасадзілі чалавек сорак, калі не болей. Суд адбыўся на выязной сесіі ў Саколцы 7 і 8 красавіка 1937 года, гэта быў гэтак званы „Працэс 37-мі". Атрымалі мы высокія прысуды, мяне засудзілі на 5 год, а калі я падаў на апеляцыю, то яшчэ дадалі паўгода. Сядзелі са мной і іншыя з нашай вёскі і з суседніх. Адпакутаваў я 2 гады ў беластоцкай турме і два гады ў турме ў Дарагабычу.

Гэта быў страшны час здзекаў над намі турэмшчыкаў і адначасова час маіх універсітэтаў. Сядзелі разам са мной людзі адукаваныя, і яны давучвалі нас, сялянскіх ды рабочых хлопцаў.

У пачатку верасня 1939 года ўся ахова турмы разбеглася, пахавалася. Мы разбілі дзверы і вароты ды выйшлі на волю. Гэта быў 12-ы верасень — цудоўны дзень у маім жыцці...

Пры Савецкай уладзе паслалі мяне ў Сідру працаваць старшынёю сельсавета (па-тутэйшаму — гміны). Праца была цяжкая і адказная, але я адолеў усё, і людзі пра мяне яшчэ сёння ўспамінаюць добрым словам.

А ўсю акупацыю давялося хавацца па знаёмых, у лесе, так-

сама і каля Сідры. Людзі хавалі, кармілі, хоць ім за гэта пагражала смерць.

Пасля вызвалення адразу акунуўся я з галавой у партыйнай і грамадскай рабоце. Але ж пачалі хадзіць банды ды выбіваць актыўнейшых людзей. Прыйшлі і ў нашу хату ды пастралялі маіх бацькоў. Вылілі помсту за мяне на бязвінных старэчах... І давялося мне, як найстарэйшаму ў сям'і, быць і бацькам і маткай для сваіх сясцёр і братоў. Прапанавалі мне і курсы розныя і пасады добрыя. Але ж куды я пайду, калі ў хаце сіраты засталіся. Так і астаўся я на месцы. Ажаніўся. Да братоў і сясцёр сваіх дзетак стала прыбываць — трэба было зарабляць на хлеб і адзежу ды і не азірацца на сябе і сваю будучыню. Ну і працаваў, як сілаў хапала. Быў старшынёй Прэзідыума Гміннай рады нарадовай у Шудзялаве і на іншых пасадах — усё каб блізка каля хаты, бо ж трэба было гаспадарку абрабляць!.. І вось так і радня выдараслела і сваіх дзетак пагадаваў і не паспеў азірнуцца, як на пенсію пара настала...

Нямнога сказаў пра сябе Уладзімір Хомік. Так заўсёды з дзелавымі людзьмі — яны ўсяго сябе аддаюць дзеянню, справе і не любяць пра тое гаварыць. А ён мае пра што расказваць. Асабліва сёння, ужо на адпачынку, калі ўсе яго дзеці ўжо самастойныя і на добрай рабоце. А іх у яго шасцёра, ёсць сярод іх працаўнікі адміністрацыі, эканаміст, афіцэры, самы малодшы сын у мінулым годзе закончыў геадэзійны тэхнікум.

Потым я з прыемнасцю даведаўся, што Уладзімір Хомік адзначаны ў 1964 годзе Крыжам Афіцэрскім Ордэна Адраджэння Польшчы за рэвалюцыйную дзейнасць і ўмацаванне народнай улады, знакам „Заслужаны для Рад Нарадовых" за шматгадовую працу радным і шэрагам іншых адзначэнняў.

А тады, у зімовы вечар, у чысценькай ды ўтульнай хатцы, дзе клапатліва тупала сардэчная і гасцепрыімная гаспадыня, так прыемна было мне пабыць з імі і паслухаць іх абое — Веру і Уладзіміра Хомікаў.

А вось і песні, якія мне наспяваў Уладзімір Хомік, песні, з якімі ён ідзе праз усё працавітае і рухлівае жыццё. Большасць гэтых твораў мае сваіх аўтараў і слоў і мелодый, але ёсць і такія, якія склалі былыя ТБШоўцы, Грамадаўцы, КСМЗБоўцы, КПЗБоўцы. Гэтыя песні дапамагалі ім жыць і змагацца.

Мелодыі песень расшыфраваў дырэктар Бельскага дома культуры мгр Сяргей Лукашук.

**М. Гайдук**







**Нёман-рака**

moderato ♩=88

ОХ ТЫ, НЁ-МАН-РА - КА, ЦІ ТЫ
ДУ-МАЎ, ЦІ СНІЎ, ЯК СЛЯ ЗУ МУ-ЖЫ-
КА У СВА-Е ВО-ДЫ ЛА-ВІЎ? ЯК СЛЯ-
ЗУ МУ-ЖЫ-КА У СВА-Е ВО-ДЫ ЛА-ВІЎ?

Ох, ты, Нёман-рака,
Ці ты думаў, ці сніў,
Як слязу мужыка
У свае воды лавіў?*)

Ён стаяў над табой,
Сын нядолі худы,
І над цёмнай вадой
Спяваў песню нуды,

Што надыйдзе пара,
Знемажэнне прайдзе:
Над табой загудзе
Песня вольных людзей.

Гэту песню тады
Мы ўсе будзем спяваць
І працоўных людзей
Ад бяды ратаваць.

Ох, ты, Нёман-рака,
Ці ты думаў, ці сніў,
Як слязу мужыка
У свае воды лавіў?

*) У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

## Сто тысяч нас было!

allegro vivace ♩=152

А ХТОЖ НЕ ВЕ-ДАЎ ГРА-МА-ДЫ ЎСЕ
ШЛІ К ЁЙ АД БЯ-ДЫ! НА-РО-ДУ ХТО БЫЎ
БРАТ — Ў ГУР-ТОК І-СЦІ ТОЙ РАД! СМЯ-
ЛЕЙ, БРА-ТЫ, У-ЖО СВІ-ТА-Е — ГА-
РЫЦЬ, ПА-ЛА-Е ЎСХОД. УЖО БЕ-ЛА-РУСЬ ПРЫ-МУС СКІ-
ДА-Е І СМЕ-ЛА ЙДЗЕ ЎПЯ-РОД. ЎЖО ВО-ЛІ
ЧАС, ЎЖО ВО-ЛІ ЧАС БЛІ-ЖЭЙ ДА НАС!

А хто ж не ведаў Грамады?
Усе шлі к ёй ад бяды!
Народу хто быў брат —
У гурток ісці той рад!

Смялей, браты, ужо світае —
Гарыць, палае ўсход.
Ужо Беларусь прымус скідае
І смела ідзе ўпярод.







Ужо волі час, ужо волі час
Бліжэй да нас!
Сто тысяч нас было сяброў —
Вялікі чалавек!
Яшчэ больш было другоў —
Не палічыць увек!
То сіла! Усяк ахвочы
За праўду пастрадаць —
Як селянін, так і рабочы
Буржуя смерці рад!
Як селянін, так і рабочы
Буржуя смерці рад!
Ужо волі час, ужо волі час
Бліжэй да нас!
Сядзець — не мы,
А будзеш ты!
Цяпер у Лукішках мы,
ЦэКа наш тут БээСэРГе —
За год сядуць паны!
Тут ім не лепша будзе каша,
Не лепшы і журок.
Надыдзе ўрэшце ліха ваша —
Падцягнеш „бжух", панок!
Ужо волі час, ужо волі час
Бліжэй да нас!
Хоць прасядзім мы
гадкоў дзесяць —
Не зломіць наш моцны дух!
Каго не здолеем павесіць —
таго сатрэм у прах і пух!

## Я лепшае долі шукаў

sostenuto 𝅗𝅥.=72

ВЫ НЕ СМЕЙ-ЦЕ-СЯ, ДОБ-РЫ-Я
ЛЮ-ДЗІ, ШТО Я БЕД-НЫ, ПА-
ПАЎ-СЯ Ў АС-ТРОГ, БО АД ЖА-ЛЮ МНЕ РВА-ЛІ-СЯ
ГРУ-ДЗІ І Я БО-ЛЕЙ ЦЯР-ПЕ-ЦІ НЕ
1 2
МОГ. БО АД МОГ.

Вы не смейцеся, добрыя людзі,
Што я, бедны, папаўся ў астрог,
Бо ад жалю мне рваліся грудзі
І я болей цярпеці не мог.*)

Бо я бачыў, як брат мой гаруе.
Ён абдзёрты і босы сядзіць,
Цэлы дзень, бядак, цяжка працуе —
Трэба грошай падаткі плаціць.

Як прыедуць паны па падаткі,
Хоць няма — адкуль хочаш, бяры,
Не глядзяць на тваё недастаткі —
Што ж ты будзеш з панамі рабіць?

Не сцярпеў я і пайшоў проці ўлады,
Бо я болей стрываці не мог!
І за гэта мяне злыя каты
Пасадзілі сюды у астрог.

І за што жа ж, браце, папаўся,
Я нічога ні ў кога не ўкраў.
А за тое сюды я папаўся —
Бо я лепшае долі шукаў.

*) У кожнай страфе трэці і чацвёрты радкі паўтараюцца.

---

### Годзі насіць ярмо!

За што вы мяне закавалі?
За што катуеце мяне?
Чым правініўся перад вамі?
За што вы мучыце мяне?*)

За што скавалі мае рукі?
Ці я аграбіў дзе каго?
Ці я зладзеем дзе бадзяўся?
Ці насміхаўся дзе з каго?

Ці меў намер я на забойства?
Здаецца, сумленна я пражыў?
І так, нявінны перад вамі
У кайданы рукі залажыў.

І так я мучуся ў кайданах,
Жыццё марную у турме.
А цябе, мілая, благаю,
Каб не тужыла пра мяне.

Як будзе сіла і здароўе,
То я выйду з-за гэтых крат,
А пакуль буду я ў вязніцы —
Мяне заступіць малодшы брат.

Няхай катоўні не баіцца,
Няхай чэсна ён жыве.
Няхай мазольнымі рукамі
Чырвоны штандар паднясе.



© PDF: Kamunikat.org 2011



Няхай той штандар чырванее,
Няхай спазнаюць варагі,

Няхай спазнаюць усё зладзюгі,
Што закавалі ў кайданы.

*) Трэція і чацвёртыя радкі ў кожнай страфе паўтараюцца.

andante ♩=63

ЗА ШТО ВЫ МЯ-НЕ ЗА-КА-ВА-ЛІ?
ЗА ШТО КА-ТУ-Е-ЦЕ МЯ-НЕ? ЧЫМ ПРА-ВІ-
НІЎ-СЯ ПЕ-РАД ВА-МІ? ЗА ШТО ВЫ
МУ-ЧЫ-ЦЕ МЯ-НЕ?

---

### Хто вас прасіў

Хто вас прасіў, чужыя людзі,
Каб нас без літасці таптаць,
Таптаць зямлю і нашы грудзі?
Уцякайце прэч вы ўсе ад нас!

Уцякайце прэч, бо кроўю змыем
Мы вас з радзімае зямлі —
Пайшлі туды — адкуль прыбылі,
Пайшлі туды — адкуль прыйшлі!

Ярмо насіць ужо нам годзі!
Нам досыць вашых кандалоў —
Ужо кліч пранёсся ў народзе —
За волю ўміраць гатоў!



© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011




---

**Картуз-Бяроза**

У глухім кутку Палесся,
Сярод балотаў і лясоў,
У сырой Картуз-Бярозе
Фашызм нам катаргу
знайшоў.
І нас ад масаў адарвалі,
Усадзілі за калючы дрот,
Каб слугамі фашыстаў сталі,
Каб цалавалі панскі бот.
Горш быдла нас трактуюць —
Усюды бегай, усюды б'юць,

Па карцарах катуюць,
Па сем дзён есці не даюць.
Мы ў полі бораны цягаем,
Рукамі гной на воз кладзем,
Раллю мы потам паліваем,
І смерці або волі жджэм.
Хай ведаюць фашысты,
Што нам Бяроза —
толькі гарт,
Што толькі камуністы
Зваць барацьбітам сябе варт!










**Мы чорту скруцім рогі**

Нас не любяць, з нас смяюцца
Поп кудлаты і кулак —
Трэба нам за справу ўзяцца,
Камсамольскі маладняк!*)

Сцёпка некалі на пана
Працаваў, як сівы вол,
А цяпер ён, сын Дзямяна,
Запісаўся ў камсамол.

Камсамолачка Дарота,
Пойдзем разам ваяваць —
Буду страляць з кулямёта,
Ты — патроны падаваць.

Хто ўпоперак дарогі
Ды на нашу грамаду?
А мы чорту скруцім рогі,
Богу вырвем бараду.

Бо мы тое добра знаем:
Няма чорта ні багоў.
Страшаць пеклам, цешаць
раем —
Усё мы чуем ад паноў.

Адзін рай усяго на свеце —
Паглядзіце вы на ўсход,

Там жывуць старыя
й дзеці —
Усе без гора, без клапот.

А мы мучымся, страдаем —
Вось і пекла тут у нас.
І чаго ж мы так чакаем,
Каб нам хтось палепшыў
час?

*) Трэція і чацвёртыя радкі паўтараюцца.




### Велікодная

Вясёлы дзень паном настаў —
Пірог з гусём з пячы дастаў,
Вясёлы дзень,
Вясёлы дзень!

Добра паном весяліцца —
Піць-есць — на стол
не змесціцца!
Вясёлы дзень,
Вясёлы дзень!







А наш мужык дaждаў
вясны —
Няма дзе ўзяць жмені мукі,
Пан біду даў
Пан біду даў!
Стала жонка жур варыці,
Стала мужу гаварыці:

„Пан біду даў,
Пан біду даў!“
І з той біды, і з той злосці
Пабіў мужык жонцы косці —
Але ж і даў,
Але ж і даў!




### Шчадроўка

Прайшоў стары — прыйшоў новы год.
Да чаго дажыўся наш бедны народ?

Дачакаліся мы мукі —
Будуць помніць нашы ўнукі
Да смерці паноў,
Да смерці паноў!

Яшчэ і горшыя часы настануць —
Мужыку косці дуба пастануць,

Бо за гэтыя падаткі
Забяруць нашыя сткі —
Паны прададуць,
Паны прададуць!

Бо пан такую натуру мае:
Жыўцом ён скуру з „хлопа“ здзірае.

Як пан дзярэ, то ксёндз срога:
„Бо то вшыстко ест од Бога —
Церп, душычко, церп!
Церп, душычко, церп!“

animato ♩=120

ПРАЙ-ШОЎ СТА-РЫ - ПРЫЙ-ШОЎ НО-ВЫ ГОД.
ДА ЧА - ГО ДА-ЖЫЎ-СЯ НАШ БЕД-НЫ НА - РОД?
ДА-ЧА- КА- ЛІ - СЯ МЫ МУ - КІ - БУ-ДУЦЬ ПОМ-НІЦЬ
НА-ШЫ ЎНУ-КІ ДА СМЕР-ЦІ -ПА- НОЎ,
ДА СМЕР - ЦІ ПА - НОЎ!

---

**Прачнуліся**

Паміж людзьмі багатымі ідзе гутарка адна,
ідзе гутарка адна,
што быццам беларусы ўжо збудзіліся ад сна*).
Паны кідаюць картамі, страчаюць тое жартамі,
а думаюць: „Бяда ўжо прыйшла!“*







О, як яны б хацелі, каб галубы ім самі ў рот ляцелі
ды, ведама: пячоныя і водкай падмачоныя,
і чым яшчэ — мне сорамна сказаць*.
Дзяўчаткі ходзяць кучкамі ды жураць і гудуць,
ды жураць і гудуць —
а ну ж прыдзецца ручкамі палітыку крануць!*
А хлопцы звесілі насы ды слухаюць, маўчаць
ды слухаюць, маўчаць —
а ну ж прыдзецца ад касы ў рукі стрэльбы ўзяць*?
А як дзяўчат пакінуці? А ну ж прыдзецца згінуці?
то лепей ужо на ўсход нам уцякаць!*

**Радкі, азначаныя зоркай (*), паўтараюцца.**

allegro ♩=132

ПА - МІЖ ЛЮДЗЬ-МІ БА - ГА - ТЫ - МІ ІДЗЕ
ГУ - ТАР - КА АД - НА, ІДЗЕ ГУ - ТАР - КА АД -
НА, ШТО БЫЦ-ЦАМ БЕ - ЛА - РУ - СЫ ЎЖО ЗБУ
ДЗІ - ЛІ - СЯ АД СНА, ШТО БЫЦ-ЦАМ БЕ - ЛА -
РУ - СЫ ЎЖО ЗБУ -ДЗІ - ЛІ -СЯ АД - СНА.



Дзядулева мінулае. Разьба У. Наўмюка. Фота М. Гайдука.









Міхась Хмялеўскі

# ЗАСЛУЖАНЫ АЎТАРЫТЭТ

Кожнай раніцы рабочага дня ў Беластоку плыве да аўтобусаў людскі паток, паток жыцця і працы, які спяшаецца ў прадпрыемствы і ўстановы, на месцы сваёй работы. У гэтым патоку ёсць і Валянціна Ласкевіч, якая хуткімі крокамі накіроўваецца ў „Дом кнігі", дзе яна на адказнай працы кіраўніка аддзела рэкламы. Штодзённыя яе справы — гэта прапаганда і распаўсюджванне кніжкі. А кніжкі — гэта веды з усіх галін і духоўныя вартасці, якія трэба рэкламаваць, даносіць да шырокіх мас.

Апрача гэтых штодзённых, часта ў **Валянціны Ласкевіч** бываюць нештадзённыя заданні. Вось, напрыклад, у студзені і ў лютым 1986 года яна шмат папрацавала пры падрыхтоўцы ў Беластоку Агульнакраёвай выстаўкі сельскагаспадарчай кніжкі і прэсы. Трэба было зрабіць усё на высокім узроўні, каб Беласток не падвёў. І не падвёў. 18 лютага багатая выстаўка ўрачыста была адкрыта з удзелам прадстаўнікоў цэнтральных і ваяводскіх улад.

Кожны год дадатковыя абавязкі В. Ласкевіч мае ў маі



Валянціна Ласкевіч адкрывае канцэрт XXX-годдзя БГКТ і „Нівы". Фота С. Грынявіцкага.

месяцы. У сувязі з Днямі асветы, кніжкі і друку арганізуюцца кірмашы кніжкі ў Беластоку і іншых мясцовасцях нашага ваяводства.

У „Доме кнігі“ В. Ласкевіч працуе ўжо 13 год, і ўвесь гэты час з уласцівай ёй сур'ёзнасцю вырашае ўсе тыя справы, якія праходзяць праз яе рукі.

Аб яе аўтарытэце ў Доме кнігі сведчыць, між іншым, і той факт, што яе ўжо тройчы выбралі сакратаром партыйнай арганізацыі.

Можна было б многа гаварыць аб яе працы ў сваёй установе, аб розных праблемах і цяжкасцях, і аб тым, як яна з імі спраўляецца. Аднак на гэтым мы затрымаемся, проста таму, што кожны чалавек абавязаны добра працаваць, калі за гэта яму плоцяць грошы.

Ніжэй пойдзе гутарка аб той працы, за якую грошай ніхто не плоціць: выконвае В. Ласкевіч яе па клічу сэрца. Гэта грамадская праца Валянціны Ласкевіч у Беларускім грамадска-культурным таварыстве.

У вялікім горадзе Беластоку вельмі часта беларусаў трэба асмельваць да яўнай пашаны сваіх традыцый, да смелага выяўлення сваіх нацыянальных духоўных патрэб. І В. Ласкевіч як сапраўдны дзеяч БГКТ смела ставіць культурна-асветныя праблемы беларусаў г. Беластока і Беласточчыны і на пасяджэннях камісіі культуры Ваяводскай рады ПРОН, членам якой яна з'ўляецца, і на пасяджэннях камісіі культуры Ваяводскага праўлення ТППР, да якой яна належыць, і на шматлікіх пленумах і канферэнцыях ГП БГКТ (яна член ГП ад 1980 г.). Усюды з яе голасам лічацца, бо ён канструктыўны і прасякнуты патрабавальнасцю да добрасумленнага і самаахвярнага дзеяння.

У 1969 годзе Валянціна Ласкевіч пачала працаваць у ГП БГКТ інструктарам на Беластоцкі павет, пасля кіраўніком культурна-асветнага аддзела ГП. Не шкадавала часу, патрапіла гуртаваць вакол сябе людзей і шанаваць актыў, заўважаць нават найменшыя праявы заангажавання ў грамадскую працу на беларускай ніве. Тады Беластоцкі павятовы аддзел шырока супрацоўнічаў з многімі арганізацыямі: маладзёжнымі арганізацыямі, добраахвотніцкімі пажарнымі камандамі, вайсковай часцю ВОП, духавы аркестр якой іграў на народных фэстах, а афіцэр ВОП Пётр Дзяконьскі актыўна ўключыўся ў працу БГКТ і быў выбраны ў той час у склад праўлення аддзела. Рос аўтарытэт Валянціны Ласкевіч і разам з ім аўтарытэт БГКТ.

У 1974 годзе Валянціна Ласкевіч перайшла на работу ў Дом кнігі, але не перастала працаваць для дабра таварыства. Незразумелым для яе быў факт, што многія былыя





**Беластоцкі беларускі хор на Свяце беларускай культуры ў сваім горадзе (чацвёртая злева — старшыня Беластоцкага аддзела БГКТ Валянціна Ласкевіч.**

штатныя працаўнікі ГП, як толькі перайшлі на іншую працу, дык адразу выключаліся з БГКТоўскай дзейнасці. В. Ласкевіч жыла надалей справамі беларускай арганізацыі. У 1980 годзе яе выбіраюць на з'ездаўскім пленуме членам Прэзідыума ГП БГКТ. Члены БГКТ з горада Беластока пастаянна даручалі ёй функцыі: члена праўлення, намесніка старшыні Беластоцкага гуртка, а пасля X з'езда БГКТ, калі зноў можна было ствараць аддзелы, яна была выбрана старшынёю аддзела. І людзі задаволены: старшыня заўсёды энергічная, ініцыятыўная, з глыбокім пачуццём адказнасці за лёсы арганізацыі. Не мірыцца яна з расхлябанасцю і бяздзейнасцю ў працы як у прафесіянальнай так і грамадскай. Бо калі працаваць, дык шчыра.

У 1985 годзе Беластоцкі гарадскі аддзел узнавіў святкаванне старажытнага беларускага земляробчага свята Купалля. У ноч з 6 на 7 ліпеня над рэчкай Нарвай, каля Войшкаў, было яно арганізавана з удзелам БГКТоўцаў з Рыбалаў. Свята прайшло вельмі цікава. Было на ім і ўступнае інфармацыйнае слова аб старых колішніх звычаях, было і вогнішча, спяваў хор, спявалі ўсе ўдзельнікі, танцавалі, дэкламавалі вершы Я. Купалы, апавядалі жарты і ле-

генды і пускалі вянкі па рэчцы Нарве.

Трэба адзначыць таксама дзень сустрэчы з беларускай культурай, які быў наладжаны супольна з грамадскай радай ПРОН і гарадскім праўленнем ТППР у Беластоку. Адбылося гэта ў 1985 годзе ў амфітэатры. Удзельнічалі ў гэтым мерапрыемстве беларускія харавыя калектывы. Гэта была вельмі цікавая імпрэза, падабалася яна беластачанам.

Аддзел падрыхтоўвае таксама ўрачыстасці з нагоды дзяржаўных свят і гістарычных гадавін. Заўсёды служаць яны ўмацаванню дружбы паміж польскім і беларускім народамі.

Дыскусійны клуб ПРОНу, які існуе пры аддзеле БГКТ, наладжвае сустрэчы з дзеячамі гэтай арганізацыі. Наладжваюцца таксама сустрэчы з нашымі беларускімі літаратарамі і іншымі цікавымі людзьмі. Перад рамонтам будынка на Варшаўскай 11 праводзіліся і танцавальныя вечарыны. Адбываліся таксама выступленні харавых калектываў БГКТ, на якія прыходзіла шмат беластачан. Праводзіліся заняткі для дзяцей па балету і музыцы. З іх вылучалася група, якая навучалася беларускай мове. Цяпер аддзел працуе ў цяжкіх умовах. Харавы і тэатральны калектывы праводзяць рэпетыцыі ў пазычаных памяшканнях.

Дзякуючы, аднак, умелай арганізацыі, энергіі і асабістаму заангажаванню В. Ласкевіч 16 лютага 1986 года ў Беластоку на раённы агляд „Беларуская песня-86“, які адбыўся ў пазычанай зале дома культуры „Захента“ прыбыло мноства людзей. Але з-за недахопу месцаў многія не трапілі на імпрэзу. Значыць, трэба пашыраць беларускую культурна-асветную дзейнасць у горадзе Беластоку. І добра, што пры аддзеле дзейнічае харавы калектыў пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы і тэатральны калектыў пад кіраўніцтвам Янкі Морданя, якія хоць у нейкай ступені задавальняюць духоўныя запатрабаванні беларусаў горада.

Неабходна сказаць аб Валянціне Ласкевіч як аб добрым канферансье. Адрэкамендаваць беларускую песню і яе выканаўцаў прыгожым беларускім словам — справа важная. Яна добра спраўлялася з гэтым заданнем раней і дасканала справілася ў мінулым годзе, на фінальным аглядзе конкурсу „Беларуская песня-86“ і падчас канцэрта лаўрэатаў гэтага агляду, які слухалі і ўдзельнікі ўрачыстага пленума ГП БГКТ з нагоды XXX гадавіны БГКТ і „Нівы“.

І трэба прызнацца, што без Валянціны Ласкевіч дзейнасць БГКТ у Беластоку была б значна бяднейшая. Але калі з ёю завядзем гутарку аб гэтай працы, дык яна перш за ўсё гаворыць аб іншых людзях, што працуюць у аддзеле. Так было і перад напісаннем гэтага артыкула. Ласкевіч настойліва дамагалася, каб пісаў я перш за ўсё не аб ёй, а аб заслугах для БГКТ людзей, як Люба Гаўрылюк, Мікалай Гайдук, Віталі Макац, Кастусь Масальскі, Уладзімір Куршаль, Тамара Баран, Іван Стрышко, як члены харавога і тэатральнага калектываў і ўсе тыя, якія лічаць сваім маральным абавязкам актыўна дзейнічаць у БГКТ.

А ўсё ж хацелася б яшчэ сказаць аб В. Ласкевіч некалькі сказаў. Гэта былыя настаўнікі ў Рыбалах — Аляксандра Панасюк і Сяргей Філіпюк прышчапілі ёй любоў да ўсяго роднага і да ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці. Будучы вучаніцай пачатковай школы, а пасля сярэдняй, яна ўжо добра спявала і выступала ў драматычным гуртку. Незабыўнай была п'еса „Валодзеў гальштук“ К. Крапівы, у якой яна, тады яшчэ Валя Філіпюк, выконвала ролю маці і выклікала сваёй ігрой слёзы на вачах прысутных. Гледачы плакалі разам з ёю па забітым немцамі сыне.

Падчас яе вучобы ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Беластоку, апрача мастацкай самадзейнасці Валю далей, так як у пачатковай школе, захапляў спорт. А ён, як вядома, патрабуе вялікай настойлівасці і моцнай волі ў трэніроўцы, бо толькі тады можна дабіцца добрых вынікаў. І аб В. Філіпюк загаварылі пахвальна. Была яна чэмпіёнам юніёраў у Польшчы ў бегу на 100 метраў. Гэта лічылася высока.

Пасля заканчэння сельскагаспадарчага тэхнікума ў 1966 годзе, яна распачала свой самастойны працоўны шлях у ПЗГСе ў Бельску і ўключылася не ў які іншы (там ёсць некалькі), а толькі ў беларускі харавы калектыў „Васілёчкі“.

З вялікай сардэчнасцю ўспамінае В. Ласкевіч тыя чатыры гады (1966-70) свайго ўдзелу ў „Васілёчках“ пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. Разам з хорам славіла яна беларускую песню на шматлікіх сцэнах Беласточчыны, а таксама па-за яе межамі, з асаблівай цеплынёй расказвае аб турнэ па запрашэнню Куяўска-Паморскага таварыства ў 1969 годзе.

Дачку Еву, вучаніцу IV класа пачатковай школы, выхоўвае яна па свайму ўзору, бо добра разумее, што дзяцінства — гэта час сяўбы, а сеяць трэба добрае, каб добрае ў будучыні жаць.

**Міхась Хмялеўскі**

Фота С. Грынявіцкага

**Віктар Рудчык**

# ПРАКОС



**Вядзе канцэрт XXX-годдзя БГКТ і „Нівы“ Мікола Бушко. Фота С. Грынявіцкага.**

Ведаюць яго ў Гайнаўцы і не толькі ў Гайнаўцы. Статны мужчына з чорнай патрыяршай барадою стаўся неадлучным элементам грамадска-культурнага краявіду беларусамоўнай Беласточчыны.

Ёсць жа людзі, якія навокал сябе рассяваюць нябачаныя праменні святла і цяпла. У іх лік стаўлю я магістра інжынера **Мікалая Бушко**, сына Марты і Юльяна, родам з вёскі Навасады, што на ўскраіне Белавежскай пушчы.

Афіцыйна ён ад 1979 года лічыцца дырэктарам Гайнаўскага дома культуры. Але гэта толькі адзін са шматлікіх заняткаў гэтага цікавага і складанага па сваёй натуры, таленавітага чалавека. Апрача Бушко-дырэктара, я ведаю Бушко-акцёра, які зусім свабодна вядзе сябе на сцэне, аб чым найлепш мы пераканаліся ў час мінулагодняга агляду „Беларуская песня-86“, ведаю таксама Бушко як дасканалага спевака, калі сваім глыбокім басам выдатна ўзбагачае Гайнаўскі беларускі хор; ведаю яшчэ Бушко як зусім прыватнага чалавека, які з хваляваннем успамінае цяжкае жыццё свайго нябошчыка бацькі, ды адначасова з бацькоўскай чуллівасцю гаворыць пра свайго сына Паўліка; і ўрэшце ведаю я Бушко-інжынера, спецыяліста па тэхналогіі апрацоўкі драўніны; можна таксама гаварыць пра Бушко як грамадскага дзеяча, які, між іншым, ад X з'езда з'яўляецца членам Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ. І не будзе гэта яшчэ поўны пералік усяго таго, што складаецца на партрэт гэтага надта ж скромнага чалавека.

— Бачыш, Віктар, ніхто з нас свайго лёсу не выбірае, — сцвярджае ён. — Якое ярмо накінула мне жыццё на плечы, такое я й цягну, стараючыся не адставаць ад свайго часу і народа.

Ён нарадзіўся ў 1949 г. Калісьці, у час яго басаногага дзяцінства, грукаталі па вясковым бруку падкаваныя жалезам драўляныя вазы. Яны, як рэха колішняй галечы, пакінулі трывалы след у яго ўспамінах.

— Мне яшчэ і сарака гадоў няма, — кажа Мікалай Бушко. — Я, так сказаць, з'яўляюся дзіцём народнай дэмакратыі, а колькі ўсяго ўжо перамянілася на маіх вачах! Не так даўно, вяртаючыся з сынам з прадшколля, заспяваў я яму вядомую беларускую песню „Ой, аралі хлопцы поле, выаралі ярмо...“ Ён любіць разам са мной спяваць дзядулінабабуліны песні, а мой удзел у рэпетыцыях Гайнаўскага хору вельмі ж спрыяе вывучэнню, а затым і перадаванню для сына розных нашых песень. Паўлік ахвотна іх выконвае, найчасцей са мною, а часам і мама наша, значыць, мая жонка, якая родам таксама з падгайнаўскай вёскі Пуціскі, далучаецца да нашага сямейнага калектыву. На гэты раз, пачуўшы песню пра выаранае ярмо, мой Паўлік тут жа запытаў:

— Татку, а ярмо — гэта што?

Давялося бацьку рысаваць пару валоў і драўляную саху з доўгім дышлем, за якой з натугаю ішоў згорблены селянін-араты.

— Бачыш, сынку, — паясніў бацька, — вось гэтыя перакладзіны, што на шыі ў валоў, — гэта і ёсць ярмо. Так зямлю калісь аралі гэтыя хлопцы.

— А чаму ж яны трактар не ўзялі ў эскаэры? — пытае Паўлік.

Кожнаму часу — свой прызнак. Так было і будзе. Малому Паўліку ўжо цяжка ўявіць выгляд дзедаўскага прыпушчанскага поля без грукату трактароў.

— І я ўжо з уласнага вопыту не памятаю драўлянай сахі, — кажа Бушко. — Засталася яна яшчэ ў расказах маіх самых старэйшых аднавяскоўцаў, калі яны, пасвячы кароў або коней, забаўлялі нас, малышоў, маляўнічымі ўспамінамі пра сваё гаротнае жыццё-быццё. А пасвіць даводзілася мне ўсялякую жывіну. Найгорш было ўставаць надосвітку, каб нашы красулі змаглі паскубаць яшчэ расістага мурогу. Каб яны панаядаліся да ранішняга даення...

І гэтыя гутаркі ля пастушынага вогнішча былі для мяне першай школай светапогляду. Не было ў іх тэм забароненых. Аб усім гаварылася з сялянскай прастатой, называючы рэчы сваім уласным імем. Там і пра вайну, і аб партызанскай дзейнасці, якой славілася наша вёска, і аб КПЗБ і аб Грамадзе, хаця я яшчэ тады не надта ж разумеў аб чым ідзе гаворка...

А яшчэ адным, болей сур'ёзным, настаўнікам на жыццёвы шлях малога Міколкі быў дзядзька Сяргей Янчук.

— Болей светлага і разважлівага чалавека, — сцвярджае Мікалай Бушко, — я ў сваім жыцці дагэтуль не сустрэў. Ён хіба ніколі перад нікім не схлусіў. Кожнаму чалавеку, не зважаючы на яго грамадскае становішча, на яго пасаду, адукацыю і заслугі, сваю праўду рэзаў проста ў вочы. У яго быў сын Толік у маім узросце. Мы разам раслі, і я поўнымі жменямі, зусім не ведаючы аб гэтым, чэрпаў з народнай мудрасці дзядзькі Сяргея. У яго, хаця як рэдка ў якога селяніна, было вельмі многа кніжак. Дзядзька меў звычай чытаць уголас. Інакш проста не ўмеў. Казаў, што не разумее, аб чым чытае, калі ўголас не паўторыць сабе кожнага слова. „То ж чытанне, браток, — маўляў, — гэта ж размова таго, хто напісаў кніжку, з тым, хто яе чытае, а як жа ж гаварыць без мовы?" У яго, у дзядзькі Сяргея Янчука, зведаў я найперш тайну чытання друкаваных літар. А яшчэ я цаню дзядзьку Сяргея і за тое, што менавіта ён адкрыў мне вочы на каштоўную вартасць грамадскай працы. Прыналежыў ён да нешматлікага грамадскага актыву, які ў цяжкі пасляваенны час, пад пагрозай бандыцкага расстрэлу, ладзіў вясковы гандаль на Гайнаўшчыне, засноўваў „Сялянскую самапомач".

Так накапляўся яго жыццёвы вопыт. У яго фармаванні адыгралі станоўчую ролю многія людзі, перш за ўсё — бацькі. Міколка быў іх чацвёртым і апошнім дзіцём, але першым хлопчыкам.

— Бог тройцу любіць, але ў чацвёрты раз — узнагароджвае, — любіў паўтараць шчаслівы бацька, што нарэшце усё ж такі дачакаўся прадаўжальніка свайго роду. І ўжо змалку паводле суровых прынцыпаў сялянскага выхавання рыхтаваў свайго адзінага сына да ролі гаспадара.

— Мне самому не хочацца цяпер верыць, што можна і трэба так цяжка працаваць, як даводзілася ў нашай сям'і, асабліва майму бацьку. Ад вясны да восені — у полі, а цэлую зіму — у пушчы. Думаю, што каб можна было яго працу пералічыць на грошы, дык хапіла б іх, каб стазалатовымі паперкамі поўнасцю прыкрыць усё бацькавае поле. Збожжа і бульба ў літаральным сэнсе палівалася нашым потам.

У дванаццатым годзе жыцця Міколка ішоў ужо з бацькам на сенажаць.

— Было так, — успамінае ён, — спярша бацька прахо-дзіў два пакосы, а я паспяваў зрэзаць паўпакоса. З гадамі — дагнаў я бацьку. Ён пакос і я — пакос.

— Малайчына, добры касец з цябе будзе! — хваліў мяне бацька. Ішлі, аднак, гады і ён мала-памалу пачаў адставаць ад мяне...

Я паглядзеў на плячыстага, здаравеннага барадатага мужчыну і нечакана прыпомніўся мне верш Алеся Барскага пра хлопцаў белавежскіх, якія ў росце раўняліся з клёнамі, а сілу бралі ад дубоў небасяжных і падумаў я, што нічога дзіўнага ў тым, што гэтакі падбелавежскі хлопец абагнаў і на пракосе свайго бацьку.

— Гэтае спаборніцтва з бацькам на сенажаці, — адзначае Мікалай, — яшчэ і сёння даволі часта вяртаецца да мяне ў самых прыгожых снах. Я з натугаю цягну свой пакос, пацею, задыхаюся, амаль падаю, каб дагнаць свайго бацьку, які размашыстым крокам, роўна і спакойна вядзе сваю касу... Яго пакос беспаваротна абарваўся на 79 годзе жыцця. Мой яшчэ трывае. Як доўга?

Уздыхнуў Мікола і задумаўся.

І я таксама маўчаў, думаючы аб вялікай таямніцы чалавечага жыцця. Спадзяваўся дзядзька Юльян, што яго адзіны сын пяройме гаспадарку, марыў, што будзе прадаўжаць ягоныя сялянскія звычаі і традыцыі. Але ён, гэты адзіны сын, абагнаў бацьку на сваім пакосе і пайшоў іншым шляхам.

Але найперш была пачатковая школа ў сваёй роднай вёсцы.

— Прайшоў я цераз яе, як цераз прыгожы сон, — кажа цяперашні дырэктар. — Навука прыходзілася мне лёгка. Асабліва зачытваўся я ў кніжках.

Але на гэтае чытанне даводзілася красці час ад шматлікіх абавязкаў у гаспадарцы, бо ніхто не звольніў яго ад догляду кароў і коней, ад дапамогі бацьку ў полі і ў пушчы, куды кожную зіму ездзілі яны на заробак, каб было і сабе на выдаткі і дзяржаве на падаткі...

— Двух маіх настаўнікаў асабліва моцна і выразна запісаліся ў маім сэрцы. Гэта Ян Капчук — тадышні дырэктар пачатковай школы ў Навасадах, чалавек надзвычайнай энергіі, грамадскі дзеяч, які ў дзесяць разоў больш даваў ад сябе, чымсьці патрабавалі гэтага яго службовыя абавязкі. На жаль, добрыя людзі рэдка калі бываюць шчаслівыя ў сваім жыцці. Так і сталася з Капчуком... Але я буду яму ўдзячны да канца майго жыццёвага пракосу. Здаецца, што гэта ад яго вядзецца ў мяне схільнасць да грамадскай дзейнасці, гэта ён прывіў мне веру,

што праца для іншых узбагачае чалавека...

— А другі настаўнік? — перапыніў я Мікалая.

— Гэта — яна, настаўніца, Тамара Бусьняк. — На жаль, хвароба заўчасна скасіла гэтую жанчыну, якая найсвятлейшымі праменнямі запісалася ў маёй душы. Вучыла яна нас беларускай мове, раскрывала перад намі чароўныя вартасці ўсяго таго роднага, што скрывалася за заслонай мужыцкасці, тутэйшасці, простанароднасці. Гэта яна ўводзіла нас, вясковых дзяўчынак і хлопчыкаў, на высокую гару бацькоўскага краявіду, каб з гэтай вышыні пабачыць і зразумець маглі мы: хто мы і адкуль мы.

Тое, што сёння лічу я сябе свядомым беларусам вядзецца ад яе, ад незабыўнай пані Тамары Бусьняк. Яна не толькі на ўроках вучыла нас роднай мове, але знаходзіла яшчэ час і ахвоту, каб любоў да свайго, да роднага замацоўваць у час шматлікіх надабавязкавых заняткаў. Калі яшчэ і сёння засталася ў мяне ахвота ўдзельнічаць у мастацкім аматарскім руху, то безумоўна вядзецца яна з нашай навасадаўскай школы. У ёй пані Тамара безупынку наладжвала розныя самадзейныя пастаноўкі на беларускай мове. Ад яе вядзецца маё знаёмства спярша з „Зоркай“, якую можна было тады складаць і падшываць, як кніжачку, а затым і з цэлай „Нівай“. Да сёння не забуду, з якім хваляваннем чакалі мы чарговай пятніцы, калі заходзіў у нашу школу пісьманосец з глыбокай торбай, запоўненай газетамі, сярод якіх знаходзілася і наша беларуская „Ніва“. Пані Тамара не толькі заахвочвала нас падпісвацца на гэты тыднёвік, чытаць „Зорчыны“ казкі і апавяданні, вывучаць вершыкі, але яна патрапіла неяк непрыкметна падаць думку, каб нехта і з нас штосьці пра сябе і сваю школу напісаў у „Ніву“. Здарылася гэта мне. Тады асабліва нецерпяліва праглядаў я кожны нумар і „Зоркі“ і „Нівы“! А калі там надрукавалі нейкую вестку пра нашы Навасады, дык аб гэтым зараз гаварыла ўся вёска. Такая была наша настаўніца, пані Тамара Бусьняк... Бывае, зайду з кветкай на яе магілу, у задуме запалю свечку. Хай гарыць... І здаецца мне, што я пастаянна ў яе ў даўгу. Бо агонь усіх сваіх пуцяводных імкненняў запазычыў я ад гэтай заўчасна згаслай настаўніцы...

У 1963 годзе Мікалай Бушко закончыў пачатковую школу і перад ім стала пытанне: „Што далей?“ Бацька па-даўнейшаму, бачыў у ім свайго пераймальніка. Але гвалтам сваёй волі не накідваў.

— Калі хочаш вучыцца, — гаварыў, — то колькі змагу, столькі буду дапамагаць. А калі хочаш быць гаспадарсм — таксама добра. Гаспадарка ў нас неблагая, купіш машыны, завядзеш жывёлагадоўлю і жыць будзеш нягорш ад гэтых у горадзе...

Міколка вагаўся.

— Я дагэтуль люблю працаваць у полі або на сенажаці, — гаворыць ён. — Пасля смерці бацькі ў 1983 г. рэнтальным актам гаспадарку пераняла адна з маіх сясцёр, якая даўней ужо абсталявалася ў Навасадах. Пры ёй і жыве наша матуля. Да яе, да гэтай сястры, я часценька заязджаю ў памочнікі.

Міколка мог выбраць агульнаадукацыйную школу, але перамог сялянскі практыцызм, хаця яго сэрца імкнулася ў зусім іншым напрамку. Па галаве троіліся рыфмы вельмі чуллівых вершаў, якія пасля пачалі паяўляцца на палосах школьнай сценгазеткі або ў сшытках болей дaвераных сяброўак...

Усё ж будучы дырэктар Гайнаўскага дома культуры стаў пакуль што вучнем тэхнікума дрэваапрацоўчай прамысловасці, які памяшчаецца ў самым цэнтры Гайнаўкі. Здольны і адважны юнак, які не саромеўся выступіць на школьнай сцэне, хутка знайшоў сваё месца і ў новым асяроддзі.

— Я не адчуваў якой-небудзь прыніжанасці перад гарадскімі франтамі, — заяўляе ён. — Найгорш было кожны дзень даязджаць у Гайнаўку. З Навасад — гэта 8 км. Пры любой пагодзе даводзілася адмерыць туды і назад гэтую далеч. А тут, апрача ўрокаў, пачаліся розныя дадатковыя заняткі, я стаў гарцэрам, удзельнікам мастацкай самадзейнасці.

Бацька злаваўся, што Колькі часценька да позняга вечара няма дома. Быў жа ён адзіным памочнікам у гаспадарцы. А тут надабавак пачаліся і паездкі, ці то з гарцэрскай дружынай, ці то з мастацкім калектывам.

— Найгорш было тады, — прызнаецца Мікалай Бушко, — калі патрабавалі, каб я з'явіўся ў белай кашулі або ў гарцэрскім мундзіры. Сорамна, ой, як сорамна было мне прызнацца, што маім бацькам не хапае грошай, каб зафундаваць свайму адзінаму сыну цёмна-сіні касцюм з белай кашуляй, а яшчэ надабавак і зялёны гарцэрскі мундзір і гарцэрскі рамень з лілійкай і ганарыстую гарцэрскую шапку...

Некаторыя ўрокі па тэхналогіі драўніны вёў у гэтай школе тадышні дырэктар Гайнаўскага дрэваапрацоўчага камбіната, а цяперашні вядомы не толькі ў Гаўнаўцы, грамадскі дзеяч Аляксей Зін. І гэтакім чынам выпускнік тэхнікума не быў вымушаны клапаціцца аб працы. Дырэктар Зін ужо раней меў яго на прыкмеце. Пасля выпускных экзаменаў загадаў яму з'явіцца ў аддзел кадраў, запоўніць што трэба і станавіцца на даволі адказную пасаду.

— Ад шчасця я не ведаў, куды падзецца, — кажа Мікалай Бушко. — Бо трэба вам

ведаць, што ў дрэваапрацоўчым камбінаце, або коратка кажучы ў тартаку, здаўна працавала арыстакратыя гайнаўскіх рабочых. Справай гонару лічылася трапіць у гэты рабочы калектыў. А тут мне ўсяго ледзь 19 гадоў, нават парадачна вусы пад носам не зарысоўваюцца, — ён ухапіўся за сваю шырокую чорную бараду, — і пад маім начальствам людзі ва ўзросце майго бацькі...

Так распачалася ягоная працоўная біяграфія.

— Пасля ўступнага перыяду прыстасавання, — успамінае Мікалай Бушко, — праца складвалася мне даволі паспяхова, а найлепшай ацэнкай маіх намаганняў былі прапановы, каб павысіць мяне ў зарплаце і ў службовых абавязках. Я думаў, што ўжо назаўсёды спалучу свой лёс з Гайнаўскім прадпрыемствам дрэваапрацоўчай прамысловасці. А тут дайшла да мяне вестка, што на прыгранічным перавалачным пункце ў Семяноўцы патрабуюць загадчыка філіяла фірмы „Плытазбыт". Ад маіх Навасадаў гэта недалёка, даезд чыгункай яшчэ зручнейшы, чымсьці ў Гайнаўку, праца зусім самастойная, ад нікога незалежная і зарплата аж 5500 злотых! У той час мне не сніліся такія заробкі!

Спакусіўся. Напісаў заяву. Прынялі. Паехаў працаваць у пушчу. Мікалай Бушко стаў важным начальнікам. Яму трэба было ведаць, куды якія пліты, што паступалі ў Польшчу з Савецкага Саюза, накіраваць па краіне па розных прадпрыемствах. Ад яго захадаў у многіх выпадках залежала паспяховасць у ажыццяўленні прадукцыйных планаў не аднаго прамыслова-вытворчага прадпрыемства..

Ён хутка засвоіў таямніцы новых абавязкаў, якія нават і ў палавіне не запаўнялі яго гарачай душы.

— Я мог па тэлефону, не выходзячы з бацькоўскай хаты, распарадзіцца куды накіраваць які транспарт.

Маладая яго энергія прагнула адарвацца ад чыноўніцкіх паперкаў. Зноў адазвалася туга па грамадскай актыўнасці. Мікалай Бушко ўцягнуўся ў дзейнасць Саюза вясковай моладзі, пакуль гэтая арганізацыя не злілася ў адзіную маладзёжную плынь. Стаў ён падпорай навасадаўскай мастацкай самадзейнасці, заснаванай галоўным чынам на беларускай народнай культуры. Гэта з таго часу запамяталіся мне самыя розныя пастаноўкі ў Навасадаўскай святліцы, якая сваёй актыўнасцю славілася на ўвесь колішні Гайнаўскі павет.

Малады энергічны актывіст, які патрапіў умела выступіць на сцэне, прадэкламаваць верш, заспяваць прыгожа і падчас маладзёжных спрэчак паставіць пад агульнае абмеркаванне свой важкі голас, вядома, не мог не звярнуць на сябе ўвагі тадышніх кіраўнікоў грамадска-палітычнага жыцця на Гайнаўшчыне. Калі рашалася пытанне: каму прапанаваць нейкую важную ў мясцовым маштабе кіраўнічую пасаду, дык кандыдатура Мікалая Бушко, вядома, бралася пад увагу. Тым болей, што да таго часу стаў ён ужо магістрам-інжынерам, спецыялістам па тэхналогіі перапрацоўкі драўніны. Веды свае папаўняў у сістэме завочнай адукацыі. Між іншым, прапанавалі яму пасаду намесніка прэзаса Гайнаўскага ГСу.

Але ён не хацеў уваходзіць у новыя абавязкі, якія былі яму зусім не па душы. На шчасце для культуры М. Бушко не стаў прэзасам. Незадоўга затое паявілася іншая прапанова. Быў 1978 год. У гайнаўскага актыву паўстала думка, каб арганізаваць у Гайнаўцы „Рабочы цэнтр культуры". Ён меў аб'яднаць сродкі, магчымасці і маёмасць усіх разрозненых пунктаў культурных паслуг і, абапіраючыся на прызаводскім доме культуры „Гурнік", падпарадкаваным дагэтуль прадпрыемству хімічнай перапрацоўкі драўніны, абяспечыць у найшырэйшым маштабе культурныя патрэбы прамысловай Гайнаўкі.

Пачалі разглядацца за адпаведным кандыдатам на пасаду дырэктара гэтага рабочага цэнтра культуры. I зноў паявілася асоба М. Бушко. Прапанова яго запаланіла. Гэта было штосьці, у чым ён хацеў праявіць сваю актыўнасць ужо даўно. Мроіліся планы і намеры канкрэтных мерапрыемстваў, каб сапраўды заахвоціць да масавага актыўнага ўдзелу ў культурным жыцці гайнаўскіх рабочых. Каб стварыць магчымасці для культурнага адпачынку мясцоваму насельніцтву. Каб вялікі дом культуры сапраўды апраўдаў сваю назву і надалей не палохаў цішынёй і пустэчай, ажываючы толькі тады, калі трэба там наладзіць урачыстае пасяджэнне „з нагоды" ці пусціць нейкі фільм.

Словам, М. Бушко загарэўся да шырокамаштабнай культурнай дзейнасці, а яго сябры, мясцовыя кіраўнікі грамадскага і палітычнага жыцця ў Гайнаўцы малявалі перад ім ружовенькія планы заманлівай будучыні рабочага цэнтра культуры. Адно толькі тадышні загадчык аддзелам культуры Ваяводскай управы, разглядаючы дыплом магістра-інжынера па тэхналогіі перапрацоўкі драўніны і пасведчанні аб яго рабочым стажы, не змог паўстрымацца ад здзіўлення, што такога кандыдата яму ў дырэктары падсунулі і некалькі разоў паўтараў:

— А ці вы разумееце, за што бярэцеся?

М. Бушко не паддаўся гэтым не надта ж прыхільным адносінам свайго будучага ваяводскага шэфа. А шэф у сваю чаргу, мабыць, падумаў: што шкодзіць, дагэтуль было ўжо шэсць дырэктараў ад куль-

туры ў Гайнаўцы, хай будзе і сёмы, хаця ён і тэхнолаг па перапрацоўцы драўніны!

Коратка кажучы, ад 1 лютага 1979 г. М. Бушко афіцыйна стаў дырэктарам Рабочага цэнтра культуры, якога яшчэ не было і няма дагэтуль ды хіба ўжо ніколі не будзе.

— Ёсць толькі зацверджаны статут, — папраўляе мяне дырэктар. — Няма аднак ані сродкаў, ані ахвоты на ажыццяўленне гэтага каштоўнага і заманлівага праекта. Шырокамаштабныя планы хутка разбіліся аб сумную рэчаіснасць. Мой персанал складаўся з двух інструктараў, дапаможнага працаўніка і сакратаркі-машыністкі, якая працавала на палавінцы акладу, — успамінае дырэктар свае пачаткі на новай пасадзе. — Працаўнікі зараблялі вельмі мала, не было і ахвоты да творчай актыўнасці, бо ці сядзіш, ці робіш і так больш не заробіш... Незадоўга дзве адзінкі з майго персаналу пайшлі гадаваць дзяцей. Практычна астаўся я сам адзін са сваімі планамі...

І настойліва ажыццяўляў ён гэтыя свае прадуманыя планы. Тады Гайнаўка пачала значыць свае месцы ў культурным жыцці Беласточчыны. Прыгадаю тут толькі адзін масавы народны фэст, які дзякуючы намаганням Бушко адбыўся ў Гайнаўскім гарадскім парку. Быў пачатак лета 1981 года. Дырэктар Гайнаўскага дома культуры з уласцівай сабе энергіяй рашыў паказаць, як трэба ладзіць масавае культурнае мерапрыемства. Былі мастацкія калектывы, у тым ліку і бельскія „Васілёчкі" пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука, былі амаль у камплекце ўсе беларускія пісьменнікі з аб'яднання „Белавежа", а Сакрат Яновіч, Алесь Барскі, Міхась Шаховіч і Віктар Швед з ахвотаю падпісвалі свае кніжкі, якія прадавалі працаўнікі Галоўнага праўлення БГКТ. Натоўпы людзей не адставалі ад умелага ганчара, які на іх вачах паказваў, як нараджаецца гліняная пасудзіна.

Тады я ўпершыню пераканаўся, як свабодна, тактоўна і займальна Бушко патрапіць весці сябе на сцэне, выступаць як канферансье.

А раней, яшчэ зімою, запрасілі нас у Нарву. У Нарве Бушко пры падтрымцы мясцовых гмінных улад склікаў каляднікаў з усяго Гайнаўскага раёну. Прыехалі яны са сваімі песнямі... з цудоўнымі, каляровымі „звёздамі", з якімі ў час каляд яшчэ дзяды-прадзеды нашы хадзілі з хаты ў хату.

Цеснаватая святліца ў Нарве запоўнілася гэтымі „гвяздамі", расшумелася каляднымі старадаўнімі песнямі. Памятаю, што адну з першых узнагарод заваявалі тады вучні Трасцянскай школы, якія рыхтаваліся пад кіраўніцтвам настаўніцы беларускай мовы Галены Тапалянскай.

І быў гэта, па-мойму, першы крок да двух наступных вялікіх пачынаў, якія расславілі Гайнаўку і асобу дырэктара Гайнаўскага дома культуры. Маецца тут на ўвазе Дні царкоўнай музыкі і заснаванне вялікага, звыш сарака асабовага змешанага беларускага хору.



**Гайнаўскі беларускі хор падчас выступленняў на Свяце беларускай культуры ў Беластоку (у другім радзе чацвёрты справа — Мікола Бушко, дырэктар Гайнаўскага дома культуры і ініцыятар заснавання гэтага хору).**
**Фота С. Грынявіцкага.**

Было гэта, здаецца, у 1981 годзе. За ўдакладненнямі звярнуўся я да дырыжора і мастацкага кіраўніка Гайнаўскага хору, да таго ж Аляксандра Лукашука.

— Пытаеш пра наш хор? Гэта вынік намаганняў Мікалая Бушко! — рашуча сцвярджае ён. — Сам ён валодае дасканалым голасам. Памятаю, што прымаў неаднаразова ўдзел у конкурсе на савецкую песню, а ў 1976 годзе выступаў у невялічкім хоры з беларускім рэпертуарам... Быў у нас гэтакі хор. Коратка, але быў! Мікалай заўсёды любіў песню, а песню беларускую — дык асабліва. Ад самага пачатку, як толькі стаў дырэктарам дома культуры, насядаў на мяне, каб супольнымі сіламі пры падтрымцы і ўлад і беларускага Таварыства, наладзіць у Гайнаўцы парадачны хор. Я разумеў вялікую адказнасць гэтага мерапрыемства і баяўся ўзяць яе на свае плечы. Але Мікалай не з тых, ад каго можна лёгка адчапіцца. Ён працягваў мяне пераконваць і ўрэшце дабіўся маёй згоды. Ён таксама раздабыў грошы на боты і народныя ўборы для нашага хору. Ён арганізуе цяпер нам транспарт, калі трэба недзе паехаць...

— І сам спявае, — дакінуў я.

— І сам спявае, ды апрача гэтага з'яўляецца старшынёю грамадскай рады нашага хору.

— На пачатку 1982 года, — гаворыць М. Бушко, — калі аб усім у нашай краіне рашаў КОК — Камітэт Абароны Краіны, — я абавязаны быў прадставіць ваяводскаму аддзелу гэтай арганізацыі праграму дзейнасці нашага дома культуры. Сярод іншых




© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

шматлікіх прапаноў была тэм і думка аб арганізацыі фестывалю царкоўных харавых калектываў. У час абмяркоўкі гэтай праграмы тадышні загадчык аддзелам культуры З. Цясельскі падаў думку, што дастаткова будзе, калі гэтае мерапрыемства назваць не „фестывалем“, а „днямі“? Так і асталося. Часу было вельмі мала. А ў мяне вопыту аніякага ў арганізацыі такіх мерапрыемстваў! Трэба ж паклікаць кампетэнтную камісію, падрыхтаваць праграму, начлегі, харчаванне. Тады я падумаў пра кіраўніка вядомага хору царкоўнай музыкі Юрку Шурбака, якому і сёння я моцна ўдзячны, бо знайшоў я ў яго поўную падтрымку ва ўсіх арганізацыйных справах. Ганаровы ўдзел Шурбаковага хору ў першых Гайнаўскіх днях царкоўнай музыкі быў аздобай і залогам поспеху гэтага культурнага мерапрыемства. Яно ўвяло Гайнаўку на арбіту культурнага жыцця краіны.

У мінулым годзе Гайнаўка аказалася для іх ужо зацеснай. Давялося ладзіць канцэрты і ў Беластоку ў зале філармоніі.

Мабыць, мала хто са слухачоў гэтых канцэртаў дадумваецца, колькі нервовай мітусні, колькі недаспаных ночаў каштуе дырэктара Бушко арганізацыя гэтых Дзён. То ж амаль на тыдзень цэлы з'язджаецца ў Гайнаўку столькі народу. Хацелася б усіх прыняць гасцінна, чым хата багата. А тут „хата“ мала чым багата, бо да чаго не дакранішся, усюды абмежаванні: і на бензін і на харчаванне.

Але годзе. Вядома, што ўжо пяты раз адбыліся ў Гайнаўцы Дні царкоўнай музыкі і вядома, што яшчэ адбудуцца яны не адзін раз па пяць разоў... Толькі памятаць трэба, што заснавальнікам іх з'яўляецца Мікалай Бушко, які добраахвотна закінуў сабе на плечы не адно ярмо ды цягне яго.

І ўсё яму чагосьці не хапае. Асабліва адчувае прагу ведаў. Вось ужо другі год ездзіць ён у Варшаўскі універсітэт, каб зноў завочна на падыпломным студыюме папаўняць свае веды прафесіянальнага арганізатара культурнага жыцця.

Калі ў красавіку 1986 года праводзіў я з ім чарговую гутарку, каб папоўніць свае веды аб гэтым незвычайным чалавеку, дык ён гаварыў мне, што пад навуковым кіраўніцтвам дацэнта Аляксандра Ноцаня рыхтуецца да апрацоўкі дыпломнай работы.

Вось і ўвесь Мікола Бушко. Здаецца мне, што ва ўсім, што ён робіць, знаходзіць нейкае, не абавязкова непасрэднае, адлюстраванне культурнага жыцця асяроддзя, якое сфармавала яго свядомасць. Тут месца і для таемнасці царкоўнага абраду, да якога прывучала яго маці і для прыгажосці роднай мовы і песні, пра што ўпершыню пачуў ён на ўроках роднай мовы ад настаўніцы Тамары Бусьняк, і для нястрымных бунтарскіх думак, якія перадаваў яму дзядзька Сяргей Янчук...

Жыццё Міколы Бушко толькі што ўвайшло ў сталыя гады. Яму няма яшчэ і саракоўкі. Усе найлепшыя здзяйсненні яшчэ перад ім. І я перакананы ў тым, што ён не спыніцца на дасягнутым.

Мікола Бушко — прадстаўнік пасляваеннага пакалення, якое вырасла на нашай беларускай глебе. І мой нарыс з'яўляецца спробай замалёўкі партрэта гэтага пакалення.

**Віктар Рудчык**

---

**Мікалай Гайдук**

# ТАЛЕНТ І ДАБРЫНЯ

Сваю скромную майстэрню ён абсталяваў у дзедавай яшчэ, спарахнелай ды сточанай шашалямі, хаце. У памутнелых ад веку шыбінах разлеглы далягляд. Зусім за акном, ля стромкага берагу, то смяюцца жывым срэбрам, то стогнуць мутнай топеллю, то стынуць у аковах лёду віры, затокі ды плёсы звіўнай Нарвы. За імі, у засмужаным мроіве — вёсачкі, зубчастыя сцены бору, кашлатыя пералескі, продыхі палёў. А тут, за сценкаю, у колішняй каморы, бабульчын абдрапаны сундук і ў ім пад цяжкім векам цэлы ягоны свет — сваякі і чужыя, суседзі і далёкія, сяляне і падпанкі, дзятва і старэчы, апосталы і Хрыстос. Адчараваныя долатам ды нажом з камлёў самотных польных груш, садовых сукатых яблынь, прыдарожных хілых вербаў, спеўных меднаствалых соснаў, здабытых з мрокаў даўнасці і рачной топелі скамянелых дубоў...

Так, вы не памыляецеся: завіталі мы ў Канюкі, да народнага разьбяра **Уладзіміра Наўмюка.** Нашым чытачам рэкамендаваць яго не трэба — найлепшую вядомасць гэтаму самароднаму таленту прыносяць ягоныя працы, без якіх ужо гадоў дваццаць не абыходзіцца ніводная выстаўка народнага мастацтва ў Польшчы. Яны знаходзяцца ў многіх музеях нашай краіны, трапілі таксама ў музеі іншых краін. Шмат іх разышлося па руках прыватных калекцыянераў, адзін з іх сабраў каля сямідзесяці рэзьбаў У. Наўмюка.

Уладзімір Наўмюк паходзіць з беларускіх народных глыбінь. Прыйшоў ён на свет 18 сакавіка 1935 года ў той жа вёсцы Канюкі ў сям'і, якая жыла на двух гектарах пясчанага поля, пакрамсаных це-

распалосіцай на сорак кавалкаў. Бацька, каб неяк пракарміць сям'ю (пасля Валодзі нарадзіліся яшчэ два браты і сястронка, якая хутка памерла), займаўся кравецтвам. Шыў няхітрыя ўборы для сваіх аднавяскоўцаў, прыносілі да яго шыць таксама з суседніх сёлаў. Быў ён чалавекам працавітым і рыхтоўным. У памяці сына захаваўся ён як вельмі добрага сэрца чалавек. Быў заядлым грыбнікам, любіў раку — многае пераняў ад яго сын. Праз іхнюю хату штодня праходзілі свежыя людзі, і неўзабаве бацька далучыўся да падпольнага руху — стаў сувязным савецкіх партызанаў, шыў ды латаў ім вопратку, арганізаваў правіянт, перадаваў звесткі пра акупантаў. Хоць гэта і пагражала смяртэльнай небяспекай для яго самога, сям'і, а нават усяе вёскі, ён лічыў сваім абавязкам актыўна ўдзельнічаць у змаганні з ворагам.

Гора навалілася на сям'ю Наўмюкоў, калі вызваленне было побач, за аселіцай. Бацька разам з іншымі сялянамі з Канюкоў і суседніх вёсак хаваў у гушчары жывёлу. Недзе паблізу партызаны абстралялі адступаючых немцаў. Фашысты ў помсце наладзілі аблаву, вычасалі з кустоў 28 сялян, загналі іх у адлеглую вёску Трычоўку і там у клуні жыўцом спалілі. Адной з ахвяраў гэтага людабойства быў бацька Валодзі. А праз два гады прыйшло і другое няшчасце — на сухоты памерла маці. Яшчэ і цяпер ён з дрыжэннем голасу ўспамінае тую страшную падзею: „Памятаю, добра памятаю... Ляжала яна на падлозе, паміpала... Пасходзілася многа людзей, суседкі прыйшлі, суседзі. А яна прасіла іх, благала, каб нас, сірат, не крыўдзілі...“ Валодзю было тады ўсяго 11 гадзікаў.

Прыгарнулі сірат бабулька ды дзядзька. І гэтыя дзве асобы па сённяшні дзень лічацца разьбяром самымі шляхетнымі і самымі добрымі істотамі на зямлі. Сіроты жылі, як усе вясковыя дзеці ў тыя гады: дапамагалі бабулі і дзядзьку па гаспадарцы, асабліва старэйшы Валодзя — хадзіў ён з дзядзькам у поле і на сенакос, ездзіў у лес, пасвіў каровы, лавіў рыбу. У школу ён пачаў хадзіць толькі пасля вайны, ужо амаль дзесяцігадовым хлапчуком, таму і закончыў яе позна, юнаком.

Былі ў яго добрыя настаўнікі. Защчапілі яму замілаванне да ведаў, да кнігі. Падчас размовы ён любіць падмацаваць свае вывады трапным цытатам з якога-небудзь твора Я. Купалы, Я. Коласа і іншых нашых пісьменнікаў. І, відаць, якраз беларуская літаратура з яе пранікнёнасцю ў самыя патайныя перажыванні простага чалавека найбліжэйшая сэрцу разьбяра з Канюкоў. Але не толькі літаратура фармавала яго светапогляд, мараль, паводзіны.





**Народны разьбяр Уладзімір Наўмюк на парозе свае майстэрні.**

У часе нашай размовы два гады таму назад ён заўважыў:

— Наш дзядзька Сямён патрапіў нас, сірот, выхаваць на прыстойных людзей. Ён заўсёды маўляў: „Памятайце, хлопцы, пражывіце жыццё прыгожа — жывіце з людзьмі добра!“ І гэта я ніколі не забуду ды стараюся па гэтаму канону жыць.

Моцна ўздзейнічае на У. Наўмюка з маленства і па сённяшні дзень навакольная прырода. „Люблю лес, — не тоіць ён сваіх захапленняў, — пераважна лес цёмны, гушчары. Гэтак пайсці самому... У лесе не люблю, каб хто-небудзь побач круціўся. Адзінокі чалавек лепш адчувае ўсё, ён мае неабмежаваны час на назіранні, роздумы... Люблю самотныя дрэвы ў полі. Яны ўтварыліся таксама, як аблокі, што ляцяць па небе. Можна ўбачыць у іх падабенствы розных твараў. Вось ён ёсць ды імгнення расплыўся і раптам паўстае нешта іншае. Таксама самотнае дрэва мае сваю красу — расце прывольна і колькі ж у яго святла, прасторы, паветра, і свае голле яно распускае, як хоча... Люблю не толькі сонечную пагоду, але і дождж, люблю навальніцу, маланкі. Тады для мяне прыемна, цікава. У вольныя хвіліны ён любіць плаваць лодкай па рацэ, назіраць за птаствам. Га-




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

дуе таксама пчолы, збірае лячэбныя зёлкі і ўжывае іх у хваробе..

Пра асобу У. Наўмюка, яго жыццё і асабліва пра ягоную разьбу напісаны не толькі дзесяткі артыкулаў, але нават на гістарычным факультэце Варшаўскага універсітэта ў 1979 г. Яцэк Валоўскі абараніў магістэрскую працу „Манаграфія народнага разьбяра Уладзіміра Наўмюка“, якую ён напісаў пад кірункам вядомага этнографа дац. Мар'яна Пракопка, на кафедры этнаграфіі.



„Я — мужык-беларус, пан сахі і касы...“ Разьба У. Наўмюка.

Аднойчы падчас сустрэчы з У. Наўмюком у нас завязалася з ім гаворка пра вытокі і сутнасць яго разьбярскай творчасці.

— Як гэта сталася, што вы зацікавіліся разьбой? — запытаў я яго.

— Сотні разоў ужо пыталіся мяне пра гэта, але праўду сказаўшы, то я так шчыра нікому і не адказаў, — заўважыў ён. — Бо як тое сталася, то я і сам не ведаю. Я ў дзяцінстве меў штосьці такое ў сабе. Любіў мець пры сабе ножык. Бывала, каб яго ку-



Заспакаенне смагі. Разьба У. Наўмюка.



Маладосць. Разьба У. Наўмюка.

піць, збіраў зёлкі. А якія ж тады былі тыя ножыкі?! От, такія сабе „цыганчыкі“ — акладкі драўляныя, без пружынкі, тупыя. Я ўсё стругаў: то свісцёлкі рабіў, то іншае, а потым стаў вырэзваць птушачак, розных конікаў.

— Вам, пэўна, і пасвіць давялося?

— Так, год быў у наймах у суседніх Паўлах. Там быў дзедка Дабрэй — вельмі ж добры чалавек. Мы разам з ім пасвілі і час ад часу падпускалі жывёлу, дзе і нельга было — на пашу суседняй вёскі. Ён венікі вязаў, кошычкі файныя плёў. А я ўсё стругаў. Ён мне часам казаў: „Валодзька, ты вазьміся за штолень талковае. Што ты там якісьці корань стружаш? От, зробіш штосьці прыдатнае, занясеш каму — табе і пару яек дадуць...“ Ну, рабіў я і кошычкі, але ўсё мяне цягло да стругання. Не паказваў я таго нікому, бо зараз смяяцца будуць. Павешу, бывала, дзелень на дрэве ў лесе пры дарозе. Але ніхто гэтым не цікавіўся, нават як і знойдзе. Рабіў я і млынкі, возікі з трашчоткамі. За адну такую каляску я ў мінулым годзе на агульнапольскім конкурсе 8 тысяч узнагароды атрымаў. Яе набыў Этнаграфічны музей у Варшаве.

— І так увесь час пры зямлі ды жывёле?..

— Юнаком ужо пайшоў я да вясковага майстра-цесляра Андрэя Нікіцюка з нашай вёскі. Любіў ён, праўда, выпіць,



Вясковая мадонна. Разьба У. Наўмюка.

але чалавек быў залаты і залатыя рукі меў. Іншыя бацькі баяліся аддаваць яму дзяцей у навуку, каб не распіліся часам. А я ж — сірата, то і сам пайшоў. І мяне не навучыў піць, бо да гэтага ён нікога не заахвочваў. Затое чалавек быў вельмі добры: работу адразу паказваў. У іншага майстра вучні год, а то і два праходзяць і нічому не навучацца. „Круці, — кажа такі, — дзіркі ды цяшы тэблі!“ — вось і ўся навука. А сам тайком што важнейшае зробіць, каб вучань не прыўважыў і не навучыўся. У тыя часы людзі патрабавалі, каб ім ганачак вырыхтаваць, выразныя вятроўкі даць, ладненькае акенца ў шчыце вырабіць. А ў мяне да такой работы аж рукі свярбелі. Майстар тое прыкмеціў і мне такую работу даваў. Іншыя хлопцы, што былі ў яго разам са мною, працавалі пры зрубе, а я больш за ўсё пры такіх далікатнейшых работах, пры разьбе. А разьба цанілася. Зрабіць ладны ганак і прыгожую разьбу на хату — каштавала столькі, што і паставіць зруб. Але на разьбяныя аздобы маглі сабе дазволіць толькі заможныя людзі.

— Ці вам давалі гатовыя ўзоры, ці вы іх самі складалі, стваралі?

— Майстар меў крыху гатовых узораў — „модлаў“. Але ж не ўсе і не ўсюды яны пасавалі. Часта трэба было зрабіць узор шырэйшы ці вузейшы, бо вокны былі большыя або меншыя. А як не хапала чаго, то трэба было самому зрабіць „модла“. Яго „адпісвалася“ на добрай дошцы, гэта значыць выразанай са здаровай сарцавіны дрэва, пераважна сплаўленага з Белавежскай пушчы. Таўшчыня такой дошкі павінна быць аднолькавая і не можа быць на ёй сукоў. Памятаю, рабілі мы ў суседняй вёсцы Астроўкі ў гаспадара, што вельмі любіў коней — даглядаў іх, чысціў, любаваўся імі. Ён і папрасіў нас даць выразных конікаў над шчытавым акенцам. А ў майстра не было „модлы“ з конікамі, і мне давялося зрабіць яе самому ды конікаў выразаць. Вельмі ж гэтая разьба спадабалася гаспадару.

Але цесляром у колішнім разуменні гэтага слова У. Наўмюк не стаў. Спазніўся ён са сваёй цясёлкай. Узвядзенне новых будынкаў з дрэва было афіцыйна забаронена, вёску пачаў апаноўваць мур і бетон. Маладому, ахвочаму да працы майстру заставалася толькі рыхтаваць скросы на дах у мураваных будынках, перасыпаць старыя хаты, свірочкі, хлявы, час ад часу ашалёўваць сцены ці падбіць столь. Ці гэта быў занятак дастойны маладога майстра, у якога руках работа аж гарэла? А тут і такія заказы здараліся рэдка. Да таго ж у 1959 г. Валодзя ажаніўся з дзяўчынай са свайго сяла, з такой самай бядняцкай сям'і, як і ён сам. Паявіліся дзеці. Трэба было шукаць сродкаў да жыцця.



У лесе. Разьба У. Наўмюка.

Спачатку ён падаўся ў Ольштынскае ваяводства, дзе яго брат, закончыўшы Белавежскі лясны тэхнікум, працаваў леснікам. Валодзя стаў там спачатку лясным рабочым, затым закончыў электраманцёрскі курс і пайшоў працаваць пры электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. За тыя гады шмат з'ездзіў, няма ла

пабачыў і, здавалася б, павінен быў недзе зачапіцца настала. Але яго цягнула ў родны кут. Калі прыязджаў да сям'і ў родную хату, нікуды яму не хацелася падавацца, тут адчуваў сябе найлепш. Так і застаўся ў Канюках.

— Мяне аж карціла вырэзваць, рэзьбіць. Проста мучыла, — успамінае ён. — Як толькі здаралася свабодная хвіліна, браў я сякеру, долата, нож і, знайшоўшы кавалак дрэва, пачынаў стругаць.

— Колькі вам тады было год?

— Каля 26-ці. Тады ўжо працавала спулдзельня народнага рукадзелля — Цэпэлія. Для яе ў нашай вёсцы людзі плялі саламяныя кашалі. Мною зацікавіўся кіраўнік гэтай спулдзельні — Віктар Саўчанка. Гэта быў дабрэйшы чалавек! Ён нашы Канюкі на ногі паставіў, даючы людзям заробак. Аднойчы разгаварыліся мы з ім. Зрабіў я яму пару фігурак, этнограф спулдзельні іх адобрыў і так пачалося. А Саўчанка мяне заахвочваў: „О, Валодзя, — кажа, — з яго, паглядзіце, які чалавек! Яго работа — то каштоўная рэч! Гэта вам не кашалі саламяныя, што вы шыеце..." Я і стараўся.

— Вашы першыя працы?

— Гэта былі прыдарожныя фігуркі святых. Такія, як мне памятаецца, стаялі ў каплічках пры дарогах. Рэзьбіў я фігуры Хрыста, святога Ануфрыя. З першых, здаецца,



**Задуменнасць. Разьба У. Наўмюка.**

была фігурка Ануфрыя, бо з доўгай барадою. Гэта ўсё мне было вельмі блізкае. Прыпаміналася дзяцінства, як наша бабулька штодня наганяла нас раніцай памыцца, стаць перад абразом, згаварыць малітву і толькі тады брацца за снеданне. А ў нашай хаце было многа абразоў. Зімою, седзячы з бабулькай на цёплай печы, мы слухалі яе апавяданні пра розных падзвіжнікаў, пустэльнікаў, што пакінулі раскошны свет, падаліся ў пустэчы, жывіліся ка-





**Надзея. Разьба У. Наўмюка.**

рэньчыкамі, а потым служылі людзям добрай радай, блаславілі на добрыя ўчынкі. Гэта глыбока залягло ў маё сэрца. Я задумваўся над тым, якую то трэба мець у сабе цвёрдую волю, каб зрабіць добры ўчынак. Проста я палюбіў падзвіжнікаў, і ад іх фігуркаў пачынаў разьбу.

— Але ў вас, побач з фігуркамі святых, шмат разьбы, у якой паказаны звычайныя свецкія людзі...

— Бачыце, потым я стаў разглядацца па свеце, шмат ездзіў, бываў у розных гарадах і кутках краіны. Мне вельмі баліць, што ёсць помнікі ўсім — дзеячам, вучоным, паэтам, а нідзе не відаць помнікаў простым людзям. Няма помнікаў мужыкам, сялянам, гаспадарам, а яны ж жывяць усіх! Усіх трымаюць пры жыцці. І я пастанавіў усе свае здольнасці і ўменні аддаць паказу простых людзей. Хачу паказаць вёску тую старую, якая адышла беспаваротна і ўжо ніколі не вернецца

А пра само разьбленне У. Наўмюк кажа, што гэта яго ўнутраная, душэўная патрэба. У разьбу ён укладае частку самога сябе. „Калі ўжо ты пачаў рэзьбіць — заўважае ён, — то рабі гэта з усёй сваёй душой, з уласным натхненнем, са сваім бачаннем, паводле свае кампазіцыі, са сваім шуканнем нечага, што адбываецца ў жыцці".



**Дабрыня і мудрасць. Разьба У. Наўмюка.**

У. Наўмюк сам нарыхтоўвае сабе драўніну на разьбу. І мае з гэтым вялікія цяжкасці. Папершае, у лясніцтвах цяжка здабыць надзел на патрэбны гатунак драўніны, а, па-другое, яму патрэбна не абы-якая драўніна, але слаістая, цвёрдая, густая. Праўда, ён рэзьбіць і ў мяккай драўніне — ліпе, вярбе, сасне і іншых, але найбольш любіць дуб, яблыню, грушу, карлікавую бярозу, акамянелы ў рацэ чорны дуб. Для кожнай разьбы ён падбірае адпаведнае дрэва. „На вясёлыя фігуры можа быць ліпа, — заўважае, — бо яна добра выяўляе светласць твару. Было б супраць натуры, калі б хацелася вырэзьбіць расхахатаны твар у чорным дубе. З такога матэрыялу можна зрабіць сумуючага Хрыста ці іншую фігуру ў клопаце...“ Ён доўга і старанна выбірае матэрыял, мяркуе, разважае над кожным яго кавалкам, адкідвае ды зноў вяртаецца да адкінутага. А разьба паўстае ў выніку глыбока перажытага: „Калі я хачу выразьбіць вось гэтага селяніна, перадаць яго рысы, тады я мушу стацца акцёрам, прадставіць і выканаць яго, у сэрцы сваім адыграць яго ролю...“

У. Наўмюк — заядлы вораг безгустоўнасці, аляпаватасці, нячуласці на сапраўдную прыгажосць, якая вынікае з натуральнай гармоніі. Асабліва востра асуджае ён безгустоўнасць сярод сялян.

— Вёска не прыймае праўдзівай красы, — з сумам сцвярджае ён. — Вёска заглядаецца на горад, на блішчае, яскравае. Бывае, вырыхтуеш цудоўныя рамачкі. Але ж яны не падабаюцца чалавеку! Ён паедзе ў горад, купіць гіпсавую, лакавую, стракатую безгустоўніцу і павесіць на відным месцы ды цешыцца. Таксама з разьбою: на вырэзьбленае што-небудзь у дрэве і глядзець не хочуць, затое паедуць на фэст ці кірмаш ды купяць гліняную размаляваную гуску. Паставяць яе ў хаце на самым ганаровым месцы, а на зіму выставяць паміж падвойнымі рамамі ў акне, каб людзі дзіваваліся, якую то яны прыгажосць маюць!.. Я гэтае проста ненавіджу, не магу перанесці...



**Старасць. Разьба У. Наўмюка.**

Таксама жонка Валодзі, Аня — жанчына з густам і працавітая. У 1985 годзе на Агульнапольскім конкурсе абрадавага печыва яе „юраўскі“ каравай (калісьці яго качалі па азіміне на свята Юр'я) заняў першае месца, і яна атрымала 8 тысяч злотых узнагароды. Па бацьках пайшлі і дзеці. Старэйшы сын, Лёнік, пасля заканчэння Супрасльскага мастацкага ліцэя стаў працаваць у Беластоцкім прадпрыемстве па кансервацыі помнікаў культуры (ПКЗ) і цяпер заняты пры адбудове Каралеўскага замка ў Варшаве. Сярэдні і наймешшы — таксама хлопцы з залатымі рукамі ў сталярскай справе. У вёсцы і наваколлі сям'я Наўмюкоў карыстаецца заслужаным аўтарытэтам. Людзі гавораць пра У. Наўмюка з пашанай, ганарацца ім — сваім славутым земляком.

Разьбяр вадзіў мяне па закутках свае майстэрні, хаты, падворку, адусюль дабываў фігуры, пяшчотна лашчыў іх сваімі спрацаванымі шурпатымі далонямі і пра кожную

з іх расказваў нешта адметнае.

— Вось гэтыя два хлапчукі. Яны ў лесе. Звочылі нешта незвычайнае, жахлівае. Прытуліліся да сябе ды пераўтварыліся ў чаканне, няпэўнасць... А тут дзедка. У нас калісьці быў такі старэнькі чалавек. За сялом, на грудзе, пасвіў гусей. Стаіць, бывала, ён сабе ў сарочцы, падпярэзаней вяровачкай, люлькі з зубоў не выпускае. І так пражыў ён 90 гад... Ці вось гэтая бабулька. Яна непрыгожая — жорсткія, грубыя рысы твару. Але ж усе яны тадышнія жанчыны не спрабавалі нават прыхарошвацца памадкай, пудрай ці андуляцыяй. Жылі ўсё жыццё такімі, якімі нарадзіліся. Але, гляньце, колькі дабрыні на іхніх тварах, колькі ласкі ў іхніх пакарэжаных працай пальцах!..

Слухаў я і думаў, што чалавек, які стварае такія рэчы, — увабраў у сябе не толькі адвечны народны талент, а це і цеплыню дабрыні нашага беларускага люду.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

**Н. Амельянюк**

## ДЗЕЙНАСЦЬ І ДАСЯГНЕННІ КАФЕДРЫ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА.[1]

(Даклад на навукова-папулярнай сесіі з нагоды XXX гадавіны БГКТ і „Нівы“)

Непасрэдна пасля вызвалення ўсходняй часткі Беласточчыны з-пад нямецкай акупацыі, у ліпені 1944 года пачалася падрыхтоўка да рэактывавання працы школ з беларускай мовай навучання, ініцыятарамі якой былі настаўнікі існуючых у час Савецкай улады беларускіх школ і мясцовае насельніцтва. Ужо ў верасні 1944 года пачалі адбывацца заняткі ў школах з беларускай мовай навучання. На працягу некалькіх гадоў адбываліся розныя змены ў арганізацыі школ і праграм навучання беларускай мовы.

Паводле інфармацыі „Ekspresu Wieczornego“ Nr 249 ад 17 кастрычніка 1968 года, на Беласточчыне „Młodzież pochodzenia białoruskiego ma do dyspozycji 175 podstawowych i 3 średnie szkoły z językiem białoruskim“.

Існаванне школ з беларускай мовай навучання і развіццё розных формаў асветнай і культурнай дзейнасці выклікалі патрэбнасць большай колькасці настаўнікаў беларускай мовы і арганізатараў культурнага руху.

У выніку намаганняў БГКТ у Польшчы, у 1956 годзе на Філалагічным факультэце Варшаўскага універсітэта была паклікана да жыцця Кафедра беларускай філалогіі, практычнае ажыццяўленне дзейнасці якой было даручана праф. Антаніне Абрэмбскай-Яблонскай.

Першыя гады існавання Кафедры былі цяжкія. Цяжкасці былі выкліканы недахопам кваліфакаваных выкладчыкаў-беларусістаў, беларускай мастацкай літаратуры, падручнікаў па гісторыі беларускай літаратуры і па беларускаму мовазнаўству. З дапамогай Кафедры прыйшлі навуковыя, дыдактычныя і бібліятэчныя ўстановы БССР. З Беларусі прыехалі: выкладчык і навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР дац. М. Бірыла і супрацоўнік Педагагічнага інстытута імя М. Горкага дац. В. Тарасаў, якіх праз два гады замянілі навуковыя супрацоўнікі: праф. А. Жураўскі і дац. М. Лазарук. На кароткатэр-

[1]) Аб дзейнасці і дасягненнях Кафедры беларускай філалогіі многае было сказана пры нагодзе святкавання 25-годдзя яе існавання. Паколькі ад таго часу прайшло толькі 5 гадоў, немагчыма пазбегнуць паўтарэння некаторых фактаў і думак. Глядзі: А. Баршчэўскі, Я. Глушкоўская, Н. Амельянюк, М. Кандрацюк, М. Чурак, Кафедра беларускай філалогіі на парозе новага 25-годдзя, Беларускі каляндар на 1983 г. с. 59-65.



© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

міновыя перыяды прыязджалі: праф. Л. Абэцэдарскі, праф. М. Ларчанка, праф. Л. Шакун, праф. А. Лойка, дац. В. Казлова, дац. Л. Бурак і іншыя. У БССР выязджалі на каротка- і доўгатэрміновыя стажыроўкі навуковыя супрацоўнікі Кафедры: А. Багроўская, Л. Базылюк, А. Баршчэўскі, М. Врублеўскі, Э. Смулкова, Т. Ясінская, Н. Панасюк, а Я. Глушкоўская адбыла ў БССР аспірантуру і абараніла там кандыдацкую дысертацыю. Кандыдацкую дысертацыю ў Мінску абараніла таксама З. Скібінская.

На працягу 30-гадовага існавання Кафедра атрымлівала і атрымлівае з БССР вялікую колькасць мастацкай і навуковай літаратуры, падручнікаў, літаратурнай і грамадскай прэсы.

У 1956-1971 гадах Кафедру ўзначальвала праф. А. Абрэмбская-Яблонская, а потым дац. д-р Э. Смулкова і д-р А. Баршчэўскі. Цяпер у Кафедры працуе 9 асоб пад кіраўніцтвам д-ра А. Баршчэўскага.

Навуковая дзейнасць Кафедры беларускай філалогіі вядзецца ў двух напрамках: гісторыка-літаратурным і мовазнаўчым, з шырокім улікам даследавання фальклору і гаворак Беласточчыны.

Гісторыкі літаратуры займаюцца даследаваннем паасобных пытанняў, якія датычаць беларускага фальклору, беларускай прозы і паэзіі, перакладаў з польскай на беларускую і з беларускай на польскую мовы і літаратурных польска-беларускіх узаемасувязей.

А. Баршчэўскі апублікаваў шэраг артыкулаў, прысвечаных творчасці Я. Купалы і Я. Коласа і іх сувязям з польскай літаратурай, а таксама творчым аб'яднанням у беларускай літаратуры. Папярэдзіў прадмовай кнігу „Беларуская паэзія", выдадзеную ў выдавецтве „Ossolineum". У галіне фалькларыстыкі ў апошні час напісаў доктарскую дысертацыю, у якой гаворыць аб беларускай абраднасці, звязанай з нараджэннем, з вяселлем і са смерцю. Апрача гэтага падрыхтаваў, пераклаў і выдаў два тамы народнай беларускай прозы: „Diabelskie skrzypce" і „Niewyczerpany dzban" і том рускай народнай прозы „Mocarni czarodzieje".

Пытаннямі перакладу з польскай мовы на беларускую і, наадварот — з беларускай на польскую займаюцца: З. Скібінская і Н. Панасюк.

З. Скібінская апублікавала артыкулы, прысвечаныя галоўным чынам перакладам „Pana Tadeusza" А. Міцкевіча на беларускую мову, у якіх прааналізавала гісторыю перакладу паэмы, пачынаючы ад В. Марцінкевіча, а канчаючы на сучасных перакладах. Гаворыць яна аб перакладах, зробленых Б. Тарашкевічам, М. Танкам, С. Дзяргаем, І. Семенюком. Пераклады „Pana Tadeusza" з'яўляюцца тэмай яе кандыдацкай дысертацыі, абароненай







у Мінску ў 1982 годзе. Апрача таго цікавіцца яна таксама перакладамі з беларускай мовы на польскую твораў Я. Купалы.

Н. Панасюк працуе перад усім над перакладамі з беларускай мовы на польскую. Напісала некалькі артыкулаў аб польскіх перакладах твораў І. Шамякіна, рамана І. Мележа „Людзі на балоце", празаічных твораў Я. Коласа. З'яўляецца яна таксама аўтарам рэцэнзій кніжак і артыкулаў.

З мовазнаўчых прац варта перад усім адзначыць калектыўныя даследаванні ў галіне лексікаграфіі, анамастыкі і дыялекталогіі, вынікам якіх з'яўляецца „Падручны польска-беларускі слоўнік" пад рэд А. Абрэмбскай-Яблонскай і М. Бірылы. Сёння мовазнаўчы калектыў пад кіраўніцтвам дац. д-р Э. Смулковай працуе над слоўнікам мікратапаніміі паўночна-ўсходняй Польшчы. Анамастычны матэрыял (каля 35 тысяч слоў) выкарыстоўваецца таксама як аснова навуковых публікацый і магістэрскіх прац.

У выніку супрацоўніцтва паміж Інстытутам мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР, Інстытутам славяназнаўства ПАН і Кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта быў выдадзены „Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча".

Апрача калектыўных прац, вядуцца таксама індывідуальныя даследаванні, якія па сваёй тэматыцы вельмі разнародныя. Пераважае аднак дыялектычная праблематыка. У дыялектным аспекце былі распрацаваны пытанні фанетыкі, марфалогіі, сінтаксісу, акцэнтуацыі, лексікі, беларуска-польскіх і беларуска-літоўскіх моўных сувязей. Вышэй названыя праблемы даследуюцца ў працах: Э. Смулковай — аб фаналагічных сістэмах беларускіх гаворак Усходняй Беласточчыны, аб земляробчай лексіцы ў гаворках Усходняй Беласточчыны на ўсходнеславянскім фоне, аб літуанізмах у беларускай сельскагаспадарчай лексіцы і іншыя; Я. Глушкоўскай — аб лексіцы ганчароў і рыбакоў у гаворках Усходняй Беласточчыны; Т. Хыляк — аб узаемадзеянні польскай і беларускай моў у гаворцы вёскі Баброўнікі; Н. Амельянюк — аб узаемадзеянні польскай і беларускай моў у галіне лексікі ў гаворках на Беласточчыне, аб тэрмінах, звязаных з абрадам вяселля на Беласточчыне.

Пытанні сучаснай беларускай літаратурнай мовы знаходзяць сваё адлюстраванне ў працах: А. Абрэмбскай-Яблонскай — аб гісторыі нармалізацыі беларускай літаратурнай мовы; Э. Смулковай і А. Жураўскага — аб асноўных цяжкасцях беларускай арфаграфіі, А. Багроўскай — аб беларускіх зваротах тыпу „пайсці ў грыбы"; Я. Глушкоўскай — аб няпэўных займенніках у сучаснай беларускай літаратурнай мове; Н. Амельянюк — аб дыялектызмах у мове Я. Купалы.

Гісторыі мовы датычаць публікацыі: А. Абрэмбскай-Яблон-

скай — аб мове польскіх песень у рускім спеўніку канца XVIII ст.; Т. Ясінскай — аб флексійнай сістэме помнікаў старабеларускай пісьменнасці II палавіны XVI ст., аб займенніку 3 асобы ў помніках старабеларускай пісьменнасці, аб флексійных запазычаннях у мове помнікаў старабеларускай пісьменнасці, аб назвах месца ў старабеларускай мове; Э. Смулковай — аб акцэнтуацыі помнікаў старабеларускай пісьменнасці XVII ст., Я. Глыбоцкай — аб графіцы і арфаграфіі помнікаў старабеларускай пісьменнасці XVI ст.

Супрацоўнікі Кафедры, мовазнаўцы і літаратуразнаўцы, удзельнічалі ў многіх навуковых працах, якія вяліся ў іншых установах, між іншым, у падрыхтоўцы матэрыялаў да „Атласа ўсходнеславянскіх гаворак на Беласточчыне“, у апрацаванні кнігі „Дыялектныя тэксты Беласточчыны з моўным каментарыем“, у выдавецкай рабоце, звязанай з перакладам „Пана Тадэуша“ А. Міцкевіча Б. Тарашкевічам, да якога ўступ і каментарыі напісала праф. А. Абрэмбская-Яблонская. Раней праф. А. Абрэмбская-Яблонская была старшынёй рэдакцыйнага камітэта V тому „Люду беларускага“ М. Фэдэроўскага, даследчыка народнай культуры на тэрыторыі заходняй Беларусі і паўночна-ўсходняй Польшчы.

Сёння супрацоўнікі Кафедры пад кіраўніцтвам праф А. Барташэвіча працуюць супольна над беларуска-польскім слоўнікам.

Апрача навуковых публікацый, супрацоўнікі Кафедры выдаюць падручнікі і публікуюць артыкулы падручнікавага характару, якія выкарыстоўваюцца ў дыдактычнай дзейнасці.

А. Баршчэўскі з'яўляецца аўтарам двух частак гісторыі беларускай літаратуры — падручніка, прызначанага для студэнтаў беларусістыкі. Апублікаваў ён у „Ніве“ звыш 600 артыкулаў падручнікавага тыпу пад загалоўкам: „Беларуская літаратура“ і „Беларускі фальклор“.

Т. Ясінская апрацавала падручнікі да практычнага навучання беларускай мовы па арфаграфіі і арфаэпіі, па лексіцы і лексікалогіі і супольна з Я. Глушкоўскай — па марфалогіі і сінтаксісе.

Супрацоўнікі Кафедры (А. Багроўская; З. Скібінская, Н. Панасюк, А. Баршчэўскі) некалькі разоў былі рэцэнзентамі падручнікаў і школьных праграм для школ з беларускай мовай навучання.

Навуковая дзейнасць Кафедры адлюстроўваецца не толькі колькасцю публікацый. Супрацоўнікі Кафедры прымаюць удзел у краёвых і міжнародных навуковых канферэнцыях і сімпозіумах, якія адбываліся ў такіх краінах, як: СССР, Балгарыя, Англія, ЗША.

У гадах 1972 і 1982 Кафедра беларускай філалогіі была арганізатарам навуковых канферэнцый з нагоды 90-й і 100-й гадавін з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа, на якіх супрацоўнікі Кафедры выступілі з дакладамі пра творчасць і мову класікаў беларускай літаратуры. У 1981 годзе Кафедра святкавала 25-годдзе існавання і з гэтай нагоды адбылася канферэнцыя, а ў 1986 годзе, у лістападзе, святкавала 30-годдзе свайго існавання на міжнароднай канферэнцыі, на якую прыехалі госці з БССР і з Англіі.







Мовазнаўчы калектыў Кафедры ўдзельнічае ў працы мовазнаўчай камісіі Беластоцкага навуковага таварыства, кіраўніком якой у гадах 1969-1977 была праф. А. Абрэмбская-Яблонская, а з 1977 года — дац. д-р Э. Смулкова.

Кафедра вядзе даволі акрэсленую палітыку ў галіне магістэрскіх дысертацый. Большасць гэтых прац цесна звязана з рэгіёнам Беласточчыны, з яго гаворкамі і фальклорам. Дагэтуль у Кафедры беларускай філалогіі было абаронена каля 200 магістэрскіх дысертацый, у тым ліку каля 45 мовазнаўчых пад навуковым кіраўніцтвам праф. А. Жураўскага і дац. М. Бірылы ў першыя гады існавання Кафедры, а потым праф. А. Абрэмбскай-Яблонскай, дац. др Э. Смулковай, д-р Т. Ясінскай, д-р Я. Глушкоўскай і звыш 150 літаратуразнаўчых пад навуковым кіраўніцтвам дац. М. Лазарука (гэта датычыць толькі першага выпуску студэнтаў) і д-ра А. Баршчэўскага. Невялікі працэнт складаюць тыя працы, якія датычаць гісторыі беларускай літаратуры і гісторыі беларускай мовы ці сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Такім чынам студэнты Кафедры знаёмяцца не толькі з літаратурнай спадчынай, але і жывой народнай творчасцю, вучацца не толькі беларускай літаратурнай мовы, але і беларускіх гаворак, якія выступаюць на Беласточчыне, вельмі разнародных па сваіх фанетычных і лексічных рысах. Гэтаму спрыяюць таксама студэнцкія практыкі: фальклорныя і дыялекталагічныя і навуковыя фальклорныя лагеры. З'яўляюцца яны першым штуршком, які прыцягвае і заахвочвае да бліжэйшага знаёмства з жывой мовай народа і яго творчасцю. Для некаторых гэта першы кантакт з беларускасцю, зразумела, апрача заняткаў.

На працягу 30-гадовага існавання Кафедры, вышэйшую адукацыю ў яе сценах здабыла кала 200 студэнтаў: у тым ліку каля 40 завочна і каля 160 стацыянарна. Яны працуюць у розных установах краіны як беларусісты і русісты, таму што на Кафедры вядзецца дадатковая спецыялізацыя па рускай філалогіі.

Першая 13-асабовая група студэнтаў беларусістыкі закончыла навуку вясной 1961 года. Наступныя групы абсальвентаў заканчвалі заняткі на Кафедры штогод або праз год, у залежнасці ад частотнасці набору навучэнцаў.

У першыя гады існавання Кафедры студэнты беларускай філалогіі паходзілі перш за ўсё з Беласточчыны, а ў пазнейшыя гады таксама і з другіх рэгіёнаў Польшчы: з Гданьскага, Шчэцінскага, Лодзінскага, Пазнанскага, Катавіцкага, Варшаўскага ваяводстваў і са сталічнага горада Варшавы. Ад пачатку існавання Кафедры не было ніводнага курса, на якім не было б прынамсі аднаго студэнта, які не паходзіць з Беласточчыны і які з беларускай мовай спаткаўся першы раз у Кафедры. Сярод студэнтаў ёсць, у этнічным аспекце: беларусы, палякі, літоўцы і ўкраінцы. Жывуць яны ў добрых сацыяльных умовах: атрымоўваюць стыпендыі, маюць месцы ў інтэрнатах, карыстаюцца сталоўкамі. Аўдыторыі, бібліятэка, інтэрнат і сталовая знаходзяцца ў адным комплексе будынкаў.

Сёння выпускнікі беларускай філалогіі працуюць у розных галінах народнай гаспадаркі, галоўным чынам у асвеце, навуцы, культуры, замежным гандлі і турыстыцы. Можна іх сустрэць на тэрыторыі ўсяе Польшчы і па-за яе межамі, перш за ўсё ў СССР. Найбольшая колькасць, бо каля 70% выпускнікоў беларускай філалогіі працуе ў асвеце. З'яўляюцца яны настаўнікамі пачатковых і сярэдніх школ, інспектарамі, працаўнікамі кураторый, метадыстамі беларускай і рускай моў.

Другую групу (каля 16 асоб) утвараюць працаўнікі вышэйшых навучальных устаноў, такіх як: Варшаўскі універсітэт, Інстытут славяназнаўства ПАН, Шлёнскі універсітэт, Вышэйшая педагагічная школа ў Чэнстахове, Інстытут механізацыі будаўніцтва ў Варшаве і інш. Займаюцца яны дыдактычнай і навуковай дзейнасцю, прымаюць актыўны ўдзел у навуковых канферэнцыях і сімпозіумах, якія арганізуюцца ў краіне і за яе межамі, з'яўляюцца членамі рэдакцыйных калегій навуковых і дыдактычных часопісаў.

Сярод выпускнікоў беларускай філалогіі ёсць некалькі вядомых у беларускім асяроддзі паэтаў і празаікаў, якія пішуць на беларускай мове. Некаторыя з іх уваходзяць у Саюз польскіх пісьменнікаў: Н. Артымовіч, М. Шаховіч, В. Швед.

Беларусісты працуюць таксама ў розных выдавецтвах, рэдакцыях часопісаў і газет („Czytelnik", „Książka i Wiedza", „Trybuna Ludu", „Gazeta Współczesna", „Kontrasty"), у радыё і тэлебачанні, у музеях, дамах культуры і бібліятэках.

Некалькі асоб працуе перакладчыкамі і карэспандэнтамі ў замежным гандлі (POLIMEX, CEKOP, Ciech, Motoimport), у прадпрыемствах краёвай і замежнай турыстыкі (Orbis, PTT-K).

Апрача прафесійнай працы, многія выпускнікі беларускай філалогіі займаюцца грамадскай дзейнасцю. Узбагачаюць яны навуковыя, культурныя і гаспадарчыя дасягненні асяроддзя, у якім жывуць і працуюць. Стараюцца, каб іх праца прыносіла добрыя вынікі.

Н. Амельянюк









**Міхась Белямук**
**ЗША**

# ЗІМОВЫ КАЛЯДНІ АБРАД — КУЦЦЯ —

**(Спецыяльна ў „Беларускі каляндар")**

Ад Прыпяці і да Дзвіны, ад Бугу і да Дняпра ў часы да нараджэння Хрыста жылі балты. Але ў першых стагоддзях новае эры над Прыпяццю з'явіліся славяне. Славянская каланізацыя ад Прыпяці на поўнач, у кірунку Нёмана і Дзвіны, не спынялася, пакуль гэтая прастора не стала цалкам славянскай.

Археолагі нам кажуць, што балты і славяне жылі доўгі час перамешана. Яны на памятку пакінулі нам супольныя могільнікі і неўмацаваныя селішчы. З гэтага вынікае, што былі яны добразычлівымі суседзямі. Паступова балты стапіліся ў славянскім асяроддзі, а балцкі субстрат паслужыў утварэнню дрыгавічоў і крывічоў. Сталася гэта мажліва таму, што балцкая абраднасць і ў сучаснасці мае шмат агульнага з абраднасцю беларускай. А што ўжо казаць пра далёкую мінуўшчыну, калі нас раздзяляюць трынаццаць стагоддзяў!

Летапісец, пішучы аб IX стагоддзі, не ведае балтаў, мабыць, да таго часу яны ўжо стапіліся са славянамі. Ён ведае толькі, што ад Прыпяці і да Дзвіны, ад Бугу і да Дняпра „седоша наріцаемыя дреговічы і крывічы".

Цяпер зробім выснаў — прыблізна 2500 год таму назад балты і славяне складалі адзіны этнас і мелі аднолькавую абраднасць. Пазней адны ад другіх адасобіліся, але збераглася супольная абраднасць. Калі ў першых стагоддзях новай эры балты і славяне сустрэліся, пачаўся працэс асіміляцыі балтаў славянамі. Адзінства ў абраднасці паскорыла працэс аб'яднання на карысць славянаў.

* * *

Канстанцін — імператар Рымскай імперыі — у IV стагоддзі абвесціў хрысціянскае веравызнанне дзяржаўнай рэлігіяй. Славяне ў тым часе падышлі да Дунаю. У VI стагоддзі яны перапраўіліся праз Дунай, і пачалося засяленне

славянамі Балканскага паўвострава, а пры тым і войны з Усходняй Рымскай імперыяй — Візантыяй.

Імператары Візантыі занепакоіліся за свой лёс і звярнуліся за дапамогай да хрысціянскае царквы, каб праз ахрышчэнне князёў суцішыць славянскую экспансію. Царкоўныя іерархі ўсведамлялі, што пашырэнне хрысціянства сярод славян — гэта нялёгкая справа, калі асудзіць і забараніць славянскую абраднасць. Славянскі націск прымусіў імператараў і патрыярхаў пайсці на кампраміс, дзякуючы якому хрысціянства замацавалася і славянская абраднасць зберaглася. Калі народ наш успрыняў навуку Хрыста ў X стагоддзі, ён не зрокся абрадаў, але бярэжліва, пяшчотна і бескампрамісова сцярог традыцыі продкаў.

* ✲ *

Беларуская абраднасць дзеліцца на дзве групы. Першую групу складаюць абрады: вяселля, нараджэння, пахавання, або абрады сямейнага круга. Другая група абрадаў — веснавы, летні, зімовы — яны называюцца абрадамі гадавога круга, або абрадамі каляндарнага круга.

Зімовы абрад — Коляды — пачынаецца 24 снежня, канчаецца Вадохрышчам г.зн. 7 студзеня. Вось жа давайце прыпомнім наш калядні абрад, як яго нашыя дзяды і некаторыя з нас святкавалі і далей святкуюць.

Прыблізна тыдзень да Каляд калолі парсюка, каб былі каўбасы і мяса на свята. Не забывалі аб пітве. Мёд варылі, квас запраўлялі, гарэлку гналі, саладуху для піва рыхтавалі. Жанчыны пратaлі хату, шаравалі і мылі, каб усё было чыстае і свежае. Хлопцы-падросткі развучвалі калядкі, практыкаваліся з казой, або майстравалі звязду. Дзяўчаткі рабілі з саломы і каляровай паперы павукі, ланцужкі, гірлянды і іншыя цацкі, каб імі ўпрыгожыць хату і ялінку. Адным словам — усе былі занятыя. Кожны з напружаннем чакаў Калядаў.

І вось надышоў дзень 24 снежня. У гэты дзень дарослыя пасцілі. Падросткам дазвалялі ў абед крышку з'есці поснае кашы. Таму ўсе прагна чакалі захаду сонца і з'яўлення першае зоркі на небе. Калі прыцямнела, дзед-гаспадар з унукам уваходзілі ў хату. Дзед трымаў жытні снапок з зярністымі каласамі, упрыгожаны васількамі, а ва ўнука была ахапка пахучага сена.

„Здаровы будзьце з Калядою", — дзед вітаў прысутных у хаце. Бабка-гаспадыня, пакланіўшыся жытняму снапку, запрашала: „Каляда, заходзь за наш стол!" Дзед ставіў снапок-каляду ў пачэсным куце пад абразамі. Унук частку сена клаў каля снапка, а бабка на сене ставіла гаршчочак з куццёю. Рэшту сена рассцілалі на стале для шчасця і радасці ў хаце, паверх засцілалі белым абрусом зграбнай работы.

Раней як сесці за стол, дзед маліўся. Ягонай малітвай была просьба да продкаў, каб паспяшылі прыйсці на супольную бяседу-куццю. Памаліўшыся, дзед выходзіў з хаты і гукаў: „Мароз, га, мароз, хадзі ў хату, будзем куццю есці! Ты ўлетку ў нас не бывай, нам травы не пужай; ярыны не марозь, нам бяды не прынось!" Пасля гутаркі з марозам, дзед варочаўся ў хату і садзіўся на покуце, побач снапка-каляды. Пачынаючы ад дзеда, каля сцяны, садзіліся сыны і ўнукі. На другім баку стала, насупраць дзеда, садзілася бабка, далей дочкі, унучкі і, на скраю стала, — нявестка. Яна ж падавала ежу на стол. На канцы стала, ад дзвярэй, стаяў зэдлік, на ім ніхто не садзіўся, пры ім на стале стаяла міска, а побач ляжала лыжка. Гэтае месца было для неспадзяванага госця, падарожніка і для таго семяніна, які адсутнічае ў гэты традыцыйны вечар.

Першай стравай быў грыбны боршч. Да баршчу падавалі кругла спечаныя бліны. Нашыя продкі адушаўлялі прыроду. Яны абагатваралі сонца, якое прыносіла цяпло, святло і пабуджала жыццё на зямлі. Кругла спечаны блін сімвалізаваў сонца, павароту якога так прагна чакалі. Грыб быў раслінай, але грыбны адвар — гэта сокі зямныя, якія пад уздзеяннем сонца абуджаюць жыццё ў прыродзе. Спажываючы грыбны боршч з блінам, продак наш верыў у жыццядайную сілу адраджэння жыцця на зямлі і зберажэння сябе ад смерці.

Дзед устаў і запаліў ліхтар. Бабка ўзяла блін, абмачыла ў баршчы, і яны выйшлі з хаты. Усе чакалі на іх паварот. Бабка блін клала на прызбу, часам на стаўбе брамкі, а дзед недалёчка ставіў ліхтар. Усё гэта было для душаў тых, у якіх вымерла радня, і душам гэтым няма дзе прытуліцца, сагрэцца, паесці. У гэтым выяўляецца рахманасць, сардэчнасць і прачуласць характару нашых продкаў.

Так як верылі продкі, што душы родзічаў прыйшлі ў хату адсвяткаваць сонцазварот, для іх першую лыжку баршчу адлівалі, як памяць, удзячнасць, спагадлівасць і радасць за супольнасць у бяседзе з прашчурамі.

Пасля бліноў і баршчу дзед ставіў на стол бутэльку з пераваранымі мёдам. Ён, наліўшы ў кілішак, звяртаўся да бабкі: „Дай жа нам, Божа, дажыці да наступнай Каляды!". „Будзь здароў!" — адказвала бабка. Дзед адліваў крышку мёду з кілішка на стол для душаў продкаў, а рэшту выпіваў і кілішак падаваў бабцы. Ён наліваў, яна адлівала драбок на стол і выпівала і кілішак аддавала для сына. Гэтак кілішак абыходзіў вакол стала, а дзед кожнаму су-

бяседніку наліваў поўны кілішак, без розніцы веку. Кожны капельку мёду адліваў, а рэшту выпіваў да дна. І кожны паўтараў дзедава зычанне: „Дай жа нам, Божа, дажыцці да наступнае Каляды!“ Затым бутэльку з мёдам дзед забіраў, каб з яе зноў пачаставаць на багатай, або шчодрай куцці (напярэдадні Новага года). Так канчалася першая частка рытуальнае вячэры — Куцці.

Мёд — гэта прадукт арганізаванасці і працавітасці пчолаў. Мёд быў сімвалічным пітвом. Калі ў сям'і будзе еднасць, паслухмянасць і працавітасць такая, якую маюць пчолы, то гэтак, як пчолы робяць мёд, так сям'я або род будуць старанліва працаваць і мець дастатковую колькасць прадуктаў на сваё ўтрыманне і на падтрымку іншым.

Цяпер нявестка прыносіла на стол прыгатаваныя стравы. Яна спачатку падавала рыбныя: марынаваныя селядцы, смажаную рыбу, рыбны сцюдзянец, прыпраўленую рыбную жыжку. Затым з'явіліся на стале грыбы вараныя, падсмажаныя і марынаваныя; піражкі з грыбамі, ягадамі і макам; бурачкі з грыбамі і цыбулькай; квашаная прыпраўленая капуста і капуста падсмажаная; кісялі аўсяны і журавінавы; адвараныя яблыкі і грушы; кампот са сліваў і вішняў: сушаныя ягады і цёрты мак. Усе стравы былі посныя, адсюль і Куцця называлася „посная куццёй“. Аднак усе ведалі, што апошняй стравай будзе куцця, і на яе чакалі і месца ў страўніку пакідалі.

Ячменнае зерне таўклі ў ступе. Таўклі далікатна, каб шкарлупку зняць, а зярнятка засталося цэленькае. Абтоўчаны ячмень крупой называлі. Крупу варылі ў гаршчочку, у якім іншых страў не варылі, і гаршчочак захоўвалі ад Калядаў да Калядаў. Падчас варэння куцці забаранялася яе пробаваць, смакаваць. Удала звараная куцця была адзнакаю добрага ўраджаю ў будучым годзе, ад якога залежала жыццё нашага продка-селяніна. Недаваранья або пераваранья зерняткі былі дрэннай прыкметай. Яны азначалі недарод і голад, нягожыя паводзіны і самае страшнае — выміранне роду.

Такім чынам куцця была сакральнай стравай. Сакральнай таму, бо зернятка ў светапоглядзе нашых продкаў валодала дзівоснымі ўласцівасцямі — бясконцасці жыцця. Ягоная жыццядайная сіла не замірала, не гінула ад гвалтоўных зменаў, але заставалася жыць і даваць жыццё навакольнай прыродзе. Зерне магло праляжаць гады, а нават стагоддзі, і, трапіўшы ў спрыяльныя ўмовы, абуджалася ў ім жыццё і адушаўляла прыроду.

Вось чаму куцця варыцца з цэленькіх абтоўчаных зернетак — яна сімвал несмяротнасці.

Бабка брала гаршчочак з покуця, ставіла яго на стол. Яна абымала далонямі гаршчочак і пачынала маліцца. Куццю варыла яна сама і на ёй ляжала адказнасць ці куцця ўдалая ці няўдалая. Вочы ўсіх былі скіраваны на бабку. Усе заміралі, затойвалі дыханне. Кожны дарослы ведаў, што азначае нядобра звараная куцця, а дзеці, назіраючы напружанасць дарослых, адчувалі страх. А бабка ў малітве прасіла, каб яе куцця была ўдалаю, каб быў добры ўраджай, згода і здароўе ў родзе. Хто ведае, мажліва, што яе малітва вытокі свае пачынае ў часах першабытных і перадавалася спадчынным шляхам па жаночай лініі. Яна малілася шэптам, а вочы яе трывожна і прачула аблягалі ўсіх, як быццам прасілі пра літасць, каб не асуджалі, калі зярняты куцці недаваранья або пераваранья.

Памаліўшыся, бабка бярэжліва здымала лыжкай падсохлы верх куцці і адну яе лыжку клала на белую льняную хусцінку. Згарнуўшы хусцінку, яна выходзіла з хаты, каб пакласці куццю ля запаленага ліхтара. Дзед сцярог, каб панавала поўная цішыня вакол стала, пакуль бабка не вернецца ў хату. Бабка ўваходзіла, набліжалася да гаршчочка і, пяшчотна кранаючы пальцамі яго абадок, гаварыла: „У згодзе будзьце, спажывайце, Каляда, Каляда!“ Дзед уставаў і чэрпаў куццю. Ён з першае лыжкі адсыпаў крышку круп на стол душам продкаў. За дзедам чэрпалі і іншыя, і кожны з першае лыжкі клаў крыху круп на стол. Куццю елі ў поўнай цішыні. Забаранялася махаць нагамі пад сталом, бо душы родзічаў маглі быць на стале і пад ім. Да куцці падавалі мёд, сок з ягадаў і вішняў, цёрты мак і іншыя прыправы. Куцця варылася з такім разлікам, каб яе ўсю з'елі. Недаедзеная куцця ў гаршчочку прымета дрэнная — сямейных ці родавых сварак і боек прычына.

Нехта нам скажа: „Мы — хрысціяне, а гэта ж паганскія традыцыі“. Безумоўна, што паганскія. Але ці не выяўлены ў гэтых паганскіх традыцыях светапогляд нашага продка? Ці гэты паганскі наш продак не паказвае свае адносіны да іншае асобы зусім чужога роду? Продак наш верыў у несмяротнасць душы і верыў, што душы ягонага роду прыйшлі да яго ў хату адсвяткаваць сонцазварот, але ён чулы, надзвычай спагадлівы, заклапочаны тымі душамі, у якіх вымер род і ім няма дзе прытуліцца. Ён ставіць запалены ліхтар, выносіць сакральныя стравы незнаёмым душам, каб аказаць сваю дабрату, людскасць і пашану блукаючым душам. Нельга з пагардай адносіцца да гэтых паганскіх традыцыяў, але трэба іх успрыймаць з пашанай, бо ў гэтых традыцыях



© PDF: Kamunikat.org 2011
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

выяўляецца характар, летуценні і філасофія нашых продкаў.

Калі куцця варылася, пену з яе збіралі ў жбан. Калі мылі гаршчочак, у якім варылася куцця, ваду злівалі ў той жа жбан, каб раніцай змачыць авёс коням, тады коні будуць гладкія, моцныя і шпаркія. Падсохлым верхам куцці кармілі курэй, каб добра несліся, а вясной шуляк куранят не хапаў. Лыжкі, якімі елі куццю, не мылі, іх перавязвалі ваўнянымі ніткамі, каб жывёла, асабліва авечкі, не разбягаліся, не губляліся, але трымаліся чарады. Сена са стала аддавалі каровам, каб давалі многа малака.

У той жа вечар, пасля куцці, моладзь збіралася на канцах вёскі і распальвала вялікія кастры. Да вогнішчаў дарослыя прыводзілі дзяцей, прыходзілі таксама старыя, сівенькія дзядулі. Іх садзілі на ганаровыя месцы, а яны пачыналі свае апавяданні. Абставіны баечнікам былі надзвычайныя. Ночка цёмная, марозная, а каля вогнішча відна і цёпла. Неба ўсыпанае зоркамі, а палі і дрэвы прыкрытыя пухкім снегам. Вакол цішыня. Толькі дровы на вогнішчы патрэскваюць. Галінкі ядлоўцу разносяць прыемны лясны пах, і нездарма ў калядках паўтараем: ціхі вечар, святы вечар.

І вось сярод цішы пачуўся голас дзядулі-баечніка, і ўсе насцярожыліся. Ён спакойным, упэўненым голасам пачынаў расказваць пра мінулыя часы, здарэнні, з'явы, продкаў; тлумачыў, чаму павінны ўсе зберагаць і шанаваць народныя традыцыі і дзякаваў за тое, што пратрывалі яны да гэтых дзён. Калі адзін дзядуля канчаў, пачынаў гаварыць другі пра прапрашчураў, якія калісьці жылі і адыйшлі ў няведамы свет, але вось душы іх прыляцелі да кастроў, каб пагрэцца і пацешыцца, што старадаўнія традыцыі зберагаюцца і шануюцца. Усе слухалі ўважліва і напружана. Пад уплывам незвычайных абставінаў ды апавяданняў баяў некаторым падросткам здавалася, што яны ўгледзелі не ападаючую сняжынку, але пырхаючую душу свайго продка. Дровы дагаралі, кастры патухалі, людзі разыходзіліся, але ім не хацелася адыходзіць ад вогнішча...

Наша калядная абраднасць зберагалася, яна прайшла праз стагоддзі і дайшла да нашых дзён. Бацькі, дзяды, прадзеды зберагалі старадаўнія народныя традыцыі. Але ці мы думаем і робім намаганні, каб іх таксама перадаць наступнаму пакаленню? Ці на нашай зямельцы загараюцца калядныя кастры? Ці збіраецца моладзь паслухаць сівенькіх дзядуляў-баечнікаў? Ці мы клапоцімся выклікаць у сэрцах моладзі замілаванне і настойлівасць для зберагання народных традыцый — скарбу нашых продкаў?



Дапусцім, што пад уздзеяннем сучасных абставінаў у святы калядні вечар не збіраецца болей сям'я за супольным сталом, пакрытым сенам, і дзед-гаспадар не прыносіць у хату снапок-каляду. Дапусцім, што болей не запрашаюць мароза, не выносяць запаленага ліхтара, не дзеляцца сакральнымі стравамі з памерлымі, не вараць мёду і куцці. Дапусцім, што цяперашняе пакаленне пастанавіла святкаваць Каляды памадэрнаму. Ці ж гэта мае азначаць, што нашыя народныя традыцыі памерлі і ніколі болей не адродзяцца? Ці гэта азначае, што народ наш скарыўся перад сучаснасцю і ніколі не ўспомніць свае старадаўнія традыцыі? Калі хтосьці траціць надзею, назіраючы за паводзінамі маладога пакалення, якое захоплена навінкамі, то давайце прыпомнім словы нашага паэта Максіма Багдановіча:

Ужо колькі год стаіць магіла:  
У гаршку насення жменю там знайшлі,  
Хоць зерняткі засохлымі былі,  
Усё ж такі жыццёвая іх сіла  
Збудзілася і буйна ўскаласіла  
Парой вясняной збожжа на ралі.  
Вось сімвал твой, забыты краю родны!..

**Міхась Белямук**

---

# Літаратурны палетак

### РАДЗІМА

Палі далёка з небам сутыкаюцца,  
Стаяць сцяной лясы маўклівыя,  
Хоць скажа хто, што невяліка ты, —  
Мне неабсяжны край — Радзіма мілая.

Ці то цячэ рака спакойная,  
Ці то гудзяць вятры шумлівыя,  
Я чую сэрцам песнь раздольную —  
Цудоўна ты пяеш, Радзіма мілая.

Імчыцца поезд, а вагон калышацца,  
Змяняюцца чаргою пералескі сінія,  
Як не гляджу — не надзівуюся —  
Прыгожа ж ты, мая Радзіма мілая.

Бо як далёка не ад'еду я,  
Твая гаворка шчаслівая  
Заўсёды мілагучна песціць слух —  
Заўсёды ты са мной, Радзіма мілая!

**Мікола Варанецкі**

д-р **Аляксандр Баршчэўскі**

## ЛІТАРАТУРНАЕ АБ'ЯДНАННЕ „БЕЛАВЕЖА"

## СТАН І ПЕРСПЕКТЫВЫ

(Даклад на навукова-папулярнай сесіі з нагоды XXX гадавіны БГКТ і „Нівы")

Калі ўзяць пад увагу тое, што ў першых нумарах „Нівы" паявіліся літаратурныя творы: вершы, апавяданні, жарты мясцовых аўтараў, дык можам сказаць, што беларускі літаратурны рух у Народнай Польшчы налічвае, як і БГКТ, трыццаць гадоў і гэтага факту не змяняе тое, што ідэя паклікання да жыцця літаратурнага аб'яднання і наданне яму назвы „Белавежа" ажыццявілася некалькімі гадамі пазней.

Трыццаць гадоў у жыцці любой ідэйнай ці мастацкай плыні, як і ў жыцці чалавека, не толькі дазваляе на падсумаванне, але абавязвае да пэўнай спеласці.

Мой даклад не з'яўляецца ні хранікальным рэестрам фактаў, ні характарыстыкай сілуэтаў паасобных членаў „Белавежы". Яго сутнасць зводзіцца да рэфлексійных ацэнак некаторых, на маю думку, найбольш характэрных з'яў у трыццацігадовай дзейнасці „Белавежы".

Думаю, што не будзе ні гіпербалічнага перабольшвання, ні самахвальства, калі скажу, што дынамічная дзейнасць „Белавежы" — найпрыгажэйшая праява ў гісторыі Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Так было дагэтуль. Здаецца мне, што таксама будзе і ў будучым.

Калі гаворым аб генезісе „Белавежы", дык мусім узяць пад увагу беларускія літаратурныя традыцыі на Беласточчыне ў мінулым. Якія яны? Ёсць народная прыказка: збожжа не родзіцца на камені. Усялякія прыказкі, як і афарызмы, з увагі на свой крайні лаканізм, часта ўмяшчаюць у сябе аднолькавую дозу праўды і маны. Вельмі здавалася б трапная толькі што прыведзеная прыказка не толькі ў адносінах да збожжа, але і ў адносінах да многіх грамадскіх з'яў, становіцца амаль што манюю, калі схочам яе аднабакова аднесці да „белавежцаў". Справа ў тым, што пачынаючы сваю творчасць, рашучая большасць з іх не абапіралася на беларуска-беластоцкіх літаратурных традыцыях, бо іх у істоце не было. Можа нехта запярэчыць, паклікаўшыся на старадаўняе друкарства ў Заблудаве і ў Супраслі. Можна было б паклікацца на некалькіх аўтараў з Беласточчыны, якія паспрабавалі сваіх літаратурных сіл у перыяд „Нашай нівы". Можна было б паклікацца на праявы аматарскай літаратурнай творчасці, якая, як агонь з сухога галля, то ўзгаралася, то гасла ў часы санацыйнай Польшчы, Савецкай улады, акупацыі і ў першыя гады пасля вызвалення. Аднак вядома, што гэтыя праявы мелі наогул вельмі выпадковы, анэмічны характар і што амаль ніхто з „белавежцаў" не ставіўся да такой творчасці, як грунту, на якім пачынаў сеяць сваё літаратурнае зерне. У гэтым сэнсе, пачынаючы трыццаць гадоў таму назад літаратурную справу, „белавежцы" паспрабавалі сеяць на камені.

Тут, аднак, патрэбна агаворка, якая значна падважае вышэй сказанае. Кожны з пазнейшых „белавежцаў", беручыся за пяро і спрабуючы сваіх сіл у пісьменстве, у большай або меншай ступені сутыкнуўся з усебеларускай літаратурай і меў большае або меншае ўяўленне аб яе галоўных прадстаўніках. Хто як хто, але прынамсі Купала, Колас, Танк былі вядомыя ўсім. І яшчэ адзін фактар, бадай, што найважнейшы. Практычна кожны аўтар паходзіў з беларускай вёскі, якая некалькі дзесяткаў гадоў таму назад жыла поўняй народнага жыцця. Моўная, фальклорная, звычаёвая аўтэнтычна беларуская стыхія была тады намнога мацнейшая, чым цяпер. І калі ўзяць пад увагу, што ўсё гэта і стварыла тую глебу, на якой узрастаў беларускі літаратурны маладняк, дык трэба сказаць, што пачынальнікі „Белавежы" не нарадзіліся на камені. Вось у гэтым месцы і пацвярджаецца слушнасць прыведзенай прыказкі.

Пяройдзем да сучаснасці. Ужо сем „белавежцаў" прыняты ў лік членаў Саюза польскіх пісьменнікаў. І я веру, што недалёкі той дзень, калі будзе пакліканы да жыцця аддзел Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку, які будзе складацца з саміх або амаль з саміх беларускіх аўтараў. Зразумела, што будзе гэта вялікая падзея ў жыцці Беларускага таварыства і ў жыцці ўсёй беларускай меншасці ў Польшчы. Здаецца мне, што трэба зрабіць усё, каб тыя нашы аўтары, якія маюць выдадзеную адну кніжку — Уладзімір Гайдук, Ірына Баравік, Зося Сачко — як найхутчэй выдалі другі зборнік і гэта ім адкрыла б дарогу ў Саюз польскіх пісьменнікаў. Праўдападобна ў найбліжэйшым часе выдасць дзве кніжкі „белавежац" Васіль Петручук, што і яму адкрые дарогу ў Саюз польскіх пісьменнікаў. Прадбачваючы сітуацыю на 4-5 гадоў наперад, можам надзеяцца, што колькасць „белавежцаў", прынятых у Саюз польскіх пісьменнікаў, будзе раўняцца дзевяці-дзесяці асобам.

Зразумела, што такая перспектыва можа толькі радаваць. Агульнапольскі прастор, выдавецкія магчымасці, фінансавыя перспектывы — ці ж гэта не тое, што неабходнае для літаратара, для таго, каб паверыць у сваю паспяховасць і важнасць? Мне асабіста спадарожнічае не толькі радасць, але і боязь. Справа ў тым, каб „белавежцы" захавалі адпаведнюю дыстанцыю да такога тыпу перспектывы і ўдачы і каб не дапусціць да змян-

шэння беларускасці ў сваёй творчасці і ў жыццёвых паводзінах. Боязь такая не надуманая, бо і сёння ўжо выступаюць сімптомы, якія сведчаць не аб найлепшым стане нашай нацыянальнай свядомасці.

У гэтым месцы хочацца мне паставіць пытанне: у якой ступені творчасць і жыццёвыя паводзіны „белавежцаў“ атоесамліваюцца з беларускімі нацыянальнымі патрэбамі, у якой ступені рэагуе на неспрыяльныя працэсы, якія выступаюць у беларускім асяроддзі. Якой павінна быць наша творчасць у часах, калі прамысловыя і тэхнізацыйныя працэсы пагражаюць усялякаму, у тым і беларускаму рэгіяналізму. Трэба сказаць, што тыпова польскія рэгіёны патрапяць геніяльна захоўваць сваю спецыфіку. Зразумела, што мы павінны выкарыстоўваць іх вопыт. На жаль, сярод „белавежцаў“ сустракаюцца такія, што да сваіх каханых ніколі не напісалі ліста па-беларуску, якія родных дзяцей не навучылі той мовы, якая гучыць у іх творах, якія ў афіцыйных дакументах замазваюць сваё беларускае паходжанне. У гэтым праяўляецца наша маладушнасць і слабасільнасць. Зразумела, што такі беларускі аўтар ашуквае і сваю нацыянальную меншасць і польскую дзяржаву.

Абавязак кожнага пісьменніка — служыць сваёй нацыі, сваймy класу і сваёй дзяржаве. Наш лёс склаўся так, што мы амаль усе — сыны беларускай вёскі. Няма сёння патрэбы бараніць беларускага селяніна ў сэнсе палітычным ці сацыяльным. Беларускія сяляне карыстаюцца тымі самымі грамадскімі магчымасцямі, што і палякі. Тое ж самае адносіцца і да эканамічных магчымасцей. Астаецца аспект нацыянальны. Беларускасць на Усходняй Беласточчыне курчыцца, не таму, што перашкаджае ёй дзяржава, а толькі таму, што многія нашы браты, сёстры і асабліва дзеці носяць у сваёй душы комплекс нацыянальнай непаўнацэннасці. Нашы дзеянні павінны ісці ў тым напрамку, каб сталася па-другому. Народная ўлада стварае для гэтага адпаведныя ўмовы. Калі хочам уплываць на свядомасць нашых чытачоў, не зможам абысціся без, здавалася б, банальных слоў аб беларускасці, аб незалежнай каштоўнасці роднай мовы, аб любві да традыцыі. Не абыдземся без заклікаў і дэкларацый. Ці ж не дзіўна, што многія „белавежцы“ на працягу цэлых гадоў патрапяць абыходзіцца без гэтых свяшчэнных пачуццяў.

Можам сябе ўволіць ад многіх абавязкаў, але нельга ўволіць сябе ад служэння таму, што было нашай сілай, а сталася слабасцю.

Зразумела, што нікога тут не заклікаем да таго, каб нашпігоўваў сваю творчасць як найбольшай колькасцю патрыятычных зваротаў. Магло б гэта прыносіць болей шкоды, чым карысці. Толькі ад самога пісьменніка залежыць, якім чынам прыпадняce ён патрыятычнае слова так, каб пранікла яно ў глыбіню сэрца чытача.

Са сказанага не вынікае, што „белавежцы“ праграмна абыходзілі патрыятычную тэматыку. У многіх з іх, асабліва ў В. Шведа і Д. Шатыловіча нацыянальныя пачуцці звіняць высокай і чыстай струной. Я асабіста не згаджаюся з тымі, хто закідае названым паэтам спрошчанасць. Іх паэзія знаходзіць простую дарогу да чалавечага сэрца, а хто ж з пісьменнікаў аб гэтым не марыць?

Вопыт мінулых гадоў паказаў, што вялікае значэнне для папулярызацыі беларускіх пачуццяў маюць аўтарскія сустрэчы. Праведзена іх дагэтуль на тэрыторыі Усходняй Беласточчыны не меней чым тры тысячы. Большы або меншы след ад іх застаўся ў народнай памяці. Дзякуючы ўсім тым, хто прымаў найактыўнейшы ўдзел у гэтай справе, хацелася б пажадаць, каб у будучым большая колькасць аўтараў у іх удзельнічала. Асабліва гэта датычыць тых аўтараў, якія выдалі зборнікі, бо вядома, што аўтарскія сустрэчы — па сутнасці адзіная эфектыўная форма распаўсюджвання нашых выданняў.

Нацыянальнасць несумненна найважнейшая для нашай літаратурнай плыні. Не можа яна, аднак, аставацца з'явай самотнай. Павінна яно ісці поплеч з бытавым, звычаёвым. „Белавежцы“ — сыны і дочкі беларускай вёскі — не могуць аставацца па-за кругам тэм, якія непасрэдна датычаць гэтае вёскі. Нельга сказаць, што бытавізм адсутнічае ў творчасці „белавежцаў“. Яго элементы жывыя ў апавяданнях Дваракоўскага і галоўным чынам Яновіча, многа бытавізму ў апавяданнях Петручука. Гумарыстычная бытавая струна загучэла ў апавяданнях Заставіна і ў апошнім часе ў крыху фельетонным, аднак не пазбаўленых літаратурных вартасцяў навелках Шаховіча. Спробы ўзнаўлення карціны гістарычнага побыту нашых продкаў удана праведзены Мікалаем Гайдуком.

Бытавізм сілаю рэчаў з'яўляецца дамінантай празаікаў, аднак прысутны ён і ў творчасці некаторых паэтаў, асабліва ў Шведа і Шатыловіча. Ці бытавізм увогуле нам патрэбны? Безумоўна так. Справа ў тым, што каштоўнасці нашай літаратуры заключаюцца, між іншым, у яе дакументалізме. Асабліва будучыя пакаленні беларусаў будуць шукаць у ёй аўтэнтычных слядоў мінулага. І чым болей будзе ў ёй рэаліяў дыялектных, фальклорных, этнаграфічных, этнічных, звычаёвых — тым вышэйшай будзе яе ацэнка.

Нярэдка бытавізм у творах „белавежцаў“ занадта эскізны і другапланавы, часта спаўняе ён толькі ролю фона, на якім разгортваюцца не заўсёды арганічна з ім звязаныя падзеі. Больш татальны характар набывае ён у п'есах, галоўным чынам Геніюша

і Яновіча. Трэба аднак сказаць, што драматургія „белавежцаў“ пакуль што не павінна пісацца з вялікай літары і што яе ўзровень не ўзняўся па-над патрэбы вясковай аматарскай сцэны. Хто ведае, але здаецца нам, што адсутнасць беларускай тэатральнай сцэны вышэйшага лёту, дэтэрмінуе мастацкую і літаратурную слабасць драматургіі „белавежцаў“.

На жаль, не можам даць вышэйшай ацэнкі і нашай літаратурнай крытыцы, якая амаль што не існуе як самастойная з'ява. Амаль усё, што ў гэтай галіне дагэтуль створана, мае характар напісанага з нагоды выйшаўшага альманаха або індывідуальнага зборніка. Выступае ў нас фатальная мода на „арганізаванне“ аўтарамі прыязнага сабе крытыка, які, зразумела, пяе дыфырамбы і панегірыкі ў адрас выдадзенай кніжкі. Толькі гэтым тлумачыцца штучная пафаснасць некаторых рэцэнзій, дутыя акрэсленні тыпу: „беларускі Хэмінгвей“, „беларускі Лермантаў“, „беларускі Ясенін“. Зразумела, што такая крытыка робіць дрэнную паслугу аўтарам, засейваючы ў іх сэрцах самаўпэўненасць і культаманію.

Дарэчы будзе тут сказаць, што многія выдатныя пісьменнікі свету вельмі адмоўна выказваліся аб сваіх творах. Варта прыгадаць, што літаратурны карыфей Талстой вельмі крытычна ацэньваў, між іншым, сваю эпапею „Вайна і мір“. Відаць, толькі сапраўдная геніяльнасць дазваляе на самакрытыцызм. Мізэрнасць заўсёды будзе прэтэндаваць на вялікасць і грандыёзнасць. З другога боку я далёкі ад пахвалы ў адносінах да крытыкі знішчальнай. Такі тып крытыкі вельмі часта выступае тады, калі аб адным пісьменніку піша другі пісьменнік. У такой сітуацыі даходзіць да голасу зайздрасць, нянавісць, канкурэнцыя, ахвота не дапамагчы, але перашкодзіць аўтару.

Ёсць крытыкі, якія хочуць падвучыць аўтара пісаць, а ёсць і такія, якія хочуць яго адвучыць ад пісання. Зразумела, што мы за той першай катэгорыяй крытыкаў.

Гісторыя літаратур вучыць, што часта збэшчаныя і ачэрненыя крытыкамі кнігі здабываюць сабе шырокую папулярнасць у чытачоў. І наадварот — узнятыя крытыкамі пад неба творы адкідаюцца чытачамі. Здаецца нам, што крайняе разыходжанне крытычных ацэнак стварае той клімат, у якім расцвітае сапраўдная літаратура і вяне антылітаратурная мізэрнасць. З гэтай прычыны мы за буйнае развіццё свабоднай крытыкі, якая можа прычыніцца да ўдасканалення творчага варштату „белавежцаў“.

Нельга абысці маўчаннем справы бадай што найважнейшай — творчасці для дзяцей. Большасць „белавежцаў“, у тым і я, павінна саромецца свайго анемізму ў гэтай галіне. Хопіць глянуць на „Зорку“, газету нашай надзеі — беларускіх дзяцей, каб пераканацца, што 90% матэрыялаў у ёй змешчаных — гэта матэрыялы савецкіх беларускіх пісьменнікаў. Калі б „Зорка“ паспрабавала абапірацца выключна на творах „белавежцаў“, дык перастала б існаваць на працягу аднаго месяца. Ёсць на шчасце сярод нас чалавек, які, калі можна так сказаць, ратуе гонар усяго нашага аб'яднання. Гэты чалавек — Віктар Швед. Яго дасягненні ў галіне творчасці для дзяцей рашуча перарастаюць усё тое, што ў гэтай дзялянцы робім усе мы „белавежцы“ разам узятыя.



У паэзіі Шведа ўласціва выважаны дыдактызм і маралізатарства. Дзякуючы гэтаму яго вершы пранікаюць да дзіцячых уяўленняў, розумаў і сэрцаў. Да дзіцячых твораў можам залічыць многія вершы Уладзіміра Гайдука і Леапольда Танкевіча. Аднак усяго гэтага рашуча замала, беручы пад увагу патрэбы беларускіх дзяцей у Польшчы. Будзем надзеяцца, што „белавежцы“ возьмуць да сэрца справу творчасці для дзяцей у сваіх планах і літаратурнай практыцы.

Гаворачы аб творчых дасягненнях „белавежцаў“, не можам абысці маўчаннем можа не выдатных, але і не мізэрных іх дасягненняў у галіне перакладаў. Цікава, што з аднаго боку перакладаюць яны найчасцей з польскай мовы на беларускую, з другога боку з мовы беларускай, рускай, украінскай на мову польскую. Як дагэтуль, колькасць твораў, перакладзеных „белавежцамі“ з іншых на беларускую рашуча ўступае колькасці твораў перакладзеных з беларускай, рускай і ўкраінскай на польскую мову.

Досыць цяжка гаварыць аб уласцівых прапорцыях паміж творчасцю арыгінальнай і перакладчыцкай. Справу ўласцівай раўнавагі паміж гэтымі з'явамі пакідаем да вырашэння самім аўтарам.

Прыглядаючыся да творчасці „белавежцаў“ кідаецца ў вочы разнароднасць іх творчага почырку. Досыць цяжка было б не адрозніць паэзіі Чыквіна ад паэзіі Шведа, вершаў Артымовіч ад вершаў Шатыловіча, прозы Яновіча ад прозы Генюша, апавяданняў Гайдука ад апавяданняў Раманчука, вершаў Зубрыцкага ад вершаў Баравік. Здаецца мне, што гэтая рознаколернасць літаратурнага стылю з уласцівасцямі мастацка-літаратурнага мыслення, з'яўляецца галоўным дасягненнем „белавежцаў“. З гэтых прычын не толькі не будзем прапагаваць аднаколернасць і уніфікацыі, але наадварот — будзем падтрымліваць усялякую літаратурную самастойнасць і арыгінальнасць, бо толькі такая творчасць можа адлюстроўваць усю складанасць сучаснага жыцця.

Трэба цешыцца, што ў творчасці „белавежцаў“ выступае балючая канцэнтрацыя Чыквіна, аўтэнтычнае задуменне Яновіча, грамадзянская адказнасць Шведа, нервовая хісткасць Артымовіч, гістарычная заглыбленасць Мікалая Гайдука, магнітнае цягаценне да зямлі Уладзіміра Гайдука, непаслядоўная паслядоўнасць Генюша, уражлівасць Зубрыцкага, шурпаты лірызм Петручука.

Гаворачы аб трыццаціголдзі беларускага літаратурнага руху, гаворым аб яго долі і нядолі, аб яго ўзлётах і ўпадках. Перад усім ад нас саміх залежыць, чаго больш: узлётаў ці ўпадкаў будзе ў жыцці нашага руху ў будучым.

Заканчваючы свае разважанні аб творчасці „белавежцаў“, хочацца падкрэсліць, што нягледзячы на ўсе хібы, недахопы, аднабаковасці, наш літаратурны рух з'яўляецца найпрыгажэйшым праявам інтэлектуальнай патэнцыі беларускай нацыянальнасці ў Польшчы. Нягледзячы на ўсе плыткасці і падманы, якія спадарожнічаюць кожнаму літаратурнаму руху, заўсёды стараўся ён служыць не богу сілы, але богу праўды. Хочацца верыць, што таксама будзе і ў будучым.

**д-р Аляксандр Баршчэўскі**

**Ян Чыквін**

## НА ЧУЖЫНЕ

*Прысвячаю беларускім паэтам*

Адстаю ад крылатай стаі —
Ужо не далячу да краю,
Дзе крылы мае выраслі.

Пабрацімы — бел-белыя гусі
Ляцяць ключом спрадвечным
Да гнёздаў — сваіх,
беларускіх.

У тым адхоне, дзе я сканаю,
У тым пранізлівым бляску
Я вельмі самотны — айчыны
не маю,
Матчынай ласкі.







**Сакрат над ракою вечнасці... С. Яновіч каля рэчкі Супраслі ў ваколіцы в. Пілатоўшчына гм. Гарадок.**

**Фота Л. Тарасэвіча**

**Сакрат Яновіч**

паэт, празаік, эсэіст, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся 4 верасня 1936 г. у мястэчку Крынкі, у рамесніцкай сям'і. Закончыў Варшаўскі універсітэт. У „Ніве“ працаваў ад пачатку (з перапынкамі ў гадах 1959-62 і 1970-80). Як пісьменнік, дэбютаваў на старонках „Нівы“ апавяданнем „Гнілое ў здаровым“, апублікаваным 13 мая 1956 г. Ад 1970 г. член Саюза польскіх пісьменнікаў. Выдадзены наступныя яго кніжкі: „Загоны“ (Беласток, 1969), „Вялікі горад Беласток“ (Варшава, 1973 — у польскім перакладзе), „Зборнік сцэнічных твораў“ (Беласток, 1976, — супольна з Юркам Геніюшам), „Не пашанцавала“ (Беласток, 1978), „Забыцці“ (Вроцлаў, 1978, — у польскім перакладзе), „Сярэбраны яздок“ (Мінск, 1978), „Сцяна“ (Ольштын, 1979, — у польскім перакладзе), „Самасей“ (Варшава, 1981, — у польскім перакладзе), „Малыя дні“ (Варшава, 1981, — у польскім перакладзе), „Трэцяя пара“ (Беласток, 1983, — у польскім перакладзе), „Сярэбраны яздок“ (Варшава, 1984, — у польскім перакладзе), „Мінія-

цюры“ (Лондан, 1984, — у англійскім перакладзе), „Беларусь, Беларусь“ (Варшава, 1986, — напісаная па-польску).

Займаецца таксама перакладамі з польскай на беларускую мову, як і з беларускай мовы на польскую, напрыклад, — том Янкі Брыля „Вітражы“ (Варшава, 1979), паэма Яна Леанчука „Сон аголены“ (Беласток, 1980, — беларускі пераклад).

**Сакрат Яновіч**

# Занатоўкі для памяці

Вятрыскі ў нас ад выгана з багоннікам; гудзяць у коміне ды пасвістваюць у апухах, цубаняць дажджамі па высокай адгэтуль сцяне дома, а ўзімку накурганьваючы каля яе снегу. У жніво налятаюць яны ад паўднёвых палёў з пахамі спелага збожжа і ссохлага палыну. Буры з грымотамі наводзяць паганскі пярэпалах. Як жа па-райску пасля таго бярэцца зелянець агарод: кучаравіцца моркаўка, выструньваецца буракоўе, агурэчнік у квецені нагадвае сабою асеўшы з неба дзівосны дыван, акурат побач расцвіўшага маку, а лісці гарбуза, што ў бульбянішчы, смешна падобныя на чуйныя вушы свіней, затоеных у шкодзе... Тады нават сваркі вераб'ёў са шпакамі за будку на шчытовішчы здаюцца весялосцю.

Пад старою яблыняй з павіслым ад пладоў галіноўем знаходжу я апаўшыя папяроўкі, празрыстыя ад выспеласці, у якіх, калі глядзець на іх пад сонца, відаць зярняткі. Ем іх з лакомлівасцю падлетка, што залез у чужы сад. Вачыма ўявы бачу я нябожчыка бацьку і тое, як ён крывіцца на маё гэтае смакаванне: — Яблычкі табе ў галаве, а не работа!

...Дзяцеліна пад Глінішчам уся ў ранішняй расе. За паласою яе і за дзічкаю ружавее палетак канюшыны, якую косяць ад другога канца. Адтуль, угледзеў я, сігае заяц, імчыць ён — здаецца — проста на мяне, ад чаго я аж разгубіўся, мала не ўпусціўшы з рук сняданак, што прынёс тым дзядзькам. — Лаві-і-ііі, ла-авііі яго! — лямантуе нехта зусім побач і я баюся азірнуцца на гэты крык, і ўшчэмліва трымаю пацяжэлы вузялок. — Эх, недарэка ты... — гэта ізноў да мяне і робіцца мне страшна, быццам той нехта зараз сцебане мяне пугаю. „Нашто ён мне, гэты заяц? Не хачу я яго!“ — калачуся, як перад якім апраўданнем.

Пасля таго, ходзячы ў поле я абыходзіў гэтую мясцінку, хоць было тут хораша.

...Стаяць аднаму ў крынічнай рэчаньцы ды пад высокім небам канца лета. Яшчэ не адлятаюць журавы і дзікія гусі, а ўжо перацвітае поплаў і пусцее поле. Босыя ногі заносіць пяском быстрая вада, яна жывым серабром паблісквае пад стромаю з гняздоўем плісак. На бяскрай пожні выгналі авечак і кароў без пастуха, а ў пыльных прыгуменнях буяць малатарні. І чуваць гвалт торгу ў мястэчку, за хатамі з садкамі, у якіх залацеюць грушы, усё роўна бы абсыпаныя медзякамі дзеля незвычайнасці якое, ды трохі па-дзіцячаму румяняцца зімовыя яблыкі. На загонах у нізках клапоцяцца гаспадыні, відаць і дзяўчат (іхнюю паненчынасць пазнаюць па нецярплівасці).

Стаяць самому сабе перад усім і ўсімі, у гаснучае лета, але перад сытай восенню. Селяніну гэта зразумець! Калі гэта праўда, што без задаволенасці няма прыгажосці, дык і я ведаю, чаму падабаліся мне кастрычніцкія імжа і сутонне, апаўшая лістота і завугельны вецер, дождж на шыбах і рыпат веснічак... Таемнасць поначнага падворышча. Цяплынь пасцелі ў дажджоўе, сон пра свежаванне, (запах ад смаленага саламяным агнём кормніка, якога калолі пад Каляду).

...Завялася ідэя: закончыць школу ў горадзе і ўбіцца на работу ў фабрыцы. Ад яе мы ў выпускным класе пачатковай школы чуліся, як у застуднай гарачцы. Тое і тое далося нам потым, ой, нялёгка: першае — ад вясковай недавучанасці, а другое — ад дзярлівасці новага свету. У свае прыезды на канікулы прыбілася да мяне (і не да аднаго мяне) нейкае парабкоўскае крыўдаванне на матку-бацьку, злосць на гаспадарку і зямлю, на цэлае гэтае запацелае ад натруджанасці існаванне; ад натужлівай працы гнаіліся маладому скулы.

На Пятра і Паўла адбываліся музыкі; былі гармоня, скрыпка, бубен. Чакалася таго, каб хоць на коратка адлучыцца ад паспалітасці, узвысіць сябе слоўцамі і манерамі сярод тых, каму не наканавана завідлівая будучыня ў занебакрайных далячынях. — Мой пан ідзе, — пачуў я пра сябе ад маці ў замглёную рань, сам ледзь на нагах ад танцаў. Яна таўкла ў цэбры бульбу кормніку і з прыхільнасцю зірнула на мой франтаваты стан (мне было ўжо блізка да праўдаў жаночае долі, менавіта да чарнабрывай загледжанасці ў павярхоўную гожасць).

...Здарылася са мною і такое, у даросласць, калі, упіўшыся, пакінуў я без дай прычыны кампанію ды пасунуўся ў глыб ночы. Цвілі ліпы, пахацелі паненскія агародчыкі, устаялася была паркая ціш. Я, даўно не быўшы ў сваім мястэчку, маячыў у ягоных вулачках. Уразіла мяне бязлюддзе ў ім, усё роўна што ў паморак або ў — не забытую — апошневаенную акупацыю. Гэта ж тады, у тую перадпоўнач, я зразумеў, што ідуць часы, у якія чалавек не будзе рады чалавеку. І ўсё думаў, адкуль яны такія набліжаюцца і дзе іх пачатак (?)... З'яўляліся з дзяцінства тлумныя пагулянкі, кавалераватыя хлапчыскі, дурэючыя ў вечаровых залётах ля вяргіневых платоў, попіскі дзяўчынят з бры-

няючымі грудзямі, выглядкі з расчыненых вокан цікаўлівых цётак і мацярок, увесь той вэрхал задаволенасці. А кожны выяўлены твар наводзіў думку пра зменлівы лёс. У світанне прычапіўся да мяне, бы сабачук, якісьці п'яны, па яго балбатні — прывалочаны сюды: яму трэба было грошай пазычыць у каго.

...Ніхто не ведае, ці калі было добра ў вёсцы. Мяркуючы па тым, як ад самое старажытнасці людзі імкнуцца ў гарады, трэба лічыць, што гэта і ёсць адказ.

Я ўсведамляю сабе, што чароўныя вершы пісаць пра сенаванне або пра ворыва можа той, хто не цягае касы, не ходзіць за плугам. Паэзія заглядвала пад страху здавён-даўна разам з валакітамі з доўгімі торбамі, потым навейваў яе ветрык ад цыганскіх вогнішчаў ля рэчак, а яшчэ пасля папахвала ёю ад асвечаных паняў і панят, і ўрэшце ўлятала яна бясшумным анёлам за белатварым кніжнікам манастырскім або, усё часцей, з боку горада. Ад валакітаў браліся вясковыя мудрацы без свайго хлеба; ад цыганоў песні паяліся пра каханне няшчаснае, вычварнае ўсё-такі ў нясціханы тады холад, голад і паморак; паняты напусцілі ў хаты бабам моды кветы тыя сеяць замест радка буракоў ці морквы; кніжнікі ў касцюмах плялі дзецярні ў школках пра хараство поля, а на ім жа гэта цівун надаваў бізуноў ратаю, і пра лугоў хараство вярэдзілі, ад касьбы ж на якіх горкі пот залiваў вочы, і пра неба гэтак жа, з якога, калі не навальніца з пярунамі, дык суша пякла або Бог сварыўся. Хвалілі яны вёску, бы на пасмех які! І нашто ім тое было патрэбнае? Колькі ж год і вякоў мужык толькі і ведаў чакаць таго, каб перастаць быць мужыком (у казакі падаваўся). І прычакаў, дзякуй Табе, Божа Ўсямоцны!

Нішто не паверне яго назад, каб нават свет і сонца мелі прапасці. Хлеб лёгкі і кожны цяпер пан, самы апошні цямнотнік, што сям-там туляецца ў паркетных кватэрах унукаў, ходзячы жывым экспанатам паншчыннага жаху.

Той шкадуе мінулае, каму жыць добра стала, даўно добра. Чаму гэта так дзіўна?

...Чалавек, бачыш, — піша сябар, — адрываецца ад каранёўя свайго. Тлумачэнняў таго ёсць, аднак цяжка ўказаць на галоўнае сярод іх. У гэтых людскіх вывараценях ёсць трагічнасць самаадрачэння... Можна дадаць: звярыны інстынкт, каб толькі наесціся. Ну і ў цяпле быць. Усё робім перш дзеля самога існавання. Жыць жа трэба! А пытанне пра цану быцця таго ёсць, як і сам здагадваешся, пытаннем, якое паставіў чалавек сам жа сабе, калі стаў ён менавіта чалавекам ды стварыў — для сябе! — культуру з цывілізацыяй (лішнія, а затым і варожыя прыродзе).

Ці магло быць інакш? Не, не магло.

Цікава, сам пабач, што розум, з'явіўшыся ў чалавеку, не змянію яго сутнасці як жывое з'явы. Тады — дзеля чаго ён у ім, гэты розум? Усяго, каб ведаць, што жыве? Мала як бы.. Каб болей і болей ведаць? Дык — нашто?

Каб працы пазбыцца, да раю дайсці? Але заўсёды будзе пытанне: а што далей?..

Бачыш, як граф які навамодны, люблю я паехаць у родавую хаціну з дзедавай печаю ды гліняным таком каля яе, з выкаўзанымі лавамі пад ваконцамі, і сесці тамака за стол, сточаны караедамі, і пачытаць сабе за ім пра касмічныя ракеты і навуковыя рэвалюцыі, і пра тое, што налічваецца мільёны вучоных, і пра тое яшчэ, што тэхнічна магчыма, нарэшце, з пяску вырабіць шмат-што патрэбнае нам для жыцця... А мне, вось, адэпту універсітэта ды адначасова ўласніку хаткі ёсць гэтак жа старадаўні клопат з дровамі на зіму і з тым, каб уставіць шыбу, і знайсці майстра (перакрыць дах), і няма цэменту, і не дапытацца, дзе б тут воз гною на агарод хто прадаў, а зусім бяда, адкуль ратая наняць (хоць ты сам па-першабытнаму сукачом ары). Праўда, у покуце, дзе іконы, шуміць і буяніць тэлевізар, які маці глядзіць ды слухае, як той беспісьменны дзядзька ў касцюме, якому заманулася пабыць на дакладзе прафесара, прывезенага ў клуб. Перад учарнелымі ўваходнымі дзвярыма (з засаўкай) красуецца мая легкавушка, якую пакалечыў, упаўшы ў непагадзь на яе, падгніўшы тын...

...Усё каб выгадней, смачней, беспячней. Ну і што сказалі б на тое, калі б змаглі сказаць, тыя гатункі жывога ў свеце, якія род наш выгубіў альбо выгубіць? А калі і самую Зямлю мы зніштожым, распылім па Космасе, ізноў не будзе аніякіх пытанняў. Насунецца такая цішыня, якой нікому не ўявіць сабе. І якую параўноўваць з векавечнай гэтак жа несур'ёзна, як пясчынку з Сусветам, (пра які мы ўсяго здагадваемся, што ён без пачатку і без канца).

Ані такіх, ані хаця б падобных думак не было ў майго нябожчыка бацькі, калі ён вярнуўся з астатняе, на наша паняцце, прымітыўнае вайны. Ён паставіў сапраўдны дом з паддашкам, на купленым пляцы ў зараслях пажарышчаў. Будучы хвацкім шаўцом, яму спорна ўдалося тое ў тадышнюю адбудову. Прынёс з акуратнай чужыны норавы і мары, якія ў нас лічыліся панскімі. Найпершай непрыстойнасцю з яго боку было штодзённае галенне твару... А яго турботы з майстрамі, можна сказаць: паўвеку назад, аказаліся не вельмі каб смешнымі і ў наша пакаленне, ужо перасеўшае з ляскатлівых фурманак на ўсёмогучыя трактары, з гнаявак у аўтамашыны, цапы і маслабойкі перадаючы ў музеі, быццам для публічнай перасцярогі якое ад рэцыдыву былога.

Бацька заўпарціўся заказаць венецыянскія вокны (надта ж наглядзеўся ён на іх у Саксоніі). І апланаваў ён калідор з фі-

лянговымі дзвярыма ў пакоі і ў кухню, ды ўсходы з парэнчаю, на той паддашак, на якім меў намер дажываць з нашай маці, (пакінуўшы нам, двум сынам, па палове размашыстага дома). Столяра такога, які — напаследак — не адкінуўся ад яго, напытаў бацька недзе аж пад Беластокам (у Ліпавым Мосце?), але і гэты яшчэ раз перарабляў усенька, не могучы пагадзіцца з тым, што ўсё павінна быць шырокае і вялікае. Цесляры ж, ставячы сцены, хітравалі накшталт італьянскай забастоўкі, пацішху пабойваючыся, што будуюць яны высознае глупства. З адным пячнікам не зазнаў ён дураты — чалавек гэты ваяваў быў у Англіі.

...У маладую вясну, за ўсыпанымі квеценю вішнякамі ў платах скрыгоча і ламарэндзіць будаўнічы сезон. Выныраюць крожвы з латкамі, па якіх павукамі ходзяць мужчыны (рыхтуюць шыфер). Унізе — уедлівы енкат пілы, цясанне, ад якога адчуваецца слушную здаволенасць, і ў нечым пужлівая звяга гэбля. Бубніць хуткая гутарка, перапыненая звонкім ад вышыні покрыкам з даху... Вырасцеш, ажэнішся, дык і пабудуешся. Адвечнае гэта ў нас: віць аднова гняздо. Нязменная прычына нашай незайздроснай іншым заможнасці (дзед ставіў хату сабе, і бацька, а цяпер — сын, праўда, мураваны дом, а пасля — унук?). Няма калі нам жыць ды багацець. Жытло не можа быць лепшае за лёс, таму шчасцю нашаму ў людзях, да якіх мы натужваемся параўнацца, усё тая ж грош-цана. Але мы гэтага не бачым, ідучы з тварам адвернутым за сябе, з вачыма вываленымі ад ганьбы нясслаўнай памяці найбедных з бедных. І таму гэта не верым у тое, што, аднак, нішто ў жыцці не вяртаецца, гэтак жа добрае, як і нядобрае, цячэ ў акіян нябыту. Наша няўпэўненасць такая пераўтварылася ў асаблівую рэлігію нашую, у якой ёсць жа галоўны плебейскі атрыбут яе, менавіта, страх. Фактычна ўсё бачым вачыма страху, усё, да апошняе дробязі, да самай мізэрнай глуповінкі. Дакладна ўсё!

Ці ўдасца каму калі апісаць беларускі страх?

...Ядловец каля снежнай шашы, бы архаічная людзіна, што прыбілася з вечаровага заполля. Бліскаціць электрычнымі агнямі блізкае мястэчка. Мардабойная правінцыя некалі без паняцця, як жыць. Ужо, як быццам не такая... Можна прызнаць рацыю, калі кажуць: ёсць у яе ўсё, што трэба, каб было; нават хлебам пачалі ў ёй раскідацца (ссохлы мочаць курам). Не паверыць гэтаму той, хто не ўмее звярнуць увагу на асаблівасць пасажыраў аўтобусаў у Беласток на беларускіх маршрутах. Пыхлівасць маладзіц, ад якой чамусьці ўяўляецца камічным іхнае каханне, пакуты іх і слёзы. Фанабэрыстасць маладажонаў прывейвае забытыя пахі шляхецкіх засценкаў (з якіх колькі ж было рогату ў прастанароддзі і ў літаратуры).







Жылі-былі дзеля збожжа і мяса — цывілізацыя поля і хлява, сутыкнуўшыся з фабрычнаю пакрывілася ў характарах, заядласць да працы перайначыўшы ў трывіяльнае хітрэцтва.

...Ёсць імгненні ў жыцці, якіх аніяк не забыць. Ад якіх крыўдліва горбішся. Радасць падае ў бяспамяць.

Лёс змяняецца хутчэй, чымсьці думкі. Адсюль гэта тыя недарасласць у дарослых і — дарасласць у дарастаючых. У курных хатах з тэлевізарам у покуце, у тых, што на вуліцы іранічна званай у нас Новаю ў мястэчку, — устаялася непатрэбнасць. Канае ў іх мінулае, сарамліва зацішыўшыся. — А куды ты пойдзеш, а ці хто прывеціць цябе? Сядзі крыцаю, во, і здаволены будзь, што не чапаюць!

Дагэтуль вялікія войны выклікалі вялікія змены. Калі грамадствам сталі і сяляне, пайшлі яны, вядома, следам за панамі, пакідаючы зямлю, (правіла: дзе не было маёнткаў, там аруць і сеюць і ў сённяшні перадом, і бязлюддзя няма). А кар'еры іх, як і яны самі, — парабіліся начнымі старажамі гэтыя нядаўнія гаспадары, а жонкі іхныя — нянькамі ўнукаў і служанкамі дачок сваіх, часамі прыбіральніцамі на службе. Дзеці, прайшоўшы ўжо школы, валакуць да сябе ўсянютка тое, што падгледжана ў колішніх панскіх пакоях. І старым гэтым нямаш месца, па гарадах начуюць яны ў кухнях, на раскладушках, а па меншых мясцінах — рыхтуюць ім кануры з падлогаю ды ваконцам у лішніх хлявах (рамантаваных на гаражы і дрывотні). — Холад там, хоць ты сабак ганяй! Песні жальбы ім спяваць я павінен? О не, наадварот, крыкнуць мне на іх: „Так вам і трэба за тое, што панічоў сабе нагадавалі! Самі плявалі на сябе, дык чаму ж гэта нашчадкі вашы любіць вас мусяць?! За што? Ганьба не вырасціць кветку пашаны!“

...У прыгарадзе добра, утульней у драбноце дзён. Пражываеш сабе іх, адзін за адным, без прэтэнзіяў на якую-колечы значнасць. У прадвесне, калі ўранні хрумсціць пад нагамі талы снег, прымарожаны за ноч, ідзеш у цяпліцу пасеяць першыя агуркі. Карміць будзеш курэй-нясушак. Затым, у позні ўзыход сонца, паснедаеш з жонкаю ды дзяцьмі (яны спяшаюцца ў школу). Сядзеш у сваю з'езджаную легкавушку, што стаіць за акном на падворчыку, і пунктуальна — дзякуючы ёй — пабудзеш на казённай рабоце, з якое ясі хлеб (табе, вядома, напляваць на яе).

Час ад часу ў ваколіцы згвалтуюць чыюсьці дачку нейкія лайдакі або абкрадуць далейшага суседа прыезджыя зладзеі; бывае — кагосьці заб'юць бандыты (пазалетась — агародніка Рухаймозга). З прыцемкам не трэба выходзіць у завулкі, нікуды. А калі хрысціны спраўляеш ці наклічаш сваякоў на Каляду альбо іншы баль які надумаеш, дык няхай лепей заначуюць у тваім доме госці (ёсць жа тых пакояў!).

...Эпоха смяецца з эпохі, заўсёды наступная з папярэдняй, як сын з бацькі (дачка з маці). І гэты смех, бы лямант гісторыі: быў, ёсць і будзе. Веліч змяншаецца ў смешнасць, трагедыя ходзіць пад руку з камедыяй, швэндаючыся па задворках быту. Праклён валачашчае бабы заглушае плач Джульеты, а набабнік плюе на Рамэа.

І жывуць людкове, заглядзеўшыся не столькі ў будучыню, колькі самі ў сябе. Гэта таму ніхто нікога не разумее, хоць і гавораць і думаюць. Іначай не можа быць, адкажа хтосьці (маючы рацыю, на жаль).

Аднак, калі мой сын стаў дарослым, я штораз здзіўляюся яго няспеласцю. І мне ўсё здаецца, што я, будучы ў ягоных гадах, ужо быў такім, як цяпер больш-менш... Гэта напэўна няпраўда — сваё пражытае памятаем не такім, якім яно было, а такім, якім хочам бачыць яго, азіраючыся за сябе. Мы безупынна, менавіта, хочам. І ў гэтым, магчыма, закон, які не абыйсці бокам (праўда, ёсць цывілізацыі, у якіх няма гэткага непрымушанага прымусу).

Мой сын. Я ўсё прыглядаюся да яго. Я не разумею яго. Іншы раз здасца мне, што я, усё-такі, урэшце ж... Тады ён ізноў учыніць або скажа нешта такое, ад чаго робіцца мне яшчэ цямней. Апускаюся ў роздумы пра нябожчыка бацьку, прызнацца: дзякуючы яму, сыну свайму, а ўнуку ягонаму... Жыццё паўтараецца, як прырода, — бы нарадзіны і смерць, — паўтараецца і незразумеласцю сваёю. У выбух спрэчкі — паміж намі, падобнай на майскі градапад, я навучыўся глушыць яе знянацку: ты не пад мяне гавары, ты пачакай і скажаш гэта свайму сыну, калі яго будзеш мець!

Ён анямела моўкне.

І я ведаю, што сказаў яму, відаць, важнае, і потым сушу сабе галаву над тым, што менавіта сказаў гэта я яму якраз і напэўна?! Як быццам навылёт ведаю і, адначасна, роспачна не ведаю і не ведаю! Мой жа свет — гэта не яго свет, хоць ягоны пачынаўся ў маім. Маё жыццё ўсё далей і далей ад ягонага, бо гэта ён пойдзе наперад, павярнуўшыся да майго спіною. І толькі калі ягоны доўгі крок запаволіцца на цяжкай вярсце, мусіць тады прыпыніцца, і сваім зрокам, ужо гэтак жа немаладым, паглядзець на бацькоўскае, (дабіўшыся, да нудоты гэтаксама спозненага розуму).

...Бы выява таемнага скарбу мігацеў залiўны Доўгі луг у Юр'еў дзень, калі бабуля выводзіла мяне глядзець поле. З жытнёвае руні не было ўжо відаць вароны, сеўшае ў яе, што прарочыла ўраджайнасць і хлеб аж на ўсю зіму. Але нішто так не засела ў маёй памяці з тае вясны, як той мігат, быццам гэта самое сонца купалася ў тым лузе, пырскаючыся ва ўсе бакі і пужаючы кнігаўкі. Хацелася стрымгалоў пабегчы туды і, схаваўшыся за вербалозамі, самому ўбачыць тую цудную гулянку (гэтак кавалеры падгледжвалі дзяўчат на сажалках). Я не цяміў, што прыгажэй ёсць заўсёды здалёку; вада тая аказалася са страхотна грузкім дном з плоймаю апалонікаў.

На ўскраі сваёй палоскі мы рассцілалі радзюжку, каб прысесці на сырой зямліцы паесці. На ручнік выкладвала бабуська пару гатаваных яек, па скібцы хлеба, і ставіла адмысловую, малую, гладышку з кіслым малаком (акуратненька абвязаную хусцінкаю). Знаходзілася і крышынка солі.

Яна памерла ў тое ж маё маленства, няспешна і ўрачыста. Пасля яе смерці людзі пачалі пакідаць сярпы, пераставалі пасціць, а потым кінуліся рабіць усенька машынамі, багацець ды страчваць розум. Я тым часам вырас, паканчаў усякія школы, і шумна паляпшаў свет з Беларуссю, каб, урэшце рэшт, пастарэць і задумацца над тым, што казала яна, мая непісьменная бабуля... Пахаваў я яе, бы тысячагадовы беларускі лёс і, пакруціўшыся па жыцці, сам цяпер не ведаю, як мне быць. Новы час адказвае неяк няшчыра, у яго што ні дзень — то іншая праўда. І бацькі мае гэтак жа разгубіліся.

**Сакрат Яновіч**
(1985-86 г.г.).

---

**Алесь Барскі**

* ✲ *

Любую зорку з неба ўзяць
Магу я толькі ў Айчыне.
Там сняцца сны
Кароткія і вечныя
Нібы каханне.
Царкоўныя званы,
Жываты цяжарныя тапаляў,
Святыня поля —
Усё маё!
О, як звіняць у іх
Струмені калыханак!
Я — пан і я — падданы
Хто вырас там, як я;
Як я, там схоча ён
Памерці.

* ✲ *

Я — селянін,
І для мяне чаканне восені —
Раскоша.
У восені, як гук у скрыпцы
Паганіні,
Жыве мая надзея ўраджаю.
Я ёй малюся,
З кветак летуценных
Вянок удзячнасці сплятаю.
Нясу яго
І на алтар жніўнёвы
Кладу з лірычным словам
Разам.
Ад засухі,
Ад навадНення,
Ад заразы —
Прымі, Айчына, дар мой
Радасна-балючы,
Так мала за так многа.
Хачу з табой з'яднацца:
Сваё ўбоства за тваё
багацце
Даючы.

* * *

Нам сняцца сны
Аб тым,
Чаго нам не хапае.
Бляск зорак зманлівых
Нас вабіць у сусветы,
Ды толькі ў Айчыне
Шчыра нас вітае
Зямля, ветры і кветы.
І усё там толькі тое,
Што любіла маці,
Што пяставала зрокам
Гладзіла рукамі.
Хрыстос святы!
Ды гэта ж я — тваё распяцце,
Твой крыж і камень.
Мы з попелу ўсе,
Таму ідзём у попел,
Ды цешыць нас квітненне,
Радуе нас іней.
Мне Бандары заменяць
Сто еўропаў,
Даючы піць вады
Блакітна-сіняй.

* * *

Усе мае жыцці,
Усе мае каханні —
Руінныя расліны,
Сімвалы надзеі!
Хай свет хістаецца
Заўсёды пад нагамі,
Бо з неспакойнасці —
Паэзіі завея.
Ці маё крэда
Не збудавана з нічога,
Ці не ў пустое
У жыцці я веру?
Шукаю ў пустыры
Ў будучыню дарогі.
Іду ў бель
А пападаю ў шэрасць.
Ды што мой лёс,
Каб толькі лёс Айчыны мілай
Меў сто дарог,
Каб за яго мог быць я рады.
Я прагну, каб яна
Усе зоркі палічыла
І выбрала адну,
Якая вядзе ў радасць.

* * *

Дзякуй табе зямля
За травы і за росы,
Бо я ў іх, нібы ў люстэрку
Бачу
Сваю брыдоту гарадскую
І памылак аграмаду.
І дзякую за рэха,
З якім гуляў у хованкі
Калісьці.
Іду ў сінь і золата
Жніўнёвага заранку
І натыкаюся на радасць
І на шчырасць.
Дык, значыць, гэта ёсць
Другое прыйсце
І паварот парожнята
У поўнасць.
Якое шчасце стаць зноў
З мужыцкасцю
Аднолькавым і поўным.



* * *

У Бандарах найбольшы я
На свеце.
Да ўсходу сонца дастаю
Там левую рукою,
А да заходзячага —
Правай датыкаю.
У Бандарах мой аграмадны
свет:
Амерыкі мае
Мае сібіры
І сахары!
Я волат там,
Паварочваю шар зямлі
Да сонца,
Каб сеяць і каб жаць,
І марыць.
І толькі ў Бандарах
Ніхто не скажа мне,
Што на зямлі я лішні
І што зямля не ёсць
Маёй дачкою.

**Алесь Барскі**

---

**Надзея Артымовіч**

* * *

задуменне
у маёй зямлі
глыбокае
трэба далікатнай рукой
вычасаць з яе ўсе колеры
і кінуць
на зялёную ваду

зямля мая
з шырокімі вачыма
ляжыць на берагах
адлеглага маўчання
жменя жыцця
на маёй зямлі

гэта белы-белы пейзаж

закрываўлены брук
змывае п'яны дождж
на апраўданне тут для ўсіх
маўчанне
маўчанне
гэта белы-белы пейзаж

растуць сцены без вокан
растуць рукі жанчын
сцежкі ўсіх
да роднага неба
белы-белы пейзаж

* * *

Нечакана
Разнясецца рэха
Па даўно абмярцвеўшым лесе
Нечакана
Святло як бліскавіца
Асляпіць цябе
І раптам
Ты ўбачыш
На халодным імху
Сярод звугленага карэння
Кветку
што адважылася
пазелянець
аблісцець
і даспець...
А дождж
А бура
Накорміць толькі яе
Сокам
І кветка выкупаецца
У сонечных праменнях
І кветка
будзе жыць.

* ✲ *

пасля кожнага дня пытальнікаў
чакаем на слова начное
і прыдумаем сто розных слоў
на гэта адно
на памылку пройдзеных дарог

з небяспечнай хуткасцю
шукаем опіум для хворых душ
шукаем там
дзе няма сэрц

злоўленая ілюзія ёсць праўдай нашай
як кожная праўда ілюзіяй

з нясконченым маналогам
з цяжарным маўчаннем
блудзім у сваіх ціхіх калідорах смерцяносных
адыгрываем тэатр аднаго акцёра
перад сабой

вечныя манадрамы з рэквізітам
разбітым збанком

* ✲ *

паэты паміраюць тады
калі першы раз
заблудзіць жывое слова
і разаб'ецца пшанічнае рэха
аб камень

паэты паміраюць тады
калі ўсміхаецца добры час для паперы

паэты паміраюць тады
калі знойдзены дакладныя адрасы

сытыя жэсты

паэты паміраюць тады
калі нараджаюцца чорныя лістапады — — —







* ✲ *

*Прысвячаю Я.Л.*

разгрызаеш слыхам
вокам
словам

сваю зямлю

у матчынай крыніцы
твае сны і жыццё

ёсць дом
дзе смерць і вясна

Іграюць белыя лічбы
над табой
пад табой

сцелецца маўчанне

мчыцца мчыцца конь зялёны
вадапой
з чорным крыжам

як перайсці ўсе сцежкі
да матчынай крыніцы

чужы дзень у віне нерухомы
ноч не плыве

твая думка
завешана на матчынай
яблыні...

**Надзея Артымовіч**

---

**Міхась Шаховіч**

* ✲ *

Калі
Пустэчы
Цень павее
Пярун
Расколе
Бездань неба
І клікне
Дэман адзіноты
Пачую
Кліч майго прызвання
Нічога
Мне з зямлі
Не трэба
Не жыў я хлебам
І для хлеба
Збяруся ціха
У падарожжа
Да цябе
Прадвесне
Ты мой Божа

Каб не вярнуцца
Больш ніколі
Туды
Дзе слова
Словам коле
Спаі мяне
Надзеі верай
Пасялі ў стэпе
Кветак белых
Утапі
У тоні
Васільковай
Чары вачэй
Блакітнай ласкі
І не будзі
Мяне ніколі
І не кажы
Што
Гэта казка.

* ✲ *

Калі засну
Няхай шумяць тапалі,
Бяроза хай,
Хай
Пяе мне аб вясне
І ля мяжы,
На нашым полі,
Апошнюю
Пасцель
Зрыхтуюць мне.
На
Развітанне
Кветак
Не прыносьце.
Навошта ціш
Упакоем прыкрываць.
Пакліча лета
Сінія валошкі
І ў жыце макі
Чырваннню ўзгараць.
Я вечарамі
Выплыву ў туманах
З беласнежных
Коней табуном

І кожны год
У ноч Святога Яна
Сабяру вас
За сваім сталом.
Сядуць вядзьмакі
Побач з лясунамі
І чарадзей
З Ягою на мятле,
А вадзянік
З упалымі грудзямі
Карагод
Русалак павядзе.
Першую чару
Вып'ем
За стрэчу
Другую
Уліце
У гробную зямлю
А толькі першы
Певень скукарэча
Я адплыву,
У нябыт
Зноў адплыву

**Міхась Шаховіч**

---

**Яніна Шостак**

* ✲ *

ранак чысты
расы пацалунак абмыты
высякае сонца вуаль
грэбенем ветру
чэша вільготныя травы
мякка абнімае ваду
і з лёгкасцю птушкі
вібруе між чаротам

сон адплывае
апошняй імглой
а пяро ключа адкрывае
сундук жыцця
на хвалях
ранак адліў след
лебядзіны
мой і твой

* ✲ *

мядовыя маліны
бываюць горкімі
таксама
ўчора
танцавала ў Эдэм-агародзе
не саромелася галізны

вольная ды пеўчая
на жаль
усяляк грэх
ад мяне
я жанчына
ужо не танцую

* ✲ *

у дзень пахмурны
адкрыю акно душы сухой
насыціцца смакам сырасці
каштуючы кроплю надзеі
кожную
і злізваючы расу праўды
з травы

і перадыхне
ажыўленая
і акунецца з асалодай
у крыніцы вады жывой
і абагатворыць цябе
аснову асноў

* ✲ *

музыка шчасця
ўзнімаецца па-над жыццём
маіх вёснаў
на клавіятуры дзён іграе
і піяна і фортэ
абнімае мяне
і часам ласкава гладзіць
уціскаецца з'ездзіва
не раз

у кожны нерв
муціць думкі
ныpнуць тады
ў луг белы
і маляваць нанава свет
свой

маляваць фарбай
непаўторнай

* ✲ *

сонны шэпт ліста
ад старасці жоўтага
ў моры крывавым тоне
мачу ногі змучаныя
ў цэбрыку вады-надзеі

і прамываю ручаём ласкі
выпаленыя вочы
ў гадзіну вясёлкі
сяду ў човен залаты
і ціха на бераг другі
паплыву
па закліку

**Яніна Шостак**

---

**Віктар Швед**

## МАЕ ВЕРШЫ

У маіх вершах — сэрца
насцеж,
Праўдзівасць пройдзенага,
дум,
У маіх вершах — маё шчасце,
І ў перамешку боль і сум.
У маіх вершах — мае слёзы,
Ад шчасця, ад трывог, бяды,
Бо раз на возе, раз пад возам

Імчаліся мае гады.
Бурліць у вершах безупынна
Мая гарачая любоў:
І да народу, да айчыны,
І да бацькоў і да сяброў.
У мае вершы пераліта,
Як кроў у вены, пачуццё,
Усё, што мною пражыта,
Усё маё жыццё-быццё.

## СЭРЦАЎ АПОШНЯЕ БІЦЦЁ

*Памяці Бацькоў прысвячаю*

Пакуль бурлівіць у жылах
кроў,
Як доўга суджана жыццё,
Мне не забыць маіх Бацькоў
Сэрцаў апошняе біццё.

Я берагу да іх любоў
Сваё святое пачуццё.
Мне не забыць маіх Бацькоў
Сэрцаў апошняе біццё.

Хоць не сустрэну іх ізноў —
Пайшлі ад нас у небыццё.
Мне не забыць маіх Бацькоў
Сэрцаў апошняе біццё.

Нават падчас трывожных
сноў
Заплачу горка, як дзіцё,
Пачуўшы зноў маіх Бацькоў
Сэрцаў апошняе біццё.

## ПАГОНЯ

*З Варшавы ў Беласток курсіруе цягнік „Пагоня“.*

Імчаць, імчаць стальныя коні
Мяне з Варшавы ў Беласток.
Я легендарнае Пагоні
Магутны раптам чую крок.

Наша мінуўшчына старая
Далёкіх продкаў-крывічоў
У маім сэрцы ўваскрасае —
Чую стук конскіх капытоў.

Імчаць, імчаць на конях воі
Навале грознай уздагон,
Каб не было тут больш
разбою
За волю, за спакойны сон.

Дружына воінаў у броні
Імчыць наперад і імчыць
Нашай крывіцкае пагоні
Не паўстрымаць і не спыніць.

## СВЯТЫНЯ НАША І БАГАЦЦЕ

З палёгкаю ў лясныя нетры
Едзем мы з душных гарадоў,
Да яшчэ чыстага паветра,
Духмяных ягад і грыбоў.

Ды гэты ж лес сячэм
на дровы,
Паперу, мэблю і дамы.
А потым пра лясоў ахову
Друкуем тоўстыя тамы.

Пішам: лес нашае багацце,
Наша святыня, прыгажосць,
Ды беспардонна лес той
трацім,
Сячэм, нібы сабе на злосць.

Нават і ў апошнюю хвіліну,
На грані вечнага ўжо сну,
Ссякаюць нам на дамавіну
Найпрыгажэйшую сасну.



## Я СНЮ СЯБЕ Ў НАРОДНАЙ ГУШЧЫ

Я сню сябе ў народнай гушчы.
Ля Нарвы нізкіх берагоў.
У нетрах Белавежскай
пушчы,
Сярод палёў, крыніц, лугоў.

Мне сніцца мой народ
вясковы,
Яго хаціны сярод дрэў,
І гукі беларускай мовы,
І песні роднае напеў.

Таму наяве мне заўсёды
Айчыны надта блізкі лёс.
Чую сваёй Айчыны подых,
У грунт якой глыбока ўрос.

Жыць без айчыны
немагчыма,
Няма ў мяне другіх айчын.
Мая цудоўная Радзіма,
Заўсёды я — твой верны сын.

**Віктар Швед**

---

**Васіль Петручук**

## СІЎКА
(з колішняга)

Сёння раней, чым заўсёды, трахнула мачаха „баструка“ кулаком у плечы і выгнала, каб падаваў на поранак, бо трэба ж паехаць у лес па дровы. Дванаццацігадовы „баструк“ сарваўся са сваёй няхітрай пасцелі і, стоячы босымі нагамі на глінянай падлозе, плакаў з жалю, што дарма б'юць, і са страху, што біццё кулаком паміж лапатак можа адбіць лёгкія. Ён па-дзіцячы меркаваў, што безупыннае біццё здаровай жанчыны, якая мела неблагі кулак і давала яму волю, каб „баструк“ ведаў, чаго мае баяцца, можа ўжо сёння адбіла лёгкія ад спіны, бо так баліць. Тымчасам мачаха паправіла яшчэ і па галаве. Хлапец расплакаўся больш жаласна, а бацька рассмяяўся, што такі вялікі байбак і няведай чаго рычыць!

„Баструк“ кулакамі размазаў слёзы па брудных, пасінелых ад холаду шчаках, панаракаў на Бога, што не дае яму смерці, хаця ён кожнага дня яе дамагаецца. Абуў хадакі ды пайшоў даваць на поранак. Ніхто не ведаў, якая была пара, бо гадзінніка не было. На дварэ цёмна. Сірата зайшоў у клуню і вобмацкам наскубаў сена, змяшаў яго з жытняю саломай. Занёс кароўцы, якая таксама дрыжэла ад марозу, бо стаяла ў халодным хляве. Авечкам скінуў пучок лубіну, які над імі ляжаў, і вярнуўся ў сені. Тут адмераў паўкошыка бульбы, усыпаў яе ў цэбар, секачом пасек і, размяшаўшы з сечкаю, занёс Сіўцы. На дварэ ўсё яшчэ цёмна, нават не брэшуць сабакі, што пахаваліся ў будах і спяць. Спіць таксама сям'я, у якой давялося пакутваць хлопчыку. Яго ніхто не хацеў, а мачасе найзручней было называць яго „баструком“, бо гэта ёй здалося найбольш пагардлівым.

Сіўка ела сырую бульбу з сечкай, а „баструк“, хукаючы ў рукі, выцягнуў з-пад паветкі санкі, дачапіў да іх другія, якія завуць „сучкай“, і ўжо не маючы чаго рабіць, прыйшоў у хату і даверліва сказаў: „Я ўжо ўсё нарыхтаваў да выезду ў лес і зараз паеду, толькі дайце хлеба паесці!“

Далі яму ўдвайне: за тое, што „дзяцей“ пабудзіў і што хлеба папрасіў, калі яшчэ на яго не зарабіў.

Запрог „баструк“ Сіўку ў санкі і паехаў у лес. „Нагваздзіў“ роўна з кланіцамі бярэзіны ў казённым лесе і павёз дамоў. Нават яму палегчала на сэрцы, бо працуючы разагрэўся. Сіўка, намагаючыся, цягнула сырыя дровы, а „баструк“ ішоў побач, каб не змерзнуць у ногі, рукі ў рукавы схаваў... Плакаў ён ад холаду, бо ў рукі надта ж пякло, але не было паратунку. Калі ён працаваў, то неяк трываў.

Мінуўшы крыж у Пагарэльцы, кабыла ўвайшла на ўзгорак і затрымалася. Хлапец падумаў, што яна змучылася і даў ёй адпачыць. Але толькі крыху, бо хацелася есці і было холадна. „Но!“ — крыкнуў. Сіўка напнулася, аднак санкі не зварухнуліся. Тады хлопец сцебануў яе бічом. Кабыла ўклала ўсю сваю сілу, але палазы санак гэтак уеліся ў таліну, што і пара коней іх не пацягнула б.

Малы злачынец, замест скінуць дровы з санак і пазволіць Сіўцы перацягнуць пустыя санкі па голай зямлі, ён стаў бедную жывёліну біць бічом, дзе папала і праклінаць таксама, як яго праклiналі. Кабыла скакала: то біла ўперад у хамут, то кідалася ў бакі, каб зварухнуць санкі. А ён біў яе і плакаў.

Урэшце, на ўзмах біча перад вачыма, Сіўка ўдарыла ў аглоблю і зламала яе. „Баструк“апамятаўся. Яму вельмі шкада стала кабылы, якая ніколі яму крыўды не зрабіла. Нават, калі ён з яе падаў, то яна станавілася каля яго і чакала, пакуль зноў, учапіўшыся за грыву, па назе ён узлазіў на яе хрыбет.

Ён распрог яе, выбраў з санак найтанчэйшую бярозку і лейцамі прымацаваў яе да аглоблі, а гэта ўжо было прыгодна для далейшае язды.

Выкінуў ён дровы з санак, Сіўка перацягнула санкі праз таліну. „Баструк“ яшчэ раз пагрузіў дровы і ўжо без клопату, хаця са змёрзлымі рукамі і болем у грудзях, прыехаў дамоў.

У хаце яго вылаялі за зламаную аглоблю і ў пакаранне не далі есці. Але і так ён лічыў іх добрымі бацькамі, бо калі сеў на зэдліку ля цёплага боку хлебнай печы і плакаў з гора і з голаду, то не выгналі яго на двор.

А Сіўкі і па сённяшні дзень шкада. Успомніць — сэрца рэжа.

**Васіль Петручук**







**Дзмітрый Шатыловіч**

## ФЭСТ У ВЁСЦЫ

Сёння дзень Ільі-прарока
Сёння ў нашай вёсцы фэст.
Чуць святочны рытм навокал
І яго вясёлы жэст.

Чысты кожны панадворак,
І прыемна ў сценах хат,
Ва ўсіх клунях і каморах
І парадак ёсць, і лад.

Бо сюды прыедуць госці
З навакольных нашых сёл —
Гасціну ў поўнай прыгажосці
Ім пакажа кожны стол.

У царкву па ўсіх дарогах
Едуць чарады машын.
А стаіць ужо іх многа
Побач храма, пры шашы.

Па сцяжынках вузкім вужам
Пнецца доўгі пешы строй —
Абмінаюць людзі лужы
З дзяцей мілай чарадой.

Як сапфір, сінее неба,
Вогненны на ўсходзе шар
На іржышчах мокрых глебу
Сушыць подыхам, як жар.

На палях няма ўжо жыта,
Нават залаты авёс,
Ноччу дожджыкам абмыты,
Чуе свой апошні лёс.

Толька лубін роем кветак
Вабіць пчолы ў сіняве,
Збоку бульбяны палетак,
Як зялёны плыт, плыве.

Лес сасновы ценем змроку
Сочнай зеленню галін
Студзіць палкія патокі
Залацістых хваль з вяршынь.

Праз букеты з хвойным пахам
Прабіраюся ў глушы
Да царквы з бляшаным
дахам,
Што ў сасонніку блішчыць.

Купал скромны з цёмным
крыжам
Ледзь віднее ў кучы хвой,
Сцены з дошак, пад карнізам
Усміхаюцца разьбой.

Лес крыжоў аброс магілы,
Акружыў пятлёю храм,
А з яго чуць дым кадзілаў:
Пахне ладан, фіміам.

Храм запоўнены народам,
Звонкай песняю гучыць,
Побач ходзяць карагодам
Сотні хлопцаў і дзяўчын.

Два ларкі ў цяньку паблізу
Акружыла дзетвара —
Крык дзіцячага капрызу
Рэхам б'ецца ў гушчарах.

Як на святочных парадах
Урачысты ззяе ўздым.
І нясе навокал радасць
І старым і маладым.

Не відаць на тварах злосці,
Вочы свецяць без агню.
Хто сюды з'явіўся ў госці —
Будзе прыняты ў радню.

Чар вяселля, маладосці
Захапіў усіх жывых —
Пасля будзе баль у вёсцы,
Бо тут празнік храмавы.

**Юрка Баена**

## ДУМКА

Прадуманую думку
у кішэнь хаваю
за пазуху адкладваю

спатрэбіцца

быццам сухар
у час нястачы
быццам абутак
у басаногія гады.

* * *

Гадзіна пераломy ночы
прыходзіць з подыхам ветру
з шумам таполі
і важнай размовай асіны

Ап'янелы пялёстак ружы
зрываецца з прывязі
і блудзіць у цёмных залівах
трывожнага чакання.

Белы птах разбуджаны
выляцеў з ракіты

высока над дутою маста
жураўліны ключ узняўся

У геаметрыі нябёсаў
зеніт твой велічэзны
напоўнены іскрыстым
зззяннем
і моваю адвечнай

А ты, святла абраннік,
можа і не ведаеш
што на чале і павеках
зорны саван аб'явіўся.

## ВЯСНА 1986 ГОДА Ў МОКРЫМ

Вясною ў Мокрым смутак ходзіць вуліцай.
У садах, самотных хатах спіць мяцеліца,
Забытае гняздо буслінае на ветры
Тапырыцца. Мінулае да жыцця не вернецца.

Хтосьці старэнькі перад іконай моліцца,
А шэпт ягоны з белым месяцам вандруе.
Вялікае каханне тут не народзіцца —
Шчэбету дзіцячага ўжо больш не пачуеш.

Вясна ў Мокрым — жалобная элегія:
Памяць аб памёршых па могільніку крочыць
Сярод крыжоў людскія твары пастарэлыя,
Сярод глыбокіх задуменняў плач жаночы....







А колькі было тут сонца, а колькі гульняў,
Сустрэч і расставанняў, і вечароў зорных,
Колькі руплівасці, турбот і неспакою,
Простых гутарак, мудрых слоў і думак гордых....

Бывай цяпло дзяцінства, матчын позірк, радасць,
Бывай таполя, сад і першае каханне —
Час пакрывае вас журбою лістапада.
Вітай, мой смутак, жаль і сэрца стукатанне.......

**Юрка Баена**

**Міра Лукша**

# МЕЛЯШКІ НА ПРАДВЕСНІ

*„На поўнач ад верхняй Нарвы, недалёка ад вытоку Супраслі, у маляўнічай ваколіцы знаходзіцца населены пункт — вёска Мяляшкі. (...) У вёсцы Меляшкі і яе наваколлі пражывае выключна беларускае насельніцтва. (...)*

*Паміж моваў прадстаўнікоў старэйшага і малодшага пакалення не назіраецца істотных розніц“.*

„Беларускі каляндар“
1969 год.

## СТАРЫЯ ЛЮДЗІ ГАВОРАЦЬ ПА-СЭТАЎСКУ

— Дзе вёска цяпер, было ўрочышча. Вёска была Селіско пад лесам. Паявіўся памор-халера, і вымер увесь народ. І ад гэтага — гара „Могілкі“. А на другой гары — дзяцей няпорных хавалі. На нашай палосцы мы яшчэ знаходзілі пліты з крыжамі... Калі народ вымер, то пан пачаў сцягаць людзей, каб засяліць зямлю (у Сэтах пан жыў). Так асігнавалі вёску Меляшкі. І з Коматаўцаў, і з Баброўнікаў людзі прыйшлі. Яшчэ цяпер у Селіску людзі выгорваюць карчы і цэглы. Гэта то ўсё вельмі старыя расказваюць, — кажа 82-гадовы Якуб Карповіч. — Старыя людзі гавораць „па-сэтаўску“. Пан прадаў сваю зямлю банку, гэта быў 1908-1909 год, а банк распрадаў. Рабінаўку мы куплялі (гэта быў 1912-1913 год) у „барыні“ Ліхачовай. Памятаю, у вёсцы быў коварат, вароты ў канцах вёскі, і калі мы ёй яго адчынялі, кідала яна з карэты цукеркі ў пясок, а мы аж душыліся, кідаліся іх збіраць...

Жыд пабудаваў з барыняю фабрыку сукна. Барыня прыязджала на лета — быў сад, сажалка, лес. Двух сыноў. Мы пасвілі кароў, і калі ў іх доме зайграў грамафон, то мы бліжэй падганялі кароў, каб паслухаць.

Фабрыку развалілі ў 1926-1928 гадах. Збанкрутаваў жыд, распрадаў усё. Добра жылося пры ім. Мы торф капалі, сушылі. Сукно вельмі добрае рабілі. Грошы зараблялі. Працавала многа мужчын: Кастусь і Антон Пятэльскія, Юлек, сястра Антона і Кастуся. Жылі ў такой хатцы, што рукою да бэлькі я даставаўся.

Меляшкі раскупілі балота і зямлю на Рабінаўцы. Людзям прыбыло сена, хлеба, малака. Закінеш на плечы канку з малаком — і да жыда ў Гарадок, па 10 грошы за літар. Хлеба пытлёвага купіш, сяледчыка. Кожны ў нядзелю ў царкву ідзе, і святочна з'есць. Хлеба скібачку, селядца кусочак маленькі. Просіш маму: „Мамо, дай мне галоўку". Пасмокчаш больш... Пазбіраюцца на вячоркі, сядзяць да поўначы, галодныя, прадуць. Бульбіну трымаюць пад падушкаю і ядзяць яе памаленьку. Цяжка было. Вось у Лавіцкіх — 8 душ, дзве нявесткі ў двух малых пакойчыках. А стары трымаў дысцыпліну. Нявестка яго дачцэ сваю лепшую вопратку мусіла даваць у царкву адзецца. Крапівы было поўна. Надзярэш. Мама кіне ў саган. Крыху мукі ўсыпле, каб гэта стала сваціюшчае. І з'ясі. Я на Рабінаўцы пас. У гаспадароў хлеб таксама ашчаджалі, але давалі бульбы: „Бяры, Якуб, у прыску спячэш". Вазьму торбу бульбы, закапаю, а за тыдзень мама прыйдзе і тую бульбу слязьмі аблівае. Або ідзеш у Белавеж: цэлае лета камары корміш і зарабляеш. „Вы не ўмелі жыць", — гавораць маладыя. Няпраўда, час быў такі.

Цяжка наш народ жыў за санацыі. У хаце 2-3 сыноў, а на сям'ю чацвёртая часць участка (участак — 24 га ўсяе зямлі, не толькі раллі). А палосачкі-стужачкі, тры крокі шырынёю. Ты, Нінка, памятаеш. За плугам не садзілі бульбы, а толькі дзіркі рабілі, туды і кідалі, а пасля два разы абгортвалі, каб больш нарасло.

— Я сюды прыехала ў 1954 годзе, а яшчэ гэтак было. Як на горцы жыта выгарыць, то бабы пойдуць выжнуць, а пасля каля печы сушаць, у жорнах мелюць.

— А як дзяўчыне на пасаг яму бульбы далі, то добра было. Ёзік напёк хлеба на вяселле, то мы стаялі на вуліцы і дыхалі хлебам... І ад цара Мікалая можна пачаць, і далей. І як я памятаю, і як у бацькоў жылося, як усе гадаваліся.

З апавяданняў Якуба Карповіча можна скласці цікавую кніжку.

— Цяжка жылося. У дзяцінстве і ў маладосці. Многа сям'я выцерпела. Тата рана памерлі. Рассыпаліся ўсе па свеце. Каго дапала вайна. Двое дзяцей у нас. Сын Алёшка ўжо 36 гадоў працуе ў Варшаве шафёрам у міністэрстве. Даводзілася яму і генерала Берлінга вазіць. А дачка выйшла замуж за хлопца з Трывежы. Унукаў і праўнукаў я дачакаўся.

Дзе мама ішла, то і мяне брала, таму я ўсіх, усіх ведаю. Маім хрышчоным бацькам быў Філіп Марцінчык. Я быў у мамы гаспадыняй — і памыю, і хлеб прыходзілася мясіць, торфу, дроў прынясці, бульбы наварыць — бо мама хварэлі. І цяпер да гэтага здольны. Таму і з маёй жонкай столькі гадоў жывём добра. Адно другому памагае, адно другое разумее. І дзяцей я так вучыў.





## УНУКІ

Мой унучак, Янка Пракапюк, вельмі маленькі хварэў. Ніякія лекары не памаглі. Тут у нас быў у Зарэчанах такі царскі фельчар Аўсейчык...

— Многія яго памятаюць! Гэта быў чалавек! — адзываецца Валодзя Пятэльскі, які зайшоў у кухню памыць рукі.

— Прыпісаў гэты доктар лякарства, купіў я яго ў Міхалове. Прайшла нядзеля, прыязджаюць бацькі — а дзіця ўжо не тое. І так гадавалі мы малога тры гады. Думаю: „Трэба малога папольску вучыць. Трэба ж будзе аддаць дзіця ў горад, у Беласток". Паказваю: „Хлеб — хлеб, масла — масло, хамут — хомонт". Паехаў малы да бацькоў. З дзяцьмі гуляе, песню спявае: „І шуміць, і гудзе дробны дождждык ідзе..." — усе смяюцца. У Янкі ўжо свае дзеці. Жонка — полька, добрая баба. І цягне яго сюды, і дзяцей вязе.

Хрысціна Пятэльская-Герасімчук:
(цяпер у Беластоку)

— Цяпер дзеці не вучацца ў нашай меляшкоўскай школе. Будынак ужо два гады, як заняты на магазін зёлак з „Цэфарма". Самі мы яго ставілі, многа зрабілі грамадскім пачынам, а цяпер у былой школе нават пакойчыка не далі нам на святліцу ці на што... Дзеці ездзяць у Гарадок.

За маіх часоў амаль усе дзеці хадзілі на беларускую мову. Быў такі час, што трэба было бацькам падпісвацца, і мала хто не хадзіў вучыцца роднае мовы. Такое было распісанне ўрокаў, што найчасцей беларускі быў першым або апошнім урокам. Калі ўрок быў пасярэдзіне, гэтыя, што не вучыліся, гулялі ў мяч. І дахаты ішлі раней, або зранку даўжэй спалі. Але нам таксама зайздросцілі. Мы хадзілі на экскурсіі на горкі, у лес, апісвалі прыроду, ставілі спектаклі, сарганізавалі лялечны тэатр, дэкламавалі вершы, спявалі. Цяпер летам поўная вёска дзяцей-гасцей. Усе з гарадоў, з цэлае Польшчы. Мама і цёшча гаварылі, што мая Марта не навучыцца гаварыць па-беларуску. А вярнулася і „Ой, ляцелі гусі з броду" спявае, пеўня пеўнем называе, хоча вучыцца больш...

Стаялі мы з Ёляй у Беластоку, чакалі на аўтобус, „Кур'ер" пераглядалі. Пад'ехалі „Меляшкі".

— Толькі сяду ў аўтобус — адразу па-своему гаворыцца, — заўважыла Ёля, у царкве ахрышчаная Юлітай.

## РАБОТНІКІ ЗЯМЛІ

— Тут калісьці быў ПГР. У 54 годзе яго ліквідавалі. А вось ён быў старшынёй, — паказвае на свайго мужа, Івана, Каця Рожкава.

Мы ўвечары зайшлі ў іх хату. Паглядзець каляровы фільм аб цыганах. Заглянулі сюды і Дарашкевічы: Валя, старшыня КГВ, і Валік з дачкой Крысяй.

— Каб так гаспадарылі, як у Зубрах, то цяпер ад Белявіч у Меляшкі па дарозе стаялі б блокі, — кажа Валік Дарашкевіч, здаецца мне, з горыччу.

— Хацелі нават эксперыментальна адзін блок паставіць, але мая Каця не ды не!

— А што, ці я свае хаты не маю? Мне ў гэтай хаце добра.

— Ну і рэакцыя! Чулі, што ПГР будзе. Ад каго гэта залежыць? А хто яго ведае. Гаспадарыць у вёсцы няма каму, бо моладзь павыязджала.

— Ой, ПГР мусіць быць, бо хто цяпер зямлю абробіць. Майму Валодзі 60 год. Колькі тут „нармальных" гаспадароў?

— Аляксей Карповіч.

— Ды ён з 24 года, калі не старэйшы. Міхал Лавіцкі...

— Таксама слабенькі. Лавіцкі Павел, Шусцік, Дарашкевіч, Рожка. Ну, усё старое. Толік Дарашкевіч — ужо пад 60, але добры гаспадар. Кастэнцік — што, гэта ўжо работнік? Трактар — гэта мала.

— Ну, Толік Чамель малады. Валодзя Ярмолік — больш рабочы, чым гаспадар.

— І Шура Чамель малодшы.

— А Валік Дарашкевіч — больш за 60, сыны ёсць, але ніводнага няма...

— Ну, вось табе і па работніках.

## ВАДА

— Цяпер вады хто хоча, той зацягае. А калісьці было ў цэлай вёсцы толькі некалькі студняў.

— У Паўла Казла быў калодзеж пад ліпаю.

— Кандрат Чамель быў сабе выкапаў драўляную. Такая вада смачная была, што калі конь раз нап'ецца, то пасля сам да яе прыходзіць!

— І ў Грыкі, і ў Зайца Тамаша, і ў Шыкуця каля вуліцы...







— Яшчэ калодзеж быў каля Дарашкевіча, на вугле на разыходных дарогах.

— А як у поле ішоў, то піў з крынічкі...

— Ну, возьме баба тры калочкі, калыбельку з хусткі зробіць, дзіця паложыць, і працуе. А калі напіцца захоча, то прыгаршчай з крынічкі.

— Крыніца была на ўрочышчы Пацяроб, а яшчэ „азярына" — каля Калітніка. Добрая вада была.

## ПУСТЫЯ ХАТЫ

Іду ў госці да Карповічаў.

— А ведаеце, нашай хатцы больш 170 гадоў. І мы старэнькія, але стараемся парадак трымаць. А то ў некаторых маладых у хаце так фэка, меншы парадак, чым у маім свіронку. А гэтая хата пустая. І гэтая, і гэтая. А гэтай, ружовай, больш за сто гадоў...

— Добра трымаецца, — заўважаю, гледзячы на вокны з 6 шыбкамі, новымі. Такіх цяпер няма.

— Добра. Паднялі яе, памалявалі.

— А хто тут жыве?

— Ніхто. На дачу яе так абнавілі. Летам будуць прыязджаць. А тая зноў пустуе.

Мы ідзем па бруку, на якім растала снег адкрыў усе нячысгасці. Даўно мінулі тыя часы, калі вуліца ў Меляшках свяцілася, „як шклянка". Кожную суботу дзеці з венікамі і шуфлямі падмяталі і чысцілі брук і тратуар. А цяпер старому цяжка сагнуцца.

Дзед Якуб ідзе асцярожна, мінае лужыны, падпіраецца гуральскай куляй. Калі мы сядзелі ў Пятэльскіх, ён весела жартаваў, быў ажыўлены, а цяпер пахіліў галаву, націснуў чорную вушанку: глядзіць па пустых панадворках.

— Вось тут было седлішча Кастуся і Антона Пятэльскіх. А тут, дзе гэты свіран, мы тут стаялі, пакуль пагарэлі...

Калі мы ўваходзім у хату, бабулька Гандзя замятае каля старажытнай драўлянай канапы. Нясу ёй падарунак ад Ніны Пятэльскай — у гарачым слоічку свежанінку. Бабка Гандзя і дзед Якуб паказваюць мне сваю хатку, чысценькую, прыгожа прыбраную. У другім пакойчыку стаяць два тэлевізары: адзін чорна-белы, другі каляровы.

— Куды цяпер пойдзеш. Цяжка старыя косці насіць. Ён яшчэ цікавейшы, малодшы на 3 гады, а мне самой ужо 85 год. А то ўключыш радзіво ці тэлевізар, і паглядзіш, што ў свеце, — кажа бабка Гандзя.

— Чорна-белы толькі на савецкую праграму, а гэты — на польскую, — заўважае дзед Якуб. — Ну, Гандзя, раскажы што пра сябе. Ёсць што расказваць.

Бабка сядае за стол, здымае хустку і цёпленькія шапачкі, завязвае хустку пад барадою. Белéнькі, паморшчаны твар і светлыя, шчырыя вочы.

— Ой, дзіцятка, як успомніш... Як мы маленькія былі... — голас ёй ломіцца. — Пясочак жоўценькі елі, вадой запівалі, з голаду. I здаволеныя гулялі. Нічога не пашкодзіла. Яблычка ў пані папрасілі, то сабакаю нацкавала. Мая мама з Белявіч, мачаха ў мяне была. Татка рабіў у Белавежы, месяцамі не было і не бачыў, ела я ці не ела. Мая цётка была ў Случанцы. Папрасіла я жыда, які ехаў у Беласток, каб памог мне з хаты ўцячы. Узяла я на памяць маміну хустку і дыван, і да яго на воз. А баюся ехаць, плачу, бо маленькая, а дзяцей жыдамі страшылі. Завёз мяне гэты чалавек у Случанку. У цёткі самой сям'я вялікая. Цётка мяне чэша, а па маіх плячах слёзы яе льюцца. Бацька прыехаў, схавалі мяне пад ложак, толькі ногі яго я бачыла. Сказалі, што аддалі мяне ў служанкі. А пасля аддалі да ляснічага. На голас я плакала: адна хата ў лесе. Ехаў чалавек з Падвясёлак: „Дзецятко, чаго ты плачаш, мамы ў хаце няма?“ А ў мяне мамы, нікога ўвогуле няма!

Царская вайна прышла. А я ўсё з гэтым маміным вузялком па людзях. Шэсць гадоў была ў нейкіх старэчаў. I ў Крынках гора хлябнула. Пасля брат са Случанкі мяне забраў. Тут трохі пачала бяду забываць, пакрэпчала.

Пажаніліся мы з Якубам. А пасля пагарэлі. I зноў хату зляпілі. Дзеці ўжо даўно дарослыя. Сын у Варшаве, дачка ў Беластоку, таксама здароўя не мае. Так, о, дзіця, дажываем. Амаль цэлая вёска такіх старэнькіх.



**Ніна Пятэльская:** — У такой хатцы жылі, што рукой да полапа падаць... А цяпер усё як трэба, ано здароўе не тое.



**Гандзя Карповіч:** Светлыя, шчырыя вочы.



**Якуб Карповіч:** — Калі мы вымрэм, што тут астанецца?



**Уладзімір Пятэльскі:** — Мала нас, гаспадароў...

## ХТО ЯЕ ЗАСПЯВАЕ

— Хоць бедна жылі, але вясёла. I ў дажынкі ўсе спявалі хорам. Перад Янам — лён квяціць, Купалу паліць. Што ндзельку — забава. Яшчэ памятаю, за мяне: босы, але вясёлы, на лаўцы танцуе, на траўцы, — успамінае Пятэльская.

— Ёсці е што, але жыццё смутнейшае. Моладзь павыязджала, — уздыхае яе муж.

— Маладыя... — думае голасна Якуб Карповіч. — Зусім іншы кірунак узяло іх жыццё. А цяпер ходзяць, каб запісаць, найграць песню старую, але хто яе ведае, хто яе заспявае?..

Бабка Вера Лявіцкая загаворвае мне боль зубоў. Сяджу на слончыку, а баба набрала попелу ў шклянку, загарнула ў фартух, водзіць мне па галаве, па плячах, паціхеньку гаворыць „Багародзіце...“ Находзіць на мяне дрымота, боль уцякае.

Баба Лявіцкая трае роль варажэйкі ў тэлевізійным фільме. Усе жанчыны з КГВ прымалі ў ім удзел. Яны спяваюць заўсёды на аглядах беларускай песні.

— Выступаем мы часта. А да гэтага фільма нас знімалі, вазілі на дажынкі ў Буды, знімалі ў Крутлым Ляску, і над рэчкаю за Слабодкаю, і як бульбу капалі. Усё трэба запісаць, каб не загінула. Самой цікава, як нас пакажуць у гэтым фільме. Калі

будзе гатовы, гэты „Трыпціх“ ці як яму там, пазвоніць Тамара з Гарадка. Самім цікава паглядзець! — разважае Ніна Пятэльская.

ВЕЛЬМІ

Так трэба напісаць: задаволены мы. Добра, што лепш і не трэба. Аўтобуса дабіліся, і цяпер калі яго няма, так неяк сумна... А ў вольную суботу і нядзельку яго няма. Трэ тэпаць у Белявічы, а там падазеранскі аўтобус не заўсёды возьме, калі ўжо ёсць. А ў нядзелю госці назад едуць, ну і як з торбамі цягнуцца, гэта не жарты!..

**Міра Лукша**

**НА НАШУ СЦЭНУ**

**Ян Мордань**

## НЕЧАКАНА

**(п'еса ў трох дзеях)**

**Асобы:**
**Вася** — прыстойны, вясёлы хлопец (год 19) з вёскі.
**Зося** — прыгожая дзяўчына з горада (год 18).
**Антоні** — студэнт (франціk) элегантны хлопец (год 20) з горада (нарачоны Зосі).
**Маці** (Зосі) — элегантная жанчына.
**Бацька** (Зосі) — пачціўы, таварыскі чалавек.
**Афіцыянт** (можа быць афіцыянтка) у кавярні.
**Дзяўчына** — сімпатычная (год 19).
Некалькі маладых людзей (якія сядзяць у кавярні).

**Дзея 1**

*Гарадская кватэра. У ёй **Маці** Зосі ля хатняга занятку. Чуваць званок (або стукат) у дзверы. Маці падыходзіць і адкрывае дзверы. У іх стаіць Вася. На ім плашч і шапка. Каля яго ног вялікія сумкі.*

Вася: Добры дзень! Не чакалі пэўна?
Маці: Добры дзень! Вам да каго?
Вася: *(вясёла)* Пэўна трапіў: горад Беласток, вуліца Вясёлая 13, кватэра 21 *(заглядае на дзверы)* Зграджаецца!
Маці: *(з цікавасцю)* Вы да нас прыехалі?
Вася: Значыць да вас, калі можна?
Маці: Можна... праходзьце.
*(Вася ўваходзіць з сумкамі. Распранаецца. Гаспадыня закрыла дзверы і здзіўлена глядзіць на яго. Ён распакоўвае сумкі: выймае з іх вясковыя прадукты (хлеб, каўбасу, слоікі з марынаванымі грыбамі і агуркамі).*
Маці: *(здзіўлена пытае)* Вы...бачайце, але... хто вы будзеце і чаго прые....
Вася: А што Зосі дома няма? Не гаварыла пра зяця з вёскі? Прашу прабачэння *(дастае з паперы кветкі і працягвае гаспадыні)*. Мяне — Вася завуць. З Зосяй летам у нас на вёсцы пазнаёміліся.
Маці: Дзякую *(бярэ кветкі, пачынае разумець)*. А так, гаварыла вярнуўшыся з канікул. Вельмі прыемна, што прыехаў. Адпачывай з дарогі. Зося незадоўга прыйдзе.
Вася: *(жартоўна)* Усё-такі пачуцці, добра прывялі *(надалей распакоўвае сумкі)*.
Маці: *(зноў здзіўленая)* Пачуцці? Якія?
Вася: *(шчыра і сур'ёзна)* Самыя найлепшыя! Ну... я кахаю Зосю. Яна мне таксама гаварыла. Маю доказ *(вымае здымак Зосі і паказвае)*.
Маці: *(неяк засаромеўшыся)*. Так... маладыя... Яна хутка будзе. *(гаспадыня бярэцца за свой занятак. За дзвярыма чуваць спеў Зосі)*.
Зося:*(за сцэнай спявае)* „Дай мі тэ ноц...“
Маці: Гэта яна ідзе.
*(Вася стараецца дзесьці схавацца, але не паспявае. Адчыняюцца дзверы. Зося ўваходзіць і здзіўлена глядзіць)*.
Зося: Гэта... ты? А што здарылася?
Вася: *(жартоўна)* Не пазнаеш Ягадка? Няўжо змяніўся, *(падспеўваючы)*. „Я так хочу, чтобы лето не кончалось, что б оно за мною мчалось, я так хочу...“
Зося: Лета даўно мінула. Без запрашэння культурныя людзі не прыязджаюць...
Маці: *(спыняе Зосю)* Зося! *(спакойна да Васі)* Добра, што прыехаў. Не буду вам перашкаджаць. Пагаварыце сабе. *(Выходзіць у другі пакой)*.
Вася: Нізка кланяюся. Ягадка, да цябе прыехаў, пабачыцца хоць *(падходзіць да Зосі і хоча яе прытуліць)*.
Зося: *(адсоўваецца)* Не трэба, Вася. Мы толькі сябравалі.
Вася: *(здзіўлены, але надалей міла да яе)*. Ягадка!? Што з табою? Проста не дачакаўся твайго пісьма. Давай, думаю, падарунак з вёскі завязу.
Зося: Непатрэбны ніякія падарункі. Не пісала, бо... адрас згубіла.
Вася: Ах, так! Забыла, што гаварылі?
Зося: Гэта было толькі сяброўства!
Вася: З пацалункамі?
Зося: Ну і што, нельга з пацалункамі?
Вася: Не толькі пацалункі былі...

Зося: Гэта была... прыгода, больш нічога.

Вася: Так... і без кахання? А я цябе кахаю! Разумееш: ка-ха-ю цябе!

Зося: Дзівак ты, Вася. Навошта прыехаў? У мяне змянілася.

Вася: З другім? На ўсё жыццё?

Зося: Можа і на ўсё?!

Вася: Цікава з кім?

Зося: Студэнт. Разам вучымся. Хочаш пазнаёміцца?

Вася: Хачу. *(крычыць)* Так, хачу!

Зося: Спакойна. Сёння я дамоўлена з ім. Калі хочаш, дык пойдзем і пабачыш. *(у тым часе ўваходзіць маці і звяртаецца да Зосі).*

Маці: Зося, можаш прыйсці да мяне *(выходзіць).*

Зося: Іду! *(таксама выходзіць).*

Вася: Пэўна, што пайду. Пагляджу, што за сапернік. Памераемся, хто ведае... пайду *(ходзіць па пакоі).*

Заслона

**Дзея 2**

*(Пакой гарадской кватэры. За застаўленым гасцінна сталом сядзяць: бацька Зосі, маці Зосі, Зося і Вася. На стале, між іншым, прадукты, якія прывёз Вася. Усе ядуць. Зося паказвае, што чакае сустрэчы).*

Бацька: *(ядучы)* Скажы, малады чалавек, чаму вы, маладыя, уцякаеце ў горад? Чаго прэцеся ў гэтае пекла? Тут нават дыхаць няма чым.

Вася: Не ўсе ўцякаюць. Толькі тыя, што месца не могуць знайсці.

Маці: *(заступаючыся за Васю).* Чаго чапляешся, стары. Такім, як Вася, усюды будзе добра.

Зося: *(іранічна)* Вася павінен як найхутчэй у вёску вярнуцца.

Маці: Зося, як ты паводзіш сябе?!

Вася: У нас вельмі добра. Рэчка, лес, праца цікавая, толькі жыць.

Бацька: А ты, Вася, трактарыстам у СКРы *(налівае з бутэлькі самаробнае віно ў шклянкі).*

Вася: У нас няма СКРу. Я тэхнікум у Белавежы закончыў.

Бацька: Значыць, ляснік! Дасканала. Прашу *(бярэ шклянку з віном).* Добрая прафесія; прырода, рамантыка. *(выпіваюць).*

Маці: Частуйся, Вася.

Бацька: *(прабуючы грыбы).* Смакавітыя, добра нарыхтаваныя.

Вася: Я збіраў, а матуля марынавала.

Бацька: Добрая гаспадыня, значыць...

Маці: *(перабіваючы мужу)* Збіраць грыбы не кожны ўмее. Вася пэўна спецыяліст.

Зося: *(іранічна)* Па лесе хадзіць.

Маці: Зося! *(востра на яе глянула).*

Бацька: *(не зважаючы на іншых).* Бацька задаволены ваш, што такая гаспадыня добрая, а хлеб які смачны.

Вася: Бацька не жыве з намі. Выехаў, калі яшчэ малым я быў.

Бацька: Значыць, матка сама. Цікава было б пазнаёміцца. Колькі ёй гадоў....

Маці: *(перабівае мужу)* Як табе не сорамна, стары.

Вася: Матуля ў мяне маладзец, вельмі добрая. *(звяртаецца да Маці).* А грыбоў у нас многа, якіх хочаце: баравікі, маслючкі, зялёнкі, а апенек хоць касой касі *(звяртаецца да Зосі).* Памятаеш, якія смакавітыя былі рыжыкі? *(Зося маўчыць, пазірае на гадзіннік).*

Бацька: *(налівае віно і прапануе)* Тады пад гэтыя грыбочкі. Здароўе тваёй маткі, Вася.

Маці: Чаго ты прычапіўся да хлопца. Вася, частуйся, частуйся *(падае яму свае прадукты).* Выпі, Вася, і закусвай. Можа пасмакуе.

Зося: Вася не павінен піць, ён і так не ведае, што робіць *(устае з-за стала і ў бок Васі):* Пойдзеш?

Маці: *(злосна)* Зося!

Бацька: Не пераймайся, Вася. Бабы заўсёды нервовыя. Вып'ем за здароўе *(выпівае).*

Вася: *(пазіраючы на Зосю хутка выпівае і ўстае).* Дзякую за гасціну. Мне таксама пара. *(Зося з Васем хутка сабіраюцца і выходзяць. Бацькі глядзяць на іх, а затым на сябе).*

Заслона

**Дзея 3**

*(Сцэна мае выгляд кавярні. За столікам на сярэдзіне сядзіць Антоній, які пазірае то на гадзіннік, то на ўваход. Каля іншага століка кампанія моладзі. Сярод іх сімпатычная дзяўчына. Яны вядуць сябе вясёла, не зважаючы на іншых. Уваходзяць Зося з Васем. Заўважае гэта Антоній. Зося махае яму рукой. Ён устае і, хоць здзіўлены, таксама махае ёй рукой).*

Зося: *(набліжаючыся да Антонія)* Сэрвус! Прабач за спазненне. Знаёмцеся.

Антоній: *(з пэўнай манерай элегантнасці працягвае руку да Васі):* Антоній.

Вася: *(падаючы руку, задзірыста)* Сапернік Вася. *(іранічна аглядае Антонія)* Да д'ябла: кожны, які мне не падабаецца, гэта Антоній?

Зося: *(нервова да Васі)* Спыні свае глупствы *(да Антонія ласкава):* Знаёмы мой, на канікулах была ў яго вёсцы.

Антоній: *(стараецца быць спакойным)* Відаць, што з вёскі. Нічога *(падстаўляе для Зосі крэсла).* Калі ласка, мілая.

Вася: *(энергічна садзіцца на крэсла, шапку кідае на столік)* Ненавіджу элегантных францікаў. *(Падыходзіць афіцыянт. Вася, заўважыў яго):* Просім бутэльку чыстай і моцнай!

Афіцыянт: У нас не падаецца спіртнога.

Вася: А што ёсць, каб весялей было...

Антоній *(да афіцыянта):* Падайце, калі ласка, тры кавы *(лісліва да Зосі:)* Вып'еш, Зосю? *(янаківае галавой, Антоній, глянуўшы на Васю:)* і тры кілішкі сухога віна. *(Афіцыянт намерваецца адысці).*

Вася: Я кавы не п'ю. *(да афіцыянта):* Прынясіце цэлую бутэльку.

Афіцыянт: Так: дзве кавы і тры кілішкі сухога віна і бутэльку *(адыходзіць, усе за столікам моўчкі згаджаюцца з ім).*

Зося: *(да Васі)* Забяры яе *(паказвае шапку).* Паводзь сябе культурна...

Антоній: Ён думае, што зайшоў у вясковы клуб.

Вася: *(прыглядаецца да Антонія)* Чым больш гляджу на гэтую далікатную морду, тым больш хочацца яе...

Зося: *(злосна да Васі)* Спыні сваю дурную філасофію. *(Вася сціскае шапку і шпурляе яе ў бок. Яна трапляе на столік, дзе сядзіць кампанія моладзі. Маладыя людзі ловяць шапку, надзяваюць сабе па чарзе на галовы, смяюцца. Сімпатычная дзяўчына бярэ шапку, папраўляе яе і нясе Васю).*

Дзяўчына: *(падышоўшы да Васі ласкава)* Твая? *(падае шапку).*

Вася: Здаецца, мая *(з зацікаўленнем глядзіць на дзяўчыну).*

Антоній: *(да Зосі)* Затанцуеш, Зося? *(ідуць танцаваць, дзяўчына вяртаецца да свае кампаніі).*

Вася: *(калі падышоў афіцыянт)* Хочаце шапку? Глядзіце, якая элегантная *(уздзявае яе сабе на галаву).*

Афіцыянт *(ставячы бутэльку, кілішкі і кавы):* Непатрэбная мне.

Вася: А можа спатрэбіцца? Дзякую! *(афіцыянт адыходзіць. Вася выпівае крыху віна. Кладзе шапку на крэсла, ззувае з ног туфлі. Канчаецца музыка. Падходзяць да століка Зося і Антоній).*

Вася: Вып'еце *(падымае кілішак)?*

Антоній: *(сеўшы)* Вып'ем за неспадзявана незвычайную сустрэчу.

Зося: Хопіць дурэць. *(Падымае кілішак)* Можна паводзіць сябе культурна.







Вася: Так, я п'ю за цябе. Зося, за тваё шчасце, ягадкі *(да Антонія)* А ты што? Кахаеш Зосю? Выпі за яе шчасце! Ну, чаго крывішся? *(Вася выпівае і глядзіць на іх).*

Зося: *(да Васі)* Спыні свае дурасці *(да Антонія:)* За нашае сяброўства *(выпіваюць Зося і Антоній).*

Вася: *(да Антонія)* Разумееш, бедалага, што я кахаю Зосю і не саромеюся гэтага. А ты? Скажы, што кахаеш яе, няхай ведае, няхай усе ведаюць *(звяртаецца да іншых)!* Саромеешся, францік. *(Зайграла музыка).* А я кахаю! *(устае і да Зосі)* Прашу Ягадка, затанцуем.

Зося: *(адхіляецца да Антонія)* Не, не хачу.

Антоній *(відаць, што баіцца): (да Зосі)* Ідзі затанцуй з ім, а то зусім яшчэ...

Зося: Добра *(устае і заўважае, што Вася без туфляў)* Туфлі хоць абуй.

Вася: *(хутка абуўся)* Цяпер упарадку? *(Ідуць танцаваць. Галасна танцуюць.)* Ягадка! Не аддам цябе гэтаму францiку. Ён цябе не варты. Ты — мая! Разумееш: мая, так як летам мне гаварыла. Я развітацца да цябе прыехаў. У войска прызвалі *(Зося не слухае)* Прыпомні, што летам мне гаварыла. Пацалуй, як тады! *(Хоча пацалаваць яе. Зося вырываецца, б'е яго па твары, музыка перастае іграць. Зося ўцякае да Антонія. Вася стаіць разгублены. Ідзе да століка, вымае здымак Зосі і чытае)* „У доказ праўдзівага кахання дарагому Васю" *(вымае грошы і разам са здымкам кладзе на столік. Налівае сабе віна)* Бывай, Ягадка! Дзякую за цудоўную сустрэчу. *(Паволі адвяртаецца і ідзе да выхаду. У тым часе зноў пачынаецца музыка. Хтосьці заказвае „белы вальс". Да Васі падбягае тая сімпатычная дзяўчына, што падавала шапку).*

Дзяўчына: Прашу цябе: затанцуем? *(Глядзіць даверліва на Васю).*

Вася *(весялее):* Затанцуем, Маліначка! Затанцуем, каб весялей на душы было. *(Пачынае танцаваць, звяртаецца да іншых):* Танцуйце — няма чаго сумаваць! Танцуйце! *(усе пачынаюць танцаваць).*

*(На сцэне застаюцца Зося, якая плача, утуліўшы твар у рукі, і Антоній, які апусціў галаву).*

Заслова.

**Апрацаваў Ян Мордань**

# КАРЫСНА, ПРАКТЫЧНА, ХОРАША

**д-р Б. Паскробка**

## ТАЯМНІЦЫ ПРЫРОДЫ

Захапленне тэхнікай, вымушаная паспешлівасць, высотна-мурашнікавая урбанізацыя, прывязанасць да тэлевізара і мноства іншых заганаў сучаснай цывілізацыі прычынай таго, што мы аддаляемся ад нашай „маці-зямлі“, усё меней звязаны з прыродай і цяжэй нам прыкмеціць яе хараство, гармонію, вельмі далікатныя і адначасова надзвычай складаныя ўзаемазалежнасці. У выніку мы ўсё часцей хварэем і „целам і душою“. Становімся нервовымі, агрэсіўнымі, недаверлівымі, незычлівымі. Гэта хвароба нашай псіхікі, хвароба адчужанасці ад прыроды. Змяніць ход гісторыі чалавецтва, гуманізаваць і з’яднаць з прыродай нашу цывілізацыю немагчыма хутка, але трэба шукаць на тое сродкі. Нястомны ў барацьбе за чысціню і прыгажосць натуральнага асяроддзя праф. Юльян Александровіч кажа, што асноўнае лякарства на хваробы псіхікі — гэта кантакт з прыродай: з зелянінаю лясоў і сенажацяў, мазаікай „...палёў, памаляваных збожжам усялякім“, як пісаў Міцкевіч, прыгажосцю раўнін і гор, блакітам азёр. І ў гэтым самая вялікая, сказаў бы я — глабальная таямніца прыроды. Яе заўважылі ўжо старажытныя вучоныя. З таго часу мінула некалькі тысяч гадоў, чалавек пастаянна вучыцца ад прыроды, спазнае ўсё новыя яе таямніцы і чым больш ведае, тым лепш усведамляе сабе, як мала ведае. Вось два прыклады.

Напэўна кожны з нас прыкмеціў, што ўлетку некаторыя дрэвы плачуць. Бывае, стаіць працяглая засуха, гарачыня, а маладзенькія покаўкі, што схаваны пад пахаю лісця, усе ў слёзах. Найбольш шчодра плача тапаля, намнога менш яе дваюрадная сястра асіна. Плаксы таксама альха, вяз, іва, каштан і бяроза.

Давайце падыдзем да бярозы. На яе покаўках смаліста-бурштынавыя кропелькі. Паспрабуйце дакрануцца пальцам да такой слязінкі. Якая клейкая! Адымаем палец, і за ім цягнецца доўгая нітка. І тады адчуваем быццам бы некалькі разоў узмоцнены бярозавы пах. Так, гэта пахнуць слёзкі. Цяпер ужо ведаем, што яны араматызуюць бярозавыя зараснікі.

Не паспелі мы яшчэ глыбей паразважаць над гэтай з’явай, як навокал нас закружыліся пчолы. Прылятаюць яны ўпасобку якіясьці няўважлівыя, пакруцяцца каля нашага пальца і адлятаюць. Няма сумнення, што яны чуюць пах закранутай намі слязінкі.

Што выклікае плач дрэваў і чаму бурштынавыя кропелькі зацікавілі пчолаў? Разгадка гэтай таямніцы патрабавала ад вучоных шмат намаганняў. Аказалася, што слёзкі складаюцца са звыш 50 разнастайных, надзвычай складаных хімічных злучэнняў. Некаторыя з іх біялагічна актыўныя. Што гэта абазначае? У прысутнасці аднаго з такіх злучэнняў, напрыклад, не будзе расці іншая расліна. Гляньце на бярозу, на яе не ўзбіраюцца павойнікі. Іншыя расліны забіваюць вірусы, бактэрыі і другія мікраарганізмы. Ёсць і такія, што „адганяюць“ тлю, гусеніц і насякомых.

Прастора, на якую ўздзейнічае бярозавы плач, — гэта смяротная пагроза раслінам-канкурэнтам, мікраарганізмам і насякомым. Такім чынам бяроза ахоўвае тое, што найважнейшае для яе жыцця — покаўкі. Значыць, дрэвы плачуць у самыя цёплыя дні года, калі найлягчэй могуць заразіцца, калі пануе найбольшая для іх небяспека.

А што з пчоламі? Ну, што ж, трэба ім прызнаць, што гэта яны першыя адкрылі тую таямніцу, яшчэ мільёны год да з’яўлення чалавека, а цяпер дапамаглі чалавеку яе раскрыць. Кропелькі-слёзкі таполі, бярозы і іншых плакучых дрэваў пчолы заносяць у вулей і вырабляюць з іх прапаліс. Як яны гэта робяць, паводле якога рэцэпту — таго яшчэ мы не ведаем. Пчолы ахоўваюць сваю таямніцу вырабу прапалісу таксама, як таямніцу замены пыльцы і нектару кветак у мёд. Людзі здаўна падглядваюць пчолаў, збіраюць пыльцу і нектар з кветак, мераюць, мяшаюць, спрабуюць пераймаць пчаліны занятак, але, на жаль, нектар у мёд не пераўтвараецца. У вулеі пчолы адпаведна складваюць прапаліс і такім чынам кансервуюць мёд (прапаліс засцерагае ад ферментацыі) і забяспечваюць усю сваю „фабрыку“ і сваё патомства ад інфекцыі вірусаў, бактэрый, грыбоў і г.д. Розныя мікраарганізмы аж рвуцца ў вулей, бо там цёпла, поўна ежы, але не маюць туды доступу — прапаліс стаіць на старожы.

Ці гэта не таямніца прыроды?

Возьмем другі прыклад, пра які я таксама калісьці пісаў у „Ніве“. Пасля вайны, у канцы саракавых гадоў на Крыме праводзілі даследаванні арганічных злучэнняў, якія знаходзяцца ў зямлі. Адну з

мноства пробаў узялі каля доміка, у якім у першых гадах нашага стагоддзя жыў смяротна хворы Антон Чэхаў. Мабыць цалкам выпадкова якраз у гэтай пробе знайшлі грыбок, які з'яўляецца актыўным вытворцам стрэптамыцыну. І так, вялікі рускі пісьменнік хадзіў па зямлі, у якой знаходзілася лякарства на яго хваробу. На жаль, тады яшчэ не ведалі нічога пра антыбіётыкі, а сухоты збіралі сваё смяртэльнае жніво.

Сёння сухоты замяніў рак. Вучоныя ўвесь час шукаюць адпаведнага лякарства на гэтую страшлівую хваробу і ўсё безвынікова. Аднак яны вераць, што калісьці прырода адкрые ім сваю таямніцу.

У адкрыванні многіх лякарстваў вучоным дапамагла народная медыцына. Таму, шукаючы супрацьракавага лякарства, правяраюць таксама розныя народныя рэцэпты. І так, у Цэнтральнай Расіі ўжо здаўна ў насельніцтва пануе перакананне, што лякарствам на болі страўніка, якія выкліканы „ўнутраным гузам", з'яўляецца „рак" бярозы. Рускі лекар Драдэдорф рашыў гэта праверыць. Яшчэ ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя правеў над „ракам" бярозы разнастайныя лабараторныя даследаванні і, на жаль, не знайшоў у ім нічога, што магло б лячыць, не адкрыў ніводнага фармакалагічна важнага злучэння. Вучоныя даверыліся гэтаму лекару і народнае лячэнне палічылі адной са знахарскіх чмутаў. Аднак людзі надалей лячыліся „ракам" бярозы. Сто гадоў потым вярнуліся да гэтай справы, нанава даследавалі „рак" бярозы і зноў нічога не знайшлі. Але праверанае ў клініках уздзеянне народнага лякарства дало карысныя вынікі. Таму ў 1955 годзе „рак" бярозы прызналі лякарствам і афіцыяльна дазволілі прымяняць у ахове здароўя Савецкага Саюза.

„Рак" бярозы фактычна — гэта зусім не рак. Гэта нарасць, якую выклікае развіццё паразітычнага грыба, званага вучонымі-батанікамі — губавым грыбом (лацінская назва — Inonnotus obliquus; włóknouszek ukośny — польская, трутовик косотрубчатый — руская, беларуская народная назва — чага). Гэты грыб развіваецца на камлях бярозы, радзей — альхі і рабіны. Лекавыя ўласцівасці мае толькі грыб, які развіваецца на камлі бярозы.

Калі споры гэтага грыба, якія асядуць на кары жывой бярозы і знойдуць спрыяльныя варункі, яны пачынаюць развівацца і даюць пачатак грыбніцы. Грыбніца з кары пранікае ў драўнінную ткань і выклікае белую гніль драўніны. Ад атакі грыба дрэва абараняецца. На камлі, у месцы развіцця грыбніцы паўстаюць бясформенныя нарасці. Гэтыя нарасці людзі называюць „ракам" бярозы або чагай. Шукаць іх трэба на старых бярозах. Грыб не развіваецца на маладых дрэўцах, а са старых, ужо спарахнелых, не лечыць. Нарасці на бярозах — яны моцна розняцца ад грыба, які завуць губавым, ці губай — можна збіраць круглы год. Найлягчэй, аднак, гэта рабіць восенню і зімой, калі лес без лісця і цёмныя нарасці на бярозах добра відаць.



**Нелячэбная губа.**

Што лечыць — грыбніца ці тыя злучэнні, пры дапамозе якіх бяроза бароніцца ад свае хваробы — вучоныя яшчэ не ведаюць. Аднак з шырокіх даследаванняў савецкіх вучоных (П. Якімаў, П. Булатаў) і са шматлікіх назіранняў польскіх вучоных, вынікае, што экстракт „рака" бярозы ўзмацняе абаронныя механізмы чалавечага арганізма, паслабляе наступаючую ракавую хваробу, а на пачатку захворвання на рака рашуча паўстрымоўвае развіццё хваробы. Водны экстракт (настойка, „выцёнг") з „рака" бярозы таксама дапамагае ў лячэнні язвы страўніка і дванаццаціперснай кішкі ды гастрыту („нежыта" страўніка).

Лякарства з „рака" бярозы можна нарыхтаваць самому ў хатніх варунках. Кавалак свежазнятай з дрэва нарасці мыем і трэм на тарцы. Калі нарасць высушана, то трэба яе перш пакласці ў пераварану, астуджаную ваду і толькі потым сцерці на тарцы або змалоць у машынцы да мяса. Такім чынам пакрышаны



**„Рак" бярозы, чага.**

грыб заліваем цёплай вадой, якая мае тэмпературу каля 50°С, але не вышэй як 50°С, у прапорцыі на адну частку грыба — пяць частак вады. Гэтую сумесь ставім на 48 гадзін. Пасля гэтага часу грыбніцу выціскаем і выкідаем, а наліўку ўжываем як лякарства. Нарыхтаваная наліўка надаецца да ўжытку толькі на працягу чатырох дзён. У лячэбных кнігах рэкамендуюць піць наліўку перад ядой дозамі не большымі як тры чвэрці шклянкі на адзін раз. Усяго разам удзень доза прынятай наліўкі не можа быць большай за тры шклянкі.

Абавязкам аўтара перасцерагчы шаноўных чытачоў ад самалячэння. Кожнае лякарства мае тую ўласцівасць, што ў адным выпадку лечыць, а ў іншым шкодзіць. Па-праўднаму распазнаць хваробу і вызначыць патрэбнае лякарства можа толькі лекар. Ці можна рашаць складаныя матэматычныя заданні не ведаючы матэматыкі? А мы ж гэтак робім лечачыся самі! Напісаў я пра „рак“ бярозы не дзеля распаўсюджання самалячэння, а толькі як пра адзін з прыкладаў вялікіх таямніц прыроды. На кожную хваробу прырода мае сваё лякарства, справа толькі ў тым, каб чалавек патрапіў расшыфраваць, якое гэта лякарства.

**Б. Паскробка**

## НЕ ТОЛЬКІ ПЯЧЭ, АЛЕ І ЛЕЧЫЦЬ

Хто не ведае крапівы? Каго яна не апякла, калі надта ж напорыста лез у маліннік, каб паласавацца смакавітымі ды духмянымі малінамі! Крапіва (яе называюць яшчэ вялікай або лясной у адрозненне ад меншай ад яе крапівы, якая расце па садах ды агародах) — гэта шматгадовая травяністая расліна з доўгім тонкім паўзучым карэнішчам і тонкімі карэннямі ў вузлах. Уся расліна пакрыта доўгімі шорсткімі пякучымі і кароткімі звычайнымі валаскамі. Сцябло 70-150 см вышыні прамастаячае, чатырохграннае, простае. Расце па ўсёй Беласточчыне на ўраджайных свежых, вільготных і сырых глебах, у альшыне, па ўзбярэжжах нізкіх багнаў, па кустах, каля будынкаў, на пашы.

Як лячэбны сродак выкарыстоўваюць лісце і цэлую расліну крапівы. Найболей каштоўны матэрыял атрымоўваецца падчас квітнення расліны. Каб не апячыся, неабходна папярэдне скасіць або зжаць сярпом крапіву і калі яна прывяне, брацца за абрыванне лісця, тады яна ўжо траціць сваю пякучасць. Лячэбныя ўласцівасці мае ўся расліна — яе лісце, сцябло, карэнне.



За што цэняць крапіву? За тое, што ў ёй знаходзяцца вітаміны А, $B_2$, С (найбольш), мікраэлементы (кальцый, фосфар, магнезій, жалеза).

Як крапіва дзейнічае на арганізм? Яна ачышчае арганізм ад розных ядаў і іншых шкодных рэчываў, дапамагае выдаляць адклады мачавой кіслаты. Крапіва — дапаможны сродак у лячэнні цукровай хваробы і рэўматызму, паляпшае агульны абмен рэчываў і ліквідуе яго расстройства, выкліканае недахопам мікраэлементаў, павялічвае колькасць гемаглабіну (чырвоных цельцаў крыві), значыць, яна вельмі каштоўная ў лячэнні малакроўя, аблягчае болі перыяду перацвітання, узмацняе аслаблены хваробай арганізм. Народная медыцына рэкамендуе крапіву як сродак супраць кровацячэнняў.

Крапіва — гэта таксама касметык. У чым яна прыгодная? Узмацняе цыбуліны валасоў, паўстрымоўвае выпаданне валасоў, ліквідуе перхаць (лупеж) і празмернае атлушчэнне скуры галавы. Папярэджвае празмернае выдзяленне поту.

Як яе нарыхтаваць? Вясною, калі крапіва мае маладое лісце, яго можна проста зрываць і, спаласкаўшы, пакрышыць ды дадаваць да салату. Для аднаўлення і ўзмацнення арганізму — піць сок з крапівы; яго нарыхтоўваем са свежа сабранай, прамытай і пакрышанай або прапушчанай праз машынку для малацця мяса крапівы. Порцыя: тры разы ўдзень па сталовай лыжцы. Гэты сок добра захоўваецца ў лядоўцы; калі яго моцна пасаладзіць, можна трымаць некалькі тыдняў. Каб зменшыць празмернае выдзяленне поту, найпрасцей — крапіву высушыць, прапусціць праз млынок да малацця кавы, усыпаць у слоік, шчыльна закруціць і есці два разы ўдзень па гарбатняй лыжачцы. Запас сушанага зелля крапівы можна сабе нарыхтаваць на ўсю восень і зіму. З лісця крапівы і невялікай колькасці пакрышанага карэння (разам 25 грам) нарыхтоўваюць напаранне, заліваючы зёлкі паўлітрам вады і кіпяцяць 3 мінуты. Астуджанае пітво прымаюць па 2-3 сталовыя лыжкі ўдзень. Напаранне можна нарыхтаваць з высушанага лісця крапівы (2 сталовыя лыжкі), заліўшы яго шклянкай кіпетню. Калі нацягне, піць, як гарбату (як лякарства — удзень 2-3 разы).

Для паласкання валасоў нарыхтоўваюць вывар з усяе — свежай або высушанай — пакрышанай расліны. Яе трэба мнагавата. Заліць літрам вады і варыць паўгадзіны. Астудзіўшы да адпаведнай тэмпературы, паласкаць старанна валасы так, каб яны сутыкаліся з выварам сама меней на працягу некалькіх мінут. Найлепш лечыць перхаць (лупеж) і выпаданне валасоў крапіўная наліўка (свежая крапіва і спірт або 45-працэнтная гарэлка ў прапорцыі: палавіна на палавіну), на жаль, даволі дарагая.

Пакрышаную маладую крапіву запіхваюць у цёмную бутэльку, заліваюць алкаголем (колькі шклянак крапівы, патоўчанай на мязгу, столькі таксама і алкаголю), ставім у цёмнае месца і час ад часу страсаем. Пасля 3 тыдняў можна ўжо кожнага трэцяга дня гэтай наліўкай старанна націраць скуру галавы. **(ic)**

## ПРАДАЎЖАЛЬНІК ЖЫЦЦЯ

Не здзіўляйцеся, — гэта звычайны наш часнок! У Еўропе яго вырошчваюць з няпамятных часоў, а родам ён, мабыць, з Сярэдняй Азіі.

Найважнейшая лячэбная частка часнаку — яго цыбуліна. У свежых цыбулінах знаходзіцца эфірны алей, які прыдае расліне асаблівы пах, а таксама вітаміны В, С, РР, правітаміны А і Д, мікраэлементы. Мікраэлементы выконваюць у арганізме чалавека вельмі важную ролю біякаталізатараў. Часнок вылучае з сябе лятучыя рэчывы — фітанцыды, якія зніштажаюць хваробатворныя мікробы.

Часнок валодае многімі лячэбнымі ўласцівасцямі: рэгулюе развіццё мікробаў і іншых мікраарганізмаў у страваводзе, лечыць рэўматызм, паўстрымоўвае развіццё, а нават зніштажае рака. Часнок таксама паніжае ціск крыві, рэгулюе колькасць халестэролу ў крыві і такім чынам супрацьдзейнічае склератычным захворванням.

Калі тлустыя стравы прыправіць часнаком, то ён абясшкоджвае хваробатворнае дзеянне тлушчу. Не дзіва, што ўсходнія і сібірскія народы спажываюць многа часнаку і ў іх людзі жывуць доўга ды ў добрым здароўі. Навукай даказана, што часнок — гэта дасканалы сродак на лячэнне склерозу, якога прыкмет старэчая страта памяці, галавакружэнні, галаўныя болі.

Часнок паўстрымоўвае развіццё мікробаў, якія знішчаюць зубы. Вось чаму народная прымаўка кажа: „Каб мець белы зубок, грызі штодня часнок". Ён таксама добры сродак на глісты і іншыя чэрві, нават на саліцёра і трыхіны. Паўстрымоўвае развіццё ў страўніку мікробаў, якія выклікаюць шкодную ферментацыю, уздзейнічае ветрагонна. Многія мікробы, якія не паддаюцца нават антыбіётыкам і іншым моцным лякарствам, не вытрымоўваюць сілы ўздзеяння часнаку. Таму калі адзін-два зубкі часнаку, разжаваныя на мякаць зубамі або расцёртыя на драўлянай днушцы драўлянай лыжкай ці валком (да расціранння часнаку нельга ўжываць нічога металічнага!), штодня з'есці нанач — гэта здароўе і найлепшы засцерагальны сродак ад заразных захворванняў, між іншым, грыпам, насмаркам і многімі іншымі хваробамі.







Кампрэсы з расцёртага часнаку, прыкладзеныя да падэшваў ног (ды націрты часнаком грудны мосцік), добра лечаць запаленчыя станы горла, прастуду. Яны таксама — карысны сродак на рэўматычныя захворванні і болі, дапамагаюць і ў хутчэйшым зажыўленні ранаў, бо знішчаюць гнільныя мікробы.

Лячэбныя ўласцівасці часнаку былі вядомы чалавеку здаўна, асабліва старажытным народам Далёкага Усходу. Экспедыцыя вучоных з Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у 1971 годзе знайшла ў манастырах Тыбета на старадаўніх гліняных таблічках старажытнакітайскі рэцэпт лячэння часнаком. Падаем яго да ведама нашых Чытачоў.

Прызначэнне: ачышчае арганізм ад тлушчу і вапневых адлажэнняў, выдатна паляпшае абмен рэчываў у арганізме — у выніку гэтага ўсе сасуды, асабліва кровеносныя, стаюцца больш эластычнымі і такім чынам змяншаецца небяспека завалу, стэнакардыі, склерозу, павышэння ціску крыві, паралiжу, паўставання розных пухлінаў, знікае шум у галаве, паляпшаецца зрок.

**Нарыхтоўка:** 200 грам дакладна ачышчанага часнаку растаўчы драўлянай або шкляной палачкай. Пакласці ў гліняны посуд і заліць 200 грамамі 96-працэнтнага спірту. Посуд шчыльна (герметычна) закрыць і трымаць 10 сутак у цёмным халаднаватым месцы. Пасля працадзіць праз шчыльную тканіну, рэштку выціснуць. Праз два дні пачаць лячэнне. Піць з халодным малаком, дакладна прытрымоўваючыся ніжэй пададзенага парадку і колькасці. Порцыя малака — 50 грам.

### ДОЗА НАСТОЙКІ Ў КРОПЛЯХ:

| Дні прымання: | Сняданне | Абед | Вячэра |
|---|---|---|---|
| 1-ы дзень | 1 кропля | 2 кроплі | 3 кроплі |
| 2-і дзень | 4 кроплі | 5 кропель | 6 кропель |
| 3-і дзень | 7 кропель | 8 кропель | 9 кропель |
| 4-ы дзень | 10 кропель | 11 кропель | 12 кропель |
| 5-ы дзень | 13 кропель | 14 кропель | 15 кропель |
| 6-ы дзень | 15 кропель | 14 кропель | 13 кропель |
| 7-ы дзень | 12 кропель | 11 кропель | 10 кропель |
| 8-ы дзень | 9 кропель | 8 кропель | 7 кропель |
| 9-ы дзень | 6 кропель | 3 кроплі | 4 кроплі |
| 10-ы дзень | 3 кроплі | 2 кроплі | 1 кропля |
| 11-ы дзень | 15 кропель | 25 кропель | 25 кропель |
| 12-ы дзень | 25 кропель | 25 кропель | 25 кропель |

і далей па 25 кропель 3 разы ўдзень аж да спажыцця мікстуры.

Паўтарыць лячэнне праз 5 год. **(ic)**

## З БЕЛАРУСКАЙ КУХНІ

(Рэцэпты даюцца з разлікам на 4 асобы)

### ХАЛАДНІК СА ШЧАЎЯ

У падсоленай вадзе зварыць пакрышанае шчаўе, астудзіць. Дабавіць дробна пакрышаныя свежыя агуркі, расцёртую з соллю зялёную цыбулю. Перад падаваннем на стол заправіць смятанай і пасыпаць дробненька пакрышаным кропам, укласці палавінкі накрута звараных яек.

*900 грам шчаўя, 2 агуркі, 120 г зялёнай цыбулі, 2 яйкі, 4 сталовыя лыжкі смятаны, кроп, соль.*

### БЕЛАРУСКІ БОРШЧ

Мяса разам з касцямі варыць да гатоўнасці. Пакрышаныя моркву, пятрушку і цыбулю абсмажыць, дадаць тамат-пюрэ (памідоравы пшэцер) і яшчэ крыху пасмажыць. Булён пасаліць, пакласці ў яго пакрышаную бульбу, раней звараныя і пакрышаныя „ў саломку" буракі, падсмажаную муку і нарыхтаваныя моркву і пятрушку. Боршч варыць яшчэ 10-15 мінут, заправіць цукрам і воцатам. Падаючы на стол, пакласці ў кожную талерку мяса, смятану.

*400 грам ялавічыны (валавіны), 400 г касцей, 3 буракі, 4-5 бульбін, 2 морквы, 1 пятрушка, 1 цыбуліна, па лыжачцы мукі і цукру, 1 сталовая лыжка воцату, паўшклянкі смятаны, соль.*

### МАЧАНКА ПА-СЯЛЯНСКУ

Кавалачкі свініны з рэбрамі (з „бекону") і сялянскай (хатняга вырабу) каўбасы абсмажыць. Пшанічную муку развесці халоднай вадой, уліць у кіпячую ваду, увесь час мяшаючы. У паўстаўшую такім чынам мучную поліўку пакласці лаўровы лісць, сельдэрэй (сэлер), соль, падсмажаныя кавалачкі саланіны і дробна пакрышаную цыбулю, таксама раней нарыхтаваную свініну і каўбасу. Паставіць на 20-25 мінут у гарачую духоўку.

Да мачанкі падаваць бульбяныя блінцы або вараную бульбу.

*250 грам свініны (бекону), 200 г сялянскай каўбасы, 2 цыбуліны, 100 г саланіны, 2 сталовыя лыжкі мукі, лаўровы лісць, сельдэрэй (сэлер), соль.*







### ГУСІНАЯ ШЫЙКА

Знятую з косці шыйку нацерці молатым перцам і соллю. Нарыхтаваць рассыпістую грэцкую або перловую кашу, вымешаць з дробненька пакрышанай і абсмажанай на саланіне цыбуляй, кусочкамі гусіных вантробаў, напхаць шыйку, зашыць яе з абодвух бакоў, пакласці ў глыбокую патэльню або іншы посуд, дабавіць крыху вады, солі, тушыць у духоўцы.

*1 гусіная шыйка, 2-3 сталовыя лыжкі грэцкіх або перловых круп, 1 цыбуліна, 50 грам тлушчу, гусіныя вантробы, соль, перац.*

### ГРЫБНЫЯ КАТЛЕТЫ

Свежыя грыбы (найлепш маслюкі) ачысціць, прамыць, укінуць у кіпячую ваду на 2-3 мінуты і два разы прапусціць праз машынку да малацця мяса разам з цыбуляй і размочаным белым хлебам ці булкай. Дабавіць яйка, соль, вымешаць. З атрыманай такім чынам масы рабіць катлеткі плоска-круглай формы, абкатаць у сухой цёртай булцы і абсмажыць.

Да катлетаў падаць таўканіцу (стоўчаную бульбу).

*500 грам грыбоў, 50 г белага хлеба або булкі, 1 цыбуліна, 1 яйка, 1 сталовая лыжка цёртай сухой булкі, 2 сталовыя лыжкі раслліннага алею,.соль.*

### АМЛЕТ ПА-СЯЛЯНСКУ

Яйка ўзбіць, дабавіць муку, соль, малако, дакладна размяшаць. Нарэзаныя кавалачкамі саланіну і сялянскую каўбасу абсмажыць і заліць раней нарыхтаванай яечнай сумессю. Смажыць амлет спачатку на пліце, потым давесці да гатоўнасці ў духоўцы.

*8 яек, 2 сталовыя лыжкі мукі, 100 грам саланіны і 100 г сялянскай каўбасы, соль.*

### ФАРШЫРАВАНАЯ МЯСАМ БУЛЬБА

Вялікія бульбіны абскрэбсці, выкінуць сарцавіну. Мяса прапусціць праз машынку, змяшаць з падсмажанай цыбуляй, пасаліць, дадаць перцу. Гэтым фаршам напхаць бульбіны, абсмажыць, перакласці ў глыбокі посуд, заліць смятанай, дабавіць тамату-пюрэ (памідоравага пшэцеру) і запячы ў духоўцы.

Перад падаваннем на стол бульбу паліць соусам, у якім яна тушылася, пасыпаць дробна пакрышанай зеленню.

*12 вялікіх бульбін, паўтары шклянкі рэдкай смятаны, 2 сталовыя лыжкі тамату.*

*Фарш: 400 грам свініны або ялавічыны (валавіны), 1 цыбуліна, 1 сталовая лыжка свінога тлушчу, перац, соль.*

### БЯРОЗАВІК

Бярозавы сок зліць у невялікую бочачку, паставіць у цёмным халаднаватым месцы. Праз 2-3 дні, калі сок крыху падкісне, дабавіць падсмажаныя на блясе ячменныя зярняты або аржаныя сухары, даць пастаяць яшчэ суткі, працадзіць і квас гатовы да спажывання.

*5 літраў бярозавага соку, 30 грам ячменю.*

**Увага!** Спусціўшы патрэбную колькасць соку з бярозы, не забудзьце рану на дрэве заляпіць мылам, каб яна загаілася.

### МЯДУХА

Мёд разам з сотамі развесці ў астуджанай пераваранай вадзе, зліць у невялікую драўляную бочачку. Дабавіць дрожджы, разведзеныя ў цёплай вадзе, усё гэта дакладна вымешаць. Трымаць у халаднаватым месцы 6-8 дзён.

*5 літраў вады, 300 грам мёду з сотамі, 4 г дрожджаў.*

**Прыемнага апетыту!**

* ✻ *

## Не толькі што, але як падаваць

Часам гаспадыні, хоць і маюць многа смакавітых страваў, але цяжкавата ім бывае эстэтычна нарыхтаваць і падаць ежу на стол. А вядома, што варункі, у якіх спажываем ежу, маюць вялікі ўплыў на яе страваванне і засваенне арганізмам. Таму варта прыпомніць, што стол, за якім штодзённа ядзім, абавязкова павінен быць накрыты яснай чыстай цыратай, якую лёгка змыць, калі ўжо не паспяваем часта сціраць льняныя абрусы. Добра, калі кожны з вашых хатніх мае сваё сталае месца за сталом, не кажучы ўжо пра тое, што мусіць мець асобны посуд. Штодзённыя снеданні, абеды і вячэры, калі за стол садзіцца ўся сям'я або большасць яе, — гэта вельмі зручная нагода прывучаць дзяцей правільна есці і культурна паводзіць сябе.

Да больш урачыстых, святочных прыёмаў ці застолляў рыхтуемся яшчэ больш старанна. Тады ўжо абавязкова накрываем стол белым або каляровым ясным абрусам, належна выпрасаваным, каб гладка прыставаў да паверхні стала.

Перад пачастункам на стале расстаўляем:

— **талеркі** плоскія (плыткія) на гарачую страву, на іх малыя талеркі на закускі, а калі сярод закусак ёсць рыбная страва або сялёдка, даём яшчэ дадаткова маленькія талерачкі;







— **сталовыя прыборы** кладзём: калі прадбачваецца спачатку суп у (глыбокай) талерцы, справа яе кладзём лыжку, каля лыжкі нож, злева ад талеркі — відэлец, пасярэдзіне, перад талеркай, — лыжачку на дэсерт,

— **кілішкі** на віно або на гарэлку ставім перад талеркай, з правага боку, а з левага боку кладзём палатняныя або папяровыя сурвэткі;

— **кветкі,** кожная зеляніна — гэта аздоба стала. Аднак трэба памятаць, што высокія флаконы ці вазоны лёгка перакульваюцца і засланяюць людзей. Таму кветкі ставім у нізкіх флакончыках або прыбіраем стол раскіданымі па ім галінкамі зелені.

Дзецям, якія прыходзяць з дарослымі, нарыхтоўваем таксама прыгожа асобны стол. Калі вашыя сын або дачка запрашаюць сваіх сяброў на імяніны або звычайныя танцы, нарыхтоўваем стол-буфет. Тады з бакоў расстаўляем стус талерачкаў, а побач — відэльцы. На падносе (тацы) ставім кілішкі і шкляначкі з напіткамі. Пасярэдзіне — паўміскі з закускамі, такімі, каб можна было іх лёгка есці, карыстаючыся адным відэльцам, напрыклад, салаты, паштэт, жэле, малыя бутэрброды. Гарачыя напіткі (каву, гарбату) ставім асобна ў збанках-тэрмасах. Не забывайма пра кветкі.

**Дэкараванне страваў** — гэта рэклама гаспадыні. Таму бутэрброды падаём на падносах, выкладзеных белай сурвэткай або лісцем салаты, кладзём іх радамі — аднолькавыя ў кожным радзе. Дасканалая дэкарацыя падносаў або паўміскаў — гэта прыгожа нарэзаная радыска, дробна пакрышаная зялёная цыбуля, лісце пятрушкі, скрылікі памідораў, папрыкі ці нарэзаныя яйкі.

Халодныя мясы і вяндліны, якія падаём на паўмісках, павінны быць тоненька нарэзаныя і пакладзеныя радамі, напрыклад, побач раду шынкі — рад печанай цяляціны, затым рад каўбасы і г.д. Прыбіраем тое даступнымі ў дадзеную пару года каляровым варывам, на крута звaранымі і нарэзанымі яйкамі.

Усялякія салаты падаём у салатніцах або місачках, прыбіраючы іх маянэзам, скрылікамі рознага варыва, з якога яны нарыхтаваны, і перш за ўсё — зялянінай.

Гарачыя стравы з мяса кладзём акуратна нарэзанымі аднолькавымі порцыямі на глыбейшыя паўміскі, крыху апырскваем іх соусам і прыбіраем салатай, памідорамі, зялёным гарошкам, папрыкай і г.д. Соус як дадатак заўсёды падаецца асобна ў соўсніцы. Бульбу, рыс, макароны ці іншыя клёцкі, якія падаём да мяса, ставім на стале таксама асобна і пасыпаныя зялянінай.

**Жэле** мясныя, рыбныя і з птушкі выкладаем з формачкі на лісце салаты, якое прыгожа раскладзена на паўміску і прыбрана скрылікамі лімону, садавінай або марынаваным варывам. Густоўная кампазіцыя колераў — гэта скрылікі на крута звараных і нарэзаных яек.

Дадаткі — усялякія марынады, халодныя соусы (татарскі, маянэзавы і інш.) падаюцца ў малых начыннях і расстаўляюцца па ўсім стале.

**Як падаваць стравы.** Перш за ўсё важная тэмпература страваў. Таму гарачыя мясы трэба класці на папярэдне нагрэтыя паўміскі. На кожны паўмісак кладзём нож і відэлец. Халодныя закускі кожны бярэ сам, але гарачыя стравы гаспадары могуць падносіць гасцям на паўмісках. З паўміскам трэба заўсёды падыходзіць да сядзячага з левага боку.

Пасля спажыцця адной стравы і перад падачай другой усе дадаткі да папярэдняй і талеркі трэба забраць са стала. Збіраем іх з правага боку сядзячых і адкладваем на паднос. Згортванне рэштак ежы з талеркаў пры стале лічыцца вельмі неэлегантным.

**Напіткі.** Гарэлку (несалодкую) падаём толькі да халодных закусак, адначасова падаём чырвонае сухое (вытраўнае) віно да мясных закусак, белае віно — да рыбных закусак і птушкі. Да гарачых страваў падаём толькі віны, да салодкіх і дэсертаў — віны салодкія або паўсалодкія (паўсухія) чырвоныя і белыя. Віна ў кілішкі наліваецца крышку болей, чым палову кілішка. Кілішкі наліваем з правага боку сядзячых. Сокі з садавіны і варыва падаём у адпаведных збанках, потым наліваем у адпаведныя шкляначкі. Пры канцы гасціны падаём гарачыя напіткі (каву, гарбату), адначасова можна падаваць каньякі або лікёры.

Белае віно павінна быць злёгку ахаладжанае, яго падаём у высокіх, вузкіх кілішках. Гарэлку падаём моцна ахаладжаную. Чырвонае віно павінна мець пакаёвую тэмпературу і падаём яго ў нізкіх пукатых кілішках. Каньякі таксама пакаёвай тэмпературы наліваем у спецыяльныя вялікія, пукатыя кілішкі толькі трэцюю частку іх аб'ёму. Мусіруючыя віны — шампанскія — падаюцца моцна ахаладжанымі і ў плоскіх шырокіх кілішках.

**Старая гаспадыня**







# Як прадбачыць пагоду

Хоць у метэаралагічнай службе працуе армія людзей і навейшая тэхніка, але добрых прадказальнікаў пагоды ўсё ж вельмі мала. А калі і здараюцца, яны — пераважна людзі, якія ўсё сваё жыццё непасрэдна звязаны з прыродай: сяляне, рыбакі, маракі і г.д. Аднак, хто дакладна і ўважліва прадумае і запамятае дадзеныя ніжэй дванаццаць прыкмет аб будучай пагодзе, той напэўна здабудзе столькі ведаў па метэаралогіі, колькі неабходна іх мець у штодзённым абыходку. Зразумела, што пададзеныя вывады нельга ўспрыймаць як непарушныя і беспамылковыя праўды. Усе прадстаўленыя з'явы: колер неба, выгляд сонца, месяца і зорак адлюстроўваюць акрэслены стан атмасферы, які ў сваю чаргу дае заповедзь падзей на бліжэйшы час.

## ДВАНАЦЦАЦЬ ПРЫКМЕТ ДЛЯ ПРАДБАЧАННЯ ПАГОДЫ

**1. Усходы і заходы сонца.** Заходзячае чыста на ружовым небасхіле сонца паказвае на сухую атмасферу, якая абяцае сухую пагоду ў наступным дні. Калі колер неба жаўтаваты або зеленаваты, тады магчымасць пагоднага дня яшчэ большая, бо такія колеры спадарожнічаюць выключна сухому паветру. Калі ж сонца заходзіць на хмурным, змрочным або зацягнутым імглою гарызонце, тады пераважна наступае дзень сыры, з праўдападабенствам віхру, раптоўных ападкаў і буры, а таксама паніжэнне тэмпературы.

Калі гарызонт аддзяляецца выразнай лініяй, то ўжо пасля таго, як сонца схаваецца, добры назіральнік можа часам убачыць пучок светла-зялёных промняў. Такі захад паказвае на поўную адсутнасць вільгаці ў атмасферы і прадказвае доўгую сонечную пагоду, нават — засуху.

Аднак за ноч могуць наступіць такія вялікія перамены, што вячэрні прагноз акажацца зманлівым. Таму заўсёды трэба праверыць, як выглядае ранак наступнага дня. Шэра ўзыходзячае сонца не павінна выклікаць насцярожанасці, але пры чырвоным ранішнім небе неабходна лічыцца з неспадзяванкамі.

**2. Колер месяца.** Многія ўважаюць, што месяц уздзейнічае на пагоду. Навука пярэчыць гэтаму, сцвярджаючы, што ўплыў месяца абмяжоўваецца толькі прыплывамі і адплывамі мора. І ўсё ж выгляд месяца паказвае на стан атмасферы. Светлы бліскучы месяц бывае пры чыстай атмасферы і прадказвае сухую пагоду, калі ж ён бледны і заімглёны, тады паказвае на паўставанне хмараў.

**3. Зоркі.** Свецячыя выразна і яскрава зоркі — гэта добры прагноз на сухую пагоду, асабліва калі неба густа імі ўсыпана. Аднак калі цалкам знікаюць малыя зорачкі, а большыя відаць на чарнільна-чорным небе толькі зрэдку, пры тым свецяць яны невыразна, сінявата, быццам здалёку — гэта прадказанне дажджлівай заўтрашняй пагоды.

**4. Персцені і арэолы.** Вакол сонца і месяца яны, часта рознакаляровыя, як вясёлка, чырвоныя знутры або звонку, бываюць прадвеснікамі дажджавой або снегавой навальніцы, залежна ад пары года. Хіба што яны „растуць проста ў вачах" — тады сігналізуюць большыя праясненні. Гэтыя з'явы выклікае святло абодвух нябесных целаў, якое прабіваецца скрозь пласты вільготнага паветра, якія знаходзяцца высока над зямлёю. Калі арэол мае большы папярочнік, чым персцень, тады ён папераджае, што неўзабаве наступіць раптоўная перамена пагоды.

**5. Грымоты і бліскавіцы.** Калі яны паяўляюцца нават пагодным ранкам, то ўсё ж прадказваюць лівень яшчэ ў той самы дзень, найпазней перад захадам сонца, асабліва калі горача і парна.

**6. Вясёлка.** З'яўленне раніцай вясёлкі (радугі, тэнчы) — гэта знак, што набліжаецца раптоўны дождж. Калі ж яна паяўляецца пасля поўдня, асабліва пасля вялікага дажджу, то гарантуе прыгожыя дні на бліжэйшы час.

**7. Імгла.** Калі яна выступае вельмі рана ўлетку, тады абяцае пагоду, узімку жа — адлігу або дождж.

**8. Раса.** Калі летнім ранкам яна ўсцілае траву, то прадказвае сухі сонечны дзень. Калі расы няма — могуць быць ападкі.

**9. З акалічнасцей,** у якіх збіралася на дождж, лёгка можна зрабіць вывад, як доўга ён будзе падаць. Напрыклад, калі ўлетку хутка сабяруцца хмары, яны — прадказанне кароткай, але вельмі моцнай навальніцы. Аднак, калі пры парным паветры зацягванне неба хмарамі адбываецца некалькі дзён, то дождж будзе падаць доўгі час. Чым раней на пачатку дня пачне падаць неспадзяваны дождж, тым карацейшы ён будзе. Калі дождж падаў ноччу, то пасля поўдня ўжо можа быць зусім прыгожая пагода.

Хмары — гэта самыя даступныя паказчыкі будучай пагоды. Найчасцей гэта бываюць кучавыя (кумулюсы) — далікатныя, пухкія, ваўністыя, якія завуць „баранчыкамі". Часцей за ўсё бачым іх у пагодныя летнія дні, як плывуць яны па чыстым блакітным небе. Прадказваюць яны сухую пагоду, асабліва, калі ідуць вельмі высока і паволі. Аднак, калі надта парна, тады іменна іх разнавіднасць (лумуланімб) з'яўляецца пагрозлівым асяродкам раптоўнай навальніцы. Нагрувашчэнне такіх хмараў паказвае, што ў атмасферы наступаюць хуткія перамены, якія звязаны з лівенем. У нізе растрэпанай масы хмары часта відаць цёмна-сінюю яе сцяну, якая сведчыць пра тое, што набліжаецца магутны віхор.







Перыстыя воблакі (цырусы) укладваюцца тонкімі пластамі і бываюць „калматыя". Ляцяць яны вельмі хутка і высока над зямлёю і складаюцца з саміх крышталікаў лёду, нават у самыя гарачыя дні лета. Яны — „авангард" надыходзячай навальніцы, асабліва калі прымаюць форму закручаных пасмаў валасоў або доўгіх перыстых хвастоў. Тады вядома, што раптоўныя перамены наступяць за бліжэйшыя 10-30 гадзін. Напрамак, у якім ідуць хмары, таксама гаворыць пра пагоду. Калі яны ідуць з захаду, тады прадказваюць дождж. Часам можна заўважыць, як два пласты хмараў, якія знаходзяцца на розных вышынях, плывуць у розных напрамках. Гэта таксама прадвеснік буры.

**10. Вятры.** Яны таксама добрыя прадказальнікі пагоды. Заходнія вятры часта прыносяць дождж; паўночна-заходнія летам — асвяжальную ахалоду, усходнія і асабліва паўднёва-ўсходнія — сонечныя, сухія дні. Калі вецер раптоўна змяняе свой напрамак, гэта абяцае дождж і ўраган.

**11. Барометр.** Добра яго мець у хаце. Аднак прадказаныя ім змены пагоды трэба ацэньваць у супастаўленні з веючымі ў гэтым часе вятрамі. Нельга лёгкаверна прымаць тое, што барометр у дадзеную хвіліну паказвае на „дождж", „навальніцу" або „сонечную пагоду". Калі глянуць на барометр толькі адзін раз, гэта можа ўвесці ў зман. Тут неабходна некалькіразовае назіранне, ці паказвае ён на змяншэнне ціску (дажджлівая пагода), ці на яго павышэнне (сухая пагода).

**12. Іншыя прадказанні.** Правільнасць прагнозаў можна пацвердзіць і шэрагам іншых сваіх назіранняў. Напрыклад, „ламанне ў касцях" у хворых рэўматызмам тут вельмі паказальнае. Цікава таксама і тое, што перад бурай у сувязі з паніжэннем атмасфернага ціску вельмі востра адчуваюцца розныя пахі, асабліва ў вільготных і нізкіх месцах. Адначасова шнуркі ў камашах зацікаюцца, соль на стале робіцца цяжэйшай, кручаныя валасы яшчэ больш скручваюцца, дым з каміноў сцелецца нізка, а ластаўкі лётаюць зусім над зямлёй. Шмат ёсць такіх прызнакаў надыходзячай змены пагоды, якія можам мы самі адкрыць.

Не трэба таксама пагарджаць народнымі прыкметамі, прымаўкамі, бо яны паўсталі ў выніку назіранняў атмасферных з'яваў на працягу доўгіх стагоддзяў многімі пакаленнямі нашых продкаў.

## НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ АБ ПАГОДЗЕ

Авечкі паміж сабою стукаюць лбамі — на вецер.

Вакол месяца чырвоны крут — хутка будзе дождж з ветрам.

Вароны купаюцца ранняй вясною — будзе цёпла, лётаюць чарэдамі — на непагоду.

Вераб'і купаюцца ў пыле — будзе дождж.

Гром у верасні — восень доўгая і цёплая.

Гусі мыюцца перад дажджом.

Захад сонца ў чырвані — будзе вецер, ясна-жоўты — будзе дождж.

Зоркі ў тумане — на дождж або снег.

Калі бяроза перад вольхай ліст распусціць, то лета будзе сухое; калі вольха наперад — лета мокрае.

Калі без ветру дым з коміна сцелецца па зямлі, то летам чакай дажджу, а зімою — снегу.

Калі вечарам сонца заходзіць за хмару, то заўтра чакай дажджу або пахмурнай пагоды. Калі ж сонца не заходзіць за хмару — дзень будзе пагодны і ясны.

Калі вечарам туман ад зямлі або ад вады падымаецца ўверх — наступны дзень будзе спякотны.

Калі вясёлка (радуга) яскравая — будзе непагадзь.

Калі вясёлку бачым падвечар — будзе сонечная пагода, а з раніцы — будзе дождж.

Калі дым з коміна падымаецца проста ўверх нават у непагадзь, але без ветру, хутка пасля гэтага павінна настаць сонечная пагода.

Калі зімой загрыміць гром — будуць віхуры.

Калі зімою на рацэ вада раптам выступіць на лёд і то не ў адлігу — чакай дажджу або вялікага пацяплення.

Калі кураняты ўдзень хаваюцца ў якое-небудзь закрытае месца або пад сваю матку — пагода будзе мокрая.

Калі месяц бляклы або мутны — чакай дажджу; калі ён чысты і яскравы — пагоды.

Калі падае дождж і ад яго ў лужынах ускокваюць бурбалкі — будзе доўга дажджлівая пагода.

Калі туман апускаецца ўніз і кладзецца на зямлю — чакайце сонечнай пагоды.

Кот да печы ціснецца або ляжыць, згарнуўшыся ў клубок, — будзе сцюжа. Кот дзярэ пазурамі дзверы або ножкі стала — на вецер або снег; сцяну — на непагадзь; спіць моцна, лежачы дагары — на цяпло.

Куры цярэбяцца і купаюцца — дождж будзе.

Ластаўкі нізка лётаюць на дождж і вецер.

Месяц у белым крузе — будзе дождж. Малады месяц умываецца на непагадзь, а калі ён рогі задзёр — на пагоду.



Мухі кусаюцца і прыстаюць — на непагоду.

На дубе многа жалудоў — будзе вострая зіма.

Сабакі качаюцца: зімою на снег, а летам на дождж.

Свінні чухаюцца на цяпло, вішчаць — на непагадзь, цягаюць салому — на навальніцу.

Сонца парыць і цішыня ў паветры — будзе навальніца.

У даёнцы пеніцца малако — на дождж.

У мароз шыбы ў вокнах пацеюць — на адлігу, летам жа — на непагадзь.

У моцныя маразы пеўні рана спяваюць на цёплую і памяркоўную пагоду.

Чым зелянейшая вясёлка, тым больш павінна быць дажджу, чым яна чырванейшая, тым мацнейшы будзе вецер.

## НАЙБОЛЬШ ПАШЫРАНЫЯ ПРАГНОЗЫ ПАГОДЫ

Калі перыстыя воблакі насоўваюцца з заходняй часткі неба з такой хуткасцю, што іх рух лёгка заўважыць вокам, — гэта паказвае на набліжэнне навальніцы або непагадзі за 1 або 2 дні.

Калі па небе плывуць асобныя невялікія кучавыя воблакі ў тым жа кірунку, у якім унізе дзьме вецер, — гэта азначае паляпшэнне пагоды, пасушэнне яе.

Калі кучавыя воблакі не знікаюць увечары — можна чакаць пасырэння пагоды або дажджу.

Калі кучавыя воблакі вялікія і прымаюць памеры вялізных гор у некалькі кіламетраў вышыні з пляскатымі падставамі і пры гэтым няма сталага ветру — можна чакаць дажджу і навальніцы. Калі ж такое вельмі высокае кучавое воблака ў сваёй верхняй частцы выпускае нібы мётлы, перыстыя воблакі або расшыраецца ў выглядзе грыба, то пры значнай вільготнасці паветра можна чакаць граду.

Калі днём або раніцай на небе бачым воблакі-баранчыкі, а падвечар паяўляюцца слоіста-кучавыя воблакі, то можна чакаць навальніцы.

З адных слоіста-кучавых воблакаў ні летам ні ўзімку не бывае значных ападкаў.

Калі вясной, летам і восенню ўдзень бываюць разрозненныя воблакі, а падвечар яны знікаюць — гэта прыкмета трывалай сухой і яснай пагоды.

Калі пры яснай пагодзе вецер дзьмуў некалькі дзён з аднаго напрамку, а потым раптоўна перамяніўся, то можна чакаць ападкаў або перамены пагоды.

Калі ўдзень ясна, але падвечар воблакі пачынаюць згушчацца і таўсцець, то варта чакаць дажджу або перамены пагоды.

Калі ноччу ціха, а раніцай жа, праз гадзіну або дзве пасля ўзыходу сонца, падымецца вецер, які ўзмацняецца да поўдня і

зноў заціхае падвечар, — гэта прыкмета працяглай яснай і сухой пагоды. Калі ж вецер падвечар не сціхае або нават узмацняецца, то можна чакаць працяглых ападкаў або навальніцы.

Вялікая раса — прыкмета сонечнай пагоды.

Калі ў лагчынах, нізкіх месцах і паблізу пыльных дарог вечарам і ноччу збіраецца туман, які разыходзіцца раніцай, — гэта прыкмета сонечнай пагоды.

Калі ноччу ў лесе значна цяплей, як у полі — гэта знак сонечнай пагоды.

Калі вечарам або ноччу, падымаючыся на пагорак, адчуваецца, што ўваходзіш у больш цёплае паветра, значыць — настала трывалая сухая пагода.

Вялікія белыя кругі вакол сонца або месяца, а таксама слупы каля сонца паказваюць на надыход вострых маразоў.

Калі пасля захаду сонца пры зусім чыстым небе на захадзе відаць доўга амаль белае срабрыстае ззянне без выразных граніц — гэта прадказвае працяглую сухую пагоду.

Калі выразна чуваць далёкія і слабыя гукі або незвычайна моцна мігцяць зоркі (асабліва пад раніцу) — усё гэта паказвае на вялікую колькасць вільгаці ў ніжніх слаях атмасферы і магчымасць навальніц і ападкаў.

## ПРАГНОЗЫ ПАГОДЫ І ЎРАДЖАЮ Ў НАРОДНЫХ ПРЫКАЗКАХ

Зімою абрыдзіць нос абціраючы, а ўлетку абрыдзіць браму адчыняючы.

Калі не будзе зімою бела, то не будзе ўлетку зелена.

Снегу навее — хлеба прыбудзе, вада разальецца — сена набярэцца.

Калі ў студзені дажджы — дабра не ждж́ы.

Трэшчы не трэшчы, прайшлі Водахрышчы — не к Ражджаству, а к Пятру.

Студзень імглісты — мокры год; студзень халодны — позняя вясна і дажджлівае лета.

Студзень мяце — ліпень залье.

Калі ў лютым трымаюць сталыя маразы — лета будзе гарачае.

Люты халодны і сухі — жнівень гарачы.

У лютым востры мароз — зіма кароткая.

Грамніцы (15 лютага па новаму і 2 па старому стылі) — скідай рукавіцы.

Як на Грамніцы нап'ецца певень вадзіцы, то на Юр'я (6 мая, 23 красавіка) наесца вол травіцы.

Люты ваду напусціць, а сакавік падбярэ.

Сакавік мокры — хлеб будзе горкі.



У сакавіку туман — у жніво дождж пан.

На лёд загрымела — будзе холад.

Калі загрымела на гола — халодная вясна будзе.

Пакуль гром не загрыміць — зямля не адтае.

Бусел прыляцеў — вясна будзе.

Калі зязюля закуе на голае дрэва, то будзе голад.

На саракі (22 (9) сакавіка) пайшла зіма да ракі.

На Аляксея (30 (17) сакавіка) рыба хвастом лёд ломіць.

Сухі марац, мокры май — будзе добры ўраджай.

Да Благавешчання (7 красавіка, 25 сакавіка) зіму не лай і сані трымай.

Май дажджлівы — год урадлівы.

Як у маі суха — падцягвай бруха.

Як на Юр'я пагода, то на грэчку ўрода.

У маю мароз — не будзе раёў.

Да Міколы (22 (9) мая) не сей грэчкі ніколі.

Калі Пётра з Паўлам (12 ліпеня, 29 чэрвеня) плачуць, то людзі праз тыдзень сонца не ўбачаць.

Жоравы ляцяць высока — зіма яшчэ далёка.

Жоравы ляцяць нізка — зіма ўжо блізка.

Калі на Ільлю (2 жніўня, 20 ліпеня) пагода — восень будзе сухая.

Да Міколы (19 (6) снежня) няма зімы ніколі.

Колькі адзін Мікола (19 (6) снежня) дасць снегу, столькі другі (22 (9) мая) дасць травы.

На Ганкі (22 (9) снежня) сядайце на санкі.

*

Беручы ўсё гэта пад увагу і пільна прыглядаючыся да прыроды наогул, кожны можа стаць цалкам добрым прадказальнікам пагоды на свой прыватны ўжытак. Зычым удачлівых прагнозаў!

**(іс)**

# Кааператыўнае права

## 1. АГУЛЬНЫЯ ПРАДПАСЫЛКІ

Ва ўмовах нашага краю, таксама як у іншых сацыялістычных дзяржавах, кааператывы разам з дзяржаўнымі прадпрыемствамі складаюць фундамент грамадскай гаспадаркі. Дзейнасць кааператываў не абмяжоўваецца да вытворчасці і паслугі. Іх заданнем з'яўляецца таксама грамадска-выхаваўчая праца, якая нацэлена на павышэнне ўзроўню свядомасці і культурнага ўзроўню членаў кааператываў.

Кааператыў дзейнічае самастойна, а органы ўлады маюць устанаўліваць абавязваючыя кааператыў правілы і пастановы толькі ў справах, у якіх дае ім паўнамоцтвы да гэтага асобны закон.

Для заснавання кааператыва патрэбна сама меней 10 членаў. У асноўным членам кааператыва можа быць асоба паўналетняя, здольная да прававога дзеяння. Статут можа прадбачыць магчымасць членства асобаў, якія закончылі 13 год, або з'яўляюцца часткова недзеяздольнымі. Членам кааператыва можа быць таксама грамадская арганізацыя.

Органамі кааператыва з'яўляюцца: агульны сход, наглядальная (надзорчая) рада і праўленне кааператыва.

Агульны сход з'яўляецца найвышэйшым органам кааператыва. Яго рашэнні абавязваюць усіх членаў. Калі пастанова агульнага сходу нязгодная са статутам або законам, кожны член можа яе абжалаваць у судзе. Такое ж права мае таксама праўленне адпаведнага цэнтральнага саюза кааператываў.

Агульны сход выбірае наглядальную (надзорчую) раду. Яе заданнем кантраляваць і наглядаць за дзейнасцю кааператыва, прымаць гаспадарчыя планы і праграмы грамадска-культурнай працы, а таксама прымаць рашэнні ў найбольш важных справах у дзейнасці кааператыва.

Наштодзень дзейнасцю кааператыва кіруе праўленне. Яно прадстаўляе кааператыў звонку. Праўленне выбіраецца агульным сходам, або наглядальнай радай.

Кааператывы арганізуюцца для рознага віду вытворчасці, або паслугі. У гэтым артыкуле гаворыцца пра тыя віды кааператываў, якія адыгрываюць выключна вялікую ролю ў грамадскім жыцці, гэта значыць кааператывы сельскагаспадарчай вытворчасці, сельскагаспадарчых гурткоў, кааператывы працы і жыллёвыя кааператывы.



**2. Сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў.**

Заданне сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва — гэта вядзенне калектыўнай гаспадаркі, якая абапіраецца на асабістай працы. Статут кааператыва можа прадбачыць выконванне іншай вытворчасці або паслуг.

Членамі кааператыва могуць быць сяляне, або асобы, якія маюць кваліфікацыі да працы ў кааператыве.

Прыняты агульным сходам на члена кааператыва селянін абавязаны згодна са статутам унесці частку сваіх грунтаў, або ўсю зямлю за выключэннем прысядзібнага ўчастка. За карыстанне з унесеных у кааператыў грунтаў прадбачваецца кампенсацыя.

Член кааператыва надалей астаецца ўласнікам грунту, які ён унёс у кааператыў. Ён можа гэты грунт прадаць або падараваць іншаму члену кааператыва, або нават асобе, якая членам кааператыва не з'яўляецца. У гэтым апошнім выпадку ён павінен папярэдзіць кааператыў найменш на тры месяцы перад заключэннем умовы (дагавору) аб продажы або падараванні. Кааператыў мае першынства куплі зямлі.

Адабраць ад кааператыва зямлю кааператыўшчык можа толькі тады, калі перастае быць членам. Калі гэта мэтазгодна з гаспадарчымі патрэбамі кааператыва, можа быць выдзелены грунт эквівалентны, гэта значыць, паложаны ў іншым месцы, у меру патрэбы з грашовай даплатай.

Здольны да працы член мае права і абавязак працаваць у кааператыўнай гаспадарцы. Кааператыў можа таксама даваць працу яго членам сям'і і іншым асобам, якія вядуць з ім супольную гаспадарку. Усе гэтыя асобы параўні з членам кааператыва маюць права да штогадовага платнага водпуску і заплаты за працу. Размер водпуску ўстанаўляе статут. Жанчынам належыцца права да мацярынскага водпуску, а таксама правы, звязаныя з цяжарнасцю, нараджэннем, выхаваннем дзіцяці.

Чысты даход кааператыва, пасля адлічэння запасовага, сацыяльна-культурнага і жыллёвага фондаў і належнасці за ўнесены ўклад, дзеліцца паміж членамі і працаўнікамі кааператыва адпаведна да колькасці іхняе працы.

**3. Кааператывы сельскагаспадарчых гурткоў.**

Мэтай кааператыва сельскагаспадарчых гурткоў — рознага віду паслугі для сельскіх гаспадарак і сялян. Такія кааператывы займаюцца таксама вытворчасцю патрэбных сялянам матэрыялаў і прадметаў, а таксама вядзеннем сельскай гаспадаркі на грунтах дзяржаўнага зямельнага фонду (ПФЗ), або на грунтах, якія ўнеслі ў кааператыў яго члены. У гэтым апошнім выпадку прымяняюцца правілы, якія адносяцца да сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў і правы цывільнага кодэкса.

**4. Кааператывы працы**

Мэта кааператыва працы — супольная гаспадарчая дзей-

насць, якая абапіраецца на асабістай працы членаў. Члены заключаюць з кааператывам умову (дагавор) аб працы. За працу атрымліваюць яны зарплату і маюць удзел у частцы балансавай лішкі, якая прызначана для падзелу.

Кааператыўны дагавор аб працы можа быць скасаваны толькі ў выпадку, калі гэта абгрунтавана патрэбамі кааператыва, або член страціў здольнасць да працы.

Дагавор аб працы траціць моц, калі працаўнік перастае быць членам кааператыва, самавольна пакіне працу, або не працуе больш трох месяцаў у выніку тымчасовага арышту.

Кааператыў можа скасаваць умову працы, калі гаспадарчыя патрэбы змушаюць яго да змяншэння колькасці працаўнікоў або член пераходзіць на пенсію.

Кааператыў можа выключыць члена, калі парушае ён асноўныя абавязкі працаўніка, прыкладам, неадпаведна паводзіць сябе ў месцы працы, самавольна пакідае месца працы, прыходзіць да працы нецвярозы, або п'е алкаголь у часе працы, дапусціўся злачынства, або па сваёй віне страціў права да выканання тае працы, якую дагэтуль выконваў, а таксама калі б шкодзіў кааператыву.

Член кааператыва можа быць выключаны, калі не працаваў у кааператыве звыш года без віны кааператыва, страціў часткова, або поўнасцю здольнасць да працы або здольнасць да прававой дзейнасці (здольнасць да прававой дзейнасці можна страціць толькі па прыгавору суда, які прызнае даную асобу часткова або поўнасцю недзеяздольнай).

Спрэчкі, якія ўзнікаюць паміж членам і кааператывам, вырашаюць суды.

**5. Жыллёвыя кааператывы**

а) Агульныя правілы

Мэта жыллёвых кааператываў — прызначаць членам кватэры ў будынках, якія з'яўляюцца ўласнасцю кааператыва, будаваць аднасямейныя дамы, або памагаць у будаванні жыллёвых дамоў.

Член кааператыва мае права толькі да аднае кватэры. Калі б ён меў іншую кватэру, прыкладам, атрымаў яе ў спадчыне, абавязаны ён па патрабаванню кааператыва збыць адну кватэру. Калі пазней набытая кватэра з'яўляецца кааператыўнай, а кватарант не збыў яе ў вызначаным кааператывам часе, кааператыў можа прыняць пастанову, паводле якой права пазней набытае касуецца. Адносіцца гэта таксама да таго, калі кватэру набыў муж або жонка ўласніка кааператыўнай кватэры, хіба што маюць яны з абгрунтаваных прычын асобныя месцы пражывання.

Калі пазней набытая кватэра дзяржаўная, орган адміністрацыі можа надзел узяць назад, або скасаваць дагавор аб найме.







Членам жыллёвага кааператыва можа быць таксама асоба недзеяздольная. Калі б права да кватэры набыў няпоўналетні ў спадчыне, ці іншым спосабам, прадбачаным статутам, членам кааператыва можа быць гэты няпоўналетні.

Члены кааператыва абавязаны ўдзельнічаць у коштах пабудовы, эксплуатацыі і ўтрымання будынкаў і іншых выдатках кааператыва, жыллёвымі ўкладамі і іншымі прадбачанымі статутам аплатамі.

Закон прадбачвае права да кааператыўнай кватэры як кватэранаймальнік (lokatorskie prawo do lokalu), або ўласніка (prawo do lokalu).

**в) Права кааператыўнага кватэранаймальніка**

Калі кааператыўную кватэру атрымоўваюць пасля шлюбу, то кватэранаймальнікамі з'яўляюцца муж і жонка і гэта незалежна ад таго, з кім з іх заключаны дагавор (умова), ці членамі з'яўляюцца яны абое, ці толькі адзін з іх, ці жывуць яны разам, ці асобна. Жыллёвы ўклад, калі ён унесены ў часе сямейнага жыцця, складае супольную ўласнасць, незалежна ад таго, ці паходзіць ён з заробкаў і іншых даходаў мужа ці жонкі.

Пасля разводу суд вырашае, ці кааператыўнае права да кватэры прызнаць мужу ці жонцы. Калі суд прысудзіць права мужу ці жонцы, якія не з'яўляюцца членамі кааператыва, каб захаваць права да кватэры, мусіць быць на працягу трох месяцаў складзена ў кааператыў членская дэкларацыя.

Кватэранаймальнік не мае права збыць кааператыўнага права да кватэры і не пераходзіць яно на нашчадкаў. Яно канчаецца ў момант, у якім спыняецца членства. Пасля гэтага кааператыў мае абавязак вярнуць паўнамочнай асобе жыллёвы ўклад згодна з правіламі, устаноўленымі статутам.

Пасля смерці мужа або жонкі кааператыўнае кватэрнае права, калі яно належалася абоім, належыцца жывому. Калі ён не з'яўляецца членам кааператыва, то павінен на працягу года скласці членскую дэкларацыю. Іншыя нашчадкі памёршага маюць права да ўкладу.

Калі б права да памяшкання мелі толькі муж або жонка, прыкладам кватэру атрымалі ён або яна перад шлюбам, у выпадку смерці, або спынення членства з іншых прычын, кааператыўнае кватэрнае права страчвае моц. Муж або жонка былога члена, яго дзеці і блізкія яму асобы, якія з ім жылі могуць патрабаваць прыёму іх у члены і прыдзялення ім кватэры.

Блізкім лічыцца не толькі сваяк, але і прыяцель, асоба, якая паслугоўвае або дапамагае былому члену, нават калі б яны не вялі супольнай з ім хатняй гаспадаркі. Права гэтае ім не належыцца, калі яны маюць сваю, хоць бы і горшую кватэру, хоць бы пражывалі разам з былым членам.

Муж або жонка маюць права атрымаць кватэру па былым члене нават тады, калі б не жылі ў адной з ім кватэры.

Калі кааператыў аспрэчвае правы зацікаўленай асобы, або прэтэнзіі да кватэры мае некалькі асоб, тады справу вырашае суд.

На пісьмовае патрабаванне члена кааператыва і пасля ўплаты будаўнічага ўзносу, кааператыў абавязаны перамяніць кватэрнае права на кааператыўнае права ўласнасці кватэры.

**Права ўласнасці да каапертыўнай кватэры.**

Уласную кватэру можна збыць, або перадаць у спадчыну. Не можна збыць кватэру, у якой уласнік сам яшчэ не жыў. Важнасць дагавору аб продажы залежыць ад таго, ці пакупнік будзе прыняты ў члены кааператыва. Кааператыў не можа адмовіць прыняць у члены пакупніка, калі спаўняе ён патрабаванні, прадбачаныя статутам.

Муж і жонка з'яўляюцца супольнымі ўласнікамі кватэры, набытай пасля шлюбу незалежна ад таго, хто з іх уплаціў грашовы ўклад. Пасля разводу той, хто ўнёс уклад, можа пры падзеле маёмасці патрабаваць разлічэння.

Удзел памёршага супольнага ўласніка прыпадае ўсім спадчыннікам, у тым мужу або жонцы. Спадчыннік, які хоча атрымаць кватэру, павінен на працягу аднаго года скласці ў кааператыў пастанову суда, якая пацвярджае яго права да спадчыны, а калі справы аб сцвярджэнні правоў да спадчыны ў гэтым часе не вырашаны, павінен скласці пасведчанне, што такая справа ўнесена ў суд. Калі ёсць некалькі спадчыннікаў, якія зацікаўлены атрыманнем імі кватэры, то на працягу трох месяцаў ад сцвярджэння правоў да спадчыны павінны яны скласці копію пастановы суда аб падзеле спадчыны. Спадчыннік, які не з'яўляецца членам кааператыва, павінен разам з гэтай пастановай скласці членскую дэкларацыю.

У адсутнасці гэткіх патрабаванняў права да кватэры страчваецца, а кааператыўны ўклад выплочваецца нашчадкам, якія маюць сцверджанае права да спадчыны.

**Вінцук Склубоўскі**







## РАСПЛОД СВОЙСКАЙ ЖЫВЁЛЫ І ПТУШКІ

### ЧАС ЦЯЖАРНАСЦІ

| Жывёла | Час цяжарнасці |
|---|---|
| Кабыла | Каля 340 дзён (11 месяцаў) |
| Карова | Каля 285 дзён (9 месяцаў і 10 дзён) |
| Свіння | Каля 116 дзён (3 месяцы, 3 тыдні і 3 дні) |
| Авечка | Каля 150 дзён (5 месяцаў) |
| Сярэбраны ліс | Каля 51-53 дзён |
| Норка | Каля 47-50 або 36-85 дзён |
| Нутрыя | Каля 130-132 дзён (4 з паловай месяцы) |
| Кролік | Каля 30 дзён (адзін месяц) |

### ПАКРЫВАННЕ САМАК

| Жывёла | Найбольш адпаведны ўзрост пакрывання | У які час найвыгадней |
|---|---|---|
| Кабыла | 3 — 4 гады | 15 лютага — 15 красавіка |
| Карова | 20 — 22 месяцы | у 3 месяцы пасля ацялення |
| Свіння | 7 — 10 месяцаў | у кастрычніку, лістападзе, снежні, красавіку і маі |
| Авечка | 16 — 18 месяцаў | 15 чэрвеня — 20 жніўня, |
| Сярэбраны ліс | 9 — 10 месяцаў | 15 верасня — 15 лістапада<br>15 студзеня — 1 красавіка<br>15 лютага — 1 красавіка |
| Норка | каля 10 месяцаў | 1 снежня — 31 студзеня |
| Нутрыя | каля 6 месяцаў | 1 чэрвеня — 31 ліпеня |

### ВЫВАД СВОЙСКАЙ ПТУШКІ

| Птушка | Час выседжвання яек | Колькасць яек | Патрэбен адзін самец на |
|---|---|---|---|
| Курыца | 20 — 22 дні | 15 — 19 яек | 12 — 15 курыц |
| Індычка | 27 — 30 дзён | 15 — 19 яек | 10 — 15 індычак |
| Гуска | 28 — 32 дні | 13 — 14 яек | 4 — 6 гусак |
| Качка | 26 — 31 дзень | 13 — 15 яек | 4 — 6 качак |
| Галубка | 17 — 19 дзён | 2 — 3 яйкі | 1 галубка |

## КАЛЯНДАР ЦЯЖАРНАСЦІ

**Заўвага.** Каляндар цяжарнасці апрацаваны з прамежкамі ў 10 дзён, значыць, калі, напрыклад, пачатак цяжарнасці наступіў 5 студзеня, то карова ацеліцца каля 17 кастрычніка, кабыла ажарэбіцца каля 11 снежня, свіння апаросіцца каля 5 мая, авечка акоціцца каля 8 чэрвеня.

| Дзень пакрыцця | Прывядзе прыплод (прыблізна каля) | | | |
|---|---|---|---|---|
| | карова | кабыла | свіння | авечка |
| 1 студзеня | 12 кастрычн. | 6 снежня | 30 красавіка | 3 чэрвеня |
| 11 студзеня | 22 кастрычн. | 16 снежня | 10 мая | 13 чэрвеня |
| 21 студзеня | 1 лістапада | 26 снежня | 20 мая | 23 чэрвеня |
| 31 студзеня | 11 лістапада | 5 студзеня | 30 мая | 3 ліпеня |
| 10 лютага | 21 лістапада | 15 студзеня | 9 чэрвеня | 13 ліпеня |
| 20 лютага | 1 снежня | 25 студзеня | 19 чэрвеня | 23 ліпеня |
| 2 сакавіка | 11 снежня | 4 лютага | 29 чэрвеня | 2 жніўня |
| 12 сакавіка | 21 снежня | 14 лютага | 9 ліпеня | 12 жніўня |
| 22 сакавіка | 31 снежня | 24 лютага | 19 ліпеня | 22 жніўня |
| 1 красавіка | 10 студзеня | 6 сакавіка | 29 ліпеня | 1 верасня |
| 11 красавіка | 20 студзеня | 16 сакавіка | 8 жніўня | 11 верасня |
| 21 красавіка | 30 студзеня | 26 сакавіка | 18 жніўня | 21 верасня |
| 1 мая | 9 лютага | 5 красавіка | 28 жніўня | 1 кастрычн. |
| 11 мая | 19 лютага | 15 красавіка | 7 верасня | 11 кастрычн. |
| 21 мая | 1 сакавіка | 25 красавіка | 17 верасня | 21 кастрычн. |
| 31 мая | 11 сакавіка | 5 мая | 27 верасня | 31 кастрычн. |
| 10 чэрвеня | 21 сакавіка | 15 мая | 7 кастрычн. | 10 лістапада |
| 20 чэрвеня | 31 сакавіка | 25 мая | 17 кастрычн. | 20 лістапада |
| 30 чэрвеня | 10 красавіка | 4 чэрвеня | 27 кастрычн. | 30 лістапада |
| 10 ліпеня | 20 красавіка | 14 чэрвеня | 6 лістапада | 10 снежня |
| 20 ліпеня | 30 красавіка | 24 чэрвеня | 16 лістапада | 20 снежня |
| 30 ліпеня | 10 мая | 4 ліпеня | 26 лістапада | 30 снежня |
| 9 жніўня | 20 мая | 14 ліпеня | 6 снежня | 9 студзеня |
| 19 жніўня | 30 мая | 24 ліпеня | 16 снежня | 19 студзеня |
| 29 жніўня | 9 чэрвеня | 3 жніўня | 26 снежня | 29 студзеня |
| 8 верасня | 19 чэрвеня | 13 жніўня | 5 студзеня | 8 лютага |
| 18 верасня | 29 чэрвеня | 23 жніўня | 15 студзеня | 18 лютага |
| 28 верасня | 9 ліпеня | 2 верасня | 25 студзеня | 28 лютага |
| 8 кастрычн. | 19 ліпеня | 12 верасня | 4 лютага | 10 сакавіка |
| 18 кастрычн. | 29 ліпеня | 22 верасня | 14 лютага | 20 сакавіка |
| 28 кастрычн. | 8 жніўня | 2 кастрычн. | 24 лютага | 30 сакавіка |
| 7 лістапада | 18 жніўня | 12 кастрычн. | 6 сакавіка | 9 красавіка |
| 17 лістапада | 28 жніўня | 22 кастрычн. | 16 сакавіка | 19 красавіка |
| 27 лістапада | 7 верасня | 1 лістапада | 26 сакавіка | 29 красавіка |
| 7 снежня | 17 верасня | 11 лістапада | 5 красавіка | 9 мая |
| 17 снежня | 27 верасня | 21 лістапада | 15 красавіка | 19 мая |
| 27 снежня | 7 кастрычн. | 1 снежня | 25 красавіка | 29 мая |







## ЗМЕСТ

**Карысна, практычна, хораша**



**Для запісу**


© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

